

**5**

**МАЙ**

МІНСК, 1971

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

**Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

## У НУМАРЫ:

Вокладка **Ю. Зайцава.**

Шмуцтытулы **М.** і **У. Басалыгаў** (стар. 3). і фота **В. Ждановіча** (стар. 89).



# ПАЭЗІЯ ✲ ПРОЗА

- **Юрась СВІРКА**
- **Яўген РАДКЕВІЧ**
- **Мікола КУСЯНКОЎ**
- **Міхась КУШНЯРОЎ**
- **Уладзімір ЯКУТАЎ**
- **Славамір ХАДАРОНАК**
- **Алесь ЖУК**
- **Мікола МЯТЛІЦКІ**
- **Васіль ВІТКА**



● Юрась СВІРКА





●

Засталося б толькі поле,
Сонца, зерне, баразна.
Засталася б толькі воля,
І любоў, і сівізна.

Засталіся б толькі дзеці
І тугая сінь нябёс —
І тады на цэлым свеце
Хопіць шчасця, хопіць слёз.

Засталіся б толькі песні
І чырвоны сцяг жыцця.
А тады ўсё уваскрэсне
Без пачатку і канца.

## Міколу Сурначову

Цябе я ўжо гадамі перажыў,
Але ж узрост не вымярае сталасць.
Ты маладым упаў на рубяжы,
Дзе толькі абеліскі прарастаюць.

Паклон табе за тое, што данёс
Акопны спеў і смутак па Айчыне.
Яна адна і ў спёку і ў мароз,
Журботная,
Стаяла прад вачыма.

Радзіме ты ніколі не хлусіў,
Не кляўся без патрэбы на паперы.
Сваю душу навекі прасвяціў
Яе любоўю, мужнасцю і верай.



Я ад цябе пачуў упершыню
Пра віцязя,
Што смерць не абыходзіць.
Сабе заваяваў ты вышыню,
Куды не ўсе жывыя паўзыходзяць.

## Партызанскі ручэй

Іду, іду за ручаём,
Пакуль з вачэй не знік.
Хавацца любіць пад галлём
Вяртлявы праваднік.

Ён не адразу павядзе,
Агледзіць, свой ці не.
Я нават бачу па вадзе —
Злуе ён на мяне.

Каля камення, каля пнёў
Закручвае віркі.
Каб я стаянку не знайшоў,
Яго намер такі.

Зашыецца ў траве густой,
Я ведаю, чаму:
У тое, што і я тут свой,
Не верыцца яму.

Не знаю, дзе іх буданы,
Сярод якіх палян...
Вядзе ручэй, як сувязны,
Вядзе да партызан.

## Сяброўства

Я не забуду вас, сябры.
І не таму, што мы на беразе
Варылі юшку у вядры,
Хадзілі па пчаліным верасе.

Кружком стаялі ля кастра,
Дымок глыталі ўсе прывычна.
Драўлянай лыжкаю з вядра
Скідалі накіп, як язычнікі.

Хапала юшцы ўсіх прыпраў,
Размове ж — перцу не хапала,
Яго зусім не для забаў
Вядро рыбацкае ўвабрала.

Бяроза выгнуты рукаў
Схавала за крутым абрывам.
І кожны успамін шукаў,
Што так патрэбен для сябрыны.

Я не забуду вечар той.
Сагрэла нас не толькі юшка.
Нясмела недзе за ракой,
Нібы ў юнацтва, звала птушка.

Сябры, успомніцца парой
Рака, і юшка, і размова,
І тое чорнае вядро,
Знутры, як бруха шчупакова.

І цені ад прыціхлых дрэў,
Касцёр,
Што расплаўляў бяросту
І ў нашых сэрцах падагрэў
Куточак вернага сяброўства.

І той пагляд. (Яго ні з чым,
Каб параўноўваць, не злаўчыцца),
Які штурхае нас, мужчын,
На подзвігі і на злачынства.

Сябры,
Вам дзякую за ўсё:
За тосты, смех, які вылечвае,
За жартаў вострае асцё
І за яднанне чалавечае.

За тое,
Што знайшлі вы час
Для рэдкай і жаданай радасці,
Калі яшчэ няма між нас
Ні ценю гонару, ні зайздрасці.

За тое,
Што, як землякі,
Сабрацца разам захацелі,
Што нашу дружбу на замкі
Не пазашпільвалі партфелі.

●

Бягуць дзяўчаткі у кіно,
Ад невядомасці згараюць...
Чародкамі і па адной
Сваю любоў з чужой звяраюць.
Ад шчасця — кругам галава,
Ад пачуцця яны нямеюць,
Хаця не ўмеюць цалаваць
І абдымаць яшчэ не ўмеюць.
Хутчэй ім хочацца сабраць
У атэстат адны пяцёркі,
Сказаць «бывай» сваім сябрам
На нейкай плошчы ці пагорку.
Ад школьных хлопцаў адплываць,
Чарнявых і светлавалосых,
Тых,
Што не ўмелі танцаваць,
І тых,
Што тузалі за косы.
Далёка мары ад зямлі.
І летуценніцам прысніцца,
Што з нейкай казкі караблі
Ім прывязуць жаданых прынцаў...
Усім спускацца на зямлю,
Тут для усіх жыццёвы бераг.
І нехта скажа:
«Я люблю!»,
А нехта ў вернасць не паверыць.



● Яўген РАДКЕВІЧ

● Мал. П. ЛЫСЕНКІ



# ДВА АПАВЯДАННІ

## ПЛЫТАГОНЫ



На паўдарозе ў катэры нешта зламалася. Гэта азначала, што мы са свайго даўжэзнага — метраў дзвесце — плыта дні два сама меней будзем любавацца навакольнымі пейзажамі. Катэр жа павінен спусціцца да Паўладара, «падлячыцца» там і вярнуцца за намі.

Мы адабралі ў сваіх «павадыроў» увесь харч, і катэр, пасадзіўшы плыт на мель, каб не зносіла цячэннем, лена вякнуў і павалюхаў уніз па рацэ.

Праўду кажучы, мы не дужа сумавалі. Пазагараць яшчэ некалькі дзянькоў на Іртышы было для нас як прыбаўка да адпачынку, які мы мелі ўжо амаль тыдзень. Мы гналі гэты плыт з Лябяжжага, дзе нарыхтоўвалі лес для саўгаса. Працавалі дай божа, а калі сабралася кубаметраў шэсцьсот, звязалі плыт. Сівы, так называлі Федзю Шастапалава за яго белыя валасы, Раман Куксачоў, Алег Вядзернікаў і я — такая падабралася брыгада плытагонаў, з якіх ніхто раней у вочы не бачыў сапраўднага плыта. Нас пасадзілі сюды таму, што да жніва засталіся лічаныя дні, а ўсе мы былі механізатары: я з Вядзернікавым — камбайнеры, а Сівы і Раман — трактарысты.

Мы паставілі на плыце брызентавую палатку, нацягалі туды сена, зашчамілі паміж звязанымі бярвеннямі дзве рагуліны і, калі трэба было, вешалі над вогнішчам на тоўстай бярозавай палцы кацялок з гарохавым су-

пам, вядро з юшкай ці чаем і глядзелі, як гарыць-патрэсквае на вялікім кавалку бляхі агонь, і паплёўвалі ў імклівыя іртышскія хвалі. Раскашавалі мы той тыдзень, як курортнікі, і гаварылі паміж сабой, што калі ва ўсіх плытагонаў работа такая, то на яе трэба пасылаць па прафсаюзных пуцёўках.

Памахаўшы ўслед катэру, мы селі на край плыта, звесілі ногі ў ваду і сядзелі так, пазіраючы, як рака гоніць міма нас няроўныя зменлівыя кругі. Усе тыя дні пякло сонца, аж но скура лопалася на плячах, і мы хадзілі па плыце ў адных трусах, і гэтае адзенне як нельга лепей падыходзіла тут. Вось, напрыклад, Сівы — сядзеў толькі што побач са мной, потым саслізгнуў у ваду — і паплыў. А па Іртышы ў тым месцы плаваюць так: метр праплывеш сам, на пяць рэчка знясе. Таму Раман адвязаў лодку і ўзяўся даганяць Сівога — сам ён нізавошта назад не дабраўся б.

А лодка наша, як лялечка,— белая (яе мы пафарбавалі ў Лябяжжым), а на карме блакітнымі літарамі назва — «Белка». Гэта імя лодцы прыдумаў і напісаў Алег. Ідэя нам спадабалася, а імя — не. Таму мы заспрачаліся. Сівы сказаў, што можна было б назваць у гонар якога гістарычнага героя, ну хаця б Ільі Мурамца. Раман прапанаваў імя рэчкі, якая цякла каля яго дома,— Зуша. Я ж разважыў так: калі мы пусціліся ў гэтае плаванне, то варта было б прыдумаць нешта чыста марское, напрыклад, «Брыганціна». Але Алег, слухаючы нашы спрэчкі, моўчкі выпісваў гэтую самую «Белку». Потым сказаў, што няма чаго выпінацца і мудрыць: лодка белая — значыць, «Белка».

Мы плюнулі і разышліся, бо ведалі, што яму хоць кол на галаве чашы — усё роўна зробіць па-свойму.

Праўда, мы хутка прывыклі да гэтага імя, і цяпер яно нават падабалася нам.

Але аднойчы Алег паказаў мне фота сваёй дзяўчыны, якая жыла ў Барысаве, вучылася там, здаецца, і з якой ён перапісваўся. Неблагая такая дзяўчына — чарнявая, з доўгімі косамі. Я не маю звычкі, як некаторыя, заглядваць на другі бок фота, каб прачытаць надпіс. Але неяк раз, калі Алег клаў картачку ў бумажнік, я незнарок убачыў роўныя літары: «Дарагому Алегу на добрую памяць. Белка».

Я хацеў пакпіць з Алега, але непадалёк сядзеў Раман, а гэтаму пустазвону толькі скажы — разнясе па саўгасе. А Алега я паважаў, таму і змоўчаў тады.

Ну, а зараз мы сядзелі з ім, любаваліся сваёй прыгажуняй-лодкай з блакітнай паласой на белай карме, сядзелі, пакуль Алег не паклікаў мяне лавіць рыбу.

У палатцы ў нас была бляшанка з чарвякамі і вуды — доўгія, гнуткія, з арэшніка. Мы перайшлі на другі бок плыта, скочылі ў ваду — а яна там па калена — і закінулі вуды. Вада цёплая, бруістая, а дно пясчанае, чыстае. Чарвякоў эканомілі — адну палову на кручок, другую ў бляшанку — для наступнага разу,— і кідаеш нажыўку проста пад ногі. Вада адносіць паплавок, а ён пагойдваецца з боку на бок. Потым мігне раз-другі і — туга нырае ўглыб.

Ліха яго ведае, як называлася тая рыба, што лезла на нашы кручкі, але Алег сказаў, што іртышскія рыбакі завуць яе бычкамі.

Вядзернікаў наогул быў сярод нас аўтарытэт. Ён, што называецца, меў жыццёвы вопыт: служыў у арміі, працаваў на заводзе і, вядома, пабачыў больш, як мы. Мы трапілі сюды з матчынага дома. Але галоўнае, Вядзернікаў меў свой уласны погляд на рэчы. Ён быў



ніжэй мяне на паўгалавы, але быў моцны, мускулісты, з круглай, стрыжанай пад бокс галавой. Скура на галаве загарэла, і гэта было відаць праз кароткія светла-русыя валасы. І на твары быў гэткі ж карычневы загар, толькі невялікі шрам на лбе быў святлейшы. З першага погляду не сказаў бы, што Вядзернікаў старэйшы за нас, выглядаў ён са сваім боксам і невысокім ростам на падлетка, але па гутарцы і паводзінах можна было даволі дакладна вызначыць яго ўзрост.

Пастаялі мы з вудамі з гадзіну, потым Алег дастаў з вады кукан і падняў угору.

— На вячэру, бадай, хопіць,— сказаў ён і пачаў накручваць леску на вудзільна.

Мы ўзабраліся на плыт, а Сівы з Раманам усё яшчэ каталіся на лодцы, і Алег крыкнуў, каб яны закругляліся.

Сонца пацяжэла і хілілася да небасхілу. Цераз раку да заходняга берага, высокага і абрывістага, над якім зараз вісела сонца, разлілася шырокая залатая паласа. Яна пералівалася і дрыжэла.

На ўсходнім нізкім беразе, метраў за дваццаць ад якога мы атабарыліся, рос рэдкі хмызняк, а за ім цягнуліся голыя, парослыя кавылём пагоркі. Рака ў гэтым месцы была вельмі шырокая, не менш як з паўкіламетра, з вялікімі пясчанымі водмелямі каля нашага берага. Судаходная частка, азначаная бакенамі, тулілася да процілеглага берага.

За намі, пасярод ракі, зялёным раскошным аазісам раскінуўся востраў. У параўнанні з голымі берагамі выглядаў ён вельмі прывабна, але мы ведалі, што, акрамя камароў і вузлаватых верб, там нічога няма.

Як толькі Сівы і Раман прычалілі да плыта, мы прымусілі іх чысціць рыбу, а самі закурылі і селі каля палаткі. Яны, між іншым, як і ўсе мы, за час гэтага падарожжа набылі адмысловую практыку ў кулінарнай справе і гэтак увішна пачалі ўпраўляцца з бычкамі, што можна было падумаць, быццам хлопцы ўсё жыццё правялі на кухні.

Раман быў худы і танклявы. На яго дробным, рухавым твары з сінімі вострымі вачамі праглядвала нешта лісінае. Ён меў нораў кожнага падкусіць. Вядзернікава, праўда, асцерагаўся, мяне таксама чапаў нячаста, затое Сівы ад яго не ведаў спакою. Гэта не шкодзіла аднак ім сябраваць, мабыць, таму, што абодва былі родам з Арлоўшчыны. Сівы прывык да фокусаў Куксачова, часам і сам пераходзіў у контрнаступленне і, зрэдку здаралася, кідаўся на яго і даволі моцна калашмаціў.

Зараз яны чысцілі рыбу і маўчалі. Відаць, гэта надакучыла Раману. Ён зірнуў на Сівога, скасавурыўся ў наш бок і гэтак знарок ласкава пачаў:

— Федзя, чуеш, Федзя...

— Чаго табе?

— Федзя, я вось падумаў: усё ж трэба працаваць табе камбайнерам.

— А табе клопат які? — адразу насцярожыўся Сівы.

— Ну, як гэта? У вучылішчы ж у цябе па камбайнах пяцёрка была. Я нават помню, як хлопцы прасілі цябе растлумачыць, што да чаго. Было ж такое?

— Ну, было.

— Вось бачыш. Потым успомні, як на рамонце ты свой камбайн да ладу давёў. Як цацка быў. А тут раз — пілюлю табе. Папрацавалі

вы выдатна, таварыш Шастапалаў, дзякуй вам, а камбайн усё ж перадайце другому. Крыўдна.

— Табе крыўдна, ці што? — жмурыць рыжыя вочы Сівы.

— А хоць бы і мне,— ахвотна згаджаецца Раман.— За цябе крыўдна. Я ж ведаю, як ты хацеў стаць за штурвал. І факт — даў бы фору многім. Уяўляю цябе на мосціку: у цёмных акулярах, рукі на штурвале...

Ён замаўкае. Сівы, забыўшыся пра асцярожнасць, не вытрымлівае:

— А ты думаеш, дрэнна працаваў бы? Вось далі б мне той камбайн...

— А я што кажу, Федзя. Факт, не падкачаў бы,— Раман раптам пераходзіць на такую сяброўска-шчырую нотку, быццам збіраецца прызнацца Сівому ў каханні.— І справа тут не ў камбайне, Федзя. Побач з табой памочнік быў бы, праўда?

— Ну, быў бы,— згаджаецца Сівы.

— Калі што якое — разбудзіў бы...

Сівы лыпае вачамі, потым, праглынуўшы пілюлю, чырванее так, што знікае на твары рабацінне. Раман куляецца на спіну, падхопліваецца і дае драпака ў другі канец плыта. Сівы ж ведае па вопыце, што яму не злавіць шустрага Рамана, і лаецца на чым свет стаіць.

Мы ж з Вядзернікавым рагочам, успомніўшы тую ноч, калі Сівы скародзіў каля Іртыша. Днём ён не паспаў, ну, і зваліў яго сон за рычагамі. А трактар пайшоў да берага. І добра, што ў тым месцы не адразу адхон пачынаўся, а з прыступкі такой у метр вышынёй. Бухнуў туды носам трактар і заглух. Сівы сабе гузак на лбе здаровы набіў. Тым і адкупіўся, на сваё шчасце, затое праславіўся на ўвесь саўгас. Праз той выпадак і камбайн яму не далі, хоць увогуле працаваў ён добра і кумекаў, што да чаго.

— Слухай, Сівы,— умяшаўся Вядзернікаў,— ты думаеш, горш яму зрабіў? Ад катла адагнаў, а цяпер сам рыбу чысціць будзеш.

— Не бойся, я яго долю пакіну.

Сівы дачысціў рыбіну, што была ў яго руцэ, кінуў у вядро і крыкнуў Раману:

— Ты, казёл! Ідзі канчай.

— Ага, каб ты мне сілу сваю бычыную паказваў.— Раман пачынае выцыганьваць умовы перамір'я.

— Не бойся. Знайду час. Ведаць не будзеш.

Вядома, Сівы шчыра верыць у гэта, Раман жа абсалютна дакладна ведае: калі ён сам не пачне новай авантуры і не пападзецца на месцы злачынства — усё яму з рук сыдзе. Сівы на дзіва незласлівы хлопец.

З асцярогай пазіраючы на праціўніка, Раман падыходзіць да вогнішча і бярэцца за рыбу.

Сонца падміргвае нам верхнім сваім краем: не сумуйце, маўляў, тут без мяне — і хаваецца за высокі бераг. Зараз жа каля нас з'яўляюцца першыя «госці» — не тое каб нязваныя, а тысячу разоў праклятыя, першыя нашы ворагі, якіх мы бязлітасна знішчалі, выкурвалі, але якія ніяк не жадалі пакідаць нас у спакоі. Днём яны хаваюцца ў хмызах на беразе, а вечарам хмарамі ахутваюць усё жывое.

Мы забіраемся ў палатку, задрайваем яе так, каб не засталося ніводнай, нават самай малой шчылінкі і, заспакоеныя, пасля духмянай юшкі ляжым на спінах і лена размаўляем аб розных выпадках.

Вырваўся з-за вострава і пачаў мацнець шум рухавікоў. Гэта ішоў на Паўладар пасажырскі параход. Заглушаючы ўсе гукі на рацэ, узвілася мелодыя танга. Незнаёмая мне, але вельмі прыгожая мелодыя. Я адразу ўявіў сабе гэты белы параход у агнях, святочна апранутых людзей, дзяўчынку ў лёгкім плацці, якая стаіць ля парэнчаў, і шкада мне стала, што гэты параход плыве зараз без мяне. Але мелодыя хутка затухла за рачным звівам, і толькі чутно было, як ціха плёскаюць над плытом хвалі, што прыйшлі ад парахода. Плыт пагойдвала, і мы ўсе маўчалі. Хацелася курыць...

Захроп Сівы, сонна прыцмокнуў Раман. Алег пачаў мацаць рукой, шукаючы папяросы. Я папрасіў у яго сабе, і мы пачалі асвятляць цьмянымі агеньчыкамі сцены нашай палаткі. Курцоў сярод нас было толькі двое.

— Дрыхнем тут, што пенсіянеры, а недзе жывуць людзі,— уздыхнуў Алег.

Ён зноў зацягнуўся,— стала відаць крывыя палосы дыму.

Алег нечага пакратаў брызент палаткі за галавой, сказаў з салодкай летуценнасцю:

— Што цяпер мая Светка робіць?

— Гэта тая, што на фота? — удакладніў я.

— Яна.

— Белка?

Алег ажно падскочыў, нахіліўся да мяне, абапіраючыся на локаць, спытаў пагрозліва:

— Ты адкуль ведаеш?

— Было...— загадкава сказаў я і суцешыў яго: — Ды не бойся, адзін я і ведаю...

— А што мне баяцца,— усё гэтак жа ваяўніча сказаў Алег, але голас яго палагоднеў.

Ён зноў лёг на спіну, паляжаў колькі мінут моўчкі.

— Знаеш, якая яна,— сказаў неяк нерашуча, з сарамлівасцю ў голасе.

— Ды нішто... Прыгожая,— згадзіўся я.

— Нават не ў тым справа... Разумная... І добрая... А гэта важней...

Алег гаварыў марудна, адрывіста, шукаючы патрэбныя словы, і вымаўляў іх з намаганнем, быццам нешта ўнутры замінала яму.

— Медычка... Апошні год у вучылішчы. Казала — прыедзе. Каб не яна — не ведаю... Звязаўся быў з ханыгамі. Далі год. Умоўна. А ў мяне тады ніякіх тармазоў... І раптам, уяві, сустракаю дзяўчыну... Акуратная такая, ветлівая, чарнявенькая... Ну, я і кажу ёй — Белка... Яна смяецца, гаворыць: «Першабытны ты чалавек, Алег. Ці ведаеш, што зараз дваццатае стагоддзе?» І праўда, першабытны. Вучыцца не хацеў, з горам папалам дабіў сем класаў. Бацька ў вайну загінуў, а маці адна, цэлы дзень на фабрыцы. Дык я рабіў, што ўздумаецца... Было клопату і міліцыі... А Белка, ну, гэта... Светка... прывучыла кнігі чытаць, ад ханыг адвяла... Спачатку я толькі пасмейваўся, а потым узяло за жывое.

Алег зноў замоўк, потым перавярнуўся на другі бок, сказаў:

— Першабытны ты чалавек, Алег,— і, счакаўшы, дадаў: — Быў...

...Тры дні, на працягу якіх павінен быў адрамантавацца і вярнуцца катэр, праляцелі з вялікай карысцю для нашага здароўя. У неабмежаванай колькасці спажывалі мы сонца, паветра і ваду, ды і, праўду кажучы, харчы. Штодня Сівы і Раман спускаліся на лодцы кіламетры чатыры ўніз па рацэ да суседняга селішча і куплялі мясныя кансервы, хлеб і цукар.

На чацвёрты дзень раніцой Алег выцягнуў з палаткі свае штаны, у якіх захоўваліся агульныя фінансы, і аб'явіў:



— Усё, братва. Уклаліся як раз у норму. У дзяржбанку ні капейкі. Хто жадае папіць чайку з цукрам, паспытаць каларыйнай мясной тушонкі,— чакайце катэра. Асабіста я люблю рыбу...

Ён узяў вуды і скочыў у ваду. Гэта было піжонства, і мы ведалі гэта, таму што за той час, як мы жылі на плыце, рыба так нам абрыдзела, што мы не маглі спакойна глядзець на яе.

Сівы вынес з палаткі карты, і мы пачалі ўтрох гуляць у дурня, час ад часу паглядваючы ў бок Паўладара, адкуль недзе плылі да нас мясная тушонка, хлеб і цукар.

Праз гадзіну моцна прыпякло сонца. Сівы саскочыў з плыта і выцягнуў з вады вязку рыбы, што паспеў злавіць Алег.

— Распальвайце агонь! — крыкнуў ён, узбіраючыся на плыт.

Але пасля юшкі Рамана зблажыла, і мы таксама паклалі лыжкі.

— Катэр можа і не прыйсці сёння,— сказаў Алег,— так што меней купайцеся. Пасля купання дужа жэрці хочацца.

Але спёка была гэткая ў той дзень, што мы ўсе, і Алег разам з намі, да самага вечара сядзелі ў вадзе.

А перад тым як зашыцца на ноч у палатку, выпілі кіпеню, па традыцыі называючы яго чаем. Я і Алег скурылі адну папяросу.

Ноччу міма праплывалі параходы, на іх шпацыравалі вясёлыя людзі, а мы ляжалі, чатыры Рабінзоны, на сваім бязлюдным востраве і разумелі, што ніякай карысці нам ад гэтых параходаў няма. І таму было сумна, і хацелася хутчэй дабрацца да саўгаса, дзе з дня на дзень павінна была пачацца ўборка.

Раніцой Алег сказаў, што ёсць шанец пратрымацца яшчэ дзень, і выцягнуў з палаткі дзве пустыя бутэлькі — колькі дзён назад мы адзначылі пачатак нашага плавання.

— Купіце хлеба і пачак махоркі,— аддаў Алег загад хлопцам і дадаў: — Сядзім на такім багацці, а вымушаны бутэлькі здаваць. Тут, у гэтых бязлесных месцах, наша сасна здорава цэніцца. Ну, з богам,— адштурхнуў ён нагой лодку.

Апоўдні мы пачулі натужнае татахканне маторнай лодкі. Жылісты, зарослы чорнай шчэццю мужык кіраваў да плыта. На буксіры за ім ішла наша лодка.

Яшчэ здаля Сівы і Раман пачалі махаць рукамі і нешта крычаць. Слоў мы не маглі разабраць.

Прычаліўшы да плыта, мужык заглушыў матор і застаўся сядзець у лодцы. Раман скочыў на плыт, пабег да нас. Ён ажно ззяў ад радасці. Падміргнуў нам і шэптам паведаміў:

— Пакупніка прывёз.

— Якога пакупніка? — спытаў Алег.

— Ды вось яго,— паказаў Раман на мужыка.

І крыкнуў Сівому:

— Давай сюды харч!

Сівы выйшаў з лодкі, рукамі прыціскаючы да грудзей дзве буханкі хлеба, кансервы, нейкія папяровыя пакункі, дзве бутэлькі гарэлкі.

— Гэта ўсё дзядзька Ігнат, дзякуй яму,— весела падміргнуў Раман мужыку.— Сустрэў нас на беразе, кажа: расходаваліся, відаць, хлопчыкі? Папрасіў пару бярвенняў у нас, ну, і накупляў усяго. Бачылі? — выхапіў ён адну бутэльку ў Сівога. Той стаяў каля нас і ўсё яшчэ трымаў у руках пакункі, усміхаючыся сарамліва і задаволена, як выдатнік на школьным сходзе.

— Вылазь, дзядзька, са сваёй пасудзіны. Заходзь у госці,— крыкнуў Алег.

Мужык пахмурна зірнуў на нас.

— Не той час зараз, каб гасцяваць. Бач, надвор'е якое. Вы вось што, хлопчыкі,— адпусціце мяне хутчэй.

— Колькі табе бярвенняў трэба?

Мужык востра, з прыжмурам, зірнуў на Алега.

— У адной звязцы колькі будзе?

— Ды дзесяткі са два, не меней.

— Вось бы і выдзелілі мне адну вязачку.

— Ты, бацька, палову хаты задарма ўзяць хочаш...

— Чаму ж задарма — набаўлю. Крыўдаваць не будзеце.

— Дамовіліся. Ідзі выбірай.

Алег падышоў да палаткі, дзе Сівы расклаў усё багацце, знайшоў пачак папярос, рэзка рвануў за край.

— Ну, Алег, ну, Алег, так аблапошыў мужыка,— захапляўся Раман.

Прыпальваючы папяросу, Алег спадылба зірнуў на яго, і Раман прыкусіў язык.

Мужык на вёслах падплыў у хвост плыта і ломікам пачаў раскручваць дрот, які мацаваў апошняе звяно. Даволі спрытна справіўся ён з работай. Спіхнуўшы бярвенні на плынь, пагнаў іх перад сабой.

— Пайду грошы вазьму,— сказаў Раман і пабег да мужыка.

Я паглядзеў на Алега. Прыжмурыўшыся, ён стаяў і раз за разам зацягваўся папяросай. У яго круглым абсівераным твары, у сухіх моцных нагах было нешта непрыемнае. Я падумаў, што павінен неяк умяшацца, але незразумелая нерашучасць ахапіла мяне.

— Слухай, можа не трэба, га? Лес жа саўгасны...— выказаў я сваю думку.

— А што жэрці будзеш? Ты ж таксама саўгасны. Чаму ж ніхто не паклапоціцца аб тваім бруху?

Алег насмешліва скрывіў рот, і я падумаў, што сапраўды — хіба наша віна, што спазняецца катэр?

— Усё ў парадку, хлопчыкі,— крыкнуў мужык.— Толькі мы давай так — ні гу-гу. Я вас не ведаю, і вы мяне таксама.

— Мёртва, бацька,— узняў угору кансервавы ключ Раман. Ён ужо сядзеў, укленчыўшы, каля палаткі і раскладваў прывезеныя харчы.

— Усё ж нядобра выйшла,— зноў сказаў я.

— Вось зараз паясі, тады па-другому заспяваеш,— сказаў Раман і засмяяўся.

— Ты менш балбатаў бы, ці што,— сказаў яму Алег.— Давай сюды свае срэбранікі.

— Срэбранікі... Скажаш таксама... Чырвоненькія... Чырвонцы.

— Гэта ўсё роўна, дуб ты... Кажуць, быў некалі адзін дзеяч, які на срэбраніках гандляваў. Праўда, лепшых сяброў прадаваў, а не бярвенні.

— Ты на што намякаеш? — адарваўся ад банкі Раман.— Мы што... Мы толькі прапанавалі вам... Па мне дык можна было і не заганяць гэтыя бярвенні. Можа гэта я лішніх два чырвонцы ў мужыка ўзяў?

Алег вылаяўся і палез у палатку.

Бярвенні павольна плылі ўздоўж плыта, набліжаючыся да нас. Мужык пачаў абганяць звязку, каб узяць яе на буксір. Плынню ці хвалямі ад маторкі бярвенні раптам гайданула, і яны стукнуліся аб борт нашай «Белкі» і прыціснулі яе да плыта. Яна рэзка нахілілася, неяк цяжка застагнала, тручыся аб бярвенні. Калі ж зноў выпрасталася, у некалькіх месцах на яе карме засталіся шырокія цёмныя драпіны. Блакітную палоску назвы зараз цяжка было прачытаць. Атрымлівалася нешта падобнае на «Бека», «л» сцёрлася зусім.

Быццам ад зубнога болю, перасмыкнуўся Алегаў твар. І не паспеў я апамятацца, як ён скочыў у ваду. Ухапіўшыся за бярвенні, ускараскаўся на іх.

— Стой, бацька,— скамандаваў ён, аддыхваючыся і адплёўваючыся ад вады.

— Ты што, хлапчына? — не зразумеў мужык.— Не дурэй аднак...

— Усё, бацька, усё. Занадта танна прадалі. Гэй вы,— крыкнуў ён нам,— памажыце падцягнуць!

Мы з Сівым кінуліся на дапамогу. Вада была па шыю, і мы, упіраючыся нагамі ў дно, падцягнулі звязку да плыта.

— Бога пабойся, чуеш? — круцячыся каля нас на лодцы, гаварыў Алегу мужык.— Па-добраму паладзім... Ну, яшчэ колькі дабаўлю...

— Чаго стаіш, чорт! — крыкнуў Алег Куксачову, які разгублена камячыў у руках грошы.— Закручвай дротам бярвенні.

Калі мы вылезлі з вады, Алег сказаў:

— Аддайце яму ўсё... А ты, бацька, шуруй адсюль, чуеш? А то ў мяне даведка ёсць, што я псіхічны...

— Я і бачу — праўда. Ат, вашу маць...— вылаяўся мужык і са злосцю тузануў за вяроўку махавіка. Матор завыў, і лодка пайшла ўніз па рацэ, пакідаючы за сабой шырокі пенны след.

І тады Раман напусціўся на Сівога:

— Гэта ты заварыў усю кашу! Навошта казаў мужыку пра лес?

Твар Сівога пачырванеў. Ён зароў, як мядзведзь, і кінуўся на Рамана.

— Ах ты, казёл! Ах ты, гад! Значыць, я вінаваты? А хто яму абяцаў бярвенні? А хто ў яго грошы прасіў? — прыгаворваючы, Сівы лупіў Рамана пад бакі. Той ад болю і злосці роў на ўсю раку.

— Канчайце там, салагі! — крыкнуў Алег, і Сівы з неахвотай адпусціў Рамана.

Той жа раптам у ярасці бразнуў аб бярвенні кансервавы ключ, які да таго ўсё яшчэ трымаў у руцэ, і пайшоў на Алега, выставіўшы падбародак.

— Псіх ты, вось хто, ясна? Псіх і больш ніхто. Псіх, ясна? І ўсе вы псіхі. І падыхайце тут. Чуеце? А я матаю ад вас.

— Сівы,— скамандаваў Алег,— спісаць бунтаўшчыка на бераг.

Сівы падышоў да Рамана.

— Ну што, адвезці?

— Ідзі ты...— Раман гэтак гыркнуў на Сівога, што той спалохана адскочыў.

Раман махнуў рукой і пайшоў у канец плыта.

Вядзернікаў, гледзячы яму ў спіну, злосна і весела аб'явіў:

— Увага! Урачыстая цырымонія адплыцця адважнага плытагона Рамана Куксачова адмяняецца. З гэтага выпадку даецца абед. Выключна з дыэтычных страў.— Потым сказаў спакойна: — Гэта нават лепей — дыэтычная ежа. Рыба — гэта фосфар. Карысна для мазгоў, як гаварыла мне адна знаёмая медычка...

Ён узяў вуду і стаў на водмелі. Я сеў у лодку і выехаў на сярэдзіну ракі. Хацелася пабыць аднаму.

# АГНІ

Я ляжу на зялёнай рабрыстай лаве і гляджу ўверх. За дзень стаміўся, бо шмат было работы, потым доўга стаяў пад дзвярыма інстытуцкай аўдыторыі з кніжкай у руках, заміраючы ад страху і хвалявання пры думцы, што нічога не ведаю. Але абышлося добра, здаў залік, потым ішоў па горадзе шчаслівы і спустошаны, адчуваючы на разгарачаным твары свежы вецер, ішоў, пакуль не ўбачыў гэтую вось лаву на дальняй алеі, расцягнуўся і ляжу, адчуваючы салодкі звон у нагах і ва ўсім целе.

Ціха трапеча лістота, і ў нейкай невыказанай журботнай задуменнасці схіляюцца нада мной разлапістыя галіны. Паміж імі відно мне неба, глыбокае, сінявата-цёмнае, з адзінай зоркай. Я прыплюшчваю вочы: ад зоркі адбягаюць доўгія залатыя іголкі, і на нейкі момант мне здаецца, што на таполі вісіць залаты яблык. Як называецца тая зорка? Адзіная зорка, што бывае на чэрвеньскім вячэрнім небе? Венера?

Я гляджу ўгору і бачу, як таполя сваёй верхавінай уразаецца ў блакітны змрок неба, што хавае ад вачэй усе зоркі, акрамя адной, усё тое неабдымнае, патаемнае і неразгаданае жыццё з кароткаю назваю — космас.

Вось яна, зямля. Цёплая, шумлівая, добра знаёмая. Вось маё месца на ёй — гэты горад.

Зямля... Я чую, як яна дыхае прыглушана і роўна галасамі майго горада. Яна зразумелая мне, бо ўспрымаецца зараз тысяччу клопатаў і турбот, маіх і чужых, тысяччу жаданняў, якія здзяйсняюцца зусім лёгка альбо ніколі. І вось цяпер я поўны чаканнем чагосьці няяснага, і мне падабаецца гэтая звыклая напружанасць душы і ласка нямоцнага ветру.

Непадалёк, за сцяной дрэў, зайграла радыёла, і навакolле запаліла прыгожая мелодыя.

Я ведаю, адкуль гэта мелодыя. Яна з інтэрната, дзе жывуць нашы хлопцы. Трэба прайсці ў канец алеі, павярнуць направа, мінуць іржавыя жалезныя вароты, якія вісяць тут спрадвеку і спрадвеку не зачыняюцца, і крыху збоку, улева ад дарогі,— стаіць інтэрнат. Адсюль мо метраў трыста.

Я і ішоў да сваіх хлопцаў пахваліцца залікам. Яны ж непакоіліся за мяне, і нават брыгадзір Васіль Ларывонавіч, намнога старэйшы за кожнага з нас, дазволіў мне пайсці раней дамоў. Але зараз канец квартала, работы навалам, і кожны чалавек — на вагу золата. Я падумаў, што залік можна пераздаць, а тут замест прагрэсіўкі нам пакажуць кукіш, і хлопцы, што называецца, ацанілі мой працоўны подзвіг.

Пах духоў і лёгкі шоргат абутку прымусілі мяне павярнуць галаву.

Знаёмая дзяўчына, якую я часта бачыў на танцах ля інтэрната і нават танцаваў з ёй, прайшла міма лаўкі.

Убачыла, што я ўважліва пазіраю на яе, і спынілася.

— Ты вельмі зручна прыстроіўся.

Я устаў і падышоў да яе.

— У інтэрнат?

— Ага,— адказала яна, і мы пайшлі разам.

— Там жывеш? — спытаўся я.



— Ага.

— Значыць, ты ў нашым трэсце працуеш?..

— Ага.

— А ты ведаеш яшчэ словы, акрамя «ага»?

— Ага,— адказала яна. Я спачатку хацеў раззлавацца, але замест таго засмяяўся, і яна таксама, і ад гэтага нам абаім зрабілася лёгка і добра, як бывае, калі пяройдзеш тонкую кладку над ровам.

— Як цябе завуць? — спытаўся я.

— Мы ж знаёміліся,— сказала яна.

— Калі?

— На танцах.

— Ну, ці мала з кім я знаёмлюся на танцах...

— І многім спатканні назначаеш?

— Табе хіба назначаў?

— Не.

— Дык навошта гаворыш? Знаёмлюся, бо вельмі часта імя характарызуе чалавека.

— Няхай мяне ахарактарызуе. Напомню: мяне завуць Аліна.

— Аліна... Доўга, але мякка, пявуча. Польскае... Ты полька?

— Не, але мы жылі ў Заходняй Беларусі.

— Ну, слухай. Ты любіш вершы.

— Люблю.

— Вось бачыш. Далей. Ты любіш прыгожа апранацца?

— Люблю.

— Табе падабаецца Сафі Ларэн.

— А табе Мастраяні. Ці не так?

— Так.

— Аказваецца, і я адгадваць магу. Таксама па імёнах. Бо я тваё помню. Відаць, таму, што не вельмі часта знаёмлюся на танцах.

— Я пажартаваў. Усё гэта глупства. Ты малайчына.

Мне прыемна было, што яна запомніла маё імя, і было дзіўна, чаму я раней не звярнуў увагу на яе.

Мы прайшлі паўз вароты, якія ніколі не зачыняліся, збочылі і ля інтэрната на асфальтаванай пляцоўцы, асветленай ліхтаром на цыбатым белым слупе, убачылі цёмны гурт танцораў. На адчыненым акне ленпакоя стаяла радыёла, і каля яе, як заўсёды, вісеў, высоўваючыся па пояс на двор, Васіль Пашкевіч, бліскаючы агеньчыкам цыгарэты. Ён заўсёды з ахвотай завіхаўся каля радыёлы, мяняў пласцінкі, хоць сам ніколі не танцаваў.

Васіль першы ўбачыў мяне і крыкнуў:

— Віця, Дзіма, студэнт ідзе!..

І Віця, і Дзіма, і яшчэ некалькі чалавек з нашай брыгады, танцуючы, паварочвалі галовы і віталі мяне: хто ўзнятай рукой, хто нейкім словам.

— Ну, як? — пыталіся яны, і я казаў, што добра.

— Ведаеш, я здаў сёння залік,— сказаў я Аліне і прапанаваў:

— Давай патанцуем...

Яна згадзілася, і я абняў яе і адчуў, якое гнуткае ў яе цела і як лёгка яна кружыцца.

— Дзе ты сёння была? — спытаў я ў Аліны.

— Маму праводзіла. Яна прыязджала ў Мінск.

— Да цябе?

— І да мяне, і да брата. Ён жанаты, жыве на трактарным.

Мне захацелася раптам паглядзець і на яе маму, і на брата, пазнаёміцца з імі, наогул, з усім, што звязана з гэтай дзяўчынай.



— Я не разумею, што са мной сёння робіцца,— сказаў я.— Нейкі вечар, быццам я імяніннік.

— Ты здаў залік...

— Не, я, відаць, адчуваў, што сустрэну цябе. Верыш?

— Веру,— сказала яна проста.— Толькі ты не гадай больш па імёнах, добра?

— Добра,— адказаў я і прытуліў яе мацней да грудзей.

Якраз у той момант, калі скончылася мелодыя, пачуўся стрэл, і Алініна рука ўздрыгнула ў маёй.

— Не палохайся,— сказаў я,— гэта бутэлька шампанскага. Хлопцы салютуюць у мой гонар. Пойдзем туды...

— Не, я туды не пайду. Я і так запазнілася. А ў мяне спраў —ой-ёй!

— І ты больш не выйдзеш?

Яна падумала.

— А ты вельмі хочаш?

— Вельмі.

Нехта гучна паклікаў мяне.

— Ну, доўга чакаць цябе, студэнт? Усе градусы выскачаць.

— Ты ідзі,— сказала Аліна.—І мінут праз сорак падыдзі да нашага інтэрната. Трэцяе акно злева, мы на першым паверсе, пастукай.



Яна пабегла, а я падышоў да расчыненага акна з радыёлай, і Дзімка падаў мне гранёную шклянку, са дна якой уздымаліся пухіркі.

Мае сябры стаялі побач, і мне было хораша з імі. Бо было нешта да канца шчырае ў нясмелай усмешцы Дзімы Янчанкі, які заўсёды падзеліцца апошняй скарынкай і ніколі не спытае, што з табой, калі табе дрэнна, а проста пастараецца дапамагчы. Бо было нешта кранаючае і смешнае ў тым, як кудлаціў сваю непаслухмяную чупрыну Толік Валуеў, дзівак і разумніца. Бо нешта вясёлае было ў хітрым твары Віці Кунскага, у яго тонкіх вуснах, у гарэзных вачах.

Мае сябры стаялі побач, і мне было хораша з імі, як заўсёды, калі я прыходзіў да іх.

Але сёння са мной рабілася нешта незразумелае. Я адказваў на жарты механічна, недарэчы нешта гаварыў, тут жа разумеў гэта, бянтэжыўся і ўсё больш адчуваў нейкі неспакой.

— Стаміўся, хлопцы,— сказаў я,— пайду дахаты.

Адышоўся ў цямнейшае месца і, адчуваючы сябе злодзеем, завярнуў, тоячыся, назад, да дзявочага інтэрната.

А калі ціха стукнуў у акенца і ўбачыў над белай фіранкай Алінін круглявы твар, востра дакранулася да сэрца слова, якое я нават у думках не хацеў вымавіць раней, але якое тамілася ў душы і таму напаўняла мяне неспакоем і трывожным чаканнем.

Я заплюшчыў вочы, а калі расплюшчыў іх, то ўбачыў, што перада мной стаіць Аліна.

Я паглядзеў на яе пяшчотны і даверлівы твар і падумаў, што наперадзе ў нас яшчэ ўвесь вечар.

А потым... потым было нясмелае свячэнне неба, прыціхлыя вуліцы, чароўны хмель у галаве і гулкія запаволеныя крокі.

**У бліжэйшых нумарах чытайце**
**аповесць Аляксандры УС**
**«ВАСІЛІНКА З ЦАРСКАЙ ВЕТКІ»**

● Мікола КУСЯНКОЎ





## *Будзьце гатовы!*

Вунь паўз бераг
Брыдуць па сцежцы
Два таежнікі —
цяжкі крос!
Дзе б спыніцца?
Не знойдзеш месца,
Бо прамокла тайга наскрозь.
З голля дрэў зрываюцца кроплі,
І буйныя ж яны аднак!
Быццам лінзы
У тым біноклі,
Што паднёс да вачэй
юнак.
А прыгледзішся добра —
Хітры
Прачытаеш надпіс увесь,
Бо на кожным пальцы —
па літары:
Бач, імя юнакова — Чэсь.
У старой ватоўцы кароткай
Ён і сам — як дзядок стары,
Хударлявы,
з рудой бародкай —
Углядаецца ў схіл гары.
І выгуквае раптам:
«Братка,
Не бядуй, што наскрозь прамок:
Бачу я
Паляўнічую хатку —
Акуратненькі церамок!»
І далей на хаду жартуе,
Хоць ужо і кульгае крыху:
«Вось як прыйдзем мы ў хату тую,
Дык палюбіш ураз тайгу.
Хатка, брат,
настрой падымае:
Гэта ж рай,
таежны эдэм!..



А яшчэ —
прапанову маю:
Будзеш ты не Раман, а Рэм».

...То не рыпнулі дзверы сумна,
Як ступалі ў хатку яны,
То гучыць баявая сурма
З тых далёкіх часоў вайны.
Дзе загінуў ён —
Пад Масквою?..
Ці на подступах да Карпат?..
Развітаўся навек з тайгою,
Не прыйшоў паляваць
салдат.

Не памрэ бацькоўская слава —
Будзе жыць у сэрцах сыноў...
А варожая злая справа
Гневам поўніць іх зноў і зноў.
Судзім здраднікаў мы
І разам
Судзім страшнае тое зло...

...Быў адзін.
Ён уцёк тым часам,
Як нашэсце назад паўзло.
Ен уцёк ад суда і люду,
Збег, як звер, у таежны кут;
Доўга ката шукалі ўсюды —
І прыкмецілі ўрэшце
тут.
Распазнала людское вока
Між таежных ватовак, роб...
Зноў уцёк ён.
І вось —
трывога
Легла ценем Рэму на лоб.
Нешта ў Чэся спытаць ён хоча,
Стрэльбу ўгледзеўшы на сцяне,
І пытаецца ўрэшце:
«Хлопча,
Скора ў войска табе ці не?
Ты па жарт не лезь у кішэню —
Палюбіў я жарты твае:
А калі б ты біў па мішэні —
Ці пацэліў бы ты ў яе?
Ты рамантык і хлопец дужы —
І табе тайга не ў цяжар;
А скажы, ці гатоў ты, дружа,
Стрэцца з ворагам
твар у твар?»
Курыць моўчкі Чэсь
Ды рукою
Гоніць прэч тытунёвы дым...
Нешта ўласнае, дарагое
Бачыць ён па-за дымам тым...
...След ласіны і след мядзведжы,
Таямнічы, бязлюдны свет;
Ды парою на сцежцы
свежы
Чалавечы таемны след.
А вакол — тыя ж сопкі круглыя.
І зірнеш у прасцяг тайгі:
Там яны —
раніцой —
не смуглыя,
А зялёныя, як сцягі.

На вяршынях —
з каменняў —
па́ра!
Недзе ў лазні — таежны бог.
Дождж заліў па тайзе пажары, —
Набрынялі кара і мох.
Ды на дрэвах расы ўсё меней,
І не надта кусты ў расе;
Будзе спёка. Ветрык не вее,
І прыпарвае пакрысе.
І з паўдня ўжо тайга — як порах:
Суха.
Сопкі ў смузе густой,
...І пачуўся ўперадзе шорах —
Хлопцы крыкнулі разам:
«Стой!»
У рудой — з капюшонам — робе,
Што запэцкана ўся смалой,
Ён —
здалося на момант —
робіць
Тут з сякерай альбо з пілой.
І здалося яшчэ,
Што збоку
Быў тапор у яго ў руцэ;
Ды прыжмурыў ён хітра вока,
Так,
як быццам браў на прыцэл:
«Што — дагналі?
Ведаю —
дзесьці
Ёсць пятля мая ці турма;
Ды, відаць,
кіламетраў дзвесце
Вы прабеглі за мной дарма!»

І зліліся ў выбух адзіны
Стрэл варожы і Рэмаў стрэл.
Доўга рэха тайгой хадзіла
І ляцелаігліца з дрэў.

Куля хлопца як падкасіла.
Ён асеў на гарачы мох.
І не стала ніякай сілы,
Толькі Чэсю сказаць ён мог:
«Даганяй... мабыць, я не ўстану...
І дарма не шукай бінтоў...
Гэты стрэл... з варожага стану...
Мой наказ табе... будзь гатоў!..»

...Вораг след пакідаў крывавы,
І, прабегшы па хмызняку,
Чэсь убачыў, як левай
правую
Перавязвае ён руку.
Мусіць, ворагу сіл бракуе —
Бляск нядобры ў вачах патух:
«Што ж, здаюся.
Апошняй куляй
Я не змог палажыць вас двух.
Гэта праўда:
З фашыстам разам
Я пацешыўся — будзь здароў!
Тым, хто падаў не ў роў,
Абцасам
Памагаў я скаціцца ў роў.
Ведаў я,
Хоць хаваўся доўга



І ў палатцы і ў будане,
Што ўсё роўна,
нібыта воўка,
Вы абложыце тут мяне.
Разумею —
шлях не кароткі,
Ды, па гэтым самым хрыбце
Перш дабраўшыся
да Чукоткі,
Апынуўся б я знаеш дзе?..
Ёсць Чукотка і ёсць Аляска.
І напэўна ж, сказалі б т а м:
«Ты — забойца?
Дык калі ласка!
Мы пашлём цябе у В'етнам».
Быў бы я
у зялёным берэце...
Ну, цяпер разумееш ты?..»
Сэрца Чэсева гулка б'ецца:
«Будзь гатоў, будзь гатоў заўжды!
Будзь...»
Ды што гэта?
Хітры ж вораг!
Зноў бяжыць ён тайгой наўгад...
Стрэльба ўскінута.
Тупат...
Шорах...
«Стой! Куды ж ты? Спыніся, гад!»

Вораг бег і ўрэшце засопся.
Бег і Чэсь:
«Я ж цябе спыню!
Перш чым ты абагнуў бы сопку,
Ствол упрэцца табе ў спіну».
Цяжка бегчы —
каменняў столькі!
Нанасіў жа іх чорт сюды!..
...Чэсь упаў.
Ён ляжыць,
і толькі
Вусны шэпчуць: вады...
вады...
Між каменняў,
Як пастка, —
шчыліна, —
І распухлая ў ёй нага...
Ён ачнуўся не скора.
Шчыльна
Абступала яго тайга.
І агнём дыхнула з-за сопкі,
І атрутны, смяротны дым
Бег забойцы скрывае таропкі,
Засцілае яго сляды.

Чорны лес —
і злева, і справа.
Чэсь запомніць цяпер навек:
Першым робіць
чорную справу
Не агонь —
чалавек.
Чэсь папоўз да вады, і ватоўку
Аж да дзірак на локцях прарваў...
Прагна
піў з ручая
і доўга...
Не, ён поўз сюды не дарма!

Ёсць бутэлька з-пад рэпудзіну,
Ёсць папера, аловак ёсць...
Мала шанцаў: са ста — адзіны,
І ў грудзях закіпае злосць.
Стала ўжо і бутэлька цяжарам.
На вадзе і ў вачах — кругі...
Не баіцца ручэй пажару,
Будзе бегчы дзень і другі.
Балазе, што дарогу ведае,
Будзе бегчы хутчэй, хутчэй...
І з бутэлькай,
Як з эстафетаю,
Да ракі даімчыць ручэй.
А рака
юнаковы словы,
Не зблудзіўшы нідзе ў тайзе, —
«Будзьце,
будзьце,
будзьце гатовы!» —
Да равеснікаў данясе.



● Міхась КУШНЯРОЎ



●

Над вёскай ноч і... раптам выбух,
Аж скаланецца гулкі дол.
Зазвоняць тонка-тонка шыбы,
І рэха, рэха навакол...

Матулі сон трывожны, чуйны,
Усім вядомы сон старых...
Прачнулася і шэпча, чую:
«Страляюць зноў, няхай бы іх...»

Ніяк старэнькая не ўцяміць
Сэнс слоў: звышгукавы палёт...
Яе ізноў вяртае памяць
Да тых гадоў, да тых палёў,
Дзе ў летні дзень, зімою ў сцюжу
Красою жудаснай цвілі
Чырвона-вогненныя ружы,
Якіх дарыла смерць зямлі...

І я прашу пілота: «Дружа,
Звярні ты з курсу вёрст на пяць,
Каб выбух быў не вельмі дужы,
Магла каб маці ноччу спаць...»

● Уладзімір ЯКУТАЎ

● Мал. І. ДАВІДОВІЧА



# АГОНІЯ

АПОВЕСЦЬ

I



алкоўнік Мічыгін быў злы і надзьмуты, як сыч. Ён хадзіў з кутка ў куток, пыхкаючы люлькай, і цяжка крактаў. Наваксаваныя да бляску яго хромавыя боты моцна рыпелі: «тррт, тррт, тррт...» Гэтае рыпенне раздражняла. Ад учарашняе п'янкі трашчала галава. Пахмяліцца, як заўсёды гэта рабіў Мічыгін, сёння ён не мог. Надоечы яго папярэдзілі, каб нікуды не адлучаўся і чакаў незвычайнага госця ад Барыса Савінкава. Камандзір суседняга палка шапнуў яму: «Важная птушка, улічы».

Мічыгін тое-сёе ведаў ад палкоўніка Сцёпіна, пра кольвек-што здагадваўся сам. Але што ў гэтай справе замешаны Савінкаў, для яго было навіной. Гэта навіна і радавала і палохала Мічыгіна.

Недзе ў душы тлела надзея, што ўсё пойдзе добра, раз за справу нарэшце бярэцца чалавек валявы, які мае падтрымку ўплывовых колаў за мяжой. Але якая роля ва ўсім гэтым выпала на долю Мічыгіна? Ён не раз падстаўляў ужо сваю галаву... Добра, што старыя сябры памаглі яму, як і іншым афіцэрам, што ўдзельнічалі ў антысавецкіх акцыях, мінуць кары. Яны і параілі Мічыгіну ўступіць у Чырвоную Армію. Ён паслухаўся і напісаў заяву, у якой дакляраваў, што аддасць усе свае вайсковыя веды на карысць новай уладзе. Яму паверылі і накіравалі ў Тулу абучаць чырвонаармейцаў.

Праз некаторы час Мічыгіна прызначылі камандзірам 68-га пяхотнага палка 2-й Тульскай брыгады. Усе яго аднадумцы здолелі ўцерціся ў давер'е камандаванню Чырвонай Арміі і таксама атрымалі адказныя пасты: адзін стаў начальнікам штаба палка, другі — камандзірам батальёна, некаторыя трапілі нават у штаб брыгады.

Мічыгін падабраў да сябе ў полк пяць надзейных афіцэраў. Хоць гэта было і нялёгка. Камбрыг Ільінскі ў кожным асобным выпадку патрабаваў асабістай гарантыі, а камісар Сундукоў лічыў усе гэтыя назначэнні ўмоўнымі.

«Так, камбрыг і яго камісары пільныя людзі,— падумаў Мічыгін.— Прыйдзецца дзейнічаць больш асцярожна, каб іх перахітрыць. Але нічога, нічога, мы таксама не лыкам шыты».

Дрыготкімі пальцамі ён натаптаў люльку, прыкурыў яе і падышоў да акна. Мігцелі вострыя зоркі на ясным небе — да світання было яшчэ няскора. Двор быў пусты, толькі адзін вартавы тупаў па ім і курчыўся ад холаду.

Палкоўнік зацягнуўся, і чырвань ад люлькі асвяціла яго востры нос. Нечакана пачуліся цяжкія крокі, а потым стук у дзверы.

— Заходзьце! — сказаў Мічыгін, хуценька адыходзячыся ад акна.

— Так упоцемках і жывеце-маецеся, ваша высокае благароддзе? — замест прывітання спытаў госць.— Ці баіцёся каго, таварыш камандзір палка Чырвонай Арміі?

Мічыгін моўчкі запаліў лямпу і жэстам паказаў госцю на крэсла.

— Спачатку я хацеў бы зняць з сябе гэтую праклятую скатку,— сказаў госць і пачаў распранацца.

Нядбайна кінуўшы на канапу шынель, ён сеў на крэсла, на якое паказаў гаспадар.

— Фу-у-у-у, замарыўся,— уздыхнуў ён і пільна паглядзеў на Мічыгіна.— Дзевяць і тры?

— Адзін і дзевяноста сем.

— Тры і пяцьдзесят два?

— Сем і сорак восем.

Пасля гэтага ўмоўнага пароля Мічыгін трохі павесялеў, хоць госць яго нечым раздражняў.

— З кім маю гонар гаварыць? — спытаўся ён.

— Штабс-капітан Стракапытаў!

— Так, што новае скажаце, штабс-капітан? — зноў спытаўся Мічыгін.

— Загад з цэнтра...— пачаў Стракапытаў.

— З якога цэнтра? — перабіў яго Мічыгін.

Стракапытаў выцягнуў з кішэні партсігар, паклаў яго на стол.

— Загад з цэнтра такі: як мага хутчэй фарміраваць палкі.

— Але тое ж самае патрабуе і Масква,— здзівіўся палкоўнік.

— Як бачыце, тут нашы погляды з бальшавікамі сыходзяцца,— ухмыльнуўся Стракапытаў.— Але ўлічыце, пан Мічыгін, толькі тут.— Ён стукнуў далонню па стале.— Далей нашы шляхі разыходзяцца.

— А ці нельга цішэй? — раздражнёна папрасіў Мічыгін. Яму ўсё болей і болей рабіўся непрыемным гэты штабс-капітан.

— Надта вы нешта, як я бачу, нервовыя!

— Мусіць, як і вы.

Невядома, чым скончылася б гэтая сварка, але ў пакой зайшлі афіцэры з палкоўнікам Сцёпіным.

— Рад вас бачыць, дружа! — закрычаў яшчэ ў дзвярах Сцёпін, распасцёршы рукі, каб абняць Стракапытава.— Ці даўно прыехалі? Як здароўе? Якія навіны? Давай расказвай...



Хоць Мічыгін меў званне роўнае са Сцёпіным, але ў задуманай аперацыі апошняму адводзілася больш значная роля. Яшчэ да рэвалюцыі Сцёпін аціраўся каля Генштаба і контрразведкі, у той час як Мічыгін цярпліва цягнуў казарменную лямку.

Яны, сыны колішніх маянткоўцаў, разам скончылі прывілеяванае вайсковае вучылішча, разам служылі, а потым нейкая невядомая сіла падхапіла Сцёпіна і панесла ўгору.

«Пазёр і выскачка, вось і шанцуе»,— з крыўдай падумаў Мічыгін.

Але ён мірыўся цяпер з усім дзеля аднаго — знішчэння Савецкай улады.

Калі ўсе расселіся, Сцёпін загаварыў:

— Панове, цяпер надыходзіць тая пара, калі мы павінны расквітацца з бальшавізмам і выратаваць Расію. Што залежыць канкрэтна ад нас, скажа штабс-капітан.

Усе насцярожыліся і прыціхлі.

Счакаўшы і не паднімаючы вачэй, Стракапытаў пачаў гаварыць:

— Саветы сціснуты з усіх бакоў, унутры дзейнічаюць нашы людзі. Асабліва цяжкае становішча ў арміі. Каб дапамагчы саюзнікам, нам трэба ствараць у прыфрантавых паветах і гарадах крытычную для бальшавікоў сітуацыю.— Стракапытаў акінуў усіх вачыма.— Я спадзяюся, вы мяне разумееце, панове. Скора вашы часці будуць адпраўлены ў раёны Гомеля, Мазыра, Оўруча, Рэчыцы. Там ёсць дзе разгарнуцца... Але я крышку забег наперад. Пакуль што,— Стракапытаў памаўчаў,— пакуль што асноўная работа тут, у Туле...

Гаварылі яшчэ доўга, удакладняючы кожную дробязь.

## II

Натоўп гудзеў, як разварушаны вулей. Староннняму чалавеку цяжка было зразумець, што гэта за людзі і чаго яны тут. Апрануты яны былі хто як: на адных сядзелі латаныя і пералатаныя паддзёўкі і шынялі, на другіх — світкі, кажухі, на іншых было ўбранства афіцыйных службаў царскай Расіі: чыгуначнікаў, стацкіх саветнікаў, фінансістаў, гімназістаў, там-сям траплялася і афіцэрская форма.

«Такіх абарванцаў, галетнікаў яшчэ дзе ці знойдзеш»,— з жальбою падумаў Сундукоў і скептычна зірнуў на свой шынель.

Чым бліжэй ён падыходзіў да гэтага натоўпу, тым выразней чуў асобныя галасы.

— Хопіць з нас строіць дурняў!

— Вунь куды ён гне?!

— Па мордзе яму, па мордзе!

— А на ліха нам твой фронт! — выкрыкваў нехта з натоўпу.

Сундукоў спыніўся каля маладых хлопцаў, якія стаялі крышку зводдаль, на грудку. Адсюль было відаць увесь людскі натоўп. На імправізаванай трыбуне стаяў прамоўца. Што ён гаварыў, цяжка было разабраць,— голас яго патанаў у гомане і шуме. Хоць пра сэнс можна было здагадацца. Прамоўца заклікаў усіх актыўна ўключацца ў новае жыццё, слухаць сваіх камандзіраў і камісараў, каб быць заўсёды гатовымі абараніць маладую рэспубліку рабочых і сялян.

— На фронце чакаюць нашай дапамогі! — выкрыкнуў прамоўца, але яго зноў заглушыў свіст і гоман.

— Што ён дурыць галаву! — залемантаваў нехта ўжо тут, з краю натоўпу.

— Далоў!!

Як заўважыў Сундукоў, крычалі больш за ўсіх трое, апранутыя ў салдацкія шынялі. Адзін з іх, хударлявы, маленькі чалавечак вёртка бегаў сярод навабранцаў і ўсё крычаў: «Чаго стаіцё раты паразяўляўшы! Не бачыце, што гэта здраднік?» Ён падбег да маладых навабранцаў, зірнуў на іхнія спакойныя твары, плюнуў.

— А, лапці, чухонцы,— і пусціўся далей.

Адзін з хлопцаў падставіў нагу, і хударлявы паляцеў потарч носам. Доўга ўставаў ракам, а потым, наліваючыся чырванню, сціснуў, адстаўляючы, кулакі, але той самы хлопец даў яму выспятка, і чалавечак, азіраючыся і махаючы кулаком, пабег.

— Спасіцель! — зарагаталі хлопцы, усё гэтак сама стоячы зводдаль натоўпу.

Сундукоў падышоў бліжэй — нечым яму падабаліся гэтыя трое хлопцаў.

— А вы каго сабраліся абараняць? — пацікавіўся ён.

— А бог яго ведае,— абыякава адказалі яны.— Толькі не такіх, як гэты недамерак.

Сундукоў хацеў яшчэ пра нешта спытаць, але ў гэты час пачулася каманда:

— Увага! Паротна і пабатальённа — стройся!

На дзіва, гэты гаманлівы кірмаш праз некалькі хвілін выстраіўся ў роўныя калоны і ўжо маршыраваў у казармы, якія былі відаць пры далёкім узлеску. Сундукоў падышоў да імправізаванай трыбуны, дзе яшчэ стаяла некалькі афіцэраў.

— Хто будзе камандзір 2-й Тульскай брыгады? — спытаўся ён.

Наперад падаўся падцягнуты маладжавы вайсковец.

— Камандзір брыгады Ільінскі.

— Сундукоў, прызначаны да вас камісарам.

— Вельмі прыемна, таварыш Сундукоў. Сумаваць без спраў не прыйдзецца,— ён загадкава падміргнуў.— Нашы салдаты капрызныя, з характарам.

— Бачыў, бачыў, таварыш камандзір брыгады.

Ільінскі паглядзеў на гадзіннік:

— Аб норавах і характарах пагаворым, таварышы камандзіры, у штабе. Збор роўна ў тры,— і звярнуўся да Сундукова: — Калі хочаце, то пойдзем са мной.

— З задавальненнем.

Прайшоўшы колькі дарогаю, яны звярнулі на вузкую сцежку.

— Сюдою бліжэй,— растлумачыў Ільінскі.

Сцежка крута павярнула направа і завіляла між векавых дубоў, што раслі ўперамешку з бярозамі і соснамі. З-пад глыбокага снегу выглядалі голыя дубцы маладзенькіх асін. Марозіла. Промні нізкага сонца ледзь-ледзь прабіваліся праз зялёныя шаты хвой. У прасветах паміж дрэвамі мігцелі, пераліваліся вострыя, як бітае шкло, сняжынкі. Было ціха-ціха. Пад нагамі скрыпеў крохкі снег. Ільінскі ішоў хутка, спорна, і Сундукоў ледзь паспяваў за ім.

Выбраўшыся зноў на дарогу, Ільінскі ўзяў пад руку Сундукова:

— Ну як, камісар, не змерзлі?

— Што вы, што! Наадварот, запарыўся,— прызнаўся ён.

— Адкуль сам родам?

— З Адэсы.

— Марак, ці што?

— Служыў у берагавой артылерыі.

— І доўга?



— Ды не адны боты стаптаў.

— І да якога ж чыну даслужыўся?

— Да турмы.

Не заўважылі, як падышлі да нізкага цаглянага будынка.

— Наша харчэўня, але тут, мабыць, абедаць не будзем, а пойдзем да мяне на кватэру. Гэта не так далёка.

Сундукоў са згодай кіўнуў галавой.

Абед быў просты: на першае — буракі, на другое — каша «пансак» і па кавалачку адваранай ялавічыны. Потым упрыкуску пілі чай.

Седзячы за сталом, Сундукоў усё прыглядаўся да камбрыга, з якім яго звёў лёс у такі цяжкі час. Ён ужо крыху ведаў біяграфію Ільінскага з гутаркі ў Тульскім губрэўкоме, а таксама з характарыстыкі, з якой яго пазнаёмілі. «Добры спецыяліст, але не мае вопыту камандавання вялікімі ваеннымі аб'яднаннямі. Сумленны. Па закліку Леніна добраахвотна перайшоў на службу ў Чырвоную Армію. Рэзка адмяжаваўся ад рэакцыйнага афіцэрства. Пакутуе інтэлігентнасцю і празмерным лібералізмам»,— лаканічна паведамлялася ў ёй.

«Што ён сумленны — гэта, мусіць, праўда,— падумаў Сундукоў,— але ці ўдасца нам зрабіць брыгаду баяздольнай?»

— Ці надзейныя вышэйшыя афіцэры брыгады? — спытаў Сундукоў.

— Як вам сказаць... І надзейныя і не.

— Я вас не разумею.

— Раскажу пазней. А цяпер, прызнаюся шчыра, палавіну з іх выгнаў бы не шкадуючы. Напрыклад, не падабаецца мне начхоз 68-га палка Стракапытаў. Не вельмі давяраю і Сцёпіну.

— Вось як?! — здзівіўся Сундукоў. — Прызначылі іх з вашае ж згоды?

— Для камандзіраў палкоў і батальёнаў фармальна патрэбна мая згода, а астатнія — кампетэнцыя камбрыга. Але ўлічыце, у асноўным камандны склад быў прызначаны да майго прыходу.

— Гэта горш,— задумаўся Сундукоў і зноў спытаўся: — Колькі камуністаў у брыгадзе?

— Здаецца, чалавек пяцьдзесят. Але дакладна іх ніхто не лічыў.

З гутаркі Ільінскага выходзіла, што брыгады пакуль што няма. Дысцыпліны ў многіх ротах ніякай, а некаторыя з ротных і батальённых камандзіраў толькі і робяць, што бавяць час у рэстаранах і цягаюцца за кабетамі.

Падняўшыся з-за стала, Сундукоў пачаў развітвацца:

— Дзякуй, таварыш Ільінскі, за абед, гасціннасць і шчырую інфармацыю.

— Наш доўг, калега, не ўтойваць адзін ад другога нічога. Ці не так я кажу?

— Так, таварыш камбрыг. Пры такім становішчы і працаваць нам будзе лягчэй.

— А куды вы выправіліся?

— Прайду па казармах, пагавару з чырвонаармейцамі. Як кажуць, бліжай да людзей, бліжай да праўды.

— Нанач прыходзьце да мяне,— прапанаваў Ільінскі.

— Дзякую. Напэўна, застануся з салдатамі.

— Барані бог! — Ільінскі замахаў рукамі.— Там ноччу робіцца чорт ведама што.— Ён памаўчаў і растлумачыў: — Пазаўчора паслалі два батальёны, каб уціхамірыць бунт, дык іх палавіна разбеглася.

— Спадзяюся, усё будзе добра,— паціснуўшы руку камбрыгу, Сун-

дукоў выйшаў. У пакоі пасля яго яшчэ доўга пахла ёдаформам і карболкай.

## III

Да полудня страляніна ў горадзе сціхла, і, асмялеўшы, людзі пачалі выходзіць на вуліцу. Загрукалі засаўкі на аканіцах і веснічках, зарыпелі цяжкія завалы на дзвярах крамаў, зазвінелі вёдры каля студняў.

Горад ажыў. Людзі перадавалі адзін аднаму радасную вестку: «Чырвоныя ў Нова-Беліцы!» Па вуліцах з крыкам бегалі дзеці: «Чырвоныя ідуць! Яны ўжо тут!»

Неўзабаве вуліцы Мясніцкая, князя Паскевіча, барона Нільсана сталі люднымі. Усе, ад старога і малога, выйшлі сустракаць Чырвоную Армію. Усюды вывешваліся чырвоныя сцягі.

— Гляньце, мяснік Гірша бальшавіком зрабіўся!

— А яму ўсё роўна кім быць, а гэтых штандараў у яго хопіць не на адну ўладу.

— Толькі мяса ён не мяняе, адна здыхліна.

— Гірша, Гірша! Ці праўда, што ў цябе ў лаўцы з'явілася свежая сабачына?

— Га-га-га-а...

Раптам рогат сціх. Здалёк пачулася мелодыя баявой рэвалюцыйнай песні «Смело, товарищи, в ногу...» Гукі яе ўсё нарасталі і нарасталі: «...Духом окрепнем в борьбе». Перадавыя калоны ўжо выходзілі на цэнтральную Мясніцкую вуліцу.

Пад канец 1918 года ад акупантаў былі вызвалены Полацк, Жлобін, Бабруйск, Уваравічы, Касцюковічы, Мазыр, Рэчыца і іншыя гарады. Але Гомель, гэты вялікі чыгуначны вузел, што звязваў цэнтр Расіі з Украінай, Беларуссю і Захадам, заставаўся пад акупацыяй. Нямецкае камандаванне старалася ўтрымаць горад у сваіх руках, каб вывезці нарабаваны скарб.

Праўда, сітуацыя пасля лістападаўскай рэвалюцыі ў Германіі змянілася на карысць Савецкай Расіі. Пад уплывам бурных рэвалюцыйных падзей акупацыйная армія развальвалася. Нямецкія салдаты адмаўляліся ваяваць супроць сваіх братоў і патрабавалі заканчэння вайны, не падпарадкоўваліся афіцэрам. У часцях ствараліся Саветы салдацкіх дэпутатаў. У тыле ворага разгараўся партызанскі рух.

Наша краіна атрымала магчымасць ліквідаваць грабежніцкі Брэсцкі мір і аддаць усе свае сілы на барацьбу з інтэрвентамі. З кожным днём расла моц Чырвонай Арміі.

У такіх умовах нямецкаму камандаванню іншага выйсця не было, як выбірацца дадому.

Нарэшце для гамяльчан надышоў доўгачаканы дзень вызвалення. Праўда, акупанты пакінулі пасля сябе цяжкую спадчыну. Камунальная гаспадарка, транспарт, магазіны, прамысловыя прадпрыемствы, саматужныя майстэрні — усё было разбурана, знішчана, разрабавана. Цяжка стала з харчамі. Спекулянты дыктавалі свае цэны. Нялёгка было гомельскім бальшавікам.

Вечарам 14 снежня 1919 года сабраўся, абраны напярэдадні, Гомельскі камітэт РКП(б): Хатаевіч, Антонаў, Гулло, Ярмак, Якубаў, Цырлін, Камісараў. На пасяджэнне прыйшлі таксама камандзіры часцей, супрацоўнікі рэўкома і чэка, прадстаўнікі з валасцяў. Трэба было неадкладна вырашыць многія складаныя пытанні — змушалі абставіны, прыспешваў час. Перш за ўсё: зберагчы народную маёмасць, пусціць фабрыкі і заводы, даць людзям работу, жыллё, забяспечыць харчамі і палівам, адкрыць школы і бальніцы. І яшчэ сотні маленькіх і вялікіх, але таксама неадкладных спраў.

Першым на пасяджэнні выступіў Хатаевіч.

— Дарагія таварышы! Нам трудна, як ніколі, і самае важнае для нас цяпер — абарона краіны. Першае, чаго мы павінны дамагчыся — гэта стварыць чырвоныя ўзброеныя атрады для барацьбы з контрэвалюцыяй. Другое — нацыяналізаваць усе буйныя прадпрыемствы. Трэцяе — усюды стварыць органы Савецкай улады.

На нарадзе гаварылася пра тое, што належала б зрабіць і ў іншых паветах.

— А як жа быць з хворымі на тыф, гішпанку і іншыя інфекцыйныя хваробы? — пытаўся Гулло.

— Нам на помач трэба прыслаць узброены атрад! — прасілі прадстаўнікі з Кармянскай, Лоеўскай, Кошалеўскай валасцяў.

Падняўся Камісараў:

— Атрады пастараемся прыслаць, і як найхутчэй. Але ж, думаю, і на месцы тое-сёе можна знайсці. Бо ведаеце самі — лепшыя сілы мы аддаём фронту. А што тычыцца бальніц, то можна рэквізаваць палацы ў буржуазіі.

— А зброю дзе браць? — пачуліся незадаволеныя галасы.— Можа ў рэўкоме ёсць?

— Не вельмі многа яе і ў нас,— пакруціў галавой старшыня рэўкома.

— Будзем прасіць дапамогі ў Маскве,— перапыняючы ўсіх, сказаў Хатаевіч. — Але галоўнае, таварышы,— трэба спадзявацца на саміх сябе, на рабочых, камуністаў, на бедных сялян. Болей расказвайце аб нашай бальшавіцкай палітыцы,— старшыня павятовага камітэта партыі паглядзеў на рэдактара газеты «Весці рэўкома» Білецкага: — Зрабі, Мікалай, усё, што можаш, але каб да раніцы выйшаў нумар і каб у ім былі ўсе нашы рашэнні. А калі прыдбаеш болей паперы, то пастановы аб рэквізіцыі домаўладанняў у буржуазіі, аб гандлі і ахове здароўя, аб нацыяналізацыі прадпрыемстваў выпусціце асобным выданнем.

— Спадзяюся, што да гадзін дзевяці раніцы ўсё надрукуем,— неяк трохі з гонарам гаварыў Білецкі.— Што на белай паперы, што на шпалерах, а дэкрэты аб нацыяналізацыі адціснем на абгортках ад цукерак.

Усе засмяяліся.

— Можа яшчэ адэкалонам папырскаць,— пажартаваў нехта.— Буржуі думацьмуць, што гэта рэклама парыжскіх парфумных фірмаў.

Старшыня ЧК латыш Ланге, які не любіў сентыментальнасці, сказаў:

— Нашы загады справядлівыя і дэмакратычныя, іх і без гэтага ўсе разумеюць.

— Яно і відаць,— не сунімаўся жартаўнік.— Прыйдзецца вінтоўкі здаць у музей.

Падбадзёрваючы адзін аднаго, камуністы разыходзіліся — іх чакаў новы дзень, дзень трывог, барацьбы, дзень новага жыцця, за якое яшчэ трэба было жорстка змагацца.

## IV

Пісьмо, з якім прыйшоў пасланец з Кармянскай воласці, было кароткае, але трывожнае. Старшыня валаснога рэвалюцыйнага камітэта

паведамляў, што мясцовыя багацеі забілі некалькі актывістаў. Па вёсках паўзуць правакацыйныя чуткі, расклейваюцца контррэвалюцыйныя лістоўкі. У іх заклікаюць стварыць новыя Саветы. Саветы без камуністаў.

«Адчуваецца, што кіруе ўсім вопытны чалавек. У воласці заўважылі падазроных асоб. У сувязі з тым, што вялікі атрад пасланы на фронт, нашы сілы вельмі малыя. Тэрмінова просім вашай дапамогі»,— гаварылася пад канец пісьма.

Старшыня павятовага рэўкома Камісараў ведаў, што амаль усе кармянскія камуністы пайшлі на фронт, а тыя, хто застаўся, не маюць зброі. Ён нерваваўся — як знайсці выйсце? Ледзь не з усіх валасцяў просяць помачы. «А каго пасланы і куды раней пасланы? — пытаўся ён сам у сябе.— Ды і ў Гомелі, дзе насельніцтва падбіраецца да 80 тысяч, становішча не лепшае».

Камісараў рэзка пакруціў ручку тэлефоннага апарата:

— ЧК? Ты, Ланге? Слухай, колькі людзей у цябе на рахунку? Ага... Малавата. Мне трэба чалавек пяцьдзесят, сама меней... Няма? У цябе ніколі нічога не дапросішся.

Камісараў кінуў са злосцю тэлефонную трубку і закрычаў дзяжурнаму:

— Пакліч камандзіра каравульнага батальёна!

Старшыня ЧК у той час, калі пазваніў Камісараў, якраз аналізаваў аператыўную зводку падзей, якія адбыліся ў павеце. Кожны радок «аператыўкі», здаецца, даймаў да сэрца: «На хімічным заводзе «Іегель» у Нова-Беліцы не працуюць вакуумныя ўстаноўкі. Завод «Рухавік» стаіць ужо трэція суткі. 32 чалавекі атруціліся заражанымі прадуктамі, 78 памёрла ад эпідэмічных хваробаў. Далей паведамлялася, што спекулянты страшэнна паднялі цэны.

Ланге міжволі глянуў на падаконнік, дзе ляжаў кавалак хлеба, чорны, як макуха, ад мякіны і вотруб'я. За гэты кавалак ён плаціў тры мільёны керанак, ці, як казаў яго памочнік, «торбу трухі». Наогул, усё каштавала вельмі дорага. Якую драбніцу і то было не дакупіцца. Грошы нічога не каштавалі. Іншы раз іх проста не лічылі, а вызначалі на вагу.

«Бальшавікі хочуць замардаваць нас голадам!» — заенчылі з падваротняў спекулянты і розная паскудзь.

«Камуністы забараняюць вольны гандаль і адбіраюць усё дачыста!» — па завуголлі паўзлі чуткі.

Сёй-той даваў ім веры. Гэтую няўпэўненасць у людзей, трывогу, незадаволенасць падхопліваў вораг. А ён ужо, як прусак, варушачы вусамі, лез з кожнае шчыліны.

Што на Гомельшчыне дзейнічае контррэвалюцыйная група, Ланге быў перакананы, хоць асаблівых доказаў пад рукамі не меў. Яго вельмі насцярожвала, што вораг стараецца разгнявіць, раззлаваць людзей і падбухторыць іх супроць новай улады.

Падлічыўшы ўсе прарэхі, якія трэба было спешна «залатаць», Ланге сказаў свайму намесніку:

— А ўсё ж у Кармянскую воласць трэба накіраваць чалавек дзесяць лепшых чэкістаў.

Намеснік скасавурыў вока і пацісуў плячыма.

— Не крывіся... Сам ведаеш, колькі адтуль пайшло камуністаў на фронт.

— Добра, а з якога завода скажаш узяць?

— Лепш за ўсё з інтэрнацыянальнага.



Вырашыўшы справу з Кармянскай воласцю, старшыня ЧК пазваніў Камісараву.

— Прымі, таварыш, рэўком, нашых дзесяць хлопцаў. Яны, як і я, не зусім добра ўмеюць гаварыць па-руску, але хлопцы надзейныя.

На дапамогу кармянцам прыйшоў камуністычны атрад з Рагачова, а таксама камуністы Літвінавіцкай партячэйкі, якой кіраваў Лепяшынскі.

Між іншым, 25-га лютага Лепяшынскі адбіў тэлеграму У. І. Леніну аб контррэвалюцыйным мяцяжы ў Карме.

«Вам пасланы атрад асобага прызначэння»,— тэлеграфаваў Уладзімір Ільіч.

Атрад прыбыў у Магілёў. Але дапамога яго ўжо не спатрэбілася, мяцежнікаў адолелі сваімі сіламі.

Усюды праходзілі мітынгі і сходы, на якіх рабочыя і сяляне заяўлялі, што яны прызнаюць толькі савецкую ўладу і будуць падтрымліваць толькі яе. На адрас рэўкома і павятовага камітэта партыі ішло мноства пісьмаў з вёсак: сяляне пісалі, што яны заўсёды гатовы памагчы савецкай уладзе. Усе пісьмы, пратаколы пасяджэнняў уважліва чыталі ў штабе гомельскіх камуністаў. Давер працоўных да партыі Леніна мацаваў сілы, падымаў надзеі.

«Нас жа, камуністаў, у павеце не болей як тысяча,— думаў Хатаевіч, чытаючы гэтыя пісьмы,— і без падмогі народа мы не зрабілі б нічога».

## V

Сундукоў выйшаў на вуліцу. Пасля цяпла ў хаце яго пачало калаціць. Ныла плячо. «Каб на яе... з ранай»,— скрывіўся Сундукоў. Ён падышоў да казармы, але ўбачыўшы збоку лавачку, сеў перадыхнуць.

Змяркалася. Нанач браўся мароз. Суха патрэсквалі вуглы ў будынках. Пахла горкім дымам з камінаў.

— Крыху адпачну, бо ці варта гэтакім раскіслым паказвацца перад чырвонаармейцамі.

Але ж ці пасядзіш доўга ў шынялькy. За плечы краўся холад. Сундукоў зябка паварушыў хворым плячом, пацёр вушы і падняўся з лаўкі. Сабраўшыся каля ганка казармы, аб нечым моцна гаварылі салдаты. Цьмяна-жоўтае святло ад ліхтара скупа падала ім на твары.

Убачыўшы Сундукова, салдаты сціхлі.

— Добры вечар, таварышы! — прывітаўся камісар.

— Добры вечар, добры вечар, міл чалавек,— ветліва адазваўся адзін з іх.

— Пачакай, пачакай,— усміхнуўся Сундукоў.— Мы сёння, здаецца, ужо бачыліся?

— А вы не новы наш камандзір роты? — замест адказу спыталіся салдаты.

— Дзе ж вы старога згубілі?

— Хто яго ведае, куды яны дзяюцца,— паціснулі плячыма салдаты.— Камбат сказаў, што захварэў.

— Але, я бачу, вы не сумуеце без камандзіра.

Сундукоў пацікавіўся іхнімі прозвішчамі. Салдаты назваліся:

— Крамаў! Багаткін! Шпак! Чыслін!

— Вельмі прыемна.

Салдаты хітра пераглянуліся, зноў заўсміхаліся.

«Нейкі бяскрыўдны сакрэт маладосці»,— падумаў Сундукоў і

міжволі ўспомніў Надзю, якая асталася ў Адэсе. На развітанне, цалуючы, яна гаварыла: «Няхай прапрадзе пропадам усё, што разлучае людзей». «Толькі не наша рэвалюцыя, мілая»,— засмяяўся ён, і, здаецца, яна згадзілася, як згаджалася ў многім, далёкім для яе...

— А не возьмеце мяне, таварышы, нанач? — спытаўся Сундукоў.

Гэта ўжо было для маладых чырвонаармейцаў неспадзяванасцю, і яны не ведалі, што сказаць: пусціць у казарму незнаёмага чалавека не маглі, а адмовіць не хапала смеласці.

Тады Сундукоў адрэкамендаваўся і папрасіў адвесці яго да старшага роты.

— Тады пойдзем да Ворана,— сказаў адзін з чырвонаармейцаў.

«Хоць да Стрыжа, хоць да Ворана — усё роўна»,— падумаў Сундукоў і зноў жартам спытаўся:

— Месца ж у вас дзе-небудзь знойдзецца?

— Вядома,— наперабой загаварылі салдаты.

«Воранам» аказаўся нізкі, мажны мужчына гадоў недзе за сорак, з пышнымі чорнымі вусамі.

— Алавердаў, выконваю абавязкі камандзіра роты,— не зусім упэўнена далажыў ён, яшчэ не ведаючы, хто перад ім.

— Камісар брыгады Сундукоў!

Алавердаў выцягнуўся па камандзе «смірна!» і пачаў рапартаваць:

— Таварыш камісар! У роце налічваецца...

— А можа абыдземся без фармальнасці, таварыш Алавердаў,— перабіў яго камісар.— Пажывём — і так убачым.

Яны некалькі разоў прайшліся па казарме. Святло ад ліхтароў, што віселі каля дзвярэй, ледзь прабівалася праз вузкія праходы двух'ярусных нараў. На падлозе валяліся шматкі паперы, агаркі лучыны і іншае смецце. Некаторыя салдаты ўжо спалі, і з-пад шэрых коўдраў былі відаць босыя ногі. На падлозе стаяў абутак. Непрыемна пахла потам. Духата была, аж не дыхнуць. Пасярод праходаў на аружэйных пірамідах сохлі анучы.

Алавердаў, засаромеўшыся, пачаў апраўдвацца:

— Я тут, таварыш камісар, толькі тыдзень.

— Для таго, каб падмесці і памыць падлогу і праветрыць памяшканне, даволі паўгадзіны,— незадаволена сказаў камісар.

Сундукоў падышоў да салдат, што разваліўшыся ляжалі на ніжніх нарах.

— Вы дома таксама спалі ў ботах, га?

Салдаты маўчалі.

— Сорамна, сорамна,— і ўсім тром загадаў: — Адзін ліхтар павесьце ў канцы нараў і за паўгадзіны прыбярыце казарму. Калі будзе цяжка, паклічце мяне. Я буду тут, недалёка.

«Тут паможа толькі жалезная дысцыпліна»,— падумаў Сундукоў, аглядаючы казарму, і спытаў:

— Таварыш Алавердаў, а дзе сам спіш і працуеш? Ёсць якаянебудзь келля?

— Хадземце туды,— махнуў рукой Алавердаў.

Праціснуўшыся ў вузкую шчыліну, яны апынуліся ў цесным закутку.

— Тут у нас і штаб, і капцёрка, і старожка,— не то жартаваў, не то сур'ёзна гаварыў Алавердаў, падсоўваючы Сундукову табурэтку.

У пакойчыку было чыста і ўтульна. Нават стол, прыбіты ў кутку, быў накрыты абрусам, які немаведама адкуль знайшоўся. Сундукоў крыху падабрэў, адпусціўся.





— Адкуль родам, гора-камандзір? — з нейкім шкадаваннем спытаўся ён.
— Тутэйшы, таварыш камісар, туляк. Да войска рабіў на аружэйным.
— Камуніст?
— Ды ўжо месяцы тры будзе, як атрымаў партыйны білет,— сказаў Алавердаў, ставячы на стол кубкі для чаю.— Перакусім крыху, таварыш камісар.
За вячэрай гутарка пайшла вальней. Алавердаў шчыра расказваў камісару пра тое, што сярод салдат аслабілася дысцыпліна, што дрэнна з харчамі і абмундзіраваннем.
— Калі сфарміравана ваша рота? — пацікавіўся Сундукоў.— І адкуль у асноўным салдаты?
— Салдаты найбольш усё тутэйшыя, з Тульскага павета, і прызваны ў армію два тыдні назад,— цяжка ўздыхнуў Алавердаў.— Рота не ўкамплектавана яшчэ і напалову.— Ён паглядзеў на Сундукова і растлумачыў: — Пяць прысылаюць, а дзесяць уцякае.
— Чаму гэта?
Алавердаў маўчаў і толькі паціскаў плячыма. Чым больш маўчаў Алавердаў, тым ясней рабілася камісару, што становішча ў брыгадзе больш чым сур'ёзнае.
— У роце, акрамя цябе, ёсць яшчэ камуністы? — спытаўся Сундукоў.
— Ёсць. Праўда, не многа...
— А можна з імі пагаварыць?
— Паспрабуем.
— Тады пакліч,— папрасіў камісар.
Алавердаў вярнуўся хвілін праз пятнаццаць-дваццаць. Разам з ім прыйшло пяць чырвонаармейцаў. Сяк-так рассеўшыся, пачалі знаёміцца.
— Нешта не адчуваюць салдаты, што сярод іх ёсць камуністы,— адразу пачаў Сундукоў.— Духу не чую вашага.
— Які дух, каб жывым застацца,— сказаў немалады салдат, паказваючы на сіняк пад вокам.— Учора я заікнуўся наконт зямлі і хто ёй будзе цяпер карыстацца,— ён уздыхнуў,— дык бачыце...
— Вы ведаеце тых людзей? — рэзка спытаўся Сундукоў.
— Дваіх запомніў.
— Няўжо ўсе так настроены? — здзівіўся камісар.
— Канечне, не. Многія душою за нас, але баяцца і маўчаць.
— Прышліце нам хутчэй добрага камандзіра,— прасілі камуністы.
— Хіба ж ён кепскі? — Сундукоў глянуў на Алавердава.
— Ды не, але яго не прызначаць, падбіраюць афіцэраў.
— У гэтым я дапамагу,— Сундукоў устаў, моршчачыся ад болю (зноў развярэдзілася рана), пачаў расказваць, якое значэнне мае Чырвоная Армія для Савецкай улады і што яе трэба ствараць як мага хутчэй. Потым дастаў з кішэні скрутак і раздаў усім лістоўкі.
— Тут ёсць усё, пра што я гаварыў. Колькі расклейце, а астатнія раздайце надзейным салдатам. І самі, каршун вас дзяры, трымайце галаву вышэй, а заўтра пагаворым са ўсёй ротай.
Разышліся яны позна. Алавердаў пачаў рассцілаць пасцель.
— Не, не, я пайду спаць да знаёмых хлопцаў,— падміргнуў Сундукоў.— Вось толькі павязку папраўлю тут.
Калі ён зняў гімнасцёрку, Алавердаў жахнуўся — уся спіна ў камісара была аблеплена парудзелай і закарэлай ад крыві ватай. Разгубіўшыся, Алавердаў не ведаў, што і рабіць.
— У цябе ёсць у запасе старая чыстая прасціна? — спытаўся Сундукоў.
— Яшчэ пытаеце! — Алавердаў сцягнуў з паліцы ўюк, выцягнуў адтуль прасціну і падаў Сундукову.
— Эх ты, медсястра! Парві яе на чатыры паласы і давай сюды гарачую ваду.
Хвілін праз дваццаць яны ўправіліся з перавязкай. Алавердаў цяжка ўздыхнуў. Ён, пэўна, больш стаміўся ад гэтай працэдуры, чым сам камісар.
— Ну, бывай, заўтра ўбачымся,— падміргнуўшы, Сундукоў падаў руку Алавердаву.
«Ну і вытрымка!» — падумаў салдат.
Камісар спыніўся каля парога і спытаўся:
— Калі паднімаюцца твае браты-разбойнікі?
— Роўна ў сем.
Сундукоў глянуў на гадзіннік, што цікаў на сцяне.
— Каб хаця не праспаць,— сказаў ён і падаўся ў казарму.
Праз непрычыненыя дзверы Алавердаў чуў гоман — салдаты ўкладваліся спаць.

## VI

Сундукоў вельмі здзівіўся, што яго загад быў выкананы. У казарме падмялі і памылі падлогу, у роўнай пірамідзе стаялі вінтоўкі, і на іх ужо ніхто не сушыўануч. Над праходам між нараў гарэлі ліхтары. Сундукоў спакойна прайшоўся да дзвярэй. На яго пільна і з цікавасцю глядзелі чырвонаармейцы. Яшчэ адна нечаканасць здзівіла камісара — каля ўваходу стаяў дзяжурны.
«Глядзі ты, рагожку паслалі, каб выціраць ногі»,— ён усміхнуўся сам сабе і звярнуўся да вартавога:
— Аказваецца, тулякі не такія ўжо і брынды.
Вартавы, папраўляючы папругу, усміхнуўся:
— Вядома, грамадзянін камісар, гразь любіць толькі свіное племя.
Сундукову не спадабалася слова «грамадзянін», але ён змаўчаў.
«Раніцой трэба сказаць і пра гэта»,— падумаў ён, узіраючыся на нары, каб знайсці тых самых трох вясёлых хлопцаў. Але іх нідзе не было.
Сундукоў хацеў ужо вярнуцца ў капцёрку да Алавердава, але раптам убачыў каля бачка з вадою дзверы.
— Што там? — кіўнуўшы ў той бок галавою, спытаўся ён у дзяжурнага.
— Быццам брахалаўка, грамадзянін камісар,— паціскаючы плячыма, сказаў дзяжурны.
— Там мы языкі менцім,— засмяяўся чырвонаармеец, што падышоў да іх.— Гляньце.
Сундукоў увайшоў услед за чырвонаармейцам і апынуўся ў паўпадвальным закутку. За доўгім, збітым з негабляваных дошак сталом сядзела з дзесятак салдат. Тут жа была раскладзена іх небагатая вячэра: хлеб, шмалец, праснакі, сухары. Пасярод стала стаяў вялікі чыгун — з яго салдат чарпаком налівае чай. Убачыўшы Сундукова, ён гукнуў:

— Таварыш камісар, ідзіце да нас вячэраць!

Сундукоў пазнаў Багаткіна. Ён быў смялейшы за другіх і, мусіць, невялікі грамацей.

Салдаты пасунуліся, даючы сесці Сундукову.

— Частуйцеся,— запрашалі яны, кладучы перад камісарам кожны што-небудзь са свайго запасу,— чым багаты, тым і рады.

— Дзякуй, дарагія таварышы, але я толькі што перакусіў,— аднекаваўся Сундукоў.— Вось хіба чаю...

— Не хочаце есці, то хоць з сабою вазьміце, спатрэбіцца,— дружна ўгаворвалі яго салдаты.

Ён беражліва згарнуў усё ў пакуначак і засунуў за пазуху.

Пасля вячэры ўжо, лежачы на нарах, Сундукоў спытаўся ў Багаткіна і Крамава:

— Вы што, з адной вёскі?

— А мы хіба падобныя да вясковых? — здзівіўся Крамаў.

— Мне падалося...

Аказалася, што ўсе пяць хлопцаў па партыйным прызыве пайшлі ў Чырвоную Армію з аружэйнага завода.

— Нас каля ста чалавек падало заявы,— удакладніў Багаткін.— Але ўсіх не адпусцілі. Пашанцавала людзям. Я во і сам думаю — ці не лепш вярнуцца на завод?

Багаткін уздыхнуў, перавярнуўся на другі бок, паказваючы гэтым, што пара спаць.

— А па-мойму, ваша рота не такая ўжо і благая,— як бы супакойваючы яго, сказаў Сундукоў.

Але Багаткін маўчаў.

Недзе пад раніцу іх разбудзіў дзяжурны.

— Хлопцы зноў бузацёраць.

На вуліцы чуваць была п'яная песня, гукі гармоніка, лямант.

— Зноў гэтыя куркулі прапіваюць сваё барахло,— прабурчаў Багаткін.

— Яны яго ўжо пяць раз прапілі,— іранічна дадаў Крамаў.

Мацюкаючыся, п'яныя салдаты ўваліліся ў казарму, разбудзілі ўсю роту. Падняўся гоман, шум.

— Уставайце, таварышы,— ціха загадаў Сундукоў і пачаў хуценька апранацца. Саскокваючы з нараў, шапнуў Багаткіну: — Станьце на ўсякі выпадак каля пірамiды са зброяй і разбудзіце Алавердава.

Зашпільваючыся на хаду, сюды ўжо бег сам Алавердаў.

— Падымай роту па трывозе! — загадаў яму Сундукоў.

— Слухаю!

— Рота! Трывога! Пад'ём! — разнёсся па казарме голас Алавердава.— Выходзь на вуліцу, стройся!

Прайшло добрае паўгадзіны, пакуль марудныя, неабвучаныя чырвонаармейцы выстраіліся на пляцы перад казармай.

«Не ідэальна, але цярпець можна,— падумаў Сундукоў,— хоць наша братва, маракі, за гэты час паспелі б два разы паесці, легчы і зноў устаць».

Гулякі разгубіліся і не ведалі, што рабіць. Двое, патаптаўшыся, сталі ў строй. Адзін, вельмі п'яны, хістаючыся, падышоў да Сундукова і прамармытаў:

— На-а фррронт!

— На гаўптвахту!

Уся рота зарагатала.



— Таварыш Алавердаў, дастаўце астатніх п'яніц сюды! — загадаў камісар.

Іх аказалася восем чалавек. Апусціўшы галовы, яны сталі на тое месца, куды паказваў Алавердаў. Пасля гэтага ён скамандаваў: «Смірна!» Падышоў да Сундукова і далажыў:

— Таварыш камісар брыгады, рота пастроена ў поўным саставе.

Сундукоў абышоў шарэнгі. Святло ад ліхтара ледзь прабівалася праз густы ранішні туман, і твары салдат цяжка было пазнаць.

— Дарагія таварышы! — пачаў Сундукоў.— Вы ўступілі ў рады Чырвонай Арміі і павінны з гонарам насіць званне чырвонаармейца.— Голас у яго дрыжаў.— Па прызыве партыі бальшавікоў і асабіста Леніна мільёны людзей Расіі ўзялі ў рукі зброю. Яны пакінулі свае сем'і, сваю мірную працу, каб адстаяць маладую Савецкую рэспубліку. З усіх бакоў абкружыў яе вораг. Ад нашай баявой гатоўнасці залежыць лёс рэвалюцыі. Ваша рота павінна стаць адной з лепшых у Тульскай брыгадзе. Для баявой падрыхтоўкі ў нас вельмі мала часу, і мы павінны не толькі навучыцца добра страляць, але і распазнаваць сваіх ворагаў. Шлях да гэтага толькі адзін — дысцыпліна і яшчэ раз дысцыпліна...— Ён паказаў на тых, трохі ўжо працверазелых салдат, што стаялі перад строем.— А вось з такімі, як кажуць у нас у Адэсе, фраерамі ці многа зробіш?

У шарэнгах загаманілі:

— Ці ўпершыню гэта ім?

— Пад арышт іх.

— Правільна,— услых згадзіўся Сундукоў.

«Але хіба з гэтага будзе карысць? — тут жа падумаў ён.— Ці не лепей прапясочыць на палкавым сходзе? Параюся з Ільінскім».

— Зрэшты, камандаванне брыгады вырашыць, што рабіць з імі,— у заключэнне сказаў Сундукоў.

І тут пасыпаліся пытанні:

— Калі нас абмундзіруюць? Ці палепшае з харчамі? Ці ёсць чым узброіць брыгаду? Ці дапаможа Савецкая ўлада нашым сем'ям абрабіць зямлю?

Прыйшлося растлумачыць усё. Па настроі салдат было відаць, што яны засталіся давольныя.

Развітваючыся з Алавердавым, Сундукоў папрасіў у яго:

— Хачу трапіць у другую часць, але не ведаю, як яе знайсці, можа правёў бы?

— Пойдзем у артдывізіён,— падказаў Алавердаў.— Ім камандуе мой знаёмы Куманін.

Праз якія хвілін дваццаць яны былі ўжо там.

— Хто будзеце? — строга спытаўся дзяжурны.

— Камісар брыгады!

— Дакументы! — не адступаўся дзяжурны.

На голас выйшаў падцягнуты, з маўзерам пры баку, камандзір:

— Не спіцца, суседзі? — спытаўся ён, падаючы руку Алавердаву і Сундукову.

— Вітанне, вітанне, таварыш Куманін,— сказаў Алавердаў.— Мы ж не спім у шапку, як твае пушкары.

— Яны нават уночы мітынгуюць,— дадаў Сундукоў.

— У іх бывае сёе-тое яшчэ цікавейшае,— падцяў Куманін і хітра ўсміхнуўся.

Зайшоўшы ў казарму, Сундукоў убачыў, што тут пануе парадак і дысцыпліна. «Маладзец, на сваім месцы»,— падумаў ён пра Куманіна.

## VII

Стракапытаў быў раз'юшаны. Не разбіраючы ні старшынства, ні рангу, ён крычаў на ўсіх. Нават не верылася, што ў гэтым франтаватым афіцэры, прызначаным галоўным інтэндантам палка, столькі злосці і хамства. Іншым разам ні Мічыгін, ні Сцёпін, ні другія старэйшыя афіцэры, якія былі тут, не селі б з ім за адзін стол. Але час змяніўся, і цяпер яны моўчкі слухалі яго пустабрэхства. Шмат значыла таксама імя Савінкава, ад якога ён дзейнічаў.

— Дурні вы, а не рускія афіцэры!— крычаў Стракапытаў.—Прыехаў нейкі камісарык з адэскай чэрні, і вы сцішыліся, як мышы пад венікам.

Стракапытаў падняў левую руку і пачаў лічыць па пальцах:

— Ён арыштаваў забулдыг, на якіх вы так спадзяваліся — раз, прызначыў камуніста камандзірам роты — два, знайшоў кантакт з навабранцамі — тры, прачытаў ім лекцыю, і, галоўнае, яна ім спадабалася — чатыры.— Ён здзекліва зірнуў на ўсіх: — Думаю, панове, болей лічыць не варта — не хопіць пальцаў і на другой руцэ. Калі так справа пойдзе далей, то праз тыдзень нас усіх пасадзяць...

— Але дазвольце,— перабіў яго Мічыгін,— я не падпісваў загад ні аб арышце, ні аб прызначэнні камандзіра трэцяй роты.

— Тым горш для вас,— ухмыльнуўся Стракапытаў.— Такі загад падпісаў Ільінскі і новы камісар брыгады.

— Панове, па-мойму, не варта ўпікаць адзін аднаго,— умяшаўся ў гутарку афіцэр, што дагэтуль ціха сядзеў у кутку,— а ўсім трэба актыўна дзейнічаць, і ў тым ліку вам, пан Стракапытаў.— Ён падняўся і, паказваючы на Стракапытава, дадаў: — Вы ведаеце, пра што я кажу.

Яго роўны і спакойны тон перамяніў гутарку. Стракапытаў пацішэў, ажывіліся пасмялелыя афіцэры. Сталі гаварыць шчыра, па-дзелавому. Кожны дакладваў, што ён зрабіў сам асабіста. Слухаючы гэтага афіцэра, можна было ўжо ўявіць, што ў брыгадзе створаны моцны контррэвалюцыйны штаб, які мае сувязь з усімі ротамі. Цэнтральнай фігурай штаба стаў штабс-капітан Стракапытаў.

Наогул ён быў давольны сваёй работай, калі не лічыць некаторых момантаў. Але вопыт і чуццё падказвалі яму, што трэба быць больш строгім да сваіх супольнікаў. Бо некаторыя з іх толькі тое і робяць, што п'юць ды ходзяць да баб.

«Абставіны складваюцца добрыя. Большасць — учарашнія мужыкі, пакрыўджаныя харчразвёрсткай. У дадатак — непісьменныя і не ведаюць, што да чаго. Многія афіцэры завярбованы «Саюзам абароны радзімы і свабоды», астатнія, як кажуць, і вашым і нашым, за пятак паскачам,— разважаў ён.— На чале брыгады стаіць мяккацелы інтэлігент, а вакол яго нашы людзі. Тыя бальшавікі, што ёсць у брыгадзе, болей з рабочых. Праўда, ад іх салдаты далёкія. Але вось нядаўна прысланых камісараў на чале з брыгадным трэба асцерагацца».

Як толькі Стракапытаў успомніў пра камісараў, яго зноў апанавала злосць. Не вельмі радасныя былі зводкі з франтоў.

— Панове, наша галоўная мэта — ізаляцыя бальшавіцкіх камісараў,— пачаў ён уладарным голасам.— На кожнае іх дзеянне мы павінны адказваць умелымі контрмерамі. Салдаты незадаволены новай уладай. Загады бальшавікоў выконвайце так, каб яны вылазілі ім праз бок!

— Ці скора адзяваць і абуваць салдат будзем? — спытаўся нехта.

— Няма куды спяшацца,— раздражнёна адказаў Стракапытаў.— Чым больш салдаты памерзнуць і пагаладаюць, тым лепш для нас.

Развітваючыся з кожным афіцэрам паасобку, Стракапытаў папярэджваў:

— Дзейнічайце асцярожна...

## VIII

Шмат хто з чырвонаармейцаў Тульскай брыгады так і не мог як след разабрацца, дзеля чаго іх трымаюць у войску. Спачатку гаварылі, што іх пашлюць на фронт: ні то супроць немцаў, ні то супроць белапалякаў. А выйшла інакш — тут каля дому яны лавілі, як ім казалі, бандытаў. Але чырвонаармейцы не вельмі верылі, каб гэта былі бандыты, бо траплялісяім найбольш сяляне, гэтакія самыя, як і яны. І кольвек-хто з чырвонаармейцаў уцёк дадому — абрыдла гэтая незразумелая вайсковая служба.

На нейкі час усё паспакайнела. Але вось ізноў пачалася неразбярыха. Напрыклад, пайшлі ўчора дзве роты абмундзіроўвацца, а ім на складзе і кажуць: «Вы яшчэ не заслужылі» і адправілі назад.

З дому ішлі таксама невясёлыя весці: падыходзіць вясна, а сеяць няма чым...

Салдаты збіраліся купкамі, расказвалі адзін аднаму пра гэтыя навіны з дому, пыталі рады ў камандзіраў, але тыя гаварылі рознае. Камісар угаворваў не слухаць плеткароў, патрываць трохі, не падаць духам і быць гатовымі да барацьбы з буржуазіяй. Ротны і ўзводныя, ухмыляючыся, маўчалі, а ўночы ціхенька шапталі:

— Уцякайце дадому, пакуль не позна!

Лёгка сказаць: уцякайце. А што чакае дэзерціра?

Але некаторыя, рашыўшыся на ўсё, уцякалі дадому. Дайшло да таго, што салдатам, якія асталіся ў ротах, хапала месца на першым ярусе нараў. Што робіцца ў дывізіі, ніхто добра не ведаў — камандзіры не давалі дакладных звестак аб дэзерцірстве: адны знарок, другія баючыся. Сярод салдат распаўсюджваліся лістоўкі пра нечуваныя здзекі бальшавікоў. Чытаючы гэтыя антысавецкія лістоўкі, чырвонаармейцы не ведалі, праўда гэта ці не, і стаіўшыся чакалі, што будзе далей.

Навабранцы адразу траплялі пад уплыў пэўных груп. Камуністы, учарашнія рабочыя і сяляне, не заўсёды добра ведалі абставіны, а то і проста не ўмешваліся нікуды — іх груба абрывалі камандзіры.

Казармы жылі нейкім дзіўным, незразумелым жыццём — насцярожыўшыся і нечага чакаючы. Адкрытая і прыхаваная антысаветчына, якой салдаты наслухаліся ўдосталь дома, неяк прыглушыла іх. Праўда, на сподзе душы ў чырвонаармейцаў тлела надзея, што прыйшла іхняя ўлада. Хацелася ведаць праўду. Але хто яе скажа? Кругом беспрасветнасць. Тыя з навабранцаў, хто так-сяк умеў чытаць і пісаць, траплялі адразу ў спецпадраздзяленні — артдывізіён, кулямётную роту. Там было ўсё інакш — меней дэзерціраў, лепшая дысцыпліна, іншы настрой у салдат.

Але такіх спецпадраздзяленняў было няшмат, і што яны значылі на дывізію.

## IX

Камандзір брыгады, канечне, ведаў пра жыццё ў палках і батальёнах і рабіў усё, каб выправіць становішча. Але на парадку было столькі, што іншы раз Ільінскага браў адчай.

«Мінула пяць тыдняў, як пачала фарміравацца брыгада,— з горыччу думаў камбрыг,— а зруху ніякага. Не па сабе, мусіць, я ўзяў ношу. Хоць цяпер, калі прыслалі камісара, будзе трохі лягчэй, але клопату хопіць».

Пра Сундукова ў яго склалася добрае ўражанне. Нібыта і робіць усё неўпрыкмет, а выходзіць у яго няблага, і штó добра — даступна салдатам.

Неяк разгаварыўся з Сундуковым, калі той зайшоў да яго ў кабінет, і спытаўся:

— Ну як, камуна твая расце?

— Не вельмі...

— Рота хоць набярэцца?

— Гледзячы як лічыць,— няпэўна гаварыў Сундукоў.— На двух былых афіцэраў адзін бальшавік.

— Малавата,— паспачуваў камбрыг.

— Калі гэтакімі тэмпамі будзе ісці ўкамплектаванне камандных пасад, як цяпер, то суадносіны будуць тры да аднаго. Канечне, не ў нашу карысць.

— Я не даваў згоды ні на аднаго падазронага чалавека,— нібы апраўдваючыся, сказаў Ільінскі.

— Не ад вас усё залежыць. Камандзіры палкоў, асабліва 67-га і 68-га, падбіралі ротных, мінаючы нас з вамі.

— Гэта трэба перагледзець,— з нейкім клопатам сказаў камбрыг.— Дарэчы, да нас прыслалі начальніка разведкі. Няхай ён праверыць усіх афіцэраў.

— Яму аднаму ці пад сілу, прытым рабіць гэта трэба разумна, каб не адпудзіць афіцэраў. Бо ж не ўсе афіцэры царскай арміі настроены па-антысавецку.

Ільінскі падазрона зіркнуў на камісара, але ўбачыўшы, што той гаворыць без ніякіх намёкаў, згадзіўся:

— Вядома, вядома, ёсць сумленныя людзі, і ім трэба верыць,— ён уздыхнуў і неяк няўпэўнена спытаўся потым: — Скажы, камісар, колькі трэба часу, каб сфарміраваць ніштаватую часць?

Сундукоў пацісну ў плячыма:

— Ды месяцы тры, не менш, калі будзе абмундзіраванне і зброя.

Ільінскі паківаў галавой: ці то ён сумняваўся ў тэрміне, ці то ў тым, што будзе абмундзіраванне і зброя. Але гутарку іх перабілі: на вячэрняе пасяджэнне збіраўся камсастаў.

Пасля ўжо, абмеркаваўшы даклады камандзіраў палкоў і батальёнаў, яны разбіралі драбнейшыя справы, што назбіраліся за дзень, удакладнялі, хто з іх сягоння і куды ідзе. Такая ўжо была ў іх завядзёнка: дзеля карысці справы Ільінскі і Сундукоў працавалі ў розных падраздзяленнях брыгады.

— Ты сягоння схадзі на склад, паглядзі, што робіцца там,— прапанаваў Ільінскі,— і пастарайся адзець хоць тры роты. А я паназіраю за тактычнымі заняткамі.

Сундукоў кіўнуў галавою.

— І яшчэ, ледзь не забыўся,— успомніў камбрыг,— па-мойму, трэба вызваліць з гаўптвахты гулякаў і п'яніц. Іх там набярэцца добры ўзвод.

— Згодны. Толькі трэба даць ім добрую прачоску.

Неяк выходзіла, што прапановы камбрыга супадалі з намерамі Сундукова і наадварот. Яны разумелі адзін аднаго з паўслова.

«Вось толькі ён нейкі нерашучы»,— думаў Сундукоў пра Ільінскага, развітваючыся з ім.



## X

Тут, у складзе, Сундукоў і сустрэўся са Стракапытавым — першы раз за некалькі тыдняў, як прыехаў у брыгаду.

Паздароўкаўшыся, камісар спытаўся ў яго:

— Колькі чалавек сягоння абмундзіруем?

Стракапытаў агледзеў Сундукова з ног да галавы і, не спяшаючыся, адказаў:

— Трыста чалавек, таварыш камісар.

«Гэта ўжо добра»,— падумаў Сундукоў і загадаў Стракапытаву:

— Папрашу вас асабіста быць тут. Пастарайцеся ўсю прыгодную адзежу і абутак навабранцаў запісаць у асобны спіс. Яна нам спатрэбіцца.

Каля дзвярэй ужо тапталіся салдаты.

— А чаго там валаводзяцца!

— У склад прапускаюць па пяць чалавек.

— Го, дык мы тут прастаім усю ноч!

— Затое адзежу будзем мець.

Навабранцы нецярпліва чакалі сваёй чаргі. Але тыя, хто ўжо зайшоў у склад і атрымаў шапку з пяцікутнай зоркай, асталіся задаволеныя і шчасліва ўсміхаліся. І хоць гэтыя зоркі былі выразаны са звычайнай бляхі, на іх глядзелі важна і пачціва. Салдаты перайначваліся на вачах, рабіліся больш сур'ёзнымі і падцягнутымі.

Але з якім гонарам са склада выходзілі тыя, каму дасталася шапка з нашытай на ёй вялікай ярка-чырвонай зоркай!

Сундукоў неўпрыкмет цікаваў за Стракапытавым і бачыў, як той аж душыцца ад злосці, калі навабранец па-дзіцячы наіўна ўсміхаецца, надзеўшы новае абмундзіраванне, хоць стараўся стаіць гэтую злосць і знарок паводзіў сябе падкрэслена афіцыйна. І ўжо не вытрываў, калі двое маладых хлопцаў сталі прасіць у яго, каб змяніў іхнія шапкі на фрунзеўкі з вялікай нашытай зоркай.

— Сантыменты разводзіце, выбірайцеся адсюль!— раздражнёна закрычаў ён.

Першых слоў хлопцы не зразумелі, а з апошніх ім стала ясна — фрунзеўкі ім не дадуць. Яны, адступаючыся, падаліся да дзвярэй.

Спярша Сундукоў хацеў умяшацца, але потым перадумаў. «Усё роўна кожнаму не дасі таго, што ён захоча». Але Стракапытаў не спадабаўся яму. Сундукову так і хацелася падысці да гэтага прылізанага хлыста, узяць яго за фалды і страсянуць як мае быць. Але ўспомніўшы пра сваё параненае плячо, і не столькі ад болю, колькі ад крыўды, зморшчыўся. Ды і становішча абавязвала выконваць указанні аб чулых адносінах да афіцэраў царскай арміі, якія па сваёй ахвоце перайшлі на бок Савецкай улады.

«Нічога сабе добраахвотнічак. Вачэй з яго не спускай»,— рашыў камісар брыгады.

Як і трэба было чакаць, экіпіроўка рот зацягнулася. Салдаты аж пазелянелі ў тварах. Каб не трымаць іх на холадзе, Сундукоў толькі і сказаў:

— Насіце, дарагія таварышы чырвонаармейцы, з гонарам новую форму.

А потым падышоў да Стракапытава і папярэдзіў:

— Абмундзіроўваць чырвонаармейцаў будзем толькі пры мне.

І заспяшаўся ў штаб брыгады, дзе яго чакалі камуністы, прысланыя Тульскім губкомам партыі.

## XI

Вартавы, якi стаяў каля штаба брыгады, спытаў у Сундукова дакументы. Ён доўга разглядаў пасведчанне, круціў яго, потым нечакана сказаў:

— Смешна.

Сундукоў не стаў распытваць, чаму салдату «смешна», накіраваўся да дзяжурнага па штабе.

— Людзі з губкома партыі ўжо тут? — павітаўшыся, спытаўся ён.

— Сем чалавек,— далажыў дзяжурны.— Але ўсе на тактычных занятках.— Вось спіс,— дзяжурны падаў Сундукову сіняваты лісток паперы.

Камісар кінуў вокам на спіс, паклаў яго зноў на стол.

— Перадай, каб яны ўвечары з'явіліся сюды,— загадаў Сундукоў. Ён павярнуўся, каб ісці, але раптам адчуў слабасць, адчуў, як падгінаюцца і млеюць ногі і ўсё перад вачыма засцілаецца, нібы туманам. І нібы здалёк пачуўся голас дзяжурнага:

— Таварыш камісар, вам, мусіць, дрэнна... Сядайце сюды...

Сундукову здалося, што яго раздражняе пах падсмажаных семечак.

— Таварыш камісар, чаю.

Сундукоў прылёг на тапчан, выцягнуўшы з кішэні знямелую руку. Перастала кружыцца галава і стала лягчэй дыхаць.

— Раскіс,— сказаў ён услых.

Дзяжурны з жальбою глянуў на яго і моўчкі падаў кубак. Сундукоў выпіў чай і, адчуўшы палёгку, падміргнуў дзяжурнаму...

Разбудзіў Сундукова нечы моцны голас.

Сундукоў адкрыў вочы і прыслухаўся. Нехта настойліва прасіў:

— Але нам усяго некалькі слоў сказаць!

— Нельга, таварыш камісар хворы,— ціха, але строга сказаў дзяжурны.— Пагаворыце заўтра.

Сундукоў клікнуў дзяжурнага і загадаў пусціць салдат. Той паціснуў плячыма і нехаця выйшаў.

— Заходзьце,— пачуўся яго нездаволены голас.

Зайшло некалькі маладых расчырванелых ад марозу хлопцаў.

— Сядайце, таварышы, хто дзе на чым,— сказаў Сундукоў, падсоўваючыся на тапчане, каб даць месца.

— Было б дзе пастаяць, а сесці знойдзем,— пажартаваў адзін з іх — высокі, бялявы.

— Не, не, сядайце,— настойваў Сундукоў,— гутарка будзе доўгая.

У гэты час надрыўна затрашчаў тэлефонны апарат.

— Таварыш камісар, вас просіць камандзір брыгады,— гукнуў дзяжурны.

— У чым справа? — падышоўшы да тэлефона, спытаўся Сундукоў.

— Баявая трывога, таварыш камісар, адпраўка на фронт,— адказаў як чужым голасам камбрыг.

— Не можа быць! — здзівіўся Сундукоў.— Брыгада ж яшчэ не падрыхтавана да баявых дзеянняў.— І, павесіўшы трубку, нібы для самога сябе сказаў: — Так, таварышы, па загадзе мы адпраўляемся на фронт. Вы ўсе пакуль што пойдзеце са мною. Разбяромся потым, куды каму...

Пакуль збіраліся, камісару пазванілі яшчэ раз — прыспешвалі.



## XII

Загад быў строгі і лаканічны. Ён патрабаваў як найхутчэйшай экіпіроўкі брыгады і адпраўкі яе пад Гомель. Абы-як узброеныя і абмундзіраваныя палкі спешна грузіліся ў вагоны. Сфарміраваныя цягнікі адразу ж адпраўляліся на захад.

Такая паспешлівасць дыктавалася цяжкімі абставінамі, якія склаліся на пачатку 1919 года. На ўсходзе краіны пачаў свой наступ Калчак, на поўначы разгортваў палкі Міллер, на поўдні — Дзянікін, на захадзе белапалякі акупіравалі Беларусь, немцы — Прыбалтыку. Юдзеніч падыходзіў да Петраграда. Правячыя колы за мяжой разгарнулі шалёную паклёпніцкую прапаганду супроць маладой Савецкай рэспублікі. Міжнародны імперыялізм стараўся, чаго б гэта ні каштавала, задушыць першую ў свеце дзяржаву рабочых і сялян.

Унутры краіны падняла галаву контррэвалюцыя. Адзін за адным успыхвалі белагвардзейскія і кулацкія мяцяжы. Народная гаспадарка краіны прыйшла ў заняпад. Усюды панавала беспрацоўе, галеча і голад.

Ільінскі, Сундукоў, як і іншыя адданыя Савецкай уладзе камандзіры 2-й Тульскай брыгады, ведалі пра гэтае цяжкае становішча ў краіне. Яны толькі не маглі ўявіць, як у такой сітуацыі дабіцца еднасці паміж чырвонаармейцамі і дысцыпліны.

Сундукоў у гэтыя дні паспяваў быць усюды. Яго невысокую каржакаватую постаць бачылі то каля вагонаў, дзе грузіліся вайсковыя падраздзяленні, то каля казармаў, у гушчы салдат, з якімі ён вёў гутарку. Камбрыг Ільінскі суправаджаў першы эшалон, і цяпер усе клопаты за чырвонаармейцаў, што асталіся тут, у Туле,ляглі на плечы Сундукова. Брыгада здымалася з месца, і дысцыпліна сярод салдат пагоршала. Сундукоў бачыў, што не ўсе яго загады, як і загады іншых камандзіраў, выконваюцца, а калі што і рабілася, то нехаця, пад прымусам. Салдаты не слухаліся сваіх непасрэдных начальнікаў.

Адпраўляючы апошні эшалон, з якім збіраўся ехаць і сам, Сундукоў пачуў у адным вагоне п'яны гам і неразборлівую песню. Паклікаўшы камандзіра, ён строга спытаўся:

— Што гэта, дзень анёла ці заручыны спраўляюць?

— Не ўгадалі, камісар. Сваё гора запіваюць,— злаcліва ўсміхнуўся, мусіць, колішні царскі, афіцэр.

— А можа ваша? — нахмурыўся Сундукоў.— Дарэчы, калі гэтая п'яная мітусня не супакоіцца, каму-каму, а вам не здабраваць.

Збіты з панталыку камандзір, крыва ўхмыляючыся, схаваўся ў вагон — п'яная гамана сціхла.

«Нябось у старой арміі ты іх вышкаліў бы, дзесятаму заказалі б,— злуючыся, думаў Сундукоў,— а цяпер цябе гэта не абыходзіць. Ды можа яшчэ ціхенька радуешся?»

Ужо ў цягніку ён спытаўся ў аднаго са штабных камандзіраў, былога афіцэра старой арміі:

— Што вы думаеце наконт ротных? Можна ім давяраць ці не?

Штабіст разгубіўся, паварушыў плячыма:

— Цяжка сказаць, што ў кожнага з іх наўме. Але ж, пэўна, думаюць яны не пра тое, што вы, таварыш камісар.

— У поглядах мы разбяромся потым, а цяпер кожны павінен бараніць уладу народа.

— Свае абавязкі я выконваю спраўна, а ў кансультанты, таварыш

камісар, не гаджуся,— сказаў штабіст, каб неяк адкаснуцца ад гэтае гутаркі.

...У Бранск цягнік прыйшоў толькі на другі дзень падвечар. Нягледзячы на строгі загад Сундукова — з вагонаў не выходзіць, салдаты разышліся хто куды. Калі гарніст пратрубіў сігнал збору, да цягніка не прыйшло больш як пяцьдзесят чалавек. Прыйшлося адкласці адпраўленне і паслаць спецыяльныя групы шукаць тых, хто адстаў. Але сарака чалавек так і не далічыліся.

«Калі на кожным прыпынку будзе тое самае,— непакоіўся Сундукоў,— то што я давязу да месца прызначэння?»

На перагоне Бранск—Навазыбкаў камісар сеў у салдацкі вагон, з якога ўжо адстала сем чалавек. Салдаты насцярожліва сустрэлі камісара. Гаварылі без ахвоты, усе болей адмоўчваліся. Здавалася, што ў іх ёсць нейкі план наконт уцёкаў і яны баяцца прагаварыцца. Але ў Навазыбкаве, на дзіва, ніхто не адстаў. У гэты ж дзень эшалон прыйшоў у Бабруйск.

## XIII

Не паспелі мясцовыя ўлады расквартараваць брыгаду, як у горадзе пачаліся беспарадкі. Там салдаты абрабавалі краму, там некага раздзелі, там усчалі бойку.

Бабруйскі павятовы камітэт партыі спешна выклікаў да сябе камандаванне брыгады і катэгарычна патрабаваў навесці парадак у вайсковых падраздзяленнях.

Камбрыг Ільінскі запэўніў павятовых кіраўнікоў, што зробіць усё, каб падняць дысцыпліну ў брыгадзе.

— Улічыце, таварышы, што ў нас вельмі мала камуністаў,— апраўдваўся ён.— А камандзіры не адпавядаюць свайму прызначэнню і не заўсёды выконваюць мае загады.

— Такіх камандзіраў трэба замяніць другімі, болей адданымі справе рэвалюцыі.

— А кім? — разводзіў рукамі Ільінскі.— Дайце хоць пятнаццацьдваццаць надзейных бальшавікоў.

І павятовы камітэт партыі дапамог. Праз дзён колькі салдат уціхамірылі. Завадатары боек і марадзёрства былі арыштаваны. Жыццё ў 2-й Тульскай нібы стабілізавалася. Але ненадоўга.

Замаскаваны вораг таксама не спаў у шапку. Сярод салдат пачалося тое, чаго дагэтуль яшчэ не было: у асобных ротах сталі біць камуністаў і перадавых чырвонаармейцаў...

Напярэдадні новага, 1919 года камісар Сундукоў склікаў увесь палітычны актыў брыгады.

Коратка расказаўшы аб тых цяжкасцях, якія склаліся для Савецкай краіны ў выніку замежнай інтэрвенцыі, ён адразу ж перайшоў да канкрэтных спраў сваёй брыгады.

— Скажыце, дарагія таварышы, зможам мы, нарэшце, навесці бальшавіцкі парадак у часцях? — ён зрабіў невялікую паўзу, а потым прапанаваў: — Прашу выступіць кожнага і выказаць свае думкі.

Усе маўчалі. Толькі чуваць было, як соп у кутку барадаты чырвонаармеец, мусіць, хворы на астму.

— Ну што ж, таварышы, пачнём з першай роты.

— Пакуль з першай збяруцца, то я забудуся, што маю сказаць,— падняўся з чацвёртай роты Сурын.

— Давай, давай, вы ж, кажуць, пажывіліся на рынку,— зарагатаў хтосьці.



— А ты не выскаляйся,— агрызнуўся Сурын і не вельмі складна пачаў гаварыць: — Вось вы, таварыш камісар, пытаецеся, ці зможам мы перарабіць салдат на свой капыл? — Ён выцер рукавом узмакрэлы лоб і нечакана сказаў: — На мой розум, усіх баламутаў і бунтаўшчыкоў трэба было б арыштаваць і адправіць назад, у Тулу.

— І колькі ты ведаеш такіх? — пацікавіўся камандзір артылерыйскага дывізіёна Куманін.

— У нашай роце набярэцца чалавек дзесяць.

— А можа і болей,— не пагасціхаў Куманін.

— А ліха іх ведае, можа і болей,— сумеўся Сурын.

Усе зарагаталі, ажывіліся і пачалі гаварыць, перабіваючы адзін аднаго.

— Ціха, таварышы, не ўсе адразу,— замахаў рукамі Сундукоў.

Слова папрасіў Алавердаў — у сваёй роце ён здолеў навесці парадак. І хоць салдаты за вочы называлі яго «крумкачом», але паважалі і пабойваліся.

— Мне здаецца,— пачаў гаварыць Алавердаў,— што арышты тут не памогуць. Трэба падабраць надзейных камандзіраў.

— А дзе ж іх узяць,— перабіў яго Сундукоў.— Мы прасілі ўсюды, і ўсюды нам адмаўляюць.

— Дык тады, можа, лепей без іх, чым з такімі камандзірамі,— махнуў рукою і сеў Алавердаў.

— Рэгулярная армія — не добраахвотнае самакіраванне,— падняўся Сундукоў.— Мы павінны вучыць чырвонаармейцаў вайсковай справе, і без кваліфікаванага каманднага саставу не абыдзешся.

— Такія, як у нас, камандзіры навучаць страляць у сваіх! — крыкнуў з месца Алавердаў.

— А што, і праўду ён кажа! — сталі крычаць у зале.

Сундукоў счакаў, пакуль уціхне гэты гоман, і потым загаварыў:

— Вы ведаеце, што ЧК арыштавала некалькі белагвардзейцаў, астатнія прыціхлі, але яны ёсць і робяць сваё. Камуністы павінны весці прапаганду сярод чырвонаармейцаў, шчыра расказваць ім аб Савецкай уладзе, пра тое новае, што яна прынесла працоўнаму народу. Няхай нашы салдаты ведаюць, за што і дзеля чаго яны змагаюцца. А людзей, адданых рэвалюцыі, у нас многа, трэба толькі ведаць, як іх скарыстаць.

## XIV

Мінуў месяц, як Гомель быў вызвалены ад нямецкай акупацыі. У горадзе ствараліся савецкія і партыйныя органы ўлады.

Газета «Весці рэўкома г. Гомеля і павета» ад 20 лютага 1919 года пісала: «Галоўнае зроблена: савецкі апарат створаны, у народных масах відаць той творчы ўздым, які так характэрны для ўсіх куткоў, куды толькі прыходзіць рабоча-сялянская ўлада».

Бальшавікі Гомельшчыны аднаўлялі разбураныя вайной фабрыкі і заводы, будавалі новае жыццё, але гэта было не ўнораў прамыслоўцам, памешчыкам і кулакам. Арганізоўваліся банды. У горадзе дзейнічала моцная контррэвалюцыйная арганізацыя, якая ў суполлі з эсэрамі і меншавікамі падрывала работу камуністаў.

Бальшавікі Гомеля мелі дастаткова сіл, каб справіцца з контррэвалюцыяй.

Але адбылося непрадбачанае. У канцы студзеня ў Гомель прыбыла 2-я Тульская брыгада. І, як аказалася, яе не было дзе размясціць — старыя казармы знішчылі, адступаючы, немцы. Чырвона-

армейцаў давялося расквватараваць у прыватных дамах. Пачаліся перабоі з харчамі, прыкінуліся хваробы. Салдаты хадзілі злыя і незадаволеныя. У горадзе пачаліся яўрэйскія пагромы, рабункі. Ноччу чулася страляніна і крыкі п'яных салдат.

Стракапытаў, Мічыгін, Сцёпін і іншыя белагвардзейскія афіцэры адчулі, што нарэшце настаў іхні час. Яны змовіліся з тутэйшымі антысавецкімі сіламі і стварылі ў Гомелі падпольную контррэвалюцыйную арганізацыю «Палескі паўстанцкі камітэт». Ніці белагвардзейскага загавору цягнуліся з Гомеля да Савінкава, Пятлюры, за мяжу.

«Палескі паўстанцкі камітэт» пачаў дзейнічаць нахабна, адкрыта, нікога ўжо не баючыся: чырвонаармейскія часці, што былі дагэтуль у горадзе, пайшлі на фронт.

Збітыя з панталыку салдаты 2-й Тульскай брыгады, найболей тыя, хто быў з вёскі, пачалі нават верыць тым антысавецкім чуткам, якія распускаў «Палескі паўстанцкі камітэт».

Гомельскі рэўком звярнуўся з просьбай да камандавання фронтам, каб брыгада была выведзена з горада.

Старшыня павятовага камітэта партыі Хатаевіч не раз абмяркоўваў з Магілёўскім губкомам партыі становішча, якое склалася ў апошні час у Гомелі. Ад'язджаючы на VIII з'езд РКП(б), ён спецыяльна раіўся з работнікамі Гомельскага ЧК, рэўкома і павятовага камітэта партыі, што рабіць на выпадак таго, калі ўспыхне мяцеж.

Але 18 сакавіка 1919 года па загадзе камандавання брыгаду спешна адправілі на фронт — яна павінна была заняць участак абароны пад Оўручам.

## XV

Зіма ў той год выдалася халодная і доўгая. Стаяў сакавік, а маразы ўночы былі калядныя. Снегам занесла, пазаганяла дарогі: ні прайсці, ні праехаць.

На станцыі Беранжэсць на засыпаным снегам пероне тапталіся, грэючыся, салдаты. Крык, мітусня, лаянка.

— Браткі, ратуйся хто як можа, Пятлюра блізка! — крыкнуў нехта.

— Дзе?

— Кажуць, падыходзіць да станцыі. Нас акружылі.

— Бальшавікі прадаліся!

Салдацкі натоўп заварушыўся. Паднялася паніка. Салдаты, грузнучы ў гурбах снегу, падпіхаючы адзін аднаго, кінуліся да эшалона. Ніхто не слухаў ніякае каманды.

Гэта два батальёны 68-га палка 2-й Тульскай брыгады, пакінуўшы фронт, адступалі на Гомель.

Ільінскі стараўся ўціхамірыць чырвонаармейцаў, але яго ўжо ніхто не слухаў. Пачалася яшчэ большая неразбярыха, калі падышоў пятлюраўскі бронецягнік і пачаў страляць па эшалоне.

Уночы 68-мы полк і некалькі батальёнаў 67-га былі аж на станцыі Славечна. Туды спешна выехалі Ільінскі і Сундукоў. На пероне вакзала ўжо ішоў мітынг.

— Даёш Тулу!

— Дадому!

— Мы не будзем бараніць жыдоў!

— Далоў камісараў-здраднікаў!

Салдаты паводзілі сябе, як рабаўнікі, гарлапанілі брыдкія песні, лаяліся, стралялі абы-куды, прыставалі да прахожых.



— Можа яшчэ раз з імі пагаварыць? — прабіраючыся да імправізаванай трыбуны, спытаўся ў Сундукова Ільінскі.

— Не звязвайцеся, застрэляць,— Сундукоў тузануў Ільінскага за рукаво.— Мне ўжо надавалі кухталёў.

Вырваўшы руку, Ільінскі кінуўся да трыбуны.

— Таварышы, апомніцеся!..

Але дагаварыць яму не далі. Рослы малады салдат піхнуў яго прыкладам. У натоўпе пачалі крычаць:

— Расстраляць!

— Аддаць Пятлюры!

Тут жа, на мітынгу, чырвонаармейцы, падбухтораныя змоўшчыкамі, вырашылі не займаць пазіцый і ехаць дадому. На паравозы белагвардзейцы паставілі ўжо сваіх людзей, і эшалоны рушылі на Гомель.

На станцыі Пхоў, калі цягнік спыніўся і салдаты высыпалі з вагонаў, Ільінскі зноў падышоў да іх:

— Таварышы, мы пакінулі агалены ўчастак фронту.

— Пад паравоз яго,— п'яны, з сухімі запечанымі губамі салдат схапіў Ільінскага за каўнер.

— Застрэліць жыдоўскага камісара! — выскачылі з натоўпу яшчэ двое.

— Ды нашто кулю на яго псаваць,— чуўся нечы асіплы голас,— у Прыпяць яго, у Прыпяць...

Тыя двое, што выскачылі з натоўпу, узяўшы Ільінскага за рукі, пачалі іх круціць назад, яму за спіну. Невядома адкуль узяўшыся, сюды бег збялелы камандзір артылерыйскага дывізіёна Куманін.

— Сволачы, перастраляю ўсіх! — крыкнуў ён, выхапіўшы з драўлянай і доўгай, аж па калена, кабуры маўзер.

Салдаты, што вялі Ільінскага, сумеліся — сп'яна не маглі ўцяміць, што да чаго. Куманін, адпіхнуўшы іх, пацягнуў Ільінскага да свае цяплушкі.

— А во глядзі, уцякаюць,— зарагаталі салдаты, убачыўшы, як камбрыг з камандзірам артдывізіёна, прыгнуўшыся, лезуць пад вагон.

— Цягні іх сюды, цягні! — зароў нехта на ўсё горла.

Але гэта ўжо крычалі не на Ільінскага. Крычалі каля вакзала. Натоўп хлынуў туды.

Каля Сундукова і Алавердава круціліся чалавек шэсць салдат. Сундукоў быў без шапкі, з падпухлымі і акрываўленымі губамі. З драпіны на лбе сачылася і цякла, агібаючы брыво, цёмная кроў.

— Во ён, бальшавіцкі агітатар! — здаравенны сутулы салдат размахнуўся і ўдарыў кулаком Сундукова. Сундукоў пахіснуўся, але ўстояў на нагах. Тады нехта падскочыў і даў яму падножку. Камісара пачалі мясіць нагамі...

Шэрым вечарам недалёка ад вакзала, у рове, занесеным глыбокім снегам, пачуліся два стрэлы. Так не стала Сундукова і Алавердава.

— А камбрыга ўпусцілі... Эх, дарма! — гаварыў той сутулы салдат, што біў Сундукова.

## XVI

Уночы эшалоны прыйшлі ў Гомель. Мяцежнікі, арыштаваўшы на станцыі камуністаў, сталі патрабаваць, каб іхнія паязды прапусцілі на Бранск.

Гомельскі павятовы камітэт РКП(б) збіраў усе рэвалюцыйныя сі-

лы, што меліся ў горадзе, каб не прапусціць узбунтаваную дывізію на Бранск і Тулу, дзе пасля нядаўніх мяцяжоў яшчэ не набралася моцы Савецкая ўлада.

Але сілы ў гамяльчан былі нязначныя — сотні тры кепска ўзброеных і амаль зусім не абвучаных камуністаў ды невялікі інтэрнацыянальны атрад ЧК. Вось і ўсё. З такімі сіламі не варта было і думаць пра сур'ёзную сутычку з цэлай брыгадай. Праўда, у горадзе яшчэ дыслакаваўся каравульны батальён, але на яго нельга было спадзявацца.

Думаючы, што справу яшчэ можна рашыць мірна, павятовы камітэт пасылае на Палескі вакзал сваю дэлегацыю для перагавораў з мяцежнікамі. У дэлегацыю ўвайшлі старшыня рэўкома Камісараў, рэдактар «Весцяў рэўкома» Білецкі, харчкамісар Селіванаў і кіраўнік чыгуначнікаў Гомельскага вузла Валадзько. Але не паспелі парламенцёры пад'ехаць да Лібаўскага вакзала, як іх некалькі разоў абстралялі.

— Трэба вярнуцца назад,— прапанаваў Селіванаў.

— Пачакай, не спяшайся, а можа што-небудзь і выйдзе,— сумняваўся яшчэ Білецкі.— Давай пагаворым з салдатамі.

— Ты што, пойдзеш пад кулі? Якія тут перагаворы...— сказаў Камісараў, і парламенцёры вярнуліся назад...

Узважыўшы ўсё, гомельскія бальшавікі рашылі пачаць з мяцежнікамі бой. Быў сфарміраваны ваенна-рэвалюцыйны штаб у складзе Сцяпана Камісарава, Яна Ланге, Мікалая Білецкага, Якава Фрыда.

Перад бальшавікамі стаяла задача не выпусціць з Гомеля ўзбунтаваную Тульскую брыгаду, пакуль не падаспее падмога. Усе камуністы пераводзіліся на казарменнае становішча. Большыя сілы занялі абарону ў гасцініцы «Савой» — там можна было даўжэй трымаць асаду,— астатнія камуністы размясціліся ў казначэйстве, на тэлеграфнай і тэлефоннай станцыі. Атрад ЧК забарыкадаваўся ў сваім будынку. На стратэгічна важных участках горада былі выстаўлены міліцэйскія пасты.

Штаб знаходзіўся ў гасцініцы «Савой», куды перабраўся і павятовы камітэт партыі.

— Якія ў нас сілы? — пацікавіўся Ян Ланге.

— Каля чатырохсот чалавек,— далажыў Аўэрбах.

— А са зброяй як?

— Адзін «максім», тры сотні вінтовак і некалькі рэвальвераў.

Штаб тэрмінова адправіў тэлеграму, просячы дапамогі. «Усім, усім, усім...»

На вуліцах ужо ішла перастрэлка — мяцежнікі пачалі свой наступ. Яны захапілі клуб чыгуначнікаў, арыштавалі там камуністаў і накіраваліся да турмы, дзе сядзела пад вартай больш як чатырыста крымінальных.

Камунары паслалі з «Савоя» свой атрад, каб абараніць турму, але было позна...

## XVII

Да ночы мяцежнікі захапілі бадай што ўвесь горад. У руках у ваенна-рэвалюцыйнага штаба застаўся раён ад вуліцы Мясніцкай да ракі Сож, дзе знаходзіліся ЧК, «Савой» і тэлеграфная станцыя.

Камунары «Савоя» занялі кругавую абарону. Яны размясціліся на вокнах і балконах будынка, на стрэхах дамоў, што прылягалі да гасцініцы. Позна ўвечары мяцежнікі рушылі ў першую атаку, але былі адбіты.



Мінала ноч, і, здаецца, у горадзе запанавала цішыня. Але вось у гасцініцы «Савой» зазваніў тэлефон. Трубку ўзяў старшыня ЧК Ян Ланге.

— Нам патрэбен галоўны бальшавік,— хрыпаватым голасам загаварылі ў трубцы.

Ланге паклікаў Камісарава.

— Здавайцеся, інакш будзе кепска,— чулася пагроза.

— Вы — здраднікі рэвалюцыі, і мы вас будзем судзіць, калі вы не складзеце зброю,— сказаў Камісараў.

— Ды валяй ты...— далей пасыпалася ўжо лаянка.

— Здавайцеся, праклятыя бальшавікі! — крычалі ўжо недзе на вуліцы.

— Выходзьце сюды! — і моцныя стрэлы заглушылі гэты крык. Білі па гасцініцы. Ноччу некалькі дзесяткаў салдат падкраліся да самага будынка. Але камунары дружным агнём прымусілі мяцежнікаў зноў адступіць.

Становішча ў горадзе стала крытычным. Каравульны батальён збаяўся і перадаў мяцежнікам, што ён нейтральны да іх. Раніцой мяцежнікі ўзялі штурмам будынак ЧК і захапілі тэлеграф.

Стракапытаў у гэты дзень паслаў сваю правакацыйную тэлеграму: «Усім чыгуначнікам па ўсёй сетцы расійскіх чыгуначных дарог. Ваенная ўлада бальшавікоў у Гомелі звергнута. Рухам кіруе паўстанцкі камітэт. Арыштоўвайце членаў Надзвычайнай камісіі, камісараў і ўсіх ворагаў народа. Не прапускайце бальшавіцкіх эшалонаў. Калі трэба, нішчыце чыгунку. Паведамляйце насельніцтву і дзейнічайце смела і энергічна. Наладжвайце сувязь у дзеянні. Інфармуйце на ст. Гомель-Палескі паўстанцкі камітэт».

Камандаванне чырвоных атрадаў, якія ішлі з Бранска, Навазыбкава, Магілёва на дапамогу Гомелю, было дэзарыентавана гэтай тэлеграмай. Атрады спыніліся перад горадам. Пра тое, што ў ім яшчэ б'юцца з мяцежнікамі камунары, ніхто ўжо не спадзяваўся.

А тым часам змучаныя, галодныя, адарваныя ад усяго свету, гомельскія камунары адбівалі атаку за атакай. Варожае кола ўсё шчыльней і шчыльней абкружала гасцініцу «Савой». Мяцежнікі яшчэ раз кінуліся на штурм ваенна-рэвалюцыйнага штаба, але іх сустрэлі кулямётным агнём. Тады яны выкацілі гарматы і прамою наводкай пачалі біць па будынку. Моцныя гарматныя разрывы крышылі цагляныя сцены. Спачатку разваліўся дах, а потым рухнуў увесь трэці паверх. Камунары перайшлі ў падвал, адстрэльваючыся праз нізкія вокны.

— Камунары, беражыце патроны,— чуўся голас немца Краўзе.— Страляйце толькі па цэлі.

Гэты малады прыгожы немец падбадзёрваў усіх, жартаваў, памагаў параненым перайсці ў зацішнейшае месца, раздаваў астаткі патронаў.

— Вышэй галаву,— усміхаўся ён, ляпаючы то аднаго, то другога па плячы.— Скора падаспее помач. Скора ўжо, скора...

А артылерыйскі абстрэл усё мацнеў. Ужо абваліўся другі паверх, рухнуў, адкалоўшыся ад будынка, вугол.

У камунараў выйшлі боепрыпасы.

— Заклалі апошнюю ленту,— пачуў Камісараў трывожную вестку ад кулямётчыкаў.

— Што будзем рабіць далей? — спытаў Ланге.

Усе маўчалі. Ніхто не хацеў вымавіць гэтае слова — здавацца.

— Трэба пачаць перагаворы з мяцежнікамі,— прапанаваў Камісараў.

Парламенцёрамі паслалі Валадзько і Петрата. Камандаванне мяцежнікаў сказала, што калі камунары здадуць зброю, то іх ніхто не зачэпіць.

— Здалі б мы зброю, каб былі патроны,— горка ўсміхнуўся Білецкі.

— Усім арганізавана выходзіць на вуліцу,— падаў каманду Камісараў.

Стаяў сакавіцкі дзень. У лужынах трапяталася і сляпіла вочы сонца. Там-сям з-пад снегу была відаць раскіслая зямля. На голых чорных дрэвах з леташнімі гнёздамі крычалі разамлелыя гракі.

Камунары выйшлі з «Савоя». Іх абкружылі ўзброеныя — пешыя і конныя — мяцежнікі. Няцяжка тут было пазнаць крымінальных, канакрадаў, выпушчаных з турмы, і ўсялякі іншы зброд. Увесь гэты натоўп варушыўся, гудзеў. Камунарам загадалі падняць угору рукі.

— У турму іх, туды, дзе сядзелі мы,— крыкнуў нехта з натоўпу.

Камунараў вывелі на галоўную вуліцу і праз увесь горад пагналі ў турму. Туды рушыў і гэты раз'юшаны, дзікі натоўп. Дарогаю іх пачалі біць, адбіраючы, у каго знайшлі, гадзіннікі, пярсцёнкі. Перад турмой мяцежнікі выстраіліся ў два рады і, зняўшы ў камунараў верхняе адзенне, кожнага паасобку прагналі «скрозь строй».

Вядома, у кіруючых партыйных работнікаў Гомеля была магчымасць, ды, мусіць, і не адна, выйсці з «Савоя», але яны лічылі гэта здрадніцтвам у адносінах да рэвалюцыі і сваіх таварышаў па барацьбе. Гэтыя людзі не дапускалі думкі, каб ратаваць саміх сябе. Такая тактыка, бясспрэчна, не адпавядала вышэйшым інтарэсам партыі.

«...яны пераацанілі сваё пачуццё адказнасці за жыццё сваіх таварышаў, кінуліся ў рамантычны гераізм і, ахвяруючы сабой, рашылі выратаваць жыццё астатніх. Тут меў месца самы ўзвышаны гераізм...» — успамінаў пазней Міхаіл Хатаевіч.

Сапраўды, гэта быў вялікі подзвіг, подзвіг, які ўвасабляў непахіснасць ленінскіх ідэй, моц Савецкай улады.

## XVIII

На запасных пуцях Палескага вакзала стаяла некалькі пасажырскіх вагонаў. З аднаго боку іх узвышаўся тупіковы насып, з другога — была цагляная сцяна і таварны састаў, які падагналі сюды знарок. Але пуць, на якім стаялі гэтыя вагоны, быў свабодны. Толькі два паравозы пыхкалі парай, гатовыя ў кожную хвіліну падчапіць гэтыя вагоны. Кругом стаяла варта. Тут размясціўся штаб мяцежнікаў.

Стракапытаў амаль не выходзіў з вагона. І хоць горад быў ужо некалькі дзён у ягоных руках, ён не мог спадзявацца ні на адзін узвод. Ён не давяраў нікому, хіба некаторым афіцэрам і ў тым ліку Сцёпіну, прызначанаму цяпер камендантам Гомеля. Праз яго Стракапытаў трымаў сувязь са сваімі часцямі, праз яго аддаваў загады і распараджэнні.

Скоры разгром Савецкай улады ў Гомелі і іншых паветах упэўнівалі Стракапытава ў сваёй справе. Ён лічыў, што да мяцежнікаў далучацца паўстанцы ў цэнтральных губернях Расіі, на Украіне, і—Масква не ўстаяць. Асноўная стаўка, вядома, была на помач з-за мяжы.

Стракапытаў падзяліўся сваімі думкамі са Сцёпіным.

— Ведаеце, пан камандуючы,— адказаў Сцёпін, называючы Стракапытава камандуючым, бо той прыдумаў сабе тытул: камандуючы арміяй Расійскай рэспублікі — і любіў, калі яго так велічаюць,— трэба тэрмінова стварыць усе органы ўлады. Гэта ўмацуе наш аўтарытэт.

— А каго мы туды паставім? — спытаў Стракапытаў.

— Ёсць адпаведныя людзі, пан камандуючы,— лісліва ўсміхнуўся Сцёпін.

— Хто?

— Міхайлаў, Іваноў, Міхееў,— Сцёпін пільна глянуў на Стракапытава. — Пашукаем яшчэ.

— І на іх можна спадзявацца?

— Абсалютна, пан камандуючы.

Стракапытаў зморшчыў лоб:

— Трэба было б на іх глянуць,— і тут жа спытаўся: — Якія навіны з Рэчыцы?

Сцёпін выцягнуў з палявой сумкі дакументы і падаў іх Стракапытаву. Той, прыжмурыўшы падслепаватыя вочы, пачаў чытаць: «Даводзіцца да ведама грамадзян гор. Рэчыцы, што пасля адыходу партыі камуністаў улада ў гор. Рэчыцы і павеце перайшла да Гарадской думы і Земскай управы, а пакуль яны будуць сфарміраваны, грамадзянская і вайсковая ўлада належыць начальніку гарнізона. З сённяшняга дня выходзіць на вуліцу пасля 9 гадзін вечара па старым стылі строга забараняецца. Служачым усіх устаноў застацца на сваім месцы...»

— Малайцы! — усклікнуў Стракапытаў.— Вось як трэба пісаць: «Пасля адыходу партыі камуністаў»,— прачытаў ён услых і зарагатаў.— Нічога сабе адыход, ледзьве не добраахвотна.

— А мне гэтая фраза якраз і не падабаецца, пан камандуючы.

— Чаму?

— Яна прыніжае нашы баявыя поспехі...

Стракапытаў пацёр ад радасці рукі:

— Усё наадварот, даражэнькі, усё наадварот.

У тамбуры з'явіўся дзяжурны і сказаў, што прыйшлі трое цывільных. Стракапытаў падазрона глянуў спачатку на дзяжурнага, потым на Сцёпіна.

— Гэта я распарадзіўся, каб яны сюды прыйшлі,— нібы апраўдваючыся, сказаў Сцёпін.— Гэта тыя самыя — Міхайлаў, Іваноў, Міхееў.

— Няхай зойдуць,— махнуў рукою Стракапытаў і абярнуўся да Сцёпіна.— Гавары з імі ты сам.

— Дзякую, пан камандуючы,— кіўнуў галавою Сцёпін.

Гутарка была кароткаю. Проста камендант загадаў узнавіць старыя царскія органы ўлады.

— Галоўнае ў нашай дзейнасці, панове — барацьба з камуністамі і іх паплечнікамі.

— Наконт гэтага не трывожцеся,— запэўніў Міхайлаў.— У нас з камуністамі свой рахунак.

— І не забывайцеся, што нашаму войску трэба памагчы з харчамі.

— Усё зробім,— усе трое кіўнулі галовамі, адступаючыся задам да дзвярэй.

За вокнамі засінеў вечар — змяркалася. Сцішна зрабілася ў вагоне. Нібы чуючы бяду, Стракапытаў спытаўся ў Сцёпіна:

— Як там наша ахова? Пашлі каго-небудзь, хай гляне, а заадно і пацікавіцца, як у нас з вугалем.

— Ды вугалю аж дзве платформы.

— Гэта ж праўда, я забыўся,— ажывіўся Стракапытаў.— Тады давай перакусім.

Вячэралі моўчкі, думаючы кожны пра сваё. Сцёпіна брала сумненне, ці зможа ён уціхамірыць войска, што разбушавалася далей ужо няма куды, і навесці які-небудзь парадак у горадзе. Ад гэтага залежала і яго становішча. Што ні кажы, а быць другім пасля Стракапытава таксама нешта значыць.

Камандуючага трывожыла другое: як падвысіць свае акцыі ў вачах Барыса Савінкава? Дзеля гэтага трэба ўмацаваць сваё становішча ў Гомелі. «Галоўнае, не растраціць войска. Няхай салдаты рабуюць, п'юць, гвалцяць,— меркаваў ён.— Гэта толькі аддаляе іх ад бальшавікоў. І паболей абяцанак пра свабоду, дэмакратыю... Да гэтай пары такая тактыка памагала...»

Стракапытаву падумалася пра «Саюз абароны радзімы і свабоды», які стварыў ён сам. Савінкаў за гэта ў сваёй апошняй шыфроўцы хваліў яго. Праўда, папракнуў, што занадта мякка абыходзіцца з бальшавікамі. «Няўжо ён думае, што я спагадлівы да гэтай брыдоты? Каб ён ведаў, як я ненавіджу іх! Але ж хіба можна вось так адразу іх знішчыць? Што падумаюць тады салдаты, ды як паставіцца да гэтага ўсё тутэйшае насельніцтва? Трэба ўсё рабіць цішком, непрыкмет...»

Стракапытаў узяў цукарніцу, насыпаў сабе ў шклянку дзве лыжачкі. Сцёпін, расчырванелы, разагрэты ад чаю, дастаў з табакеркі папяросу, пастукаў ёю аб пазногаць і закурыў, са смакам зацягваючыся.

— Ну ж, дружа, будзем развітвацца,— паставіўшы на столік недапіты чай, сказаў Стракапытаў.

— І праўда што, заседзеўся я,— расціснуўшы ў попельніцы папяросу, падняўся з-за стала Сцёпін.— Мне трэба ісці ў камендатуру.

— А дзе вы яе размясцілі? — пацікавіўся Стракапытаў.

— На Новікаўскай вуліцы.

Яны моцна паціснулі адзін другому рукі.

— Ага, ледзь не забыўся,— схамянуўся Стракапытаў,— бальшавіцкіх завадатараў трэба перавесці з турмы бліжэй да вакзала.

— Але куды? — развёў рукамі Сцёпін.— Ды каб не паўцякалі.

— Ёсць тут адзін добры хлеўчык, а наконт варты я падумаю сам.

— Слухаюся,— выцягнуўся Сцёпін, шчоўкнуўшы абцасамі.

Як толькі тупат яго ног заціх у тамбуры, Стракапытаў крутануў у дзвярах ручку замка, зашмаргнуў на вокнах занавескі і, паціраючы рукі, падбег да сейфа. Адамкнуў яго і пачаў перабіраць залатыя пярсцёнкі, каралі, залатыя лыжкі і відэльцы, забаўляўся з імі, як маленькі з цацкамі.

За вокнамі вагона падвываў вецер, мусіць, нарываючы дождж, і недзе блізка, ці не на вакзале, чулася страляніна.

## XIX

Цяжка заскрыгатала ржавая засаўка, а потым пачуўся тупат і крык, перамешаны з лаянкай. Мікалай Білецкі адкрыў вочы, падхапіўся і падышоў да Ланге. Той, седзячы ў кутку, драмаў.

— Чуеце? — ён патрос Ланге за плячо.

— Чаму не чую,— ціха адазваўся Ланге.

Падняўся і падышоў Камісараў.

— Яны нешта задумалі, трэба будзіць таварышаў.





Білецкі пачаў тузаць камунараў, якія, прыціснуўшыся адзін да аднаго, спалі.

— Таварышы, уставайце!

Камера заварушылася. Недзе моцна ў кутку застагнаў ранены.

— Станавіцеся ў круг! — загадаў Камісараў.

Прапусціўшы ў сярэдзіну параненых і змучаных на допытах, камунары сціснуліся ў круг. Бліжэй да дзвярэй сталі Аўэрбах, Камісараў, Бочкін, Ланге, Білецкі.

У калідоры чуўся ўсё той самы крык, валтузня. Потым з грукатам адчыніліся дзверы.

— Ланге, Камісараў, Білецкі, Фрыд, Падгорны! — крыкнулі з калідора.— Выходзь!

Першым падаўся на калідор Камісараў. За ім выйшлі астатнія.

— Таварышы,— павярнуўся Білецкі да тых, хто застаўся ў камеры,— перадавайце прывітанне ўсім і скажыце, што мы загінулі...

Але дагаварыць яму не далі — нехта ўдарыў яго прыкладам. Білецкі ўпаў, абліваючыся крывёю. Двое падхапілі яго пад рукі і таўханулі з камеры.

Зачыніўшы дзверы, на калідоры пачалі біць усіх. Білі і дарогаю, пакуль вялі на Палескі вакзал у сыры хлеў. Найболей Ланге. Ён быў ледзьве жывы. Пасля таго, як захапілі «Савой», яго мардавалі штодня. Яму помсцілі: і розная контррэвалюцыйная поскудзь, і анархісты, і фальшываманетчыкі. Яго, старшыню Гомельскай ЧК, баяліся як агню. Гэты шчыры, немалады ўжо гадамі латыш усё сваё свядомае жыццё аддаў справе рэвалюцыі. Пасля выгнання з Гомеля нямецкіх акупантаў ён працуе спярша ў вайсковай секцыі гарсавета, потым камендантам горада і, нарэшце, узначальвае ЧК. За шчырую адданасць рэвалюцыі, за крыштальнае сумленне і асабістую адвагу яго любілі і паважалі таварышы па барацьбе. Пра Ланге хадзілі легенды. Не дзіўна, чаму гэтак дзіка і люта яго ненавідзелі ворагі і чаму гэтак мардавалі і нявечылі яго.

І вось цяпер, збіты на горкае яблыка, увесь у падпухлых сіняках, у драпінах з запечанай крывёю, ён ляжаў у сырым хляве на падлозе, так-сяк прыцярушанай гнілою саломай. Да яго на локці падпоўз акрываўлены, збіты прыкладамі і нагамі Мікалай Білецкі. Гэты малады хлопец, сын вядомага генерала Паўла Сямёнавіча Язерскага, які ў 1912 годзе выкрыў жульніцкія махінацыі братоў цара Мікалая II і патрабаваў над імі суда, гэты малады хлопец шмат ужо зрабіў для рэвалюцыі. Каб не было непаразуменняў, Мікалай змяніў сваё прозвішча на Білецкага. Рэдагуючы газету «Весці рэўкома», ён пісаў разумныя, вострыя артыкулы, клікаў бараніць справу рэвалюцыі, трапным словам біў па ўгодніках і рэнегатах. Ніхто можа гэтак са старэйшых таварышаў не любіў маладога і занадта ўжо гарачага бальшавіка, рамантыка Білецкага, як любіў яго і дапамагаў яму ў кожнай справе Ланге.

Білецкі абдымае гэтага шчырага, зычлівага чалавека, і плечы яго ўздрыгваюць.

— Не плач, сынок, усё будзе добра,— ціха гаворыць Ланге.— Можа яшчэ выберамся адгэтуль...

— Я бядую не пра гэта, я бядую, што мала зрабіў у сваім жыцці, што мала зрабіў для партыі і што мала біў яе ворагаў...

— Рэвалюцыя нікому не даруе за нашы мукі. Бальшавікі, Коля, непераможныя — ты ведаеш,— гэтыя словы Ланге гаворыць не столькі для Білецкага, колькі для тых, хто стаіць на другі бок дзвярэй.



Яны яшчэ доўга гавораць, пасівелы чалавек і малады хлопец, пакуль нехта з вязняў не пачынае спяваць:

Вставай, проклятьем заклейменный,
Весь мир голодных и рабов!

І яны спачатку ціха, а потым галасней пачынаюць падцягваць:

Кипит наш разум возмущенный
И в смертный бой вести готов.

І, будзячы цішыню ночы, на шырокі прастор вырываецца суровая песня пралетарыяту.

У дзверы пачынаюць грукаць прыкладамі:

— Маўчаць!

Але песня мацнее — яе падхопліваюць усе вязні.

## XX

У першыя месяцы 1919 года па краіне пракацілася хваля антысавецкіх мяцяжоў. Міжнародныя імперыялістычныя сілы пры актыўнай падтрымцы ўнутранай рэакцыі арганізавалі гэтыя выступленні, каб нанесці ўдар у спіну Чырвонай Арміі. VIII з'езд РКП(б), які адбыўся ў сакавіку 1919 года, спецыяльна звярнуўся да камуністаў і ўсяго народа з заклікам быць пільнымі. У звароце з асаблівай вастрынёй падкрэслівалася, што антысавецкія сілы стараюцца «...адначасова з агульным наступам падняць шэраг новых паўстанняў унутры краіны, асабліва ў тыле Чырвонай Арміі, на вузлавых пунктах чыгуначных дарог і сарваць работу заводаў, якія абслугоўваюць армію і транспарт. Выкарыстаць цяжкае вытворчае становішча непасрэдна ўваходзіць у бліжэйшы план усіх ворагаў пралетарыяту».

Гомельскі мяцеж менавіта і адносіўся да гэтых акцый. Партыя і Савецкі ўрад прынялі тэрміновыя меры, каб ліквідаваць яго. Было дадзена ўказанне камандуючаму Заходнім фронтам накіраваць у Гомель неабходныя часці Чырвонай Арміі. 26 сакавіка 1919 года камандаванне Заходняга фронту выдала загад: «Для ліквідацыі паўстання ў раёне Гомеля загадваю:

1. Начальніку Жлобінскага атрада Багданаву пры ваенкоме Адамовічу засяродзіцца з перададзенымі яму часцямі ў раёне ст. Уза і, дзейнічаючы з поўначы на Гомель, прымусіць узбунтаваныя часці, што заселі там, эвакуіравацца ў кірунку на Навазыбкаў для разбройвання іх атрадам Філіпава. Папярэдне выслаць да паўстанцаў партыйных работнікаў, каб прад'явіць ультыматыўнае патрабаванне аб здачы зброі і выдачы завадатараў, а ў выпадку, калі адмовяцца, прымусіць.

2. Начальніку Бранскага атрада Філіпаву падначаліць сабе ўсе часці, сканцэнтраваныя на лініі Бранск — Гомель. Для раззбраення выйсці ў раён Унечы і Навазыбкава, выслаўшы разведку для выяўлення бандытаў, і быць у поўнай баявой гатоўнасці на выпадак, калі ўзбунтаваныя часці адмовяцца скласці зброю і выдаць завадатараў. Прыняць меры, каб раззброіць іх у эшалонах, калі яны будуць рухацца ў кірунку на Бранск.

3. Начальніку атрада камуністаў ст. Рэчыца, разабраўшы рэйкі на рэчыцкім мосце, прыняць усе меры, каб не прапусціць як эшалоны, так і асобных паўстанцаў у кірунку на Калінкавічы...»

Магілёўскі губком РКП(б) мабілізаваў значныя сілы на помач працоўным Гомеля: камуністычны атрад, батальён ЧК, курсантаў школы каманднага саставу. Магілёўскі губвыканком Савета рабочых, сялян-

скіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў звярнуўся з заклікам да насельніцтва Гомеля, а губком — да асабістага саставу 67-га і 68-га мяцежных палкоў.

Смаленск паслаў камуністычны атрад у чатырыста чалавек на чале з губваенкомам Я. Адамовічам. З Мінска, Бранска, Пачэпа, Навазыбкава рухаліся рэгулярныя часці Чырвонай Арміі і камуністычныя атрады.

Вестка аб контррэвалюцыйным мяцяжы дайшла да Бабруйска ў чатыры гадзіны раніцы 25 сакавіка. А праз дзве гадзіны ўжо было склікана экстранае пасяджэнне павятовага камітэта партыі, на якім было вырашана мабілізаваць партарганізацыю, узяць лепшыя каравульныя батальёны і рушыць на падаўленне мяцяжу. У той жа дзень газета «Бабруйскі камуніст» апублікавала тэлеграму гомельскіх таварышаў «Усім, усім, усім...» і адозву Бабруйскага павятовага камітэта партыі, які заклікаў добраахвотна ўступаць у рады камуністычнага атрада.

У той жа дзень бабруйскія камуністы стварылі атрад колькасцю каля васьмісот чалавек. Вечарам гэты атрад пад камандаваннем Пятра Малаковіча на станцыі Уза ўступіў у бой з паўстанцамі і захапіў участак чыгункі Уза — Касцюкоўка.

Назаўтра мяцежнікі кінуліся ў атаку, каб вярнуць назад станцыю Касцюкоўка, але былі адбіты. Тады яны пусцілі бліндзіраваны цягнік. Дзве роты пад камандаваннем Аляксандра Салаўя, блакіраваўшы чыгунку і разабраўшы рэйкі, захапілі цягнік. Гэта дало магчымасць атраду Малаковіча падысці да Гомеля і закрыць мяцежнікам дарогу на Жлобін.

28 сакавіка пачаўся агульны наступ на Гомель. Бранскія атрады, якія падтрымлівала артылерыя, падышлі да горада з боку Нова-Беліцы. Паабапал Жлобінскай чыгункі наступалі Магілёўскі і Бабруйскі атрады. Смаленскія камуністы дзейнічалі на Калінкавіцкім напрамку, каб захапіць Рэчыцу і рушыць далей на Гомель.

Жалезнае кальцо рэвалюцыйных сіл сціскалася ўсё тужэй і тужэй.

## XXI

У вагон убег задыханы афіцэр. Заікаючыся, ён далажыў:

— Яны падыходзяць да вакзала.

Але ўбачыўшы, што Стракапытаў адвярнуўся і глядзіць у акно, крыкнуў яшчэ мацней:

— Ваша высокае благароддзе, бальшавікі!..

— Не крычы, ведаю,— павярнуў галаву Стракапытаў.— Лепей збяры юнкераў і казакаў... Трэба ўсё зрабіць, каб не падпусціць бальшавікоў да вакзала.

— Ды хто ж паслухае мяне! — афіцэр яшчэ ўсё стаяў навыцяжку.

— Дзейнічайце ад майго імя,— насупіўся «камандуючы».— Выконвайце ж неадкладна!

Афіцэр нешта хацеў сказаць яшчэ, але «камандуючы» ізноў адвярнуўся да акна.

На стале моцна заверашчаў тэлефон. Стракапытаў нехаця зняў трубку.

— Ну, што там яшчэ? — і пачаў слухаць, аднастайна паўтараючы: — Так, та-а-ак... Ну-у... Ну-у...— потым закрычаў: — Вы з глузду з'ехалі! Чыгунка на Бранск павінна быць у нашых руках! Умацуйце варту чыгуначнага моста!.. Падкінуць вам салдат? А дзе я іх вазьму? Абыдзецеся і сваімі сіламі,— і кінуў трубку.



Цяпер Стракапытаў гаварыў праўду. Рэзерву ў яго не было, калі не лічыць сотняў трох галаварэзаў з асабістай аховы. Але ён іх ашчаджаў. Ды і куды, дарэчы, пасылаць. Салдаты пры першай жа сутычцы з бальшавікамі ўцякаюць. Спадзявацца можна толькі на батальёны, якія абаранялі Палескі вакзал, і на некалькі сотняў казакаў. Але і гэтыя падраздзяленні Стракапытаў трымаў каля сябе. Становішча стала такое няпэўнае, што цяжка было ўгадаць, што будзе праз гадзіну-дзве. Як кадравы вайсковец, ён добра ведаў, чым усё гэта скончыцца для яго пасля такой сітуацыі, якая складваецца цяпер. І ён шукаў выйсце. У галаве перамяшалася ўсё. «Трэба ўсё ж паслаць дзветры сотні са сваіх людзей на галоўны рубеж — абарону Палескага вакзала»,— цвёрда рашыў ён і выправіўся ў агульную палавіну вагона, дзе месціліся штабныя афіцэры. Там стаяў крык, мітусіліся, аддавалі па тэлефоне нейкія загады, лаяліся.

— Цішэй, панове! — уладарна крыкнуў Стракапытаў, пільна аглядаючы ўсіх штабістаў, а потым пачаў паказваць пальцам на некаторых з іх: — Ты, ты, ты — за мною.

Маладзенькі афіцэр брава выцягнуўся і нясмела спытаўся:

— А можа, ваша высокаблагароддзе, аддаць загад аб адыходзе ці... здачы?

Стракапытаў збялеў, рукі яго задрыжалі.

— І гэта гаворыць лепшы прадстаўнік рускай нацыі! — камандуючы схапіў афіцэра за кіцель і пачаў трэсці яго.— Поскудзь! — І ў адзін міг выхапіўшы з патаемнай кішэні маленькі, як цацачны, браўнінг, выстраліў у грудзі збялеламу ад страху афіцэру. Той нахіліўся і неяк бокам аб'ехаў на падлогу. Стракапытаў плюнуў, вылаяўшыся, і куляй выскачыў з вагона. Услед за ім выбеглі афіцэры.

Недзе недалёка стракатаў кулямёт і ўразнабой стралялі з вінтовак. Стракапытаў прыспешыў крок, афіцэры ледзь паспявалі за ім. Але чым бліжэй падыходзіў Стракапытаў да прыстанцыйных казармаў, тым болей яго апаноўваў страх — у казармах, ён бачыў, былі павыбіваны вокны. «А дзе ж роты?» — падумаў ён і кінуўся ў першы будынак. Там было сцішна і пахла затхласцю.

— Дзе салдаты, я пытаю? — крыкнуў ён, выскачыўшы назад.

Што гаварылі афіцэры, Стракапытаў не пачуў — нізка прафуркатаў і бухнуў за казармаю снарад. Афіцэры кінуліся ў канаву. Нейкі страх пагнаў туды і Стракапытава. Прыгнуўшыся, ён пабег услед за афіцэрамі. Канава вяла, мусіць, да перадавой пазіцыі — пра гэта можна было здагадацца па тым, што стральба ўзмацнілася і недзе поруч адзін за адным ірваліся снарады.

Стракапытаў падняў галаву і ўбачыў, як, схаваўшыся за развалены будынак, трое салдат стралялі невядома чаму ўгору.

— Што вы робіце? — выскачыўшы з канавы, крыкнуў ён і падбег да салдат.— Неба грэеце, сволачы?

Салдаты, перапалохаўшыся, маўчалі.

— А дзе вашы афіцэры?

Высокі, худы салдат пацісную плячыма.

— А дзе хоць ваш штаб, вы ведаеце? — закрычаў Стракапытаў.

Салдаты ізноў зацята маўчалі.

«Трэба знайсці старшых афіцэраў»,— падумаў ён, але тут жа адагнаў гэтую думку.

Далей ісці было ўжо рызыкоўна. Перадавыя пазіцыі знаходзіліся дзесьці тут, побач. Гэта адчувалася па ціхай, прыглушанай гутарцы салдат, па тым, што дзесьці блізка прасіўся ранены: «Браткі, ратуйце! Браткі...»

«Тут да бяды недалёка»,— падумаў Стракапытаў, паварочваючы назад. У штаб ён вярнуўся злы і як сам не свой. Стары, кадравы вайсковец, Стракапытаў разумеў, што з цяперашняй сітуацыі выйсце толькі адно: ці здацца бальшавікам, ці прарывацца да палякаў. Першы варыянт адпадаў. Занадта многа шкоды нарабіў былы афіцэр царскай арміі Савецкай уладзе, каб спадзявацца на яе літасць. Аб тым, што можна выйграць бітву, не было чаго і думаць: брыгада разбягалася на вачах, салдаты пераходзілі да бальшавікоў. Засталося апошняе — шукаць ратунку ў палякаў. Гэта было не ў гонар, але што зробіш. Дарэчы, за мяжою знайшлі прыстанішча і такія, як Барыс Савінкаў. Пераб'ецца, перагаруе як-небудзь і ён, Стракапытаў,— балазе тое-сёе назапасіў — хопіць на колькі гадоў, а далей — бог-бацька. Стракапытаў выглянуў у тамбур і гукнуў дзяжурнага афіцэра.

— Тэрмінова збярыце ўсіх штабных афіцэраў і выклічце маю асабістую роту,— загадаў ён.— Трэба знішчыць бальшавіцкіх завадатараў. Іх месца толькі ў зямлі...

— Слухаю, вашае высокаблагароддзе!

— І не марудзь, ідзі, ідзі! — махнуў рукой Стракапытаў, стараючыся як найскарэй выправадзіць з вагона афіцэра,— трэба было перакласці ўсё з сейфа ў скураны мяшок і спаліць такія-сякія паперы.

Праз хвілін дваццаць рота казакаў з асабістай аховы «камандуючага» была ўжо каля штаба.

— Што ж, пойдзем,— сказаў Стракапытаў, паявіўшыся ў тамбуры і перадаючы афіцэру, што падбег да вагона, свой скураны мяшок.

Казакі рушылі туды, дзе за пуцямі недалёка ад вакзала шарэў дашчаны прысадзісты будынак. Крыху адстаўшы ад сваіх салдат, ішоў, насуплены, сцяўшы тонкія губы, сам «камандуючы».

## XXII

Ланге ўжо не мог устаць на ногі. Яго збілі так, што на целе не было жывога месца. Ад страты крыві ён траціў прытомнасць. Ачуняўшы, прасіў толькі піць. Камунары зграбалі снег, што наганяла ветрам праз шчыліны ў дошках. Снег быў перамешаны з пяском. Але ад холаду, ад кроплі гэтай вільгаці Ланге рабілася лягчэй.

— Дзякуй, дарагія таварышы, дзякуй...

Усе маўчалі, цішком радуючыся, што хоць гэтым памаглі чалавеку, радуючыся тым стрэлам, што чуліся ўсё бліжэй і бліжэй.

— Браткі, дык гэта ж нашы ідуць! — першым азваўся Мікалай Білецкі.— Чую, страляюць нашы.

— Хіба па стрэлах пазнаеш, хто гэта? — усумніўся Аўэрбах.

— А я кажу, што нашы.

І ў кожнага заварушылася надзея, што ідзе вызваленне. Бо сёння мяцежнікам, здаецца, было не да камунараў: іх сёння нікуды ніхто не выклікаў, ніхто не біў — ні афіцэр, ні варта.

Усе па чарзе глядзелі ў шчылінку, праз якую сачыўся ў хлеў вострыпраменьчык святла, але бачылі толькі чырвоную цагляную сцяну суседняга дома.

Білецкі памог Ланге падняцца.

— Вы чуеце, мы скора будзем на свабодзе.

Ланге моўчкі кіўнуў галавой. На нагах устаяць ён не мог і сеў.

Вечарэла. Стухаў ясны праменьчык святла, што прабілася праз вузенькую шчыліну ў дошках. Недзе ўжо зусім блізка грымеў бой. Яго гукі заглушалі ўсё. Камунары нават не пачулі, як адмыкалі іхнія дзверы...



Іх мучылі тут, у хляве. Калолі штыхамі, білі прыкладамі, выкручвалі рукі, рвалі валасы. Іх знявечылі так, што сваякі пазнавалі нябожчыкаў толькі па адзежы.

«...У старшыні ЧК т. Ланге выкалаты вочы і на шчацэ многа штыхавых ран, у сакратара рэўкома т. Каганскай на галаве вырваны ледзь не ўсе валасы і на целе многа штыхавых ран, у Білецкага пераламана рука і вывіхнута пашчэнка»,— успамінаў пазней былы камісар Гомельскай паштова-тэлеграфнай канторы П. Бахаў.

## XXIII

Бой трываў другія суткі. Адчуваючы, што блізіцца час адплаты, мяцежнікі стаялі насмерць.

Цэнтральны ўчастак на подступах да Палескага вакзала атакавалі курсанты Магілёўскай школы чырвоных камандзіраў, але змушаны былі адступіць. Мяцежнікі, заняўшы выгадны рубеж — найболей высоты і насып чыгункі,— не падпускалі іх бліжэй як на восемсот метраў. Асабліва зацята яны абаранялі вёску Прудок.

Курсанты, убачыўшы, што лабавыя атакі поспеху не маюць, змянілі тактыку. Дачакаўшыся цемнаты, абышлі вёску і ўдарылі стракапытаўцам з тылу. Мяцежнікі пачалі адстрэльвацца, але абарону ўтрымаць не маглі.

На світанку курсанты падышлі ўжо да вакзала і ўзялі яго амаль без бою — стракапытаўцы ўцякалі хто куды.

У гэты ж час Бабруйскі атрад разбіў паўстанцаў каля Лібаўскага вакзала. Стракапытаўцы ў паніцы адступалі з Гомеля.

«Камандуючы» са сваім штабам паспеў апынуцца аж у Васілевічах, сабраўшы сюды ад свайго войска ўсё, што толькі можна было сабраць. Уцякаючы з Гомеля, ён загадаў часцям, што аставаліся там, змагацца да апошняга. Нават старшым афіцэрам Стракапытаў не сказаў, дзе ён будзе. Ды ён і сам добра не ведаў, што здарыцца з ім праз гадзіну-другую.

Штабныя афіцэры баяліся нават падысці да яго. Рукі ў Стракапытава трэсліся, вадзяністыя вочы бегалі, як у здурнелага. Ён лаяўся, аддаваў бязглуздыя загады. Афіцэры, як ачмурэлыя, бегалі ад эшалона да эшалона, то крычалі на салдат, то ўпрошвалі, але на іх ужо ніхто не звяртаў увагі.

Нейкая перадсмяротная агонія ахапіла разбітае войска мяцежнікаў.

30 сакавіка Стракапытаў, навёўшы такі-сякі парадак у сваіх часцях, рушыў у наступ на чыгуначную станцыю Васілевічы, каб прарвацца да пятлюраўцаў.

Смаленскія атрады пад камандаваннем Язэпа Адамовіча перагарадзілі дарогу мяцежнікам — некалькі дзён ішоў цяжкі, няроўны бой. Колькасць паўстанцаў у некалькі разоў перавышала атрады Язэпа Адамовіча, у якога разам з чырвонаармейскімі падраздзяленнямі было «600 штыхоў і 60 шабель».

У гэты ж дзень Стракапытаў пусціў эшалон, узброены гарматамі і кулямётамі, спадзеючыся прарваць абарону камуністычных атрадаў на чыгунцы між станцыямі Нахоў і Васілевічы. Цягнік ішоў паволі, а паабапал яго ўрассыпную беглі мяцежнікі. Ззаду рухаліся яшчэ два эшалоны, ашчаціўшыся дуламі вінтовак і кулямётаў. Першы эшалон беспярастанку вёў агонь.

У смалянаў была толькі платформа — на ёй знаходзілася чалавек

каля дваццаці — рухомы атрад, узброены ўсяго адным кулямётам і вінтоўкамі. Адамовіч загадаў атраду, калі будзе магчымасць, высунуцца ўперад і завязаць бой з праціўнікам. Камуністы сустрэлі мяцежнікаў дружным ружэйна-кулямётным агнём. Але вялікай шкоды стракапытаўцам яны не зрабілі — вагоны ў першым эшалоне былі закладзены мяшкамі з пяском.

Цягнік падыходзіў усё бліжэй і бліжэй. Кругом платформы, на якой былі камунары, пачалі рвацца снарады.

— Задні ход! — загадаў машыністу камандзір атрада.— За паваротку!

Адстрэльваючыся, платформа схавалася за насыпам адхону. Камунары, саскочыўшы на зямлю, спешна пачалі разбіраць рэйкі.

Падышоўшы да таго месца, дзе былі разабраныя рэйкі, эшалон з мяцежнікамі спыніўся. Адрамантаваць чыгунку камунары не далі — яны стралялі па стракапытаўцах.

Так цягнулася некалькі гадзін. Пэўна, не ведаючы сілы чырвоных атрадаў, мяцежнікі не спяшаліся з атакай.

Вечарам на дапамогу смалянам падышлі рэгулярныя часці Чырвонай Арміі. Завязаўся жорсткі бой. Першы эшалон стракапытаўцаў быў разгромлены, астатнія два пачалі спешна адыходзіць.

«Паўстанцы, сціснутыя каля рэчкі Нахоў, разбягаюцца. Часці Адамовіча перайшлі ў наступленне на станцыі Галевічы»,— паведамлялася ў тэлеграмах, якія ішлі з Рэчыцы.

Контррэвалюцыйная авантура правалілася. Мяцежнікі, разбітыя Чырвонай Арміяй і камуністычнымі атрадамі, пачалі здавацца ў палон, выдаючы былых сваіх завадатараў і натхніцеляў. На жаль, Стракапытаву ўдалося ўцячы. Каля мястэчка Хойнікі з групай афіцэраў і казакаў з асабістай аховы ён перапраўіўся на другі бок Прыпяці і прыстаў да пятлюраўцаў.

## XXIV

Надыходзіла вясна. Нарэшце пасля доўгай і зацятай зімы дыхнула цяпло. Адшумела паводка, злез з палёў снег — хіба толькі дзе ў лесе ды ў глыбокім рове ляжалі яшчэ счарнелыя, як абсыпаныя сажай, курганы. Людзі браліся за сяўбу, аднаўлялі разбураныя пад час мяцяжу фабрыкі і заводы. Жыццё ўваходзіла ў сваю звыклую каляіну.

2 красавіка 1919 года сабраўся Гомельскі Савет рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. Ён абмеркаваў пытанне аб ліквідацыі вынікаў мяцяжу, зацвердзіў рэўком. Пасяджэнне было экстраным і кароткім — дэпутаты спяшаліся: чакалі фабрыкі і заводы, незасеянае поле. Нядоўгімі, але канкрэтнымі і разважнымі былі прамовы. Апошнім выступаў Міхаіл Хатаевіч:

— Таварышы! Я хачу сказаць вам радасную вестку. Для Гомеля асігнавана звыш каштарыса пятнаццаць мільёнаў рублёў.

Такая навіна, вядома, узварушыла ўсіх. Зала загула.

Хатаевіч счакаў, пакуль уціхне ўсё, і загаварыў зноў:

— Гэты факт, таварышы, гаворыць аб вялікай братняй салідарнасці нашых народаў, якія дзеляцца апошнім, каб памагчы другому. Гэта таксама ўмелыя, аператыўныя дзеянні ЦК нашай партыі.

Зала зноў загаманіла. Перабіваючы адзін аднаго, усе пачалі падказваць, як і дзеля чаго скарыстаць гэтыя грошы.

— Таварышы! — Хатаевіч замахаў рукамі, паказваючы, каб у зале сціхлі.— Паспешнасць у такой справе толькі шкодзіць. Я папрашу



ўсіх выказаць свае думкі пісьмова, добра ўсё разважыўшы. І падумайце яшчэ над адным: ці не замінае нам старое адміністрацыйнае дзяленне? Я кажу пра тое, што можа варта звярнуцца ў вышэйшыя інстанцыі наконт стварэння Гомельскай губерні.

Гэтае пытанне трывожыла кіруючых гомельскіх работнікаў. Але каб стварыць новую губерню, каб ажыццявіць такі акт, патрэбны былі важкія аргументы. І дзеля гэтага пачалі збіраць эканамічныя выкладкі, бралі пад увагу меркаванні нацыянальнага і палітычнага парадку. Некалькі разоў праводзіліся нарады, на якія запрашалі кампетэнтных людзей. Нарэшце было падрыхтавана адпаведнае пісьмо ў Маскву.

4 мая 1919 года Савет народных камісараў прыняў пастанову аб стварэнні Гомельскай губерні і перанясенні губернскага цэнтра з Магілёва ў Гомель.

«З прычыны таго, што Гомель з'яўляецца буйным эканамічным цэнтрам, да якога імкнуцца бліжэйшыя часткі Магілёўскай, Мінскай і Чарнігаўскай губерняў, населеныя пераважна беларусамі, з гэтых частак створана Гомельская губерня з цэнтрам у г. Гомель,— паведамлялася ў газеце «Жизнь национальностей».— Гомельская губерня павінна быць уключана ў састаў БССР, але так як большая частка Беларусі акупіравана белапалякамі, а Гомельшчына павінна адыграць вялікую ролю ў барацьбе супраць інтэрвентаў, вырашана часова ўключыць яе ў састаў РСФСР».

Стварэнне Гомельскай губерні садзейнічала ўмацаванню абараназдольнасці краіны, стварала лепшыя ўмовы для адміністрацыйна-гаспадарчага кіравання.

Выканком Гомельскага Савета стварыў спецыяльную камісію, якая давала помач тым, хто пацярпеў ад мяцяжу. Быў дазволены свабодны прывоз і продаж прадуктаў першай неабходнасці. У горадзе ажывіўся гандаль, зноў пачалі працаваць фабрыкі і заводы. Нармалізавалася жыццё і ў іншых паветах і валасцях Гомельшчыны.

Аўтарытэт Савецкай улады і Камуністычнай партыі рос і мацнеў з кожным днём. За адзін партыйны тыдзень у Гомельскім павеце ўступіла ў партыю каля тысячы чалавек.

«Мы мацнеем з кожным днём»,— пісаў член губкома партыі Шчарбітаў.

Тое, пра што марылі гомельскія камунары, прыйшло ў жыццё. Яны не дачакаліся новых дзён, але тое, што яны выпакутавалі ў царскіх турмах, дзеля чаго яны пайшлі на смерць, бараніячы маладую рэспубліку Саветаў, за што змагаліся,— тое ўладарна запанавала на зямлі. І імя гэтаму — новы сацыялістычны лад.

Мінаюць гады, але ў памяці народнай жывуць іх бессмяротныя імёны.

Людзі помняць!

● Славамір ХАДАРОНАК





## *Прыцягненне*

Аглушаны ракетным ураганам,
Бог знік кудысь, забыў пра свой прастол.
Праз атмасферу, як праз шкло скафандра,
Глядзіць Зямля ў нязведаны прастор.

У космас пачалі ужо імгненна
Ныраць за касманаўтам касманаўт.
Парвалася зямное прыцягненне,
Нібы пяньковы смалены канат.

Так, мы Ікары. Толькі нам прысніцца
Аднойчы у кабіне карабля,
Як пасля спорнага дажджу дыміцца
Пад сонцам разамлелая ралля,

Як у галлі крычыць спрасоння птушка,
Як ля рачулкі ціхай на кастры
У саганку наварыстая юшка
Балбоча і пускае пухіры.

І як бы мы далёка ні сігалі,
К сабе нас будуць неадступна зваць
У жыце васілёк, начныя хвалі.
Нам прыцягненне гэта не парваць.

●

Мой бацька адыходзіў на вайну.
Нязвычна доўга ён нацягваў боты,
Таўстую самакрутку з тытуню
Смактаў, у торбу клаў жытнёвы бохан.

Затым па твары па маім правёў
Калючай, як іржэўнік той, шчакою





І, нібы ў студню, у дзвярны праём
Ырнуў і зліўся з цемраю начною.

А я на ложак хісткі як упаў —
Так і ляжаў. Газовачка дымілася.
Асенні вецер юшкай бразгатаў,
І ноч усю дажджом акно слязілася.

●

Гракі ў галлі ўчынілі сварку.
Ралля струменіць церпкім водарам.
Бялеюць крыгі, быццам скваркі
На глянцавай патэльні возера.

Замoрскі весялун-вятрыска
Прыгрэўся ля вярбы пакладзістай.
Яму гарэзніца-пупышка
Зялёны язычок паказвае.

Ажыў і я. Стаю, дрыготкі,
Нібыта клён пасля дрымоты,

І адчуваю, як гаючы
Сок у маіх пульсуе клетках.
Вось-вось, здаецца, па-над кручай
Залапачу лістотай клейкай.

●

Анідзе няма ужо калысак.
І глядзяць біблейна кожны дзень
З лёгкіх размалёваных калясак
Тварыкі круглявыя дзяцей.

Едуць у калясках Мішы, Машы,
Жвавенька пустышачкі жуюць.
На пагорках падвываюць «МАЗы»
Ды трамваі коламі куюць...

Я брыду па тратуары з пудзелем,
І маўкліва кружыць нада мной
Калыханка, што галубкай спуджанай
Ад людзей адбілася даўно.



● Алесь ЖУК

● Мал. У. ПАШЧАСЦЕВА

# ДВА АПАВЯДАННІ

## ЗАВУЛАК



Ціхі завулак — са старымі драўлянымі дамамі, з запыленаю доўгаю травою паўз платы, з адзічэлымі кустамі ружаў у густым павуцінні — пачалі зносіць. Ужо ўшчыльную да ціхіх садоў, дагледжаных градаў з гароднінай падышлі роўныя, аднолькавыя, як блізняты, шматпавярховыя дамы паабапал заасфальтаваных шырокіх вуліц. Гаспадары наспех прадавалі хаты падгараджанам, і амаль штодня ў завулку гулі нагружаныя бярвеннем машыны, «Беларусы» з прычэпамі, расходжвалі самавітыя вясковыя дзядзькі ў кірзавых ботах, з ламамі і сякерамі, падважвалі і па лáгах спускалі долу панумараванае чорнаю фарбаю бярвенне, разбіралі печы і акуратна, у слупкі, складалі цэглу. І праз два дні на месцы былога жылля ляжалі толькі кучы глінянага друзу: варушыліся пад ветрам парудзелыя абрыўкі шпалераў, газет, і сумна і пуста стаялі сады,— пакінутыя чалавекам, яны падобны на пакрыўджаных, бездапаможных дзяцей.

Валі было шкада садоў, шкада кустоў бэзу, якія толькі зацвілі і якія ламаў, хто хацеў, шкада бярозак, што так і стаялі там, дзе былі платы,— з прачосамі і ржавымі слядамі ад цвікоў, калі бярозкі былі жывымі шулкамі ў плоце. І гэтае шкадаванне і жаласлівасць мо былі ад таго, што ёй даводзіцца ляжаць у ціхім, крышку прыцемным пакойчыку і няможна выйсці на двор, дзе так многа святла, прастору і сонечнай ласкавасці, дзе такія цёплыя, мяккія чорныя вечары, шчымліва-салодкая трывога, прадчуванне незвычайнага і цудоўнага, без чаго ў маладосці ніяк немагчыма... І ўсё ж як ні цяжка і сумна было на сэрцы, жыло ў самай патаемнай яго схованцы вечнае пачуццё шчаслівасці і вялікай радасці, калі ўсё яшчэ ўперадзе, калі жыццё яшчэ не зведана і здаецца такім заманлівым і абавязкова добрым, калі ў чалавека, як бы ні быў ён засмучаны, свецяцца ў вачах гарачыя іскаркі...

І да таго ж у Валі ўсё найлепш складвалася гэтаю вясною, яшчэ з таго часу, як пачало прыграваць сонца і станавіўся мяккім снег, калі слаба і няўпэўнена пачыналі сачыцца першыя ручайкі. Было гэта мо таму, што прыжылася яна ў горадзе, прывыкла да свайго па-вясковаму ціхага і ўтульнага завулка, да кватэры — невялічкага пакойчыка, абклеенага даўным-даўно шпалерамі і некалі белай — цяпер парудзелай — папераю на столі. Пазнаёмілася з Валодзем...

Яна ўспамінала, як хадзілі з мацераю ад хаты да хаты і не маглі знайсці кватэру. Маці натамілася — насіла ўвесь час паўнюткую сумку. І Валі шкада было глядзець на яе, такую негарадскую: у чорнай новай куфайцы са слядамі мелу на рукаве, якім быў напісаны нумар яшчэ на фабрыцы, у бліскучых гумавых боціках з высокімі халяўкамі, у вялікай, кулястай хустцы-тараноўцы,— нек задажджыла, не па-жнівеньску захаладала, і таму маці ўбралася, як зазімкам. Яна, як і Валя, была нясмелая і чужая ў горадзе, не мела нікога знаёмых, і ім бы абедзвюм не было б дзе пераначаваць, каб не знайшлі кватэру,— тут, у завулку, у старэнькай нізкай хацінцы з абмазанымі звонку глінаю пазамі, каб не так дзьмула ўзімку; гаспадыня была старэнькая, цёмная, маршчыністая з твару, у круглых акулярах...

Усё гэта было, здаецца, даўно: і збянтэжанасць, і нейкая спалоханасць, і адзінота ў шумных студэнцкіх аўдыторыях, і цяжкі недольны сум, які часам прарываўся такім няўрымслівым жаданнем — паехаць! Назад, дадому, за цёмны, непрыветны восенню, лес, дзе так прасторна і добра нават у восеньскую пахмурнасць, дзе такі знаёмы і халодны пах туману і размоклых, гразкіх палёў, на якіх толькі вузкімі палосачкамі рудзеюць быльнікам вузкія межы-дарогі!

Цяпер смешна, што не ведала аднакурсніц Ірку, Ніну, Веру, неўгамоннага балбатуна і штукара на ўвесь курс Кірыка... А як хвалявалася і не спала ночы перад экзаменамі першай сесіі! Недарэмна старшакурснікі гавораць, што той студэнт «на ўсе сто», хто здаў першую сесію. І як страшна ісці з самага ранку і чакаць, пакуль прыйдзе выкладчык, потым сваю чаргу ля дзвярэй, на якіх коратка і значна напісана — «экзамен»! І як падае сэрца і аж звоніць у вушшу перад сталом з роўна рассыпанымі белымі лісткамі білетаў! Аж вочы хочацца заплюшчыць. А потым, як выбежыш з аўдыторыі з гарачымі — здэцца, не вытрымаюць! — шчокамі, бесталкова і шчасліва адказваць на бясконцыя пытанні, якія сыплюцца з усіх бакоў: што? як?

І потым стомлена і спакойна ісці дадому, зайсці ў магазін, купіць пругкага, пасыпанага цукрам мармеладу і дома есці яго — зусім, як у дзяцінстве,— з булкаю і халодным малаком...

Валя адкінулася на падушку, паклала на стол уверх вокладкамі разгорнутую кнігу — кніга была тоўстая, нецікавая і, здавалася, бяс-

концая. Яе прынёс Валодзя ў мінулую суботу. Яна прасіла яго раней, але ён забываў і прынёс, каб хапіла надоўга. Ён абяцаў, што прыйдзе заўтра, і Валя ўяўляла, як яны пойдуць гуляць у горад, а можа, лепш у кіно: ёй нельга яшчэ многа хадзіць. Будуць ісці вузенькаю сцяжынкаю паміж урослымі ў зямлю помнікамі,— могілкі старыя, даўно закінутыя. На адным канцы іх абжылася гарадская пескабаза з гарамі пяшчотна-сухога жвіру, а з другога канца бульдозерам ссунулі каменне помнікаў, і вучні прафтэхвучылішча зрабілі футбольнае поле, высыпаныя вапнаю лініі якога да дажджу нечакана бялеліся на цёмнай, зрэдку парослай травою зямлі...

У дзверы пастукалі, і Валя моцна, каб пачулі, крыкнула:

— Заходзьце!

Было чуваць, як асцярожна прычыніліся дзверы, потым калыхнулася занавеска ў яе пакой, і паказаўся Ірын твар.

— Ірка!

— Салют, Валька! Ой, як у цябе добранька, прахалодненька!

Ірка была ў сукеначцы без рукавоў, у чорна-белую палосачку, лёгенька падпяразаная вузенькім чорным раменьчыкам; аголеныя да пляча рукі ўжо чуць прыхапіў загар, і калі Валя дакранулася да Ірчынай рукі, адчула сонечную цеплыню.

— Як ты загарэла!

— Загарыш яшчэ. Горача!.. Ледзьве знайшла цябе.

— Добра, а то ніхто не заходзіў колькі...

— Многа, бо дэкан мяне выклікаў, пытаўся, чаму столькі пропускаў... Перад стыпендыяй, кажа, спраўка трэба...

— На акне ўсё ляжыць.

— Я ў кіно на паўдругога прыбегла... Успомніла пра дэкана. Ледзьве знайшла...

Ірка ўсё нецярпліва тупала па пакоі, стройная, з вузенькімі какетлівымі вочкамі і сімпатычна прыпухлымі вуснамі.

— І Ніны не было...

— О, яна такога хлопца закадрыла! З ба́камі, высокі. З канструктарскага бюро... «Масквіч» свой!

— Праўда?

— Ой, што ты! Казала, заўтра з начоўкаю на мора паедуць.

Ірка закруцілася на адным месцы, зірнула на гадзіннік.

— Ну, дзе спраўкі? Пайду. Мо яшчэ забягу... Папраўляйся!

— Папраўлюся.

— А што ў цябе?

— Нешта пасля ангіны на сэрца.

— Ну, бывай!

Было чуваць, як пастукалі па ганку Ірчыны тоненькія абцасікі і нехаця, мабыць з будкі, брахнуў сабака.

Валя заплюшчыла вочы і адчула і лёгкі водар духоў, які застаўся пасля Іркі, і сонечны пах яе загарэлых рук; падумалася пра Ніну, якая заўтра будзе на пляжы — у адным купальніку, з прыклеенаю на носе паперкаю...

...Валя ехала з Валодзем на пляж электрычкаю,— нечакана пачаліся не па-веснавому спякотныя дні, і Валодзя захацеў паехаць на возера пазагараць. Яна спачатку пачала адмаўляцца — што яшчэ рана, што купацца няможна, пакуль не ападзе з дубоў мінулагодні ліст,





ды яна не ўмее і плаваць. Валодзька кпіў, што яна, вясковая дзяўчынка, баіцца холаду, як якая гараджаначка, і на пляж ехаць у першыя дні, калі ўсе яшчэ незагарэлыя, белыя, як разасланыя на поплаве палотны. Валя не памятала ўжо, каб у вёсцы хто ткаў і бяліў палотны. Валодзя, мабыць, памятаў: ён адслужыў у арміі, скончыў інстытут, а цяпер канчае аспірантуру, напісаў кандыдацкую. Валодзя з самага цяпла ходзіць у рубашцы з закасанымі рукавамі і ўжо паспеў загарэць — лазілі з хлопцамі на дах інтэрната і там загаралі, пакуль не згледзеў камендант і не пазамыкаў усе хады на вышкі.

У электрычцы было бітком народу, больш моладзі — з сумкамі, рукзакамі, гітарамі. Валя сядзела ля акна, Валодзя побач. Адну руку паклаў ёй на плячо, а другою трымаў на каленях рукзак.

На пляж ішлі наўпрасткі, паўз дом адпачынку, потым мяккаю лагчынаю, па якой цякла невялічкая рачулка, плыткая, пятлястая, з падмывамі, абрывістымі беражкамі, на якіх густа раслі альховыя кусты.

У лагчынцы ўжо стаялі чырвоныя «Масквічы», маленькія тупаносыя «Запарожцы», па рачулцы плюхалася шумлівая дзятва з сачкамі ў руках. Тут прыпыняліся сямейныя, з дзятвою — і вада цяплейшая, і за малымі менш нагляду, і магазін бліжэй.

За лагчынаю сцяжынка пайшла пад узгорак, па маладым сасновым лесе. Тут яна была ўбіта нагамі, як заасфальтаваная, халодная, пасыпаная насохлаю, колкаю ігліцаю.

За ўзгоркам было возера, і яны доўга ішлі берагам па сыпучым, цёплым пяску — выбіралі, дзе меней народу, дзе ўтульней.

Непадалёку ад берага, у лесе, віднеліся палаткі, чуць дымілі маленькія вогнішчы, і ля іх хадзілі хлопцы і дзяўчаты, смяяліся, трэнькалі на гітарах.

— А хто гэта? — запыталася Валя.

— З начлегам прыехалі.

— Як з начлегам?

Яна ніколі не начавала ў лесе, ды яшчэ вясёлым гуртам. Вакол іх вёскі былі палі, якія яна любіла, калі красуе і спее жыта. Жытнёвае поле далёка, аж да самага небакраю, выгінаецца лёгкімі хвалямі, і тады пахне толькі жытам, нібы на ўсёй зямлі адно жыта! І добра ісці сцежкаю, гладзіць рукою пакорліва-важкія каласы, сядзець на мяжы, плесці валошкавыя вянкі, якія так пяшчотна туляцца да галавы халаднаватымі мяккімі пялёсткамі!..

— Ой, як добра!

— Добра. Я некалі на цаліне любіў сядзець начамі ля вогнішча. Стэп, цёмна, хлопцы спяць, а ты адзін... Давай пройдзем яшчэ, там, ля лодачнай, на ўзгорку прыляжам...

Пасля абеду падзьмуў лёгкі вецер. І натомленаму ў вадзе целу было прыемна адчуваць яго цёплыя павевы,— вецер свежа пах вадою, соснамі, пяском, але скуру пачало горача пашчыпваць.

— Ой, салака! Згарыш зараз. Ану, марш у ваду! Абсохнеш — і дадому! У электрычцы яшчэ не многа будзе.

— Не хочацца. Так добранька!

— Ах, лайдачка...

Валодзька падхапіў яе на рукі і панёс у возера, і яна шчасліва замахала нагамі, потым на момант заціхла,— яе нечага ўсхвалявала і збянтэжыла моц яго рук, яго цела, і было соладка-прыемна, што ён так прытуліў яе!..

Яна аж сцепанулася ад халоднае вады, спуджана загрэбла рукамі і нагамі — і паплыла! Валодзя паўдня, як ні біўся, не мог навучыць яе трымацца на вадзе, а тут раптам...

— О, сабачы брас! Маладзец, салака мая!

Валодзька шумна плёхнуўся побач, падхапіў яе на рукі і пацалаваў.

— Ну!

Яна спуджана азірнулася — ці хто не бачыў? — але пляж шумеў, плюхаўся ў вадзе, гуляў у валейбол, піў сітро і лена паглядваў праз цёмныя акуляры; і яна ўсміхнулася сваёй збянтэжанасці.

Потым яны хадзілі па беразе, пакуль не абсохлі.

Валодзька трымаў апусцелы рукзак за лямкі і глядзеў, як яна адзявала сукенку, і ёй нечага стала няёмка ад яго пільнага позірку; Валодзя, нібы адчуў яе збянтэжанасць, усміхнуўся і адвёў вочы.

— А я яшчэ ўсё роўна не хачу ехаць!



— Дождж будзе. Ты і так згарэла ўся. Паглядзіш, як вечарам загарышся...

— Адкуль ты ведаеш?

— Я многа чаго ведаю, салака.

Дождж і сапраўды даганяў іх, ужо ў горадзе. Парывісты, гарачы вецер закручваў на вуліцы пыл, ярка свяціла сонца, але на яго паволі і цёмна ўставала хмара, якая, здавалася, несла навальніцу.

Валодзя купіў у гастраноме паабедаць, і яны беглі да трамвайнага прыпынку; насцярожана паглядвалі цераз расчыненыя трамвайныя вокны — ці не пайшоў дождж? — беглі завулкам да хаты, усё роўна, як гулялі ў хованкі з дажджом. І паспелі дабегчы.

Дома гаспадыні не было. Валя збегала ў хляўчук, узяла пакладзены над дзвярыма ключ.

У хаце быў прыемны халадок, як і заўсёды ў драўляных дамах, калі не паляць у печы.

Валя адразу ж упала на ложак, раскінула рукі — аддыхацца.

А на дварэ ўжо нізка, нядобра зацямнелася, і вецер не ўнімаўся, і адчайна трапяталася тонкімі галінкамі і пяшчотным лісцем бярозка.

— Ой, як добра! — не стрымалася Валя.

— Ну, ну, уставай! Я есці хачу.

— А што ты купіў?

— Булка, каўбаса, напітак...

— Давай!

Валодзя разламаў папалам каўбасу, адчыніў аб табурэтку і падаў бутэльку. Валя села, прытуліўшыся плячыма да падушкі і выцягнуўшы ногі. Цела ўжо пачынала гарэць, аголеныя рукі заружавеліся, было горача і самой — мо таму такой смачнай здавалася булка з каўбасой і напіткам.

Калі яна крыху сагнала смагу і голад, падняла вочы, то ўбачыла, што Валодзя глядзіць на яе такім жа пільным, незразумелым ёй позіркам, якім глядзеў і на пляжы, калі вучыў плаваць, і калі апраналася, і яшчэ — яна не памятае калі, да сённяшняга,— але яна не звяртала ўвагі.

Валя збянтэжылася. Валодзя ўстаў, падышоў, узяў у яе з рукі бутэльку і паставіў на стол, прысеў побач, паглядзеў у вочы, дзіўна ўсміхнуўся, моцна ўзяў за плечы, прыціснуў да сябе і пацалаваў. Яна заціхла, адчувала, як нечым салодка-пякучым захліснула грудзі, прыліла да твару кроў; спуджаная, яна ўслухоўвалася ў сябе, спрабавала зразумець, што робіцца, і несвядома, інстынктыўна ўперлася рукамі ў Валодзевы плечы, паспрабавала не дацца пацалунку і адчувала, як моцна і ўладарна трымае ён яе, як млеюць яе рукі і вось-вось скорацца, але Валодзя сам адпусціў яе,— з цяжкаю палёгкаю, як нешта важнае вырашыў для сябе, і ўзяўся за напітак.

А Валя хуценька падкурчыла ногі, прытулілася ў кутку і, разгубленая, натапыраная, растрапаная, як спуджанае кацянё, усё не магла аддыхацца, супакоіцца, зразумець і адчувала, як недзе глыбока ў душы нараджалася радасць.

Валодзя ўстаў і адчыніў фортку.

Навальніцы не было, аціх вецер, які спачатку парывіста біў па даху хвалямі буйных рэдкіх кропель, і дождж ішоў з шырокім густым пошумам — і па даху, і па лісці бярозы, і па зямлі: ён быў цёплы і добры. І Валодзя падсеў да Валі, абняў за плечы і расказваў, як колькі гадоў таму назад, пасля навальнічнай жудаснай ночы са стра-

шэннымі, здавалася, на ўсё неба кустамі сініх ад лютасці маланак, як пасля гэтай ночы над стэпам хараша і чыста ўзыходзіла сонца, было росна — ён першы раз бачыў росным гэты сухі стэп,— светла і парыста-духмяна пахла цвёрдая зямля, і гаркава, дурманліва — невялічкі, бедны стэпавы палын! I не хапала грудзей, каб удыхнуць гэтую нечаканую жывую свежасць... А калі ехалі абедам на машыне, услед гэтак жа, як і штодня, віўся густы, дробны пыл і парыпваў на зубах.

Валя даверліва слухала, а потым, як і Валодзя, задуменна глядзела ў адно, на дождж, на буйныя бурбалкі, што ўскаквалі на лужынах. А Валодзя ўспамінаў тую ноч у стэпе. Ён тады начаваў не з хлопцамі, а ў пустой суседняй будыніне, на трысняговых матах, засланых старымі вайсковымі бушлатамі. З ім была Іра, паварыха. Валодзевых год дзяўчына. За ўвесь час знаёмства яна ніколі не дакарала яго, не патрабавала ад яго нічога. Яна ў тую ноч сумна гаварыла, што яны апошняе лета разам, і ён пры сініх сполахах бачыў яе заплаканы твар і запэўніваў, што гэта няпраўда, што яны будуць сустракацца, і разумеў, што Іра кахае яго, як ніхто не кахаў яго і ці пакахае яшчэ так, ды і сама яна наўрад ці будзе кахаць яшчэ другі раз так шчыра і аддана... І ўсё роўна ў іх нічога не зладзіцца: ён канчае аспірантуру, а яна...

Яшчэ зімою ён атрымаў ад яе паштоўку: выйшла замуж за лейтэнанта. Жыве за Свярдлоўскам... Ці гэта проста выдумала для яго, каб усё кончыць?..

Валодзя пайшоў адразу ж, як толькі кончыўся дождж.

Валя ўстала, зазірнула ў люстра, пакратала пальцам прыпухлыя, непаслухмяныя вусны, прытуліла на момант далоні да яшчэ гарачых шчок і весела і шчасліва засмяялася...

Назаўтра ў яе схлупіла ў горле, балюча было глытаць, гарэў лоб, не хацелася снедаць.

I настрой быў, як і надвор'е: пасля такога летняга, шчодрага дажджу за ноч усчаўся вецер, аблажыла неба і захаладала амаль па-асенняму.

Усё ж яна адседзела на ўсіх лекцыях і потым зайшла на медпункт,— з высланымі лінолеумам калідорамі, з белымі, зацёртымі да жаўцізны каля ручак дзвярыма, з пасланымі халодна-слізкаю цыратаю кушэткамі.

Жанчына-ўрач з пафарбаванымі ў саламяны колер і дробна завітымі валасамі памацала тонкімі халоднымі пальцамі пад барадою, заглянула ў рот і стала нешта хутка пісаць на вузкай прадаўгаватай палоску папары.

— Зойдзеце, возьмеце паласканне. Стрэптацыду. Тры разы ў дзень па адной таблетцы. Малако кіпячонае з содаю, чай з мёдам добра...

— Можа паляжаць мне? А то і галава баліць... А заўтра крос...

— Не магу. Забаранілі выдаваць усякія даведкі. Прыехала з міністэрства камісія, а вас і так не сабраць на лекцыі... Не.

У дробныя, ледзь прыкметныя маршчынкі, моцна напудраны твар жанчыны з ярка пафарбаванымі вуснамі быў звыкла спакойны.

Назаўтра Валя пайшла на крос, праўда, не бегала, стаяла пікетчыцай, вечарам піла чай і малако. Праз дзён чатыры горла перастала балець.

...Яна толькі прыбегла з заняткаў, паставіла на пліту ў калідоры, каб падагрэлася, каву, дастала з шафы новую, у буйныя рамонкі па



блакітным сукенку, прысела на ложак і раптоўна адчула, як нешта моцнае і няўмольнае пачало сціскаць сэрца. Яна ўстала, падышла да люстэрка, узяла памаду — і толькі свой збялелы твар з чырвоным пісягом на падбародку паспела заўважыць...

...Праз адзінаццаць дзён Валю выпісалі з бальніцы, наказалі без дазволу не ўставаць, пакуль хвароба не пройдзе; яна і сама адчувала, што тая няўмольная, жорсткая рука ўсё яшчэ трымае яе сэрца і, здаецца, толькі і чакае, каб зноў заціснуць.

Урачы гаварылі, што, калі пашанавацца, усё будзе добра. Валя верыла ім...

— А-ап!

— Ой, Валодзька! Як ты пракраўся?

— Па-кашэчаму. Ну як ты, салака?

— Ляжу.

— Нічога. Я пытаўся ў аднаго знаёмага медыка. Усё ў ажуры. Ну, перарасцеш...

— І мне казалі... Давай заўтра памаленьку сходзім у кіно. Так хочацца!..

— Не спяшай. Паберагчыся трэба... Ну... Знаеш, мы думаем заўтра з хлопцамі з начлегам у лес паехаць... Я табе яшчэ кнігу прынёс... Паправішся — удваіх з'ездзім. Хлопцы пакрыўдзяцца... Што без гітарыста!..

Валодзя спяшаўся гаварыць і не паднімаў на бледную, кволую дзяўчынку вачэй, а калі адважыўся, то ўбачыў, што Валя глядзіць у акно.

— Трэба паехаць.

Валя павярнула галаву да яго, і ён убачыў па шчырых святых вачах, што яна верыць усяму нагаворанаму, на хаду прыдуманаму — бесталкова і недарэчна.

Валя кіўнула галавою і зноў пачала глядзець у акно, дзе дзелавіта-спакойныя людзі ў брызентавых штанах і майках перагароджвалі вуліцу шчыльнымі дашчанымі шчыткамі, якія бела свяціліся на сонцы і, мабыць, свежа і смалiста пахлі. І ўспамінала, як надаўна снаўдаў па пляцоўцы туды-сюды бульдозер, падчэпліваў нажом маладзенькія, толькі адцвіўшыя яблынькі, яны паволі хіліліся, бы чапляліся галінкамі за напорыстае халоднае жалеза...

І недзе далёка-далёка варушылася трывога, што не ўсё так добра за гэтымі прыгожымі агарожамі, якія ставяць разумныя, самавітыя дарослыя людзі... Але гэтую трывогу перамагала, заглушала адчуванне вялікай радасці ад таго, што яшчэ будзе столькі ласкавага, шчодрага сонца, столькі зялёнае травы, дажджоў, столькі такога цудоўнага жыцця, з верай у якое толькі і можна адзінае, сапраўднае і кароткае шчасце чалавека на зямлі.

# ДОМА

Пра свайго маладзейшага Сымон стараўся не ўспамінаць, і толькі, бывала, Гэля калі надумаецца і ўздыхне:

— Як жа Паўлік наш?

Сымон тады толькі зіркаў на жонку, і яна замаўкала.

Два старэйшыя Сымонавы хлопцы аселі на зямлі, у суседніх вёсках. Казя пазней вывучыўся на трактарыста, а Іван цясляры у будаўнічай брыгадзе. Быў ён гэтакі ж, як і бацька, ладны, невысокі, смаглы з твару, чуць гарбаносы, з сінімі быстрымі вачыма, рухавы і працавіты — як сякерка, длубае і длубае, не прысядзе. А маладзейшы, Паўлік, быў высокі, тонкі, як бэзавы дубец-пасынак. І з малых год пачаў улягаць у паляванне. Прападаў то ў лесе, то дзе цішком з кнігаю. Ні на папрокі, ні на сварку — не аскірзаўся, глядзеў так спакойна, бывае, чуць усміхнецца, але ўсё роўна зробіць па-свойму. І надумаўся ехаць вучыцца на геолага. Сымон быў паспрабаваў прыгразіцца не пусціць, але сын адказаў, што збяжыць з дому. Была ў яго вачах гэтакая добрая ўпартасць, што падчас гарачы Сымон здаўся, хоць і не дараваў, што кінуў сын зямлю, папёрся лавіць жураўля ў небе. Сымон з малалецтва рабіў на зямлі, жыў з гэтага і не любіў адыходнікаў. І яшчэ мучыла Сымона, што пацягнула сына па доўгі рубель, па раскошу.

Колькі год ужо, як паехаў сын!.. Яшчэ калі вучыўся, разоў са два паказаўся дадому, але ненадоўга — адчуваў, што не дараваў яму бацька,— і зноў з'язджаў з бацькавых вачэй.

А пасля таго, як сын развёўся з жонкаю,— Сымона не перапрэчыш: зусім разбасячыў хлопец, распіўся!

Так гаварыў Сымон услых, а ў самога даўно прайшла тая крыўда, даўно турбавала сумота, мо таму ён і не хацеў слухаць гаворкі пра Паўла і ўступаць у яе — каб не выдаць сябе неасцярожным словам, а мо проста каб упэўніць сябе, што толькі ён сам ведае праўду.

Але ў гэту вясну Сымон усё часцей і часцей думаў пра маладзейшага, не прыкрыкваў на Гэлю, калі яна абзывалася пра сына. Маўчаў, як і не чуў быццам. І сам не ведаў, што гэта з ім робіцца, але адчуваў, што нешта надламалася ў ім,— ці не старасць брала сваё?

Яшчэ зімою даняў Сымона радыкуліт. Пайшоў быў параўняць у каровы ў пярэгарадцы, разоў колькі стукнуў сякераю па мерзляках — і адчуў, як востры боль працяў паясніцу. Так, ракачом, і дапоўз Сымон у хату, Гэля памагла ўзбавіцца на печ, на чарэнь, але боль не прайшоў; колькі дзён ён выграваў, націраў паясніцу і ногі барсуковым тлушчам — троху адпусціла: даштыльгаў сам з кіем да ложка, бо ад ляжбы на печы збалела ўсё цела. Праз тыдзень Гэля запрэгла каня і завезла Сымона ў бальніцу. Там больш за месяц шпілялі яму ўколы, «грэлі на лямпах».

Калі прыехаў дадому, сеў перад люстэркам галіць бараду,— не пазнаў сам сябе: шчокі запалі, былі бледныя, з нездаровымі, тоненькімі чырвонымі пражылкамі; неяк пабольшалі і як выцвілі вочы; і сам ён нібы паменшаў увесь.

Цяпер падабалася падоўгу сядзець нерухома на вясновым сонцы, якое так пяшчотна цепліць драўляную, у глыбокіх трэшчынах сцяну, корпацца ў садзе ці на градах і прыглядацца, як жоўценькімі храсткамі прабіваецца амаль з-пад лёду першая трава, як потым празрыста зелянеецца; знайшоў ён і тыя шпакоўні, што некалі яшчэ Паўлік быў навешаў у садзе. Сымон пазнімаў шпакоўні — разводзіць гэтую стракатую плойму, каб усе вішні паабівалі?! А цяпер зняў мерку, зрабіў аж дзве новыя шпакоўні і павесіў на яблынях, а калі раніцаю аблюбаваў адну з іх шпак, засвістаў так, што пер'е пад горлам стала дыбком,— Сымон загукаў Гэлі праз акно:

— Ідзі сюды!

І тая ад печы з чапялою выбегла на парог, перапалохана запыталася:



— Што?

І калі дайшла да толку, аж плюнула са злосці.

— Каб на цябе трасца! У мяне ж блінец згарыць! А ён дзяцініцца!

Сымон і сам дзівіўся, што з ім робіцца, і не хацеў пагаджацца, што гэта ад старасці, што гэта яна так угамоньвае яго, напамінае: падыходзіць тая пара, каб агледзецца на пражытае і перажытае і ўбачыць, што зладзілася, а дзе і даў ты, чалавеча, хібу. А калі пражылося цераз пень калоду, сабе на ўцеху і людзям на злосць! Тады цяжка заспакоіцца, і да канца будзеш злавацца на ўвесь белы свет і вінаваціць яго, каб неяк апраўдацца... Хоць ужо, як не круціся,— не выкруцішся... І калі ў жыцці было больш пражыта справядліва, захочацца неяк яшчэ паправіцца, каб і ўсё яно, жыццё, было гладчэй.

Ці не з-за гэтага і пачаў успамінацца Паўлік, заварушылася пад сэрцам забытая стрэмка: не ведаеш ты нічога, бацька, толкам пра сына, адкаснуўся некалі ад яго, і невядома, ці давядзецца стрэцца, пагаманіць. Ды і ці выйдзе тая гамонка?

Вечарамі Сымон доўга сядзеў, чытаў газеты. Ён ужо дрэнна бачыў, і таму чапляў на нос аж двое акуляраў, звязаных суравымі ніткамі, і лямпачку апускаў з-пад столі да самага стала. Як натамляліся вочы, уключаў радыёлу, слухаў не толькі музыку, але і незнаёмую гаворку — спраўна гергечуць!

Лажыўся спаць за поўнач, а падымаўся да сонца, тупаў па хаце, і Гэлька бубніла:

— Ужэ ўспароўся! І сам не спіць, і другому не дасць!

— Ды ўжэ ж і пара...

— Пара, пара! Няма табе толку!..

Сымон ішоў на двор, выходзіў на вуліцу, пустэльную, мокрую ад расы, з кустамі бэзу і травою паўз платы, нечым падобную на растрапаную пасля сну маўклівую гаспадыню; і ўжо як пройдзе статак, пачнуць бразгаць ланцугі на калаўротах і вёдры аб цэментавыя трубы калодзежаў, перакінуцца словамі суседкі праз вуліцу, праедзе на веласіпедзе брыгадзір, пакідаючы белы слядок ад колаў на вільготным ад расы пыле, пачнуць сыходзіцца да лісціка са школьнага сшытка, на якім размашыста напісаны нарад на работу, мужчыны, гучна штукарыць, закурваць махорку,— ажывае тады вуліца, становіцца дзённа-звыклаю.

...Сымон толькі лёг, не паспеў яшчэ нават задрамаць, як у дзверы моцна загрукалі,— так загрукаць маглі толькі знаёмыя. «Мабыць, з кароваю ў Валодзі нядобра»,— падумаў Сымон пра суседа. Яго збродная карова ўцякла ўдзень з чарады, нахапалася лубіну. Праўда, Валодзя ўзяў каня і цэлы надвячорак ганяў карову.

Сымон, як і быў, у споднiках, выйшаў у сенцы, адняў ад дзвярэй завалу і патупаў у хату. Ён спачатку не зразумеў, чаго гэтак завохкала і кулём скацілася з печы Гэля. Агледзеўся: у хаце стаяў Паўлік, ніяк не падобны на таго, якога памятаў бацька,— высокі, шырокі ў плячах, у кароткай, бліскучай пры святле, адзежыне, у адпрасаваных штанах. Шчыгульныя яго чаравікі былі ў гразі. А сам ён без шапкі, коратка пастрыжаны... і з акладзістаю чорнаю барадою.

Гэлька, раструханая са сну, разгублена ступіла, па прывычцы вышцерла руку аб спадніцу, працягнула сыну, але ён не падаў свае, абняў і пацалаваў.

Сымону пацiснуў руку, кіўнуў галавою і пачаў знімаць з плеч вялікі, як абозня, рукзак.

А Сымон усё стаяў і не ведаў, што гаварыць, што рабіць.

— Ну што ты стаў, бацька! Штаны хоць адзень!.. Разбасаўся



тут! — прыкрыкнула на яго Гэлька, і ён паслухмяна і збянтэжана патупаў да свайго ложка.

Калі ён зноў увайшоў на кухню, Павел распакоўваў рукзак, а Гэля распальвала на прыпечку керагаз, ужо паспела збегаць у каморку па сала і распытвалася:

— Дык ты пасьледнім аўтобусам ехаў? Трэба было напісаць, пад'ехаў бы бацька.

— Помню дарогу, мама. Тут вам з бацькам унты прывёз на зіму.

— Дзякуй, сынок, нашто было мучыцца,— шчаслівa абазвалася Гэля.

— Дзякуй, Павел!

У Сымона яшчэ не прайшла разгубленасць і збянтэжанасць, і ён ніяк не мог асвойтацца, камячыў у руках, разглядваў незнаёмы, бухматы і лёгкі абутак.

— Ты б, Сымон, не таптаўся, пайшоў бы глянуў чаго на стол...



Сын тым часам распрануўся. Быў ён у касцюме, у белай кашулі, пры гальштуку — зусім гарадскі.

Патэльня з распечанымі яйкамі, салам стаяла на стале; Гэля паспела злазіць на вышкі і зняць кілбасу, пакуль Сымон прынёс з пограба мочаных яблыкаў.

— Ты б мо скінула яечню на талерку,— папракнуў жонку Сымон.

— Можна, але ж гэтак цяплей будзе. Ці мо зняць, Павел?

— Да не, што вы.

— Ты, бацька, ідзі яшчэ качанчык капусты вазьмі. Ён жа любіць...

— У мяне тут каньяк з сабою,— сказаў сын, калі селі за стол. Ён дастаў бутэльку, адвінціў корак, але не наліваў — хай гаспадар спачатку налівае сваю. Сымон зразумеў сына, усміхнуўся:

— Як ты надумаўся прыехаць?

— Тыдняў два вольных. Сеў і прыехаў.

— А з жонкаю як?

Сымон ужо і сам сумеўся, што запытаў, але Павел, нібы не пачуў, нічога не сказаў, разліў у шклянкі каньяк.

— Ты ж не лі бацьку гэтак многа! Ён у Антося раз — хлопец быў нечага такога салодкага прывёз — напіўся, адале яго як узяло, дак я вяду дадому, а ён згледзеў слуп і раве: «Здароў, Толя!» І прэцца абняць. Ледзьве ўтрымала. Пасынак цымянтовы, дык, думаю, галаў паб'е, а каб так слуп, то пярун бы яго дзяржаў!..— паспешна і весела загаварыла Гэля, і сын усміхнуўся, а Сымон пад сталом ціскануў Гэліну нагу і буркануў:

— А і сама, як лісіца, прысела, лізнуць хочаш!..

Павел глядзеў на бацькоў і ўсміхаўся ўжо шчыра, шырока і гаркава — бачыў, як падаліся, пастарэлі яны і нечым падобны на дзяцей, наіўных і разумных дзяцей. І ці давядзецца яшчэ калі пабачыць яму іх, вось так пасядзець. Ды і бацька ўсё вінавата пазірае і пазірае на яго, а мо яшчэ і злуецца...

Прачнуўся Сымон, як звычайна, ступіў на падлогу і здзівіўся — канапа, на якой паслалі Паўлу, была заслана, толькі табурэтка стаяла на сваім месцы: караткавата было сыну і давялося пад ногі падставіць табурэтку. Тут жа на спінцы крэсла вісела і сынава адзенне.

Сымон паспешна апрануўся і патупаў на двор, прыадчыніў дзверы з сянец.

Павел мыўся на дварэ. На лаўцы стаяла эмаліраваная міска з вадою, у чырвонай мыльніцы ляжала мыла, а сын, падпяразаны ручніком, браў прыгаршчамі ваду і плюхаў сабе на грудзі, на плечы. Сымон быў памкнуўся выйсці — паліць, але сумеўся: наўскасяк на спіне Паўла віднеўся страшны ружовы рубец з сінім адценнем і тоненькаю кволаю скураю, якая, здаецца, лопне, калі зачэпіш яе.

Сымон асцярожна прычыніў дзверы і пайшоў у хату.

Потым зайшоў і Павел з ручніком на плячах, ветла ўсміхнуўся і, стоячы тварам да бацькі, хутка ўсцягнуў майку і кашулю, акуратна расчасаў мокрую і бліскучую ад вільгаці бараду.

— Чаго гэта ты так рана?

— Прывык, прайду троха, пагляджу.

Сымон выйшаў за Паўлам да варот і бачыў, як ён ішоў вуліцаю ў канец, а далей накіраваўся да лесу. І Сымон здагадаўся, што пайшоў сын на тыя сцежкі, якія памятаў і якія, мабыць, і павялі яго далёка, ах як далёка, а цяпер многія зараслі верасам, травою і дзя-

цельнікам. Заварушылася старая крыўда: не зайшоў, не глянуў у хлеў, вакол будынка не абышоў, агароду не глянуў, а папёрся ў лес...

Вярнуўся Павел, калі Гэля ўжо ўхадзілася, зрабіла снеданне і схадзіла да суседак. Бацька стрэў яго на панадворку.

— Дзе ж ты быў?

— Ды нідзе...— голас у яго быў цяжкі. У Сымона кальнула глухая трывога: успомніў той рубец на сынавых плячах, які, мабыць, баліць яму, і таму Павел так сцяўся і ідзе, як адзервянелы.

— Павел, а што ў цябе на плячах?

Сын раптоўна спыніўся і паспешна загаварыў:

— А так! Каменем у гарах, ярунда... Толькі друга... Да мацеры яго еду...

Ён не дагаварыў, зноў пайшоў, шпарка, як уцякаў, і Сымон ледзь паспяваў следам: бадай, многа Павел ляжаў у бальніцы, каб на дабро, то ў гэту пору быў бы ўжо на рабоце, недзе ў лесе ці ў гарах, ці дзе ён яшчэ там бывае...

— Напісаў бы...

— Нашто? Усё прайшло.

— Дак мо яшчэ пабудзеш?

— Паеду заўтра. Трэба ж заехаць...

Больш Сымон нічога не пытаў, стараўся толькі не адставаць...

Вечарам Павел расказваў, як ездзяць на аленях, на сабаках, і маці толькі вохкала і не верыла — няўжо гэта сабакі пацягнуць? — а Сымон пільна глядзеў на сына і ведаў, што думае ён пра другое: як паедзе да гэтакае ж старое і скажа, што няма ў яе больш сына — і бачыў моцныя, негуляшчыя сынавы рукі, і зморшчынкі ля воч, і нялёгкія, глыбокія маршчыны на лбе, і рэдкія белыя павуцінкі сівізны ў валасах — і ўжо ведаў, што хапіла сыну на вяку, што і сам ён саліў яму, а цяпер не скажаш, не раскажаш па парадку, хоць і забыўся сын на тую даўнюю і цяпер смешную і нязначную крыўду, як забыўся і ён, Сымон, а ўсё роўна зчужэлі адзін аднаму, і цяпер было шкада, што не змаглі неяк сустрэцца, занятыя кожны сваёю работаю, не хапіла часу на гэта, а цяпер бы было лягчэй аднаму і другому, і мо таму ў душы разам з радасцю за сына, з гонарам за яго нялёгкую і чэсную работу была і горыч. І пойдзе сын далей сваёю дарогаю, невядома, ці і давядзецца сустрэцца больш ім, і маці будзе радавацца, што здаровы ён і добра адзеты.

І ўжо калі палеглі спаць, Сымон паклікаў сына:

— Я, як што якое, тэлеграму адаб'ю...

— Я прыеду, тата, прыеду,— ласкава, як з дзяцінства, адказаў сын,— прыеду...

Голас яго быў ціхі і вінаваты, і ён не ведаў, ці засне ў гэтую ноч, другую ноч дома...

● Мікола МЯТЛІЦКІ





## *Бяроза*

На берагах тваіх мурожных
Сузор'ем кветкі расцвілі.
Але чаму ж тады трывожна
Крычаць у небе жураўлі?

Няўжо іх сэрцам тое ж блізка,
Што стала болем для мяне?
Няўжо, як мне, ім абеліскі
Напамінаюць аб вайне?

Я — на зямлі, а птахі — ў высі
Адчулі разам неспакой,
Не абмінаем абеліскі,
Не абыходзім стараной.

Спяць ля бярозы партызаны,
Здаецца, прыляглі на час.
О, адпусціце іх, паляны,
Дамоў са службы. У запас.

Яны за клінам жураўліным
Пайшлі б у сонечную даль...
Стаю. Не гаснуць успаміны,
Як не змаўкае голас хваль.

## *Над Барысаўшчынай снег*

Колькі радасці і ўцех —
Сэрца маладзее:
Над Барысаўшчынай снег—
Белая завея.

Едуць хлопцы да дзяўчат,
Да нявест у сваты,

Рассыпае жарты сват —
Бойкі, зухаваты:

«На Барысаўшчыне, брат,
Цешча значыць многа!
Яшчэ болей — добры сват
Для дзянька такога...»

Б'юць па снезе капыты
Зладжана і дружна,
І любуюцца сваты,
Як сняжынкі кружаць.

Колькі радасці і ўцех —
Сэрца маладзее:
Над Барысаўшчынай снег —
Белая завея.

## *Сакавік*

На зімні лад яшчэ абуты,
У наступ рушыў сакавік.
І адступае месяц люты
Пяшком на поўнач, за Палік.

У нераспелай звонкай цішы
То там, то тут пачуеш хруст, —
З плячэй ахапкамі, як лішні,
Скідае лес зімовы груз:

Нямнога — зайчыку пад ногі,
Бярэмя цэлае — лісе,
А ком пудовы — у бярлогу,
Дзе Мішка лапу яшчэ ссе.

Даўжэе дзень. Святлеюць далі.
Устрапянулася рака.
Галінкі сокам набрынялі
У чаканні першага лістка.

● Васіль ВІТКА


Фота 1928 года.

# ЧАСЦЕЙ ГЛЯДЗІЦЕ НА ЗОРЫ

Калі ў астрафізіка акадэміка Амбарцумяна спыталіся, не без іроніі, вядома: — якую практычную карысць дае вам ваша работа, ён адказаў: — Чалавек адрозніваецца ад свінні тым, што ён часам усё ж задзірае галаву ўгару і глядзіць на зоры.

Колькі яшчэ сярод нас думае так: якая карысць з таго, што чалавек глядзіць на зоры, слухае шум дрэў, спеў птушак, дзівіцца ўсходу сонца, не гаворачы ўжо аб паэзіі, музыцы, аб літаратуры.

Можа быць, чалавек, які першы падняў галаву і ўбачыў начное неба ў зорах, якраз і стаў тым, з каго пачалося паэтычнае радаслоўе: думка, трывожны вобраз, народжаныя здзіўленнем.

Калі нехта ў тым, што я паспеў зрабіць, знойдзе вартае ўвагі і прызнае паэзіяй, дык, можа быць, яму цікава будзе знаць, што стаў я паэтам не тады, калі напісаў першыя вершы. Яны якраз, можа, і не паэзія. Сапраўдная паэзія, як я разумею цяпер, прачнулася, абудзілася ўва мне, у маёй душы, калі я познім вечарам выязджаў з вёскі на начлег і ўсю дарогу, задраўшы галаву ў неба, глядзеў і не мог адвесці вачэй ад незразумелай для мяне велічы зорнага сусвету. Здзіўленне, захапленне — і пры ўсім пры гэтым — жаданне, няхай сабе голасам птушкі, мошкі, камара ўсё ж выказаць сваю радасць, што і ты ва ўсёй гэтай велічы займаеш сваё месца і намагаешся зразумець, дзеля чаго яно табе вызначана.

Пазней, будучы ўжо ладным падлеткам, я ішоў у зімовы марозны дзень са Слуцка па гасцінцы. Абапал стаялі ў інеі старыя ніцыя бярозы. Такое хараство, такая казачнасць, цішыня. І мне чамусьці так захацелася выказаць, спасцігнуць душою ўсё тое, што я бачу і адчуваю, але я не мог і не ўмеў. І я настолькі расчуліўся ад горкай крыўды, ад бездапаможнасці і няздатнасці, што стаў пасярод гасцінца і заплакаў.

Чаму я запомніў і пранёс праз жыццё два гэтыя, на першы пагляд, нязначныя, здарэнні?

Думаю, што якраз гэта тыя моманты, калі ўва мне, як і ў многіх з нас, абуджаўся паэт, але я нічым не мог памагчы яму.

Можа быць, мы так і пражылі ўсё жыццё: часта ён даваў знаць аб сабе, прасіўся на свет, а я быў яму не чулым, благім таварышам...

Пачаўшы друкавацца ў семнаццаць год, першую кніжачку я выдаў, калі мне было трыццаць тры.

У 1928 годзе я напісаў паэму, якая называлася «Шостая ноч». Страчаная назаўсёды, яна мне здаецца нават цікавай. Памятаю толькі пачатак:

**Шосты дзень — ці ж не азыскне,**
**Шосты дзень — пакуты, небыт.**
**Плача маці над калыскай,**
**Просіць помачы у неба.**
**А яно зякрастым вокам,**
**А яно — халодны нерат,**
**Недасяжна і далёка —**
**Ці ж пачуе, ці ж паверыць?**

Паэма была прысвечана самаму любімаму майму вобразу — маці. Яе адзінае дзіця пры смерці. У роспачы апошняй, шостай ночы яна звяртаецца да другой маці, той, што на покуце: памажы, заступіся, ты адна павінна зразумець маё гора! Але дзіця памірае. Матчын адчай даходзіць да жахлівай мяжы:

**З-за лавы сякеру схапіла — ох!**
**Маланка бліснула — і**
**Ляжалі кавалкі ісусавых ног**
**У мроку кармінная крыві...**

Відаць, не толькі гераіня перабрала меру, а і сам аўтар. Паэму меліся надрукаваць у «Вясне», але раздумалі, каб не цвяліць пачуццяў тады яшчэ вельмі моцнай рэлігійнасці...

І ўсё ж маладосць ёсць маладосць, нават позняя. Але прыемней, вядома, прыгадаць свае першыя сустрэчы з ёй, ранняй, з паэзіяй — каханкай на ўсё жыццё.

Таму я папрасіў «Маладосць» надрукаваць мае самыя першыя вершы. Пацешце старога, быццам усё пачынаецца нанава. Перапісаў я іх з памяці. Цікава, што не ўцалелі на паперы, а ў памяці жывуць, не зважаючы на сваю наіўнасць, недасканаласць, жывуць, пакуль жывеш сам, як успамін юнацтва, няхай сабе цяжкага, галоднага, халоднага, а ўсё ж — лепшай пары жыцця.

●

**На чоўне сабраўся ў бязмежную даль,**
**У шлях невядомы, бясконцы.**
**Хай бераг далёка, а я паміж хваль**
**На сонца вяслую, на сонца!**

**1928.**

●

**Як з падзіву анямелая**
**І застылая ў знямозе,**
**Заламала рукі, заламала белыя**



**У адчаі**
**На марозе**
**Пры дарозе.**

**Раптам ветрык шугануў —**
**І скінуў чары.**
**Паднялася,**
**Усміхнулася**
**Яна.**
**Нездарма завейнымі начамі**
**Снілася мне**
**Блізкая вясна.**

**Падвязала хустку новую**
**І, шчаслівая, пабегла ў вёску**
**З першай**
**Весткаю вясновую.**
**Добры дзень,**
**Мая бярозка!**

**1928.**

●

**Выйдзі адвячоркам у жытное поле**
**І паслухай пошум спелых каласоў.**
**Спадзяванні светлыя ажывуць на волі,**
**А былое, прошлае патане ў пясок.**

**Патане, не вернецца, у вятрах развеецца,**
**Змыецца навечна хвалямі жыцця.**
**А твая сцяжынка сцелецца і сцелецца,**
**Вабіць у нязведаны прасцяг.**

**1928.**

●

**Паглядзі на жоўталісты сад.**
**Вунь ідзе між яблынь лістапад**
**І з вялізнага лазовага каша**
**Прадае падсмажаныя пернікі зямлі**
**За цану наспелай медзі ліп.**
**А лісты шуршаць, шуршаць, шуршаць.**

**Нехта пальцамі руплівых добрых рук**
**Ледзь крануўся сеткі павуцінных струн.**
**Пэўна, хоча пад суладны ціхі шум**
**Прывітаць, уславіць восені прыход,**
**Скінуць з плеч цяжар мінулых год**
**І напоўніць новай радасцю душу.**

**Восень, восень! Тыя песні, пераззвоненыя ўсе,**
**Адгулі бяссследна ў пустацветавай красе,**
**Што спяваў табе калісь паэт,**
**Сумаваў, што стух пурпур параненых**
**вяргінь, —**

У жыццё прыйшоў другі
Здзейсніць свайго сэрца запавет.

Паглядзі на жоўталісты сад.
Вунь ідзе між яблынь лістапад.
Яснай песняй поўніцца душа, —
Мабыць, ведае, аб чым лісты шуршаць.

1928.

# ПЕРАКЛАДЫ

● Ян ПЛОТНІЕК

## Прызнанне робата

Я — стальны ўвесь,
Затое натуру рахманую маю.
Я гарэлкі не п'ю,
Не грашу.

Пад настрой
Сам паціху сабе паспяваю,
Ну а вершаў,
А вершаў, дальбог, не пішу.

Праўда, ёсць у мяне,
Ёсць надзейнае сэрца, —
Усё помніць яно —
Кожны знак,
Кожны факт.
Хоць чуллівае,
А не жахаецца смерці.
Што яму
Ваш нікчэмны інфаркт!

Я — стальны ўвесь.
Па формулах,
Прызмах,
Спіралях
Лёгка,
Спрытна,
Дакладна
Умею чытаць.
Ды ні разу чамусьці
Не правяралі —
А ці ўмею,
Ці ўмею
Кахаць.

Вы дарэмна
Упэўнены,
Што такім застануся —
Без душы, без пачуццяў,
Без кахання навек.



Доўга я так не выцерплю —
Схамянуся,
Прачнуся
І за розум вазьмуся,
За цябе, чалавек.

## Шрамы

Пад карою зараслі асколкі,
і рубцы на дрэвах не значны.
Не загойваюцца раны толькі,
шрамы, што прынесены з вайны.

Цяжка стогнуць камяні начамі
на братэрскіх курганах яшчэ.
І не спяць, не спяць аднапалчане —
Боль не ціхне, як агнём пячэ.

Іх даўно галовы пасівелі,
а маршчыны — кожная, як шрам.
Як яны калісь кахаць хацелі,
верылі сваім юнацкім снам!

Бо юнацтва іх было зарукай
і надзеяй будучага дня...
Хтосьці і цяпер шукае рукі,
Каб сваю каханую абняць.

І яшчэ ўсё мроіцца аблічча любай,
той адзіны дарагі пагляд,
тыя косы, тыя вочы, тыя губы,
што варожы спапяліў снарад.

Перабежкамі з пагорка на пагорак,
перад памяццю і вернасцю ў даўгу,
ў бой ідуць яны, аж покуль вораг
куляю не скосіць на бягу.

Зараслі ўсе пад карой асколкі,
і рубцы на дрэвах не відны.
Не загойваюцца раны толькі,
шрамы, што прынесены з вайны.

## Ніколі!

Так павялося,
Вядзецца вякамі,
І мы яго добрым,
Сумленным лічым,
Хоць вінаваты
У няшчырасці самі,
А непрыняты
Лагодны звычай.

Ціха народзімся,
Згаснем, як свечка,

Хілімся, горбімся
Перад славечкам.

Хоць не было ў нас
Ні ладу, ні згоды,
Стаяла глухая
Сцяна паміж намі,
Усё ж для прыстойнага
Абыходу
Ў час ростані скажам:
«Будзем сябрамі...»

Воўкам завыць бы
Са злосці парою,
Рынуцца ў бойку,
А ты — за браму,
І злыдню ківаеш
Услед галавою:
«Будзем сябрамі...»

След маладосці
Сатрэцца гадамі,
Вырай апошні
Мільгне над палямі, —
Каханне мне скажа
Сухімі губамі:
«Застанемся
Толькі
Сябрамі...»

Не трэба
Мне літасці
І спачування!
Мы — ворагі,
Ворагі з вамі.
Ніколі вернасці
І каханню
Са здрадай
Не быць сябрамі.

З латышскай мовы.

*Хутка на старонках часопіса*
*будзе надрукавана*
*паэма Ніла Гілевіча*
*«НЕДЗЯЛЕНЯ»*

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Людміла ГАНЧАРОВА
- Ілья НЕМАГАЙ
- Віктар ДАЙЛІДА
- Аляксей ГАРДЗІЦКІ
- Рыгор БЯРОЗКІН
- Уладзімір ЮРЭВІЧ
- Алег СЛУКА
- Яўген КРУПЕНЯ
- Уладзімір МАРХЕЛЬ
- Аляксандр БОЛСУН
- Аркадзь ПАДЛІПСКІ
- Сяргей АЛАДЗЬЕЎ
- Аляксей СУЭЦІН
- Надар ДУМБАДЗЕ





На трыбуне — Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. БРЭЖНЕЎ.

# XXIV З'ЕЗД КПСС

З 30 сакавіка па 9 красавіка ў Маскве ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў праходзіў чарговы XXIV з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

З'езд разгледзеў важнейшыя пытанні палітычнай, эканамічнай, ідэалагічнай і арганізатарскай дзейнасці партыі, падвёў вынікі гераічнай працы савецкага народа ў мінулым пяцігоддзі, распрацаваў дакладную палітычную лінію і намеціў ясныя перспектывы далейшага развіцця краіны, вызначыў праграму новага ўздыму эканомікі і культуры, павышэння дабрабыту працоўных, развіцця сацыялістычнай дэмакратыі, праграму паслядоўнай барацьбы супроць імперыялізму, за мір, дэмакратыю і сацыялізм.

Са Справаздачным дакладам Цэнтральнага Камітэта КПСС на з'ездзе выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС таварыш Брэжнеў Л. І. У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел дэлегаты ад камуністычных партый усіх саюзных рэспублік,буйнейшых гарадоў, прамысловых і сельскагаспадарчых раёнаў краіны, прадстаўнікі рабочага класа, калгаснага сялянства, інтэлігенцыі, моладзі, армейскіх камуністаў.

Аб рабоце камуністаў Савецкай Беларусі за справаздачны перыяд расказаў першы сакратар ЦК КПБ таварыш Машэраў П. М.

З дакладам «Дырэктывы XXIV з'езда КПСС па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гг.» на з'ездзе выступіў Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш Касыгін А. М.

З'езд адобрыў палітычную лінію і практычную дзейнасць Цэнтральнага Камітэта КПСС, зацвердзіў Дырэктывы XXIV з'езда КПСС па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады, выбраў цэнтральныя кіруючыя органы партыі.

На першым Пленуме Цэнтральнага Камітэта партыі членамі Палітбюро ЦК КПСС абраны таварышы: Брэжнеў Л. І., Воранаў Г. І., Грышын В. В., Касыгін А. М., Кірыленка А. П., Кулакоў Ф. Д., Кунаеў Д. А., Мазураў К. Т., Падгорны М. В., Палянскі Д. С., Пельшэ А. Я., Суслаў М. А., Шалепін А. М., Шэлест П. Я., Шчарбіцкі У. В.

Кандыдатамі ў члены Палітбюро ЦК КПСС абраны таварышы: Андропаў Ю. У., Дземічаў П.Н.,Машэраў П. М., Мжаванадзе В. П., Рашыдаў Ш. Р., Усцінаў Д. Ф.

Сакратарамі ЦК КПСС абраны таварышы: Брэжнеў Л. І.— Генеральны сакратар ЦК КПСС, Дземічаў П. Н., Капітонаў І. В., Катушаў К. Ф., Кірыленка А. П., Кулакоў Ф. Д., Панамароў Б. М., Саломенцаў М. С., Суслаў М. А., Усцінаў Д. Ф.

У рабоце з'езда прыняла ўдзел 101 дэлегацыя камуністычных, нацыянальна-дэмакратычных і левых сацыялістычных партый з 90 краін свету.

Камсамольцы, юнакі і дзяўчаты разам з усім савецкім народам горача ўхваляюць палітычную лінію і праграму партыі па будаўніцтве камунізма і абавязваюцца з вялікай энергіяй і натхненнем працаваць над выкананнем Дырэктыў па новай пяцігодцы, над рэалізацыяй рашэнняў, прынятых з'ездам.



Таварышы Л. І. БРЭЖНЕЎ, А. М. КАСЫГІН, М. В. ПАДГОРНЫ, П. М. МАШЭРАЎ сярод дэлегатаў ад Беларускай партыйнай арганізацыі.

Фота Л. Папковіча і Л. Эйдзіна.



◀ Адзін з лепшых сталявараў Мінскага трактарнага Георгі Яромін.

Канструктары Аляксандр Мацюшкін, Міхаіл Мялешка, Антон Кузняцоў, Уладзімір Прохараў.



# ХВАЛА ТРАКТАРУ



◀ Новыя беларускія трактары — МТЗ-120 і МТЗ-80.

Хвалю трактар — часцінку гісторыі нашай краіны. Як сімвал новага ладу на сяле, як атрыбут сацыялістычнага грамадства, як машыну, з дапамогай якой змянілася псіхалогія селяніна,— хвалю трактар!

У Пінску, у музейным дворыку, на пастаменце — нязграбны і смешны ХТЗ. Помнік машыне, якая ў 1939 годзе разам з Савецкай уладай прыйшла да сялян Заходняй Беларусі.

Хутка і ў Мінску стане на п'едэстал трактар. Не ХТЗ, не чалябінскі, не сталінградскі, не кіраўскі, хоць усе яны маюць да Беларусі самае непасрэднае дачыненне. А наш, беларускі, МТЗ-2.

Трактар № 1 гэтай маркі, выпушчаны 14 кастрычніка 1953 года, цяпер шукаюць мінскія трактаразаводцы. Шукаюць з прычыны юбілею завода. Хочуць на сваім свяце ўшанаваць першынца свае працоўнае славы.

Паслядоўнасць патрабуе ад нас дакладна высветліць гісторыю завода, які існуе з 29 мая 1946 года, гэта значыць, 25 гадоў. На жаль, немагчыма падрабязна расказаць пра Мінскі трактарны — атрымаўся б салідны том. Паспрабуем тэлеграфным стылем пераказаць, як сталеў завод, як выйшаў на першае месца сярод падобных яму прадпрыемстваў у краіне і стаў першым, самым вялікім заводам на Беларусі.



...За Сляпянкай, дзе канчаўся Мінск і пачынаўся лес, у чэрвені 1946 года загрымела, загуло. Замігалі блакітныя маланкі электразваркі, над соснамі краны ўзняліся, бульдозеры пачалі часаць глебу.

На будаўніцтва трактарнага прыехалі франтавікі. З акопаў — на рыштаванні. З танкаў — на экскаватары.

Прыехалі партызаны. З лесу — у лес. Лес адступаў, і на яго месцы выраталі карпусы. Вырастаў горад — жылы пасёлак трактарнага.

Прыехалі хлопцы і дзяўчаты з Магілёўшчыны, Гомельшчыны, Брэстчыны, з родных хат — у палаткі, у баракі. Ад плуга — да станка. Ад зямлі — да трактара.



◀ У ліцейным.

Склад экспартных запчастак.

◀ Інжынер-канструктар Галіна Ганчарэнка — артыстка народнага ансамбля «Лявоніха».



справы партыі—справы народа

Змардаванай, спустошанай зямлі патрэбны былі трактары. Так патрэбны, як танкі ў вайну. Патрэбны для таго, каб зніклі чэргі за хлебам, які давалі па картках, каб пад'елі хлеба партызанскія дзеці і ленінградцы.

Завод хутка будаваўся, і адразу ж, як толькі ўзнікаў дах над новым корпусам, у корпусе пачыналі працаваць станкі.

Вучыцца рабіць сталёвых коней ездзілі ў Чалябінск, Харкаў, Барнаул, Сталінград, Златаўст. Першую канструкцыю ўзялі з Кіраўскага завода ў Ленінградзе (былы Пуцілаўскі — роданачальнік савецкіх трактароў); КД-35, гусенічны, магутнасцю 35 конскіх сіл. Ён сышоў з канвеера 4 лістапада 1950 года.

Тады яшчэ не планавалася, што Мінскі трактарны завод стане самым магутным у краіне па колькасці выпускаемай прадукцыі. Не планавалася прадаваць беларускія трактары ў 52 краіны свету. Не думалася, што 1971, юбілейны год завод адзначыць 900-тысячным трактарам «МТЗ-Беларусь».

Пасля КД-35 выпускалі КТ-12 — тралёвачны трактар, такі неабходны

на лесанарыхтоўках,— савецкая зямля адбудоўвалася, ёй патрэбен быў хлеб, каб уволю пад'есці, і лес, каб узвесці новыя дамы, школы, бальніцы.

З МТЗ-2 пачынаецца самастойная гісторыя беларускага трактара. Цёмна-вішнёвага колеру, на гумавых колах, прапашны трактар «Беларусь» стаў важнай вехай на шляху росту беларускага рабочага класа, і ў айчынным машынабудаванні, і ў сучаснай навуцы. На яго базе былі створаны новыя мадэлі, якія выпускаліся да 1962 года, пакуль не саступілі месца новым — МТЗ-50 і МТЗ-52.

Менавіта з гэтымі мадэлямі звязана сучасная слава Мінскага трактарнага. Ордэн Леніна і ордэн Кастрычніцкай Рэвалюцыі на заводскім сцягу — знакі народнай павагі да калектыву рабочых і інжынераў, якія выпускаюць па 80.000 гэтых трактароў за год. Сіненькія хуткія машыны вядомы цяпер ва ўсёй нашай краіне. Ярка-чырвоныя — на ўсіх кантынентах свету.

Гэтая слава звязана з высокай надзейнасцю ўсіх вузлоў і агрэгатаў мінскага трактара: 6000 рабочых гадзін без капітальнага рамонту — такі мотарэсурс чырвоных і сіненькіх. Універсалізм — другая цудоўная ўласцівасць нашых машын: яны лёгка выконваюць мноства сельскагаспадарчых работ, хутка ідуць па дарогах. Нездарма сям'і трактароў МТЗ-50 прысуджаны дзяржаўны Знак якасці.

Вясну 1971 года нашы трактарабудаўнікі сустракаюць з новым трактарам — МТЗ-80. Новая машына паспяхова праходзіць выпрабаванні.

Хоць каля 80 працэнтаў вузлоў і агрэгатаў МТЗ-80 уніфікавана з трактарам МТЗ-50, гэта прынцыпова новая машына. Павысілася агульная хуткасць і разам з тым паявілася новае прыстасаванне — ходапамяншальнік,— каб можна было высаджваць расаду гародніны. Глыбіню ворыва цяпер можна рэгуляваць з дапамогай сілавога рэгулятара. Заднія колы рассоўваюцца проста з кабіны трактарыста. Сама кабіна стала больш зручнай і ўтульнай. І яшчэ мноства канструкцыйных змен на карысць трактарыста і зямлі: новы трактар можа працаваць з 162 сельскагаспадарчымі машынамі і прыладамі. Цікава параўнаць некаторыя паказчыкі новага трактара і такіх вядомых машын, як МТЗ-50 і «Масей—Фергюстон» (Англія).

| | МТЗ-50 | МТЗ-80 | «Масей—Фергюстон» |
|---|---|---|---|
| Магутнасць (к. с.) | 55 | 75—80 | 72,5 |
| Удзельны расход паліва $\frac{г}{к.с.гадз.}$ | 195 | 190 | 185 |
| Удзельная металаёмістасць $\frac{кг}{к.\ с.}$ | 49 | 38 | 40,5 |

Прадукцыйнасць працы МТЗ-80 (у параўнанні з трактарам МТЗ-50) узрасце ад 16 да 58 працэнтаў. Гэта дасць народнай гаспадарцы 60 мільёнаў рублёў гадавой эканоміі.

Усе перавагі, як бачым, на баку нашага новага трактара. Серыйны выпуск яго запланаваны на 1975 год. Такая вялікая адлегласць па часе тлумачыцца тым, што завод павінны спачатку перабудавацца ў тэхналагічным і псіхалагічным сэнсе.

Ужо цяпер на заводзе шмат прыкладаў новай тэхнічнай палітыкі. Не параўнаць, скажам, па ўзроўні механізацыі работ першы і другі ліцейныя цэхі. Цэх № 2 здзіўляе прахаладай, чыстым паветрам; ліцейныя каўшы, з якімі дагэтуль ледзь упраўляліся двое рабочых, цяпер злучаны з невялічкімі кабінкамі, што па навясных рэйках раз'язджаюць ад ваграпак да апок.







Інжынер-праграміст Генадзь Дзікушын і начальнік бюро інфармацыйна-вылічальнага цэнтра Леанора Сегал робяць эканамічны разлік на камп'ютары «Мінск-22».

Пакруціў ліцейшчык колца — чыгун льецца ў форму. А яго напарніцадзяўчына націскае на кнопкі. Так за змену разліваюць тон па сто чыгуну.

Мінскія трактаразаводцы ганарацца і такімі тэхнічнымі дасягненнямі, як папярочна-вінтавая пракатка, вытворчасць шліцаў метадам пластычнай дэфармацыі, зварка трэннем. На заводзе працуе шмат аўтаматычных ліній і ўнікальных станкоў, канвееры і транспарцёры сустрэнеш амаль на кожным вытворчым участку.

Гасцям трактарабудаўнікі абавязкова паказваюць склад экспартных запчастак. Склад нагадвае кнігасховішча: на паліцах высачэзных штабеляў акуратна ўладкаваны скрынкі з дэталямі. Невялічкі механізм, штабялёр, лёгка вымае і перасоўвае скрынкі па загадзе грузчыка.

Але заводу яшчэ далёка да ідэальнага вытворчага і тэхналагічнага бляску. Будаваўся б ён нанава, цяпер — зразумела, не было б ні нізкіх столяў, ні цьмяных пралётаў, не было б такой скучанасці ў механічных цэхах, цемры і пылу ў старых земляробных. Тады, у 1946 годзе, было адно жаданне: паставіць завод на ногі. Ды, мусіць, і будаваць не ўмелі так, як зараз.

Цяпер многае перароблена, яшчэ больш трэба перарабіць. Пабудаваць новыя карпусы, змяніць абсталяванне, падрыхтаваць для яго аснастку. Самае ж складанае — псіхалогія людзей. Нягледзячы на тое, што завод будзе асвойваць новую прадукцыю, якасць якой пры гэтым не павінна пагаршацца, нягледзячы на тое, што прырост прадукцыі на наступную пяцігодку павінен скласці 8%, што асвойваць прыйдзецца і новае абсталяванне, колькасць рабочых не павінна павялічыцца. А гэта значыць, што заводу трэба рэзка павялічыць прадукцыйнасць працы.

Пры такіх умовах вытворчасці, як не кінь, а патрэбна цвёрдая кіруючая



Галоўны канвеер. У 1971 годзе з яго сыдзе 81 тысяча машын.

рука. Але цвёрдасці і волі мала, калі кіраўніцтва не ўзброена сучаснымі сродкамі інфармацыі, планавання і кантролю. Тут на дапамогу прыходзіць АСУ — аўтаматызаваная сістэма кіравання.

Мінскі трактарны і тут быў піянерам, і на сённяшні дзень ніводнае прадпрыемства рэспублікі, ніводзін з трактарных заводаў краіны не маюць такіх поспехаў у гэтай маладой, але надзвычай перспектыўнай справе.

Інфармацыйна - вылічальны цэнтр МТЗ пакуль што мае тры камп'ютары «Мінск-22». З іх дапамогай вядзецца ўлік выпускаемай прадукцыі, складаюцца вытворчыя праграмы і аналізуюцца паказчыкі працы завода.

Каб уявіць аб'ём работы ІВЦ, трэба мець на ўвазе, што завод збывае трактары ў 30 тысяч айчынных арганізацый, што 700 савецкіх прадпрыемстваў даюць сваю прадукцыю мінскаму заводу, што 15 тысяч чырвоных машын купляе мноства замежных фірмаў, якія трэба забяспечваць запаснымі часткамі не толькі сучасных мадэляў, але і тых, што выпускаліся дагэтуль. А ў трактары МТЗ-50 гэтых дэталяў 7000 штук. «Раздэталяваць» трактар для кожнага цэха на пэўны тэрмін, вызначыць колькасць дэталяў, трымаць пад кантролем усё, што прыходзіць на склады і адгружаецца з іх, своечасова і якасна выдаць інфармацыю ўсім службам, падлічыць мільёны рублёў, што абарачаюцца паміж заказчыкам, пастаўшчыком і выканаўцам-заводам,— усё гэта магчыма толькі з дапамогай камп'ютара. І чым хутчэй растуць аб'ёмы вытворчасці, тым большая патрэба ў аўтаматызацыі кіраўніцтва, бо адразу ж з ростам вытворчасці павялічваюцца штаты кіраўніцтва, а гэта і дорага і нязручна.

У сістэме АСУ Мінскага трактарнага сёння занята 105 чалавек. Яны выконваюць работу за 400 чалавек, не ўзброеных электронікай. Эфектыўнасць складае 1,2 мільёна рублёў.

Аўтаматызаваная сістэма кіравання паступова ахоплівае ўвесь завод і пранікае да кожнага станка. У кавальска-прэсавым корпусе, дзе існуе падсістэма АСУ, да пульта збору інфармацыі падключаны асноўныя сродкі вытворчасці. Спыніўся па нейкай прычыне молат — на пульце сігнал. Рабочы



націскае на кнопку — інжынер-аператар адразу ж даведаецца, чаму спынілася работа,— патрэбен рамонт ці замена штампа, ці загатовак няма. Пакуль прымаюцца неабходныя меры, інфармацыя тут жа паступае ў электронную памяць і, абагуленая, дакладна падлічаная, абавязкова трапіць у агульназаводскі аналіз працоўнага дня.

З дапамогай АСУ завод стаў працаваць рытмічна. Галоўны канвеер ідзе без затрымак. А рытмічнасць добра ўплывае на прадукцыйнасць працы.

З выпускам трактара МТЗ-80 наш завод падымецца яшчэ на колькі ступеняў вышэй, а канструктары, не чакаючы блізкай славы, працуюць тым часам над новай машынай. «Беларусь МТЗ-120» завецца яна.

Дагэтуль канструктарская думка трымала кірунак на павелічэнне рабочых хуткасцяў апрацоўкі глебы. Дасягнуўшы 15 км у гадзіну, зрабілі вывад: далей павялічваць хуткасць нельга. Трактар — не конік, каб скакаць праз градкі, а трактарысту і так цяжка працаваць (кожнае намаганне на рычаг — 50 кг! Дзесяткі тон за змену выціскае трактарыст рукамі і нагамі!) Значыць, магутнасць у 120 к. с. размеркавана не на хуткасць апрацоўкі, а на шырыню захвату. Не 6 радкоў, як сёння, а 12. І вал адбору магутнасці каб працаваў увесь час, каб прычапную машыну не толькі валачы на круку, але і каб аддаць ёй частку трактарнай магутнасці. Буксіраваць не адну машыну, а пяць розных, на пяць аперацый, каб за трактарам заставалася ўгноенае, апрацаванае, засеянае, добра выбаранаванае поле. Як у казцы.

А казка яшчэ наперадзе. Гідраўлічнымі сістэмамі зняць з рычагоў 50-кілаграмовыя намаганні. 6—12 кг — максімум. Кабіну герметызаваць. Каб ні пыл, ні бруд, ні страшэнны грукат не перашкаджалі механізатару. Кандыцыянер, мяккая амартызацыя, аўтаматычная каробка перадач — камфорт зусім не трактарны, хутчэй камфорт сучаснага грузавіка высокага класа. А мо і болей. Мо бліжэй да самалёта з аўтапілотам. Ва ўсякім разе, аўтаматычнае кіраванне для работы ў міжрадкоўях, для работы, якая сёння вельмі стамляе трактарыста, на МТЗ-120 прадугледжана.

У садружнасці з дызайнерамі, з сучаснай сацыялогіяй і эрганомікай, з электронна-вылічальнай тэхнікай узнікаюць абрысы будучага трактара «Беларусь», магчыма, самага «чалавечнага» трактара ў свеце.

Хвалю такі трактар!
Хвалю яго творцаў!

Валянцін ЖДАНОВІЧ.

# ДЗЁННІК КАПІТАНА ПІГУЗАВА

**Кожная новая старонка пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны дапамагае сучасніку глыбей раскрыць бессмяротны, велічны подзвіг савецкага народа, зразумець сэнс нашай вялікай перамогі.**

**У гэтых адносінах мае цікавасць дзённік былога намесніка камандзіра стралковага батальёна па палітчастцы капітана Пігузава Віктара Фёдаравіча, які быў на фронце з першых дзён вайны і гераічна загінуў у баях пад Харкавам у жнiўні 1943 года.**

**Дзённік захоўваўся ў асабістым архіве былога намесніка рэдактара дывізіённай газеты «Вперед» 66-й гвардзейскай стралковай дывізіі І. М. Пучынскага і друкуецца упершыню.**

## НА ПАЧАТКУ

**22 чэрвеня 1941 года.** Раніцою на параходзе я прыехаў у Чарнобыль. Нядзеля. Гарадок вельмі ажыўлены. Кірмаш гудзе — усюды поўна людзей. Шмат іх на беразе ціхай Прыпяці. У яркай сакавітай зеляніне іскрыцца сонца. На тварах людзей — спакой і весялосць.

Раптам працяжнае і трывожнае выццё сірэны. Паветраная трывога. Людзі яшчэ не ведаюць, што здарылася. «Усім разыходзіцца!» — аб'явілі па радыё.

Плошча неўзабаве апусцела. Я зайшоў у бліжэйшы буфет, каб падсілкавацца. Чую па радыё: «У 12 гадзін 15 мінут выступае народны камісар замежных спраў...»

Трывожныя цені ляглі на твары людзей. «Вайна. Вайна!..» — загаварылі усюды. Гэтае слова маланкай абляцела ўвесь гарадок і, здавалася, пранікла ў кожны закутачак кожнай жывой душы...

То быў першы дзень вайны ў палескім гарадку Чарнобыль, недалёка ад Кіева.

У першыя дні вайны, калі Чырвоная Армія толькі адмабілізоўвалася, збірала свае сілы, брахуны Гебельса аб'явілі свету аб тым, што Чырвоная Армія разбіта, што шлях на Ленінград, Кіеў і Маскву адкрыты, што авіяцыя рускіх знішчана. Немцам нечага ўжо і рабіць: «Расія пераможана».

Такое мы чулі ў ліпені.

Настаў жнівень. Чырвоная Армія існуе і дзейнічае. Настаў верасень — Чырвоная Армія, як і раней, аказвае ўпартае супраціўленне. Настаў кастрычнік — сіла супраціўлення Чырвонай Арміі яшчэ больш узмацнілася, узрасла. Настаў лістапад — Чырвоная Армія, на здзіўленне свету, б'е ворага.

Настаў снежань, і, узяўшы ў свае рукі ініцыятыву, Чырвоная Армія перайшла ў наступленне.

Разгромлена армія Клейста пад Растовам. Армія Гударыяна пашкуматана пад Масквой. Дзесяткі карпусоў і дывізій знайшлі сабе бясслаўную магілу ў рускіх снягах.

## ПЕРШАЕ БАЯВОЕ ЗАДАННЕ

**23 жніўня.** Наша часць пасля фарміравання ў Сумах прыбыла ў Кралявец. Размясціліся мы ў ляску, каля гарадка.





Амаль кожны дзень бамбёжка. У гарадку разбураны жылыя дамы, ёсць чалавечыя ахвяры. У нас жа, у зямлянках, спакойна.

Мне праз тры дні даюць заданне — быць камісарам атрада па знішчэнні паветранага дэсанта, які высадзіўся каля гарадка Корап. Наша першая задача — не дапусціць ворага да моста праз Дзясну. На беразе выставілі заслон — два станкавыя кулямёты, некалькі байцоў. Да нашага падыходу вораг ужо авалодаў вёскай Забалоцце. Як толькі фашысты нас заўважылі, інтэнсіўна ўдарылі з кулямётаў, мінамётаў і гармат. Наша разведка данесла, што сілы ворага перавышаюць нашы ў тры разы; у ворага — кулямёты, некалькі мінамётаў, гарматы і тры танкі.

Мы сталі на абарону моста. Праз Дзясну без канца ляцяць снарады і міны. Ворагу бачны нашы пазіцыі. У нас першыя ахвяры. Цяпер ужо б'юць з царквы і варожыя аўтаматчыкі, якія заўважылі нас.

Націск стрымліваюць два нашыя станкачы, абстрэльваючы падыходы да моста. Суседзяў у нас няма. Праціўніку ўдалося фарсіраваць раку ў двух месцах — лявей і правей нашай абароны.

Вораг абыходзіць нас з двух бакоў. Наша становішча ўсё цяжэй. Шлях адыходу вельмі нязручны — балота і насып. Як толькі праціўніку ўдасца адрэзаць мост, мы можам апынуцца ў мяшку: загубім і жывую сілу, і аўтамашыны.

Трэба было падумаць аб адыходзе на новы рубеж. Я прапаную праехаць па дарозе ля балота і заняць абарону на паўночным баку Корапа. Праз балота нялёгка будзе прабрацца і праціўніку...

Камандзір атрада супраць. Ён проста заявіў: «Няхай мяне заб'юць, няхай мы ўсе тут складзём галовы, але адыходзіць не буду».

Я, вядома, быў вельмі задаволены, што ў мяне такі рашучы камандзір... Тым не менш я быў вымушаны з ім пагаварыць і пераканаць яго, што наша, няхай нават і гераічнае, супраціўленне цяпер будзе бязмэтным — мы дарэмна загубім людзей, страцім транспарт.

З боем мы адышлі. На новым месцы заляглі, замаскіраваўшыся, і трымаліся тры дні. Нас было каля ста чалавек. Мы стрымалі добра ўзброены нямецкі батальён.

На чацвёрты дзень нас змяніла новае падраздзяленне. Мы вярнуліся ў свой батальён.

## ЦЯЖКІЯ ДНІ

**...22 верасня,** пасля ўпартых баёў, нашы войскі пакінулі Кіеў. А яшчэ ж чатыры месяцы назад я хадзіў па яго прыгожых шумных вуліцах.

Цяпер там вораг. Ад аднаго гэтага ўспаміну болем сціскаецца сэрца.

Наш батальён вёў абарону, адбіваючы націск ворага. Па флангах наступалі варожыя танкі. Над батальёнам навісла пагроза акружэння.

Камандзір батальёна, аказаўшыся баязліўцам, пакінуў байцоў. Прайшоў поппум: «Няма камандзіра...» Але тут падняўся камандзір роты лейтэнант Пірагоў і гучна сказаў: «Ёсць камандзір! Батальёнам камандую я. За мной, за Радзіму, наперад на ворага!»

Байцы рынуліся ў атаку. Варожая пяхота адкацілася назад. Некалькі танкаў мы падпалілі бутэлькамі з гаручай сумессю...

...Група нашых байцоў трапіла ў акружэнне. Выходзілі з агнявога кальца некалькі дзён. Міналі вёскі, ішлі ноччу лясамі, глухімі сцежкамі. Удзень хаваліся ў пшанічным полі, у высокім сланечніку.

Харчаваліся ўсім, што траплялася пад руку, што мясцовыя людзі давалі.

Неяк спыніліся каля хаты, каб знайсці чаго паесці. Стары капаў на гародзе бульбу.

— Куды ідзеш, сынок? — спытаўся ён, не разгінаючыся.

— Да вас іду, у вёску...

— Тут жа немцы. Глядзі, каб не схапілі...

— А дзе ж нам, бацька, падсілкавацца?

— Ідзі вунь у тую хату,— паказаў стары на дамок у зялёным вянку саду.— Там і пагаворыш....

Гаспадар таго дамка сустрэў ветліва, распытаўшы пра ўсё, даў бохан хлеба і брус сала. Заадно паказаў, як прайсці, каб не натрапіць на немцаў, даў пароль для знаёмага лодачніка, які і дапамог групе перабрацца цераз раку.

Праз некалькі дзён прыйшлі да сваіх.

**...10 лістапада.** Па распараджэнні камандавання разам з палітруком Маўлянавым выехаў праз горад Стары Аскол у Варонежскую вобласць падбіраць коней для дывізіі.

Дарога вельмі гразкая. Стары Аскол запоўнены вайскоўцамі. Гэта — тыл. Тут фарміруюцца воінскія часці для адпраўкі на фронт. Па вуліцах маршыруюць байцы. Ля будынка ваенкамата натоўп прызыўнікоў.

Пасля начлегу ў Старым Асколе едзем праз вёскі Нязнамава, Харашылава. Спыніліся ў Цярновай. Збіраем коней. На нашым шляху — Шацілаўка, раённы цэнтр. Тут

тыл, але і ў тыле людзі рыхтуюцца да абароны: капаюць акопы вакол сваіх паселішчаў. Ствараюцца партызанскія атрады...

Для фронту збіраюць цёплыя рэчы: пальчаткі, шапкі-вушанкі, а таксама воўну.

## ТАМ, ДЗЕ ПАБЫВАЎ ВОРАГ

**11 лістапада.** Праехалі вёскі Мантурава, Свінец, Калодзезяк, Субоціна. У гэтых сёлах быў вораг, але яго адсюль хутка нашы часці вытурылі. Сляды яго кароткага прабывання бачны ўсюды. У Мантураве на арцы павешаны народны суддзя і маладая дзяўчына. Іх спачатку падстрэлілі, а затым, параненых, павесілі. Непадалёк ляжыць забіты лейтэнант, на лбе нажом выразана пяцікутная зорка...

У вёсцы Свінец многа хат спалена, а многія без стрэх — абгарэлыя. Перад адступленнем немцы аблівалі хаты газай і палілі. Жыхароў, якія ратавалі сваё котлішча, фашысты расстрэльвалі з аўтаматаў.

У Субоціне на плошчы — ахвяры фашысцкага разбою: жанчыны, дзеці, старыя. Абвугленыя, абгарэлыя мерцвякі: стары і хлапчук. Замучылі іх за тое, што яны не выдалі камуністаў,— так аб'явілі самі забойцы. Людзі загінулі як патрыёты!

У вёсцы Стары Лешчын фашысты сагналі ў хлеў 300 калгаснікаў — старых, жанчын і дзяцей. Абклалі сцены саломай і падпалілі...

Але гэтае злачынства фашыстам да канца ажыццявіць не ўдалося. Нашы байцы, даведаўшыся, паспелі выратаваць жыццё тромстам мірным жыхарам. Яны ўварваліся ў вёску і, расстрэльваючы гітлераўцаў, кінуліся ратаваць смяротнікаў.

**14 лістапада.** Нашы байцы знаходзяцца ў двух-трох кіламетрах ад вёскі Субоціна. Немцы, засеўшы ў вёсцы, размясціліся ў дамах, з акон тырчаць ствалы кулямётаў і нават лёгкіх гармат. Відаць, добра іх даняў рускі мароз, што так і ціснуцца да хат. Фашысцкі кулямётчык зашыўся са зброяй нават на печ, выразаў у сцяне амбразуру і страляў з печы. Вось гэта дык «храбры» ваяка!

Адзін наш смяльчак, будучы ў начной разведцы, зайшоў у хату. Гаспадыня шэптам і кажа яму: «Немец на печы спіць, зусім распрануты...»

Баец падышоў да запечка, узяў у ваякі аўтамат, тыцнуў фашысту пад нос. Той, як шалёны, падхапіўся. Загадаўшы немцу апрануцца, баец пад канвоем прывёў яго ў нашу часць.

Разведчыкі, не дачакаўшыся свайго таварыша, палічылі, што ён загінуў. А наш Колесаў, жывы і вясёлы, з нямецкім аўтаматам вядзе немца з абмарожанай мызай. Здаўшы палоннага, ён расказваў, смеючыся: «Во чортава немчура, на печ забраўся... Пагрэцца надумаў, няхай цяпер на снезе пагрэецца...»

**20 лістапада.** У невялікім доме, у цёплым пакоі, на саломе ўпокат ляжаць мужчыны. Гэта байцы знішчальнага батальёна, які створаны з мясцовых жыхароў для абароны Скародніка — раённага цэнтра прыфрантавой зоны. Яны расказваюць цікавыя гісторыі.

Нядаўна дванаццаць салдат нямецкай арміі — аўстрыякаў, якія прыбылі на савецка-германскі фронт, пабыўшы на перадавой лініі адны суткі, рашылі здацца ў палон Чырвонай Арміі. Дванаццаць кіламетраў яны цягнулі на сабе гармату, каб павярнуць яе на захад і страляць па немцах... Яны заявілі, што многія салдаты здаліся б у палон, але афіцэры сочаць за кожным іх крокам, прыслухоўваюцца да кожнага іх слова.

## ДЗЕНЬ МАЙГО НАРАДЖЭННЯ

**13 лютага 1942 года** — дзень нараджэння. Успамінаю, як яго адзначалі гадоў семдзесяць назад. Нябожчыца-маці яшчэ з раніцы завіхалася на кухні: варыла, пякла, смажыла... Прыйшоўшы з работы, бацька пераапранаўся ў святочны гарнітур. Увечары збіраліся госці.

Сёння таксама я чую вясёлую гамонку. Яе вядуць нашы артылерысты. Чую гул авіяцыйныхматораў, выбухі авіябомбаў.

У гэты дзень, у гэтыя хвіліны я як бы нараджаюся новым чалавекам, байцом Вялікай Айчыннай вайны, вайны за гонар, свабоду і незалежнасць маёй Радзімы.

Калі ж мне наканавана застацца жыць і я буду адзначаць свой дзень нараджэння, то заўсёды буду ўспамінаць сённяшні дзень — 13 лютага 1942 года, калі наша дывізія пачала граміць ворага на падрыхтаваным рубяжы. Немца разбілі — выгналі з вёскі Прохараўка і пагналі на захад.



## СВЯТА ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

**23 лютага.** Дзень выдаўся як на заказ. У паветры кружацца лёгкія пушынкі снегу. Адталі вокны, і праз шыбы ліюцца густыя, цёплыя промні. Наша падраздзяленне не ў баі.

У хаце, дзе раней было праўленне калгаса «2-я пяцігодка», байцы і камандзіры сабраліся на сход, прысвечаны гадавіне Чырвонай Арміі.

Увечары ездзілі з лейтэнантам Балчуговым да Шаблоўскага. Была сяброўская вячэра. Друг-чарнабылянін зрабіў мне святочны падарунак — шкарпэткі, насоўкі.

23 лютага вызвалена некалькі населеных пунктаў, у тым ліку горад Дарагабуж. Цяпер ужо і ў Смаленску чуюць нашу артылерыйскую кананаду. Смаляне з радасцю гавораць: «Нашы падыходзяць!» Хутка над старым Смаленскам запалымнее слаўны сцяг вызвалення!

...Усё ярчэй сонца, усё цяплейшыя яго праменні. Набліжаецца вясна. Вядома, што немчура ўскладае вялікія надзеі на вясну. Але ж яны ўскладалі свае надзеі і на лета — лета ім не памагло, марылі пра восень — і восень падвяла іх.

## БАЙЦЫ ІДУЦЬ У РАЗВЕДКУ

Наша аддзяленне першага ўзвода пад камандай сяржанта Пугаўкіна дзейнічала разам з разведротай. Часта ўначы яны заходзілі далёка ў тыл праціўніка.

У тыле ворага разведчыкі заўважылі склад і паспяшаліся знішчыць яго, але фрыцы пачалі страляніну. Апошнім, прыкрываючы таварышаў па зброі, вяртаўся чырвонаармеец Дадонаў. Ля дарогі ён наткнуўся на міну, і жыццё баявога разведчыка абарвалася так нечакана.

**...11 сакавіка** — вельмі насычаны дзень. Палітінфармацыя, партсход, семінар групоргаў, палітзаняткі. Увечары кінафільм — разгром нямецкіх акупантаў пад Масквой. Цудоўна! Фільм кліча ў бой, натхняе на перамогу!

**15 сакавіка.** Учора войскі генерал-маёра Гарбатава і палкоўніка Тэр-Гаспарана ва ўзаемадзеянні з танкістамі Бунтмана, дзейнічаючы на харкаўскім напрамку, прарвалі лінію абароны праціўніка і занялі некалькі населеных пунктаў, ператвораных ворагам ва ўпорныя вузлы супраціўлення. Забіта каля тысячы гітлераўцаў, захоплена 332 палонныя і шмат трафеяў.

**16 сакавіка.** Сёння, здаецца, упершыню за апошнія два-тры месяцы над намі праляцеў нямецкі самалёт. Дагэтуль іх зусім не было. Была страшэнная завіруха. Цяпер ціха, але холад. Слаба грэе сонца.

**26 сакавіка.** Пацяплела. Зазвінелі першыя капяжы. Але сонца мала.

Атрымаў запіску ад сваіх разведчыкаў. Усе жывыя і здаровыя. Кожную ноч трывожаць немчуру.

З камуністамі і сярэднімі камандзірамі была гутарка на тэму аб прычынах першай імперыялістычнай вайны.

**1 красавіка.** Атрымаў ліст ад Магі. Яна сёння адзначае дзень свайго нараджэння. Паслаў ёй віншаванне і добрыя пажаданні на будучае.

**8 красавіка.** Уначы вораг на нашым участку фронту прадпрыняў контратаку. Загаварыла наша артылерыя. З вінтовак і аўтаматаў байцы адкрылі агонь, і праціўнік з вялікімі стратамі адкаціўся на свае зыходныя пазіцыі.

**10 красавіка.** Гітлер да хрыпаты крычыць пра веснавое наступленне. Ён хоча запалохаць нас, зламаць волю да геройнай барацьбы. Але не ўдасца!

**14 красавіка.** Немцы паспрабавалі ў наш 132 с. п. закінуць разведку — да 80 чалавек. Наш кулямётчык, які заўважыў варожых лазутчыкаў, падпусціў іх блізка і нечаканым агнём паклаў іх на зямлю — ніводзін з іх не застаўся жывы, усе перабіты. Вось як яны разведалі размяшчэнне нашых кулямётных кропак!

**15 красавіка.** Звычайны дзень. Моцны вецер змятае апошні снег. Па вуліцах шумяць ручаі.

Камандзіра роты выклікалі для атрымання баявога загада. Мяркуецца наша перамяшчэнне.

**24 красавіка.** Вясна шчыруе. Сёння хаджу без шыняля.

Разведчыкі вярнуліся з задання. Яны атрымалі новую зброю — кулямёты,— сёння і апрабавалі яе. Б'е цудоўна. Атрымалі загад — выязджаем!

**28—29 красавіка.** Працягваем марш. Ноччу едзем, днём адпачываем. Увечары ўжо былі ў Валчанску.

**1 мая.** Вялікае свята. Раніцою правялі ўрачыстае пасяджэнне. Быў мой даклад. Затым — спаборніцтвы па кіданні гранат і хадзьбе ў процівагазах. Абед Багданаў сёння зрабіў лепшы — вядома ж, свята!

Атрымаў вестку ад Анатоля, здаецца, адзіную за пяць гадоў. У лісце ад Магі была кветка...

**2 мая.** Чыталі ў газетах матэрыялы аб зверствах немцаў на часова акупіраваных нашых тэрыторыях.

...Няхай ведаюць гады-немцы, што ім нядоўга давядзецца баляваць на нашай зямлі. Разбураныя гарады і вёскі, кроў і слёзы нашых людзей клічуць нас на бой.

**10 мая.** Актыўнічаюць сцярвятнікі. Ноччу скінулі некалькі парашутных ракет і тамсям бамбілі. Але гэта ўжо не тое, што было ў мінулым. Палахлівымі сталі фашысцкія паветраныя піраты. Усё стала не тое: і Германія не тая, што была ў чэрвені мінулага года....

**11 мая.** Мы жывём у доме на ўскраіне Валчанска.

Газеты прынеслі вестку аб тым, што англічане 5 мая акупіравалі востраў Мадагаскар. Вось так трэба і дзейнічаць. Ужо час!

Атрымаў пісьмо ад Магі і фотакартку. Часта вымаю яе з планшэткі.

## АБСТАНОЎКА МЯНЯЕЦЦА

**12 мая.** На досвітку пераязджаем у сяло Чырвонаармейскае — бліжэй да праціўніка. Размясціліся ў зямлянцы. Першая лясная кватэра ў 1942 годзе. Атрымалі загад маршала Цімашэнкі аб наступленні. Быў мітынг.

Першы ўзвод Гразнова накіроўваецца на перадавую. У паветры радаснае відовішча: нашы бамбардзіроўшчыкі, ястрабкі лётаюць па 20—30. Сцярвятнікаў у паветры не відаць. Як радасна бачыць нашу вялікую перавагу ў небе!..

З першым узводам увайшлі ў Старыцу, яшчэ дзве гадзіны назад тут былі немцы, сядзелі пяць месяцаў. Вытурылі іх за трыццаць хвілін.

Збоч дарогі параскіданыя ляжаць чорныя мерцвякі — зімовыя фрыцы.

Старыца амаль уся разбурана і спалена. Нашы гоняць немцаў. Увесь дзень войскі рухаюцца наперад. Немцы ўцякаюць. Захоплена два танкі, 8 гармат, шмат амуніцыі.

На КП дывізіі бачыў палонных фашыстаў. Нягоднікі! Цяпер яны ціхманенькія. Як быццам гэта і не яны забівалі, рабавалі, палілі нашы гарады і вёскі!..

Вось адзін з іх — нейкі плюгавы, агідны мярзотнік. Гэта ж смеху варта, што фашысцкія варвары спрабуюць давесці, быццам ён — агідны, як вош, злосны, як шакал, ванючы, бы казёл,— і ёсць «прадстаўнік вышэйшай расы!»..

...Днём наш бранепоезд сумесна з зенітчыкамі збіў фашысцкі самалёт, які ўпаў каля Валчанска. Узята ў палон 9 чалавек — з упраўлення авіяцыі. Яны толькі тры дні як з Берліна. І сёння ў нас на допыце.

**13 мая.** Наша дывізія працягвае весці наступальныя баі і прасоўваецца на захад. Занята вёска Агурцова, частка Мурама. Раскаты артылерыйскай кананады адсоўваюцца далей, на захад...

**14 мая.** Пераехалі ў сяло Савецкае, на беразе Данца.

Наша дывізія, а разам з ёю і суседнія часці па-сапраўднаму б'юць ворага. Вызвалены Мурам.

**16 мая.** У двух кіламетрах ад Мурама ідуць баі. Каля дарогі — забітыя фрыцы. У сваіх аб'явах немцы пішуць аб барацьбе з партызанамі. Нягоднікі, яны называюць народных мсціўцаў разбойнікамі. Яны пішуць, што «так званая савецкая дзяржава і бальшавіцкая камісараўская ўлада зломлены». Не, памыляецеся, панове! Улада наша, дзяржава наша, народ наш ніколі не будуць зломленыя. А вам, захопнікі, шыю звернем!

**22 мая.** Быў у Валчанску. У горадзе пачынае адраджацца жыццё. Працуе кінатэатр. Адчынілася цырульня. Іскрыцца зеляніна. Дзяўчаты шпацыруюць у летніх белых сукенках.

**23 мая.** Партсход. Прынялі ў члены партыі Шчогалева і Андрыеўскага. Зранку стаіць гул — артылерыйская страляніна, бамбёжка, паветраны бой... Немцы ўпарта супраціўляюцца.

## З ДУМАЙ ПРА БУДУЧАЕ

**6 чэрвеня.** Радзіма наша перажывае суровы час. Думы і імкненні ўсіх савецкіх людзей падпарадкаваны перамозе. Нестае часу на тое, каб думаць пра будучае. Але і не думаць нельга. Іншы раз задумваешся і скрозь полымя вайны, скрозь дым баёў — бачыш сваю краіну, сваю Радзіму пасля вайны. Цяжкія яе раны, нанесеныя нашэсцем фашысцкіх захаўнікаў-рабаўнікоў. Але радасць і ўрачыстасць перамогі запалоняць людскія сэрцы. Народ будзе радавацца, святкуючы сваю вялікую перамогу...

Народ будзе славіць герояў, якія абаранялі Радзіму. Ці будзем мы ўдзельнікамі гэтай урачыстасці і святкавання? Ці ўбачым мы краіну, калі яна стане пераможцай? Многія з нас загінулі, і яшчэ, безумоўна, нямала загіне. На тое ж яна і вайна!

Зайздрошчу ўсім, хто ўбачыць наша жыццё, якое расквітнее пасля вайны.

Збудуцца тады мары пра асабістае жыццё. А пакуль што: «Смерць нямецкім акупантам!» Будзем біць іх, біць бязлітасна!...

## НА ХАРКАЎСКІМ НАПРАМКУ

**10 чэрвеня.** Увечары атрымалі загад на перадыслакацыю. У 22.00 выехалі. Цемра. Уся рота на машынах. Едзем па знаёмай дарозе на Валчанск.

**12 чэрвеня.** Юнкерсы і месершміты вісяць у небе. Даводзіцца і нам капаць шчыліны. Праціўнік працягвае пачатае два дні назад наступленне на Харкаў.

**13 чэрвеня.** Раніца пачалася налётам варожай авіяцыі. Асколкам снарада паранены ў нагу капітан Маркоўскі... На досвітку вораг заняў Нежаголь. Немцы ідуць у бой п'яныя, ва ўвесь рост...

**14 чэрвеня.** Разбудзіла мяне бамбёжка. Пайшлі нашы танкі, між іх «КВ». Заспявала наша «кацюша». Цішыню прашываюць кулямётныя чэргі...

Узяты палонныя.

**15 чэрвеня.** Кружацца над намі фашысцкія самалёты, некаторыя лятаюць вельмі нізка. Становішча напружанае.

**16 чэрвеня.** Бой неяк паступова заціхае. Толькі ўсё грымяць гарматы, стогнуць мінамёты.

Дажджы зусім сапсавалі дарогу.

...Уначы зноў дождж, і курскія дарогі ніяк не паспяваюць падсохнуць.

**22 чэрвеня 1942 года.** Гадавіна вайны. На досвітку, яшчэ ледзь бралася на світанне, загрукатала артылерыя. Усе падхапіліся. Было 4 гадзіны раніцы. Якраз год назад Германія напала на нашу краіну.

Перажыта шмат. Шмат згублена, многа страт і разбурэнняў. Рэкамі цячэ кроў нашых людзей, што пад прыгнётам фашысцкай акупацыі.

**24 чэрвеня.** Раніца. Мяняем рубеж абароны. Пры адыходзе давялося вытрымаць жахлівы мінамётны абстрэл. *Выбухам міны паранены Падолка і забіты Андрыеўскі.* Вочы яго былі адкрытыя.

## ГОРЫЧ АДСТУПЛЕННЯ

**30.6.42 г.** *Учора было ціха, спакойна. Сёння раніцою немцы пачалі наступаць.* Супраць нас дзейнічаюць дзве дывізіі праціўніка. Адыходзім. Нямецкія танкі абстралялі нас. Над намі вісяць самалёты.

Днём пала Карача. Познім вечарам прыбылі ў Беламеснае. Адмералі больш як 50 кіламетраў. Ногі моцна баляць. Стома. Людзі прыйшлі яшчэ не ўсе. Зноў адступаем!

**1 ліпеня.** Дзень праходзіць у нейкім чаканні. У небе вісяць варожыя самалёты. Замест бомбаў ляцяць бочкі, кавалкі рэек...

Увечары адыходзім далей, на ўсход, за раку Аскол. Аскол і чыгунка Масква — Каўказ ззаду. Зноў даводзіцца перажываць сум і горыч адступлення. Якое цяжкое гэта слова — адступленне...

**3 ліпеня.** Ноч прайшла ціха. Ведаем, што гэта цішыня перад бурай. У Новым Асколе нешта ўзрываюць. З Аскола жыхары пайшлі ў лугі і яры.

Раніцою да 50-ці танкаў уварваліся нам у тыл. Праз жыта і хмызнякі мы адыходзім, бо навісае пагроза акружэння.

Новы Аскол паў. Наша рота аказалася адрэзанай нямецкімі аўтаматчыкамі.

**4 ліпеня.** З баямі адыходзім. Немцы танкамі занялі горад Астрагожск. Едзем на пераправу праз Дон, у Каратаяк.

**5 ліпеня.** Каратаяк у агні. Няма ніводнага ўцалелага дома. Узарвана пераправа. На беразе — тысячы машын, фурманак, гарматы, танкі, людзі... Увесь час бамбёжка.

Нарэшце мост адноўлены. Перайшлі на другі бераг. Дзень жудасны — адзін з самых цяжкіх дзён майго жыцця.

**13 ліпеня.** На фурманках адправіліся ў вялікі марш: кіламетраў, магчыма, на 350—400. Днём адпачываем, рухаемся ўначы.

*...Ужо некалькі дзесяткаў кіламетраў едзем уздоўж чыгункі на Сталінград.* Праязджаем пасёлак Міхайлаўка. З рэпрадуктара чуваць: «Не, не прарвацца немцу да Сталінграда!»

**21 ліпеня.** Раніцой прыехалі на апошні прыпынак — хутар Калабродск. У роце засталося пяць чалавек.

Вораг рвецца наперад, на ўсход, ён блізка ля Волгі. Вораг яшчэ моцны. Радзіма ў небяспецы. Адчуванне небяспекі дае нашым воінам ільвіную сілу. Мы ўпэўнены, што немцы будуць разбіты.

Лістоў ад Магі не маю ўжо больш як паўтара месяца.

**27 ліпеня.** Новае наша месца — в. Вялікі Лычаг, у бок Камышына.

**31 ліпеня.** Учора споўніўся год, як я знаходжуся ў дывізіі. Ціха. Чуем толькі бамбёжку на ст. Ракаўка. Лістоў не атрымліваю.

**1 жніўня.** Была нарада камсаставу дывізіі. Чыталі загад № 227 Наркома абароны. Своечасовы загад! Даволі адступаць. Забудзем слова «адступленне».

**12 жніўня.** Прыбылі ў Бузулук. Выгружаемся. Размясціліся ў самым цэнтры горада, каля швейнай фабрыкі на вуліцы М. Горкага.

...Зводка паведамляе, што нашы пакінулі Краснадар, баі ідуць у раёне Пяцігорска.

**13 верасня.** Дні праходзяць звычайна. Воінскі распарадак. Жывём у клубе сяла Аляксандраўскага. Займаемся па 12 гадзін кожны дзень. Вучоба ўпартая. Рыхтуемся да будучых баёў.

**16 верасня.** Холадна. Вецер-стэпавік. Чуецца блізкасць Казахстана.

Сёння другая гадавіна з дня смерці маці. Ужо два гады, як бацька адзін у свае старэчыя гады. Некалі была вялікая шумлівая сям'я, а цяпер ён — адзін. Цяжка яму...

## НА ФРОНТ

**1 кастрычніка.** Дні ідуць. Ужо восень. Хутка зіма. Паўтара месяца, як у Бузулуку. Мабыць, хутка на фронт. Увечары рабіў даклад аб гераічных традыцыях рускага народа.

Настае сапраўдная восень. Усё пажоўкла.

**3 кастрычніка.** У роту прыехаў нам. начальніка палітаддзела батальённы камісар Іваноў. У яго, здаецца, склалася нядрэнная думка пра роту.

Атрымаў тэлеграму ад бацькі — выязджае ў Ішым. Няма роднага гнязда. Быў дом. Была сям'я. Была мясціна, куды неяк цягнула...

**8 кастрычніка.** Сёння байцам урачыста ўручылі зброю — слаўную рускую вінтоўку-трохлінейку. Яе штыкі яшчэ заблішчаць у Берліне! Яе слаўны стрэл абвесціць свету аб канчатковай гібелі фашысцкага звера.

...Усе газеты гавораць пра Сталінград і Маздок.

Сталінград стаіць, як загартаваны ў бітвах воін-салдат.

**9 кастрычніка.** Камсамольскі сход. Камсамольцы не павінны забываць сваіх гераічных сяброў-аднагодкаў. Між іх Зою Касмадзям'янскую. Гэта яна ў нямецкай пятлі ўсклікнула: «Біце, рвіце, знішчайце немцаў!..» Яна памерла як герой. Адпомсцім за Зою! За Зою адпомсціць павінны ў першую чаргу камсамольцы!

**12 кастрычніка.** Развітваемся з Бузулукам. Едзем на фронт.

Сёння начуем каля машын і фурманак. Імжыць дождж...

**17 кастрычніка.** Раніцою прыбылі на ст. Філонава. Разгрузка. За дзень зрабілі марш — 50 кіламетраў. Прыпынак — станіца Аляксееўская.

**24 кастрычніка.** Ціхая марозная раніца. Зямля прыбралася, пабялела. Ля вогнішча гутаркі з байцамі. Ва ўзводах выйшлі «баявыя лісткі».

Быў збор сродкаў; у фонд абароны ўнёс 100 рублёў і 60 рублёў у дапамогу дзецям, якія пацярпелі ад фашысцкага грабяжу.

Памыўся ў лазні — неяк аж стала лягчэй.

**25 кастрычніка.** Супакоіліся зубы — забалела шыя. Нельга павярнуць галавы. Нейкае няшчасце — што-небудзь ды баліць...

Увечары партыйны сход. Хлопцы пайшлі глядзець кінафільм «Мы з Кранштата».

Бацьку пасылаю некалькі кніжак, у прыватнасці, кніжачку Ільі Эрэнбурга.

**26 кастрычніка.** Нарада ў генерала. Выязджаем. Трэба меркаваць, бліжэй да перадавой. Бліжэй да ворага, бліжэй да справы.

**29 кастрычніка.** Выехалі рана. Увечары прыбылі ў станіцу Кумылжынскую.

**30 кастрычніка.** Даўно не бачыў варожых самалётаў. Сёння два юнкерсы бамбілі станіцу. Страт, здаецца, ніякіх. Бомбы ўпалі за аселіцай, у пясок.

**31 кастрычніка.** Дарога — адзін пясок. Мінулі рэчку Мядзведзіцу. Ужо блізка горад Серафімовіч. Там былі немцы, але іх адтуль ужо вытурылі. Едзем уздоўж Дона. Рака чыстая, бы сляза.

Налева Дон, направа Арчадзінска-данскія пяскі, як на Палессі.

Падвечар спыніліся ў невялікай станіцы Атрожкі. Жыхары эвакуіраваліся. Мы за гаспадароў.

**1 лістапада.** Увесь дзень артылерыйская перастрэлка на правым беразе Дона. Супраць нас — ваякі Антанеску.



**2 лістапада.** Ноч. Не спіцца. Можа ад таго, што напалена ў печы. Доўга гутарым з байцамі Бондаравым, Гарбарэнкам і Ткачовым. І яны ўжо заснулі. Глухая ноч.

Не спіцца... Запоўніў асабісты лісток, у графе «хатні адрас» не ведаю, што пісаць,— няма ў мяне такога адрасу...

**7 лістапада.** Вялікае свята. Але толькі ўсведамленне таго, што сёння святочны дзень, перадаецца нейкім унутраным хваляваннем...

**13 лістапада.** Раніцою камсамольскі сход. У бюро выбралі новых членаў. Некалькі разоў сход перапыняўся з-за бамбёжкі.

**14 лістапада.** Вельмі ясны дзень. Нельга выйсці з бліндажоў. Бомбай разбурыла дом, дзе мы начавалі. Усё аж дрыжыць ад выбухаў.

**15 лістапада.** Дзень пахмурны — самалётаў няма. Перабраліся ў лес. Размясціліся ў зямлянках. Холадна. Грэемся ля кастроў, разведзеных у зямлянцы.

## У НАСТУПЛЕННІ

**19 лістапада.** Раніцою пачалася вялікая артпадрыхтоўка. Усё гудзе, зямля ўздрыгвае. Мы пайшлі ў наступленне. Абарона праціўніка прарвана. Пайшлі танкі і кавалерыя. Румыны здаюцца ў палон.

**20 лістапада.** У белым покрыве зямля. Настала зіма. Нашы войскі прасоўваюцца наперад.

Чырвонаармейцы Байжычытаў, Кісялёў і Хахлоў павялі ў тыл палонных. Дрыжаць, як цюцькі: «Гітлер капут. Антанеску капут!»..

У многіх палонных у кішэнях — нашы чырвоныя лістоўкі. Гэта добра!

**21 лістапада.** Надвор'е снежнае. Самалётаў няма. У зямлянцы пячом бліны. Ад дыму выратоўвае процівагаз.

Нашы войскі прасоўваюцца ўглыб абароны праціўніка.

**22 лістапада.** Рота пераправілася цераз Дон, у станіцу Кляцкую. Вельмі прыгожая станіца, але ўся разбітая. З жыхароў нікога няма. Немцы выгналі ўсіх.

**23 лістапада.** Узялі кірунак на хутар Матароўскі. У адной балцы — шэсць разбітых нямецкіх самаходак.

Хутар Матароўскі нашы занялі раптоўна; румыны і немцы ў паніцы паўцякалі. Жыхары расказваюць, што фашысты забралі ў іх усю жывёлу — кароў, парасят, нават курэй. На ўвесь хутар засталася адна карова — у старасты.

**25 лістапада.** Нечакана атрымаў пісьмо ад Магі — яна ў Чкалаўскай вобласці. Значыць, жывая!

**30 лістапада.** Едзем праз Калач. Паміж Калачом і Ліпалогаўскім мноства падбітых нямецкіх танкаў. У адным месцы сапраўдны могільнік.

Нашы войскі ўсё бліжэй падыходзяць да Сталінграда. Засталося не больш як 50 кіламетраў. Атрымаў загад аб прысваенні мне звання капітана.

## СТАЛІНГРАДСКІ НАПРАМАК

**5 снежня.** Ездзіў на КП. Палітаддзел загадаў роту здаць і пайсці ў стралковы батальён.

**6 снежня.** Цёпла развітваемся з камандзірамі і байцамі. Шкада расставацца з добрымі таварышамі. З лейтэнантам Лійчанкам абмяняліся фотакарткамі.

**7 снежня.** Прыбыў у стралковы полк намеснікам камбата па палітычнай частцы.

Рыхтуецца наступленне.

**8 снежня.** На досвітку паснедалі. Атрымалі загад аб наступленні. У 9.00 артылерыйская падрыхтоўка — па пяці курганах. Апошні залп «кацюшы» — пачатак атакі.

Байцы пайшлі ў наступленне. Справа рванулiся танкі. Імклівым націскам мы авалодалі пяццю курганамі, за якія праціўнік упарта трымаўся. Не спыняючыся, прасоўваемся далей. Фрыцы адступаюць. Амаль без бою дайшлі да лагчыны Дубініная. Наперадзе ўжо зусім блізка сяло Карпаўка. Тут затрымаліся. Немцы паспелі сабраць і арганізаваць абарону: моцным артылерыйскім і мінамётным агнём сустрэў праціўнік нашу пяхоту.

Мы спыніліся. Нашы суседзі злева і справа адсталі. Нямецкія аўтаматчыкі здолелі праніknуць на нашы флангі. Сваёй беспарадкавай стралянінай яны выклікалі неспакой. Наш КП знаходзіцца ў вялікім і глыбокім акопе. Камбат старшы лейтэнант Заўялаў забіты варожым снайперам. Камандаванне прыняў лейтэнант Грышын.

Цямнее. Страляніна чутна па баках і з флангаў. Сувязі з палком няма ніякай. Мы пачалі адыход, калі, па сутнасці, былі ўжо акружаны. Вельмі асцярожна, паслаўшы наперад разведку, мы неўзабаве выйшлі да сваіх — на адзін з пяці курганоў. Тут занялі абарону.

На адпачынак размясціліся ў маленькім бліндажыку.

**9 снежня.** У гэты дзень я не мог зрабіць сваіх якіх-небудзь запісаў у дзённіку — было не да гэтага.

Пасля добрай вячэры прыселі, каб падрамаць. Хутка нас падняў страшэнны шум. Немцы пачалі артылерыйскую падрыхтоўку. Было каля дзесяці гадзін вечара. Трасіруючымі снарадамі асвятлялася мясцовасць. Праціўнік вырашыў вярнуць страчаныя курганы. Яшчэ некалькі хвілін, і 15 нямецкіх танкаў пачалі абыходзіць наш курган з трох бакоў. Яны павольна, з ціха працуючымі маторамі прайшлі ўздоўж акопаў нашай абароны і спыніліся. Адзін танк стаў ад нашага бліндажа ў двух-трох метрах. Было чуваць, як у машыне гергеталі фрыцы. У акопе было шмат людзей, і ў ім ад танка не ўратуешся. Я вылез і лёг за бруствeрам, уважліва назіраючы за танкам, трымаючы ў руках пісталет. Думаю: «Адчыніць фрыц люк, высунецца, я яго і здыму». Але ж яны, фрыцы — асцярожныя...

Камбат выклікае артылерыйскі агонь на сябе. Чакаем, што вось зараз нашы снарады пачнуць рвацца зусім блізка, ля нас. Кожны амаль што развітаецца з жыццём. Яшчэ хвіліна, ну — дзве, і агонь нашай артылерыі, выкліканы намі на немцаў, накрые нас саміх. Прасвісталі «кацюшы». Іх снарады рвуцца далей — у лагчыне, адкуль наступалі немцы. Нашы гарматы прамой наводкай падбілі два танкі. І яшчэ адзін падпалілі. Астатнія павярнулі назад. Нямецкія аўтаматчыкі і пяхота ўсё ж прарваліся на курган. Мы сваіх людзей адвялі метраў на 50—70 назад і вядзём бой.

Гэта ноч застанецца ў памяці на ўсё жыццё.

**10 снежня.** Я, Грышын і Дудко з акопа вядзём агонь па фрыцах — пяцярых забілі. Увесь дзень нельга ўзняць галавы...

**12 снежня.** Нас падмяняюць. Змяняемся ноччу. Адыходзім у лагчыну Грачову каля станіцы Крывамузчынская.

**25 снежня.** Раніцою выйшлі на новае месца ў лагчыну Калодзезную. Ноччу занялі абарону перад вышынёй 129. Блізка ад Дзмітрыеўкі.

**29 снежня.** Камбат Грышын і лейтэнант Ткачэнка лёгка ранены. Палкоўнік загадаў камандаваць батальёнам мне.

**30 снежня.** Праціўнік вядзе моцны мінамётны агонь. Міны рвуцца вельмі блізка ад нашай зямлянкі. Адна разарвалася каля ўваходу — забіты камандзір кулямётнай роты, адзін сувязны і старшы лейтэнант Ніканаў, які сядзеў побач са мною. Мяне і начальніка штаба Абухава прысыпала зямлёю і крыху аглушыла.

**31 снежня.** Днём нашы вялі моцны ружэйна-мінамётны агонь.

Увечары збіраемся адзначыць Новы год, але немцы каля 24-й гадзіны распачалі шалёны ўраганны агонь. Думаем, што збіраюцца наступаць. Аддаў распараджэнне ў роты, што калі вораг пойдзе, то што б ні было — ні вяршка назад, не пусціць ворага, а знішчыць яго! Але вораг, мусіць, абдумаўся і ў хуткім часе супакоіўся. Ахвяр было не багата.

Новы год мы сустрэлі ў чаканні схваткі з ворагам, хаця днём і ўвечары збіраліся ўзяць па чарцы.

**1 студзеня 1943 года.** Звычайны дзень франтавога жыцця. Перастрэлка і артылерыйскі агонь.

**3 студзеня.** Ноччу выклікаў палкоўнік, аддаў загад. Наступленне ў 7.00 раніцы.

6 гадзін 55 мінут. Пачалася артпадрыхтоўка — залпы «кацюш» і артылерыі. Пяхота пад прыкрыццём артылерыйскага агню зблікаецца з праціўнікам. Штурмавы атрад адстаў — мы прасоўваем свае батальёны. Пасля артпадрыхтоўкі, правільней, калі наша артылерыя перанесла свой агонь углыб абароны, праціўнік пачаў моцны мінамётны і ружэйна-кулямётны абстрэл нашых баявых парадкаў. Мы пачалі шукаць і знішчаць яго агнявыя кропкі. Ротамі кіраваў праз сувязных. Давялося заняць на ноч абарону, эвакуіраваць раненых, сабраць зброю. Позна ўначы з Грыдасавым, у адным акопе, прылеглі паспаць, накрыўшыся кажухамі.

**4 студзеня.** Раніцою зноў наступаем. Загадана штурмам узяць вышыню. КП батальёна перанеслі ўперад, пад танк. Пад моцным агнём перабягаем на новае месца. Мы пад танкам, а па танку немцы б'юць не перастаючы. Байцы нашы паўзуць па вышыні, у аднаго ў руцэ — чырвоны сцяг. Неўзабаве сцяг пачаў развявацца на пранізлівым ветры.

Мы занялі вышыню. Палкоўнік па тэлефоне перадаў нам, тром камбатам — Дудко, мне і Грыдасаву,— падзяку.

**10 студзеня.** Пяць дзён займаем абарону на вышыні. Пад танкам страшэнны холад — скразняк і мароз ад жалеза. Батальёны аб'яднаалі, злілі ў адзін, камандзірам яго прызначылі Грыдасава. Я і Дудко пайшлі ў штаб палка, у рэзерв. Загадалі нам выспацца, памыцца і наогул прывесці сябе ў належны выгляд.





**11 студзеня.** Нашы войскі зноў пайшлі ў наступленне. Я быў каля «кацюш». Іх каля дзесяці. Яны білі так, што блізка стаяць было страшна. Нездарма гаворыцца ў песеньцы:

> «Взволновалась русская «Катюша»,
> Взволновала фрицевскую кровь.
> Потерял он голову и душу,
> Вот что значит девичья любовь».

**13 студзеня.** Нашы ўзялі сяло Дзмітрыеўку. Немцы ўцякаюць на Карпаўку. Гэта дарога ўсеяна трупамі гітлераўцаў і завалена разбітымі машынамі.

**14 студзеня.** Узята станцыя Карпаўская, хутары Сінявокаўскі, Новы Рагачык, станцыя Рагачык. Да Сталінграда — 35 кіламетраў. Кола сціскаецца. Вораг бяжыць, але агрызаецца. На аэрадроме ў Жарнаклiеўцы не паспелі ўзняцца ў паветра месершміт і дзве «рамы» — Фоке-Вульф.

**16 студзеня.** Ранкам, калі ледзь засвітала, мы пад'ехалі да лагчыны каля хутара Пітомнік. На карце значыцца 6 дамоў, а перад вачамі цэлы горад. Гэта горад машын — не менш пяцісот. Вораг кінуў іх з розным барахлом. Тут чамаданы і розная непатрэбшчына. Між гэтым усім нашы байцы знайшлі масла, цукеркі, шакалад, ром...

**22 студзеня.** Пехатою накіраваліся бліжэй да Сталінграда. Перайшлі чыгунку ў раёне Гумрак-Варапанава. Тут быў моцны бой.

**23 студзеня.** Сотнямі вядуць палонных. У адным згібе яра зайшлі ў зямлянку, дзе быў нямецкі шпіталь — там ляжаць абмарожаныя, раненыя, мёртвыя...

## У СТАЛІНГРАДЗЕ

**24 студзеня.** Ранкам падышлі да хутара Безыменны. Зусім блізка Сталінград. Добра бачны горад і за ім — белая снегавая паласа — Волга-матухна. Начуем у яры, у добрых зямлянках. Вакол нямецкія машыны і рознае барахло.

**25 студзеня.** Спыніліся на хутары Безыменным. Два хлапчукі, якія былі ў палоне ў немцаў і якія вызвалены нашымі войскамі, расказваюць пра зверствы немцаў над палоннымі ў лагеры на ст. Варапанава....

**26 студзеня.** Нашы байцы прасоўваюцца наперад — занялі ангар і далей раён кабельнага завода. Вядуць шмат палонных.

**27 студзеня.** Баі ідуць ужо на ўскраіне Сталінграда. Чакаем. Вось-вось сыдземся з нашымі войскамі, якія стаяць ля Волгі.

**30 студзеня.** Замест раненага капітана Будзілоўскага прыступіў да работы ў 1-м батальёне 193-га гвардзейскага палка.

Ноч у яры на ўскраіне горада.

**31 студзеня.** А трэцяй гадзіне ночы перайшлі яр і размясціліся ў будынку школы. Калі развіднела, з акон было бачна, як з блакітных дамкоў перабягалі немцы. Нашы байцы адкрылі агонь. Я стаяў ля акна ў невялікім пакоі, заваленым рызманамі, і з нямецкай вінтоўкі біў немцаў. Страляў так, што ствол хутка стаў гарачы. Двух палонных паслалі, каб перадалі астатнім,— здавацца да нас у палон.

З дамоў і бліндажоў выходзяць немцы і пачкамі здаюцца ў палон. Нас было 20 чалавек, а ўзялі ў палон каля 400 немцаў. Усіх адправілі ў тыл, а самі па вуліцы пайшлі да Волгі. Байцы знайшлі гармонік, хтосьці зайграў «Рускую барыню», «Кацюшу». З музыкай ішлі па вуліцах, па дварах і агародах — ачышчалі горад ад нямецкіх рабаўнікоў. На невялікім пяціпавярховым доме развяваецца чырвоны сцяг. Дайшлі да Волгі. Насустрач крочаць байцы. «Прывітанне абаронцам Сталінграда!» — гаворым ім. «Прывітанне вызваліцелям Сталінграда!» — сказалі яны.

Сёння здаўся ў палон камандуючы 6-й нямецкай арміяй фельдмаршал фон Паўлюс. Разам з ім здаўся ў палон яго штаб, больш 2500 афіцэраў і 23 генералы. Здорава!

Па Сталінградзе ходзяць байцы. Выйшлі з зямлянак жыхары горада. Сталінград ачышчаны ад ворага. Найвялікшая бітва пад Сталінградам і ў Сталінградзе закончылася поўнай перамогай — застаўся апошні ачаг гітлераўцаў у раёне трактарнага завода.

**2 лютага.** Перайшлі ў раён барыкад — завод «Чырвоны Кастрычнік». Учора тут немцы супраціўляліся. Іх касілі смертаносным артылерыйскім агнём, і рэшткі здаліся ў палон. Баі ў горадзе і на ўскраінах спыніліся.

## НА ЛІНІЮ АГНЮ

**17 сакавіка.** Грузіліся ў эшалон. Выехалі ў 14.00. Праязджаем Чумрак, тое месца, дзе вялі баі.

**25 сакавіка.** Стаім на станцыі Арчада. Наведаўся ў горад Фралова. Напісаў пісьмы ў Ішым і Карсакоўку.

**29 сакавіка.** Учора крануліся. Накуплялі малака, табакі. Газет няма. Чытаць зусім нечага. Станцыя Філонава. Тая, дзе мы выгружаліся ў кастрычніку мінулага года. Пагоркі зачарнеліся. Адчуваецца набліжэнне вясны. Цяплее на сэрцы.

**5 красавіка.** Стаім на ст. Добрынка.

**10 красавіка.** Рыхтуем да пастаноўкі п'есу В. Катаева «Сіняя хусцінка». У мяне роля Васі Дзевяткіна, гвардыі яфрэйтара.

**14 красавіка.** У райклубе ставілі «Сінюю хусцінку». Іграў я, як многія гавораць, добра. Публіка была задаволена. Уся зала рагатала, калі я выходзіў на сцэну. Асабліва стаяў рогат, калі я гаварыў з бабуляй Ксеняй Пятроўнай.

**15 красавіка.** Выехалі ноччу. На станцыю прыйшло шмат людзей.

**17 красавіка.** Станцыя Давыдаўка — месца разгрузкі. Уначы, пад покрывам цемры, накіраваліся да Дона.

**18 красавіка.** Сяло Машкіна. Вельмі раскіданая, глухая вёска. Дон — тры кіламетры. Там былі немцы.

**25 красавіка.** Амаль увесь час у полі, на занятках. Газеты ёсць. Многа чытаю. Нас часта наведвае вялікае начальства.

Людзі на папаўненне прыходзяць выключна добрыя — моладзь, добра абвучаная. З такімі можна ісці ў бой!

На франтах, як бачна, зацішша.

**9 мая.** Сёння нас паднялі ў 2 гадзіны ночы. Загад — падрыхтавацца да маршу. Напэўна, да справы, на фронт. Ужо час. Лета ў разгары. Будзем калашмаціць немчуру.

**10 мая.** Маршам выйшлі цераз Дон на захад. У вёсках усюды адчуваюцца сляды нашэсця нямецкіх гунаў. Сяло Урыва-Пакроўскае мела раней да 800 двароў. Пасля немцаў не засталося ніводнага дома — усё спалена, разбурана...

**22 чэрвеня.** Сёння два гады вайны. Саўінфармбюро апублікавала вынікі. Германія і яе саюзнікі страцілі забітымі і палоннымі 6.400 тысяч салдат і афіцэраў.

**23 чэрвеня.** Сёння гвардыі генерал-маёр Герой Савецкага Саюза Родзімцаў уручыў нашаму палку гвардзейскі сцяг.

**1 ліпеня.** Сёння атрымаў ордэн Чырвонай Зоркі за баі ля сцен Сталінграда.

**10 ліпеня.** Ідзём на фронт. З кожнай гадзінай набліжаемся да праціўніка, які перайшоў 5 ліпеня ў наступленне.

**13 ліпеня.** Пад мінамётным абстрэлам. Палкі нашай дывізіі пайшлі наперад. Над пярэднім краем пануе наша авіяцыя. Нашы лётчыкі — сапраўдныя сокалы — вядуць свае машыны праз ураганны агонь на бамбёжку.

Многія байцы і камандзіры падаюць заявы аб уступленні ў партыю. Прынялі сёння пяцярых.

**19 ліпеня.** (Гэты — апошні — запіс зроблены простым алоўкам. — Заўвага **С. К. і І. П.**).

Раніцою замянілі адзін полк і занялі яго акопы. Пасля непрацяглага адпачынку, 5—6 гадзін, пайшлі ў наступленне. Да наступлення праціўнік пакінуў свае пазіцыі і адышоў без бою. Калі мы разгарнуліся ў ланцуг і пачалі наступаць, праціўнік адкрыў шалёны артылерыйскі і мінамётны агонь, але байцы ішлі наперад і наперад. Ля вышыні 250, арганізаваўшы абарону, праціўнік нас затрымаў. Ёсць раненыя і забітыя. Ноччу з варожай вышыні ў наш бок ляцелі вогненныя кулі. Уначы мы блізка падышлі да вяршыні.

**20 ліпеня.** Ледзь развіднелася, як нашы салдаты ўварваліся на вышыню. Вораг за некалькі мінут уцёк на машынах. На дарозе мы выявілі шмат мін. Адна наша гармата наскочыла на міну — забіты конь, смяртэльна паранены ездавы. Падарваўся і згарэў транспарцёр.

Мы далей ішлі з вялікай асцярожнасцю. Перад хутарам Грымучым разгарэўся бой. З абодвух бакоў удзельнічаюць танкі. Але хутка вораг не вытрымаў і адышоў.

Ля адной вышыні ён нас зноў запыніў. Батальён разгарнуўся ў баявыя парадкі. Ноччу ішла артылерыйская і ружэйна-кулямётная перастрэлка.

**Да друку падрыхтавалі Сцяпан КУХАРАЎ,**
**Ісак ПУЧЫНСКІ.**





# АКАДЭМІЯ І ПОЛЕ

Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія вядома далёка за межамі нашай рэспублікі. Гэта кузня высокакваліфікаваных кадраў для сацыялістычных палёў. Асаблівых поспехаў дасягнула яна за гады савецкай улады.

Вось інтэрв'ю з рэктарам акадэміі, доктарам біялагічных навук, членам-карэспандэнтам Усесаюзнай Акадэміі сельскагаспадарчых навук імя У. І. Леніна **Канстанцінам Міхайлавічам СОНЦАВЫМ.**

**— Канстанцін Міхайлавіч, цікава ведаць, якой была восьмая пяцігодка для акадэміі?**

— Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія — адна са старэйшых навучальных устаноў нашай краіны. Летась ёй споўнілася 130 гадоў. У яе гісторыі былі і радасныя, і сумныя старонкі. Пра мінулае, бадай, не варта гаварыць. Лепш паглядзім, што зроблена за мінулыя чатыры-пяць гадоў.

За пяцігоддзе акадэмію скончыў 5.431 чалавек. Выхаванцы нашы атрымалі спецыяльнасці аграномаў, заатэхнікаў, эканамістаў, інжынераў-



Кафедра трактараў і аўтамабіляў. Тут набываюць веды будучыя інжынеры.

землеўпарадчыкаў, інжынераў па механізацыі сельскай гаспадаркі і інжынераў-гідратэхнікаў. Выпуск спецыялістаў у параўнанні з мінулай пяцігодкай вырас амаль удвая.

— **Раскажыце, калі ласка, пра новыя кірункі ў падрыхтоўцы кадраў для сельскай гаспадаркі.**

— За гады мінулай пяцігодкі ў акадэміі наладжана падрыхтоўка спецыялістаў па шэрагу новых профіляў. Так, напрыклад, упершыню створана аддзяленне «Лугаводства і пашавая гаспадарка». На заатэхнічным факультэце ўведзена спецыялізацыя па птушкагадоўлі. У нас з'явіўся новы факультэт — механізацыі гідрамеліярацыйных работ. Гэта выклікала прыток абітурыентаў.

За мінулыя чатыры гады ў акадэміі адкрыта 12 новых спецыяльных кафедр. На іх абсталяванне спатрэбілася больш чым паўтара мільёна рублёў. Працуюць новыя ўнікальныя лабараторыі: электроннай мікраскапіі, радыёізатопаў, рэспірацыйная, глебавы канал, амінакіслотная і інш.

Але існуючы парадак забеспячэння акадэміі тэхнікай пакідае жадаць лепшага. Новыя мадэлі машын мы атрымліваем значна пазней, чым радавыя гаспадаркі. Незалежна ад нас ствараецца нешта накшталт «запланаванага адставання». Мы лічым, што такі парадак неабходна змяніць. Трэба, каб вышэйшыя сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы маглі набываць першыя ўзоры аўтамабіляў, трактараў, камбайнаў, станкоў і прыбораў гэтак жа, як бібліятэка набывае ў калектары экземпляры новых кніг.







Рэктар Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі доктар біялагічных навук, член-карэспандэнт УАСГНІЛ Канстанцін Міхайлавіч Сонцаў.

— **А якія яшчэ змены ў жыцці акадэміі адбыліся за мінулую пяцігодку? У прыватнасці, як павысілася навуковая і метадычная кваліфікацыя выкладчыкаў?**

— Адказ на гэтае пытанне можна пачаць з лічбаў. За апошнія пяць гадоў члены нашага калектыву абаранілі 101 доктарскую і кандыдацкую дысертацыі. У той час як за папярэднюю пяцігодку іх абаронена 36. Цяпер саветам трох факультэтаў дадзена права прымаць да абароны кандыдацкія дысертацыі, а савету акадэміі — доктарскія па 12 спецыяльнасцях.

Расце кругагляд і студэнтаў, будучых спецыялістаў. За мінулую пяцігодку прыкметна змяніўся ўзровень іх эканамічнай падрыхтоўкі. Цяпер яны вывучаюць асновы навукі кіравання, знаёмяцца з метадамі планавання.

Заняткі студэнцкага навуковага таварыства.





Кандыдат сельскагаспадарчых навук, дацэнт кафедры генетыкі Рыгор Іванавіч Тарануха.

Дырэктар акадэмічнай бібліятэкі Дзям'ян Раманавіч Новікаў і загадчыца аддзела камплектавання Галіна Казленка.



Многія з іх пабылі на вытворчай практыцы ў перадавых гаспадарках зарубежных краін. Ужо чатыры гады запар акадэмія накіроўвае сваіх студэнтаў на практыку ў ГДР, ЧССР, Польшчу і Балгарыю.

— **Канстанцін Міхайлавіч, мы гаварылі пераважна ў «тэарэтычным» плане. А цяпер хацелася б пачуць ад Вас пра тое, як сябруюць акадэмія і поле.**

— Калі ласка. Мы ведаем, што па-сапраўднаму ацаніць нашу працу можа толькі вытворчасць, і падтрымліваем сувязь з нашымі выпускнікамі. А гэта рабіць няцяжка. Цяпер у Беларусі амаль няма калгаса, саўгаса, дзе б не працавалі спецыялісты, выхаванцы акадэміі. Многім з іх аказана высокая пашана і давер'е: яны працуюць старшынямі калгасаў і дырэктарамі саўгасаў. На Гомельшчыне ёсць саўгас «Навасёлкі». Яго ўзначальваюць чатыры выпускнікі акадэміі. Дырэктар саўгаса — кандыдат эканамічных навук А. С. Парахневіч, галоўны інжынер — М. А. Кудравец, галоўны заатэхнік — П. Д. Міхалёў, галоўны эканаміст — Н. Ястрэмская. Летась саўгас атрымаў 29,5 цэнтнера збожжавых з аднаго гектара.

Гэта не адзінкавы прыклад. Толькі ў двух раёнах Мінскай вобласці налічваецца 136 выпускнікоў акадэміі. Гаспадаркі Слуцкага раёна, дзе працуюць нашы выхаванцы аграномамі, атрымалі летась па 22,3 цэнтнера, а Любанскага — па 24 цэнтнеры збожжавых з кожнага гектара.

У Шклоўскім раёне Магілёўскай вобласці атрымана збожжавых па 21,3 цэнтнера з гектара. Гэта і заслуга 65 выхаванцаў нашай акадэміі.





На кафедры сельскагаспадарчых машын.

Студэнты-завочнікі заалагічнага факультэта на лабараторных занятках.





Цікавая лекцыя.

Калгас імя Дзяржынскага Аршанскага раёна дасягнуў рэкорднай рэнтабельнасці на Віцебшчыне. У мінулым годзе тут сабралі па 26 цэнтнераў збожжавых з гектара. Вытворчасць малака і мяса рэзка павялічылася. Узначальвае гэтую гаспадарку таксама выхаванец акадэміі У. Я. Капітонаў. У калгасе працуюць людзі іншых спецыяльнасцяў — былыя нашы студэнты.

**— Слухаючы Вас, Канстанцін Міхайлавіч, узнікае такое пытанне: а ці ўсюды правільна выкарыстоўваюцца спецыялісты сельскай гаспадаркі — выпускнікі акадэміі?**

— На жаль, не ўсюды падыходзяць да іх з дзяржаўнай зацікаўленасцю. Вось такі прыклад. У калгасах, саўгасах і раённых установах на Гомельшчыне ў 1968 годзе працавалі 823 выпускнікі акадэміі. За два наступныя гады мы накіравалі на Гомельшчыну яшчэ 355 сваіх выхаванцаў. Але колькасць спецыялістаў у калгасах і саўгасах вобласці амаль не павялічылася. А чаму? Відаць, таму, што маладым спецыялістам не заўсёды ствараюцца неабходныя ўмовы для працы і быту. А магчыма, замнога спецыялістаў паглынаюць абласныя арганізацыі. Дрэнна і першае, і другое, бо не спрыяе сферы матэрыяльнай вытворчасці.

**— Канстанцін Міхайлавіч, вядома, што тэорыя тады моцная, калі яна падмацавана практыкай. Вучэбна-доследную гаспадарку лічаць вядучай «кафедрай» акадэміі. Што вы скажаце пра яе?**





— Вучэбна-доследная гаспадарка аказвае неацэнны ўплыў на падрыхтоўку спецыялістаў. А будучым аграномам, заатэхнікам тут ёсць чаму павучыцца. Гаспадарка за апошнія гады поўнасцю асвоіла севазвароты, распрацавала і дакладна асвойвае сістэму ўгнаення палёў, выкарыстоўвае прагрэсіўную тэхналогію апрацоўкі глебы. Наведзены парадак і на фермах. Жывёла круглы год добра дагледжана, працаёмкія працэсы ў жывёлагадоўлі механізаваныя.

Летась вытворча-доследная гаспадарка акадэміі сабрала па 30 цэнтнераў з гектара збожжавых, па 225—230 цэнтнераў з гектара дасягнуў ураджай бульбы. Надой малака ад кожнай каровы ў сярэднім склаў па 3800 кілаграмаў. У паўтара раза павялічыўся настрыг воўны і складае ад авечкі па 5,4 кілаграма.

За мінулую пяцігодку чысты прыбытак гаспадаркі склаў 2055 тысяч рублёў.

Праца калектыву вучэбна-доследнай гаспадаркі ў мінулай пяцігодцы адзначана ордэнам «Знак Пашаны».

**— Жыццё ставіць перад навукай усё новыя праблемы. Раскажыце пра некаторыя апошнія пошукі і адкрыцці вучоных акадэміі.**

— На ўсіх кафедрах вядзецца вялікая навукова-даследчая работа. Але адкрыцці робяцца не адразу. Толькі нястомнасць пошуку і настойлівасць спадарожнічаюць поспеху. Я хачу расказаць пра ўдалы эксперымент дацэнта кафедры генетыкі Рыгора Іванавіча Таранухі, які вывеў новы гатунак лубіну — «Акадэмічны-1».

У Беларусі найбольш шырокае распаўсюджанне атрымаў жоўты лубін. Яго пасеўныя плошчы ў рэспубліцы з 1953 года выраслі ў 140 разоў,

У лабараторыі кафедры глебазнаўства. Загадчык кафедры прафесар Анатоль Міхайлавіч Брагін са студэнтамі.





**Праблемная лабараторыя харчавання раслін. Аспірантка Клара Найдзёнава.**

дасягнуўшы 800 тысяч гектараў. Лубін умацаваў кармавую базу нашых калгасаў і саўгасаў.

Але раянаваныя гатункі, у тым ліку і шырокараспаўсюджаны гатунак «Хуткарастучы-4» не ў поўнай меры адпавядалі патрабаванням вытворчасці. Адмоўнай якасцю гэтых гатункаў з'яўляецца позняспеласць і няўстойлівасць ад палягання.

Узнікла праблема селекцыі хуткаспелага жоўтага кармавога лубіну. Р. І. Тарануха працаваў над ёй з 1964 года. У нашай акадэміі ім была атрымана новая форма жоўтага кармавога лубіну. Спачатку яна праходзіла конкурснае гатунковае выпрабаванне на кафедры генетыкі, а з 1968 года — на палях калгасаў і саўгасаў рэспублікі. На працягу чатырох гадоў гатунковага даследавання наша форма станоўча адрознівалася ад усіх раянаваных гатункаў па хуткаспеласці і насеннай прадуктыўнасці. Напрыклад, вегетацыйны перыяд нашага лубіну ў сярэднім быў на 27 дзён карацейшы, чым у стандартнага гатунку «Хуткарастучы-4». Ураджай насення склаў 18,5 цэнтнера з гектара, што на 5,2 цэнтнера вышэй звычайнага. І ўраджай зялёнай масы атрымалі большы. Прытым новы гатунак лубіну выспяваў кожны год.

Не так даўно Дзяржаўная камісія па даследаванні сельскагаспадарчых культур у Беларускай ССР і Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР адзначылі, што новы гатунак жоўтага кармавога лубіну перспектыўны ва ўмовах Беларусі. З 1971 года вырашана наладзіць неадкладнае яго насенняводства ва ўсіх вобласцях.

**— Садоўніцтва ў акадэміі — даўняя традыцыя. Чым займаецца кафедра пладаводства цяпер?**





— Беларусь — надзвычай прыдатная зона для развядзення розных парод і гатункаў садовых і ягадных раслін. Але садоўніцтва патрабуе значнага ўдасканалення. Лічыцца, што сярэдняя гадавая норма спажывання яблыкаў, груш, сліў і ягад на аднаго чалавека павінна складаць 80 — 100 кілаграмаў. Са сваіх садоў у асобных раёнах Беларусі спажываецца садавіны на душу ўсяго каля 7 кілаграмаў. Астатняя колькасць падае на прывазную прадукцыю.

Узнікла неабходнасць развіцця садоўніцтва на прамысловай аснове. Гэта дазволіць сканцэнтраваць вытворчасць садавіны і ягад у буйных высокаспецыялізаваных садоўніцкіх гаспадарках, дзе можна будзе прымяняць сучасную тэхніку, сумяшчаць вытворчасць садавіны з яе перапрацоўкай і захаваннем. Варта закладваць прамысловыя сады, каб пазбавіцца ад перыядычнасці ўраджаяў і неўраджаяў.

Кафедрай пладаводства распрацоўваецца праект закладкі прамысловага саду з тэхналагічнымі пунктамі захавання і перапрацоўкі пладоў у калгасе «Звязда» Горацкага раёна. Пладовыя дрэвы будуць высаджаны на значнай плошчы, а таксама паабапал дарогі да гістарычнага мемарыяла ў саўгасе «Леніна».



**Нядаўні аспірант Рыгор Цыганок абараніў кандыдацкую дысертацыю. Ён мае два аўтарскія пасведчанні.**

Вопыт перадавых гаспадарак нашай краіны даказвае, што ўсе затраты, звязаныя са стварэннем садова-прамысловых комплексаў хутка акупляюцца. Так, калі не адпаведную кандыцыі садавіну звычайна з цяжкасцю рэалізуюць па 100 — 120 рублёў за тону, то, перапрацаваная на сок, яна дае ад 400 да 800 рублёў прыбытку.

Садоўніцтва — адна з самых інтэнсіўных галін сельскай гаспадаркі. Пры сярэднім ураджаі каля 15 тон з гектара прыбытак перавышае дзве тысячы рублёў. А калі ўраджай дасягае 18 — 20 тон, то прыбытак з гектара плошчы саду складзе тры з паловай тысячы рублёў.

**— Пасада рэктара акадэміі, Канстанцін Міхайлавіч, забірае шмат часу. Вы ж не спыняеце і навуковай дзейнасці. Цікава даведацца і пра гэта.**



Міністр сельскай гаспадаркі БССР Сцяпан Гардзеевіч Скарапанаў прымацоўвае ордэн «Знак Пашаны» да сцяга вучэбна-доследнай гаспадаркі акадэміі.

— Я займаюся распрацоўкай тэорыі комплекснага ўзбагачэння камбікармоў і рацыёнаў фізіялагічна актыўнымі рэчывамі. Раскажу пра гэта больш проста і на канкрэтным прыкладзе.

На вытворчасць аднаго кілаграма мяса не ўсюды ідзе аднолькавая колькасць кармавых адзінак. Калі ў асобных гаспадарках на адзін кілаграм прывагі выдаткоўваецца ажно 12—14 кармавых адзінак, то ў перадавых — усяго толькі 5,8. Як жа яны дасягнулі гэтага? А вельмі проста. Рацыён кармлення ўзбагачаецца фізіялагічна актыўнымі рэчывамі: амінакіслотамі, канцэнтратамі, вітамінамі, ферментнымі прэпаратамі, гармонамі, антыбіётыкамі.

Добрым прыкладам комплекснага прымянення антыбіётыкаў у спалучэнні з вітамінамі, мікраэлементамі і амінакіслотамі з'яўляецца вопыт работы Вільнюскай бройлернай фабрыкі. Тут за 63 дні бройлер дасягае вагі 1600 грамаў, а затрачваецца на 1 кілаграм прывагі ўсяго 2,4 кармавыя адзінкі. Літоўскія птушкаводы ў гэтай галіне наблізіліся да сусветных дасягненняў. Вядома ж, што ў лепшых гаспадарках ФРГ і ЗША на адзін кілаграм прывагі бройлераў ідзе толькі 2,2 кармавыя адзінкі.

**— Скажыце, Канстанцін Міхайлавіч, а шырокае выкарыстанне антыбіётыкаў пры адкорме жывёлы не можа адбіцца на здароўі спажыўца гэтай прадукцыі — чалавека?**

— Не. Але для гэтага трэба захоўваць вялікі комплекс мер па прадухіленні магчымага адмоўнага ўздзеяння антыбіётыкаў на арганізм жывёлы і людзей. А выкарыстанне антыбіётыкаў для павелічэння вытворчасці мяса будзе ўзрастаць, бо гэта карысна і выгадна. Вось прыклад. Выкарыстаўшы 400 тон антыбіётыкаў (гэта ўзровень вытворчасці іх у 1971 годзе), наша краіна зможа сэканоміць больш чым 2,5 мільёнаў тон кармавых адзінак. Гэтай колькасці кармоў хопіць для вытворчасці дадаткова 300—350 тысяч тон мяса ў забойнай вазе. Хіба не пераканаўчыя лічбы?

У наш час сельскагаспадарчая вытворчасць без навукі немагчымая. Вось чаму Цэнтральны Камітэт нашай партыі, распрацоўваючы Дырэктывы па новым пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР, звярнуў асаблівую ўвагу на выкарыстанне найноўшых дасягненняў навукі і перадавой практыкі.

Я дзякую Канстанціну Міхайлавічу Сонцаву за шчырую гутарку.

Новых творчых поспехаў вучоным і выхаванцам Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі!

Інтэрв'ю ўзяў
**Іван КАЛЕСНІК.**



# НАШ ПРАКТЫКУМ

## ПЕРШЫ ТВОР

Неўзабаве сотні тысяч выпускнікоў будуць пісаць галоўны твор школьнага жыцця — сачыненне на ўступных экзаменах у абраны інстытут. За гады вучобы ў школе кожны з вучняў напісаў не менш як 50 сачыненняў—розных па тэме і жанры, розных па форме і змесце.

Выбар тэмы — пытанне надзвычай важнае, бо не кожную можна аднолькава падаць. Адна патрабуе формы пісьма-звароту да пэўнай асобы, другая — размовы з героем кнігі. А ёсць сачыненні ў выглядзе дзённіка, рэпартажа, дыялога, інтэрв'ю.

Спыніўшыся на пэўнай тэме, не трэба думаць, што другая больш простая. Пачынайце сачыненне з плана. Сёй-той пытае: «А ці можна без плана?» Бывае, што можна сачыненне пісаць і без плана. Але ўсё-такі з планам лепш. Праца з планам атрымліваецца больш мэтанакіраванай, паслядоўнай. Мая цвёрдая перакананасць: план абавязкова патрэбен. Іншая справа, які—просты ці складаны. Гэта ўжо залежыць ад тэмы і ад таго, хто піша сачыненне.

Далей паўстае пытанне: як пачаць сачыненне? Галоўнае тут — пазбегнуць шаблоннага ўступу, накшталт такога: «Раман ці аповесць былі створаны ў тую эпоху, калі...» Трэба памятаць, што сачыненне — літаратурная творчасць. А гэта азначае, што неабходна тварыць і мысліць, а не капіраваць. Вось прыклад. Мікола П. пачаў сваю размову пра Анегіна з абмалёўкі карціны, якая склалася ва ўяўленні пасля прачытання першых раздзелаў твора.

«...Пецярбург. Пачатак стагоддзя. Позні вечар. Зачынены аканіцы на вокнах будынкаў, у якіх жыве «дробны люд», ён моцна спіць пасля цяжкага дня. А па вуліцы, хутаючыся ў бабровы каўнер, едзе малады дзяцюк. Яму ўжо амаль васемнаццаць гадоў. Ягоны кірунак у той дом, дзе ярка свецяцца вокны. Там бляск, там музыка, там баль... Але лоб у юнака наморшчаны, сам ён пахмурны, ён прыгнечаны. Чым?» і г. д...

Не ўсё гладка ў гэтым уступе, але ён свой...

А вось як пачала сачыненне на вольную тэму другая абітурыентка. Тэма сачынення—«Ніхто не забыты, нішто не забыта». «...Сёння мне не спалася. Рана я выйшла з дому. Хацелася пабыць адной, падумаць. Крочу паволі па праспекце. Горад яшчэ спіць. Вакол пануе ўрачыстая цішыня, і мне здаецца, што нават ранішняя смуга гусцейшая, бо яе не развеяў ні людскі паток, ні звычайны вулічны шум.

Я думаю пра тых, каму прысвячу сёння сваё сачыненне. Вось яны. Строгімі шэрагамі ўздоўж абодвух бакоў вуліцы — партрэты ў чырвона-чорным акаймаванні. Гэта алея Герояў, маладых, зусім маладых яшчэ людзей, якія маглі быць цяпер маімі дзядулямі. Былі б... Але на кожным партрэце чорная стужка, сімвал смутку і жалобы. Спыняюся перад знаёмым партрэтам. Гэта ён — Захар Гала. Гэта пра цябе, мой равеснік-герой, мы чыталі нарыс у газеце. Мы прыходзілі ў госці да тваёй маці. Яна зусім старэнькая, жыве адна ў вялікім доме на ціхай вуліцы Беларускай. Мы памагалі ёй па гаспадарцы, а потым доўга гаварылі. Нам вельмі хацелася распытаць пра цябе больш падрабязна, але мы не сталі трывожыць раны сэрца. Нам было шкада тваёй маці, бо ніякі клопат і ўвага ёй не заменяць сына, не прыглушаць боль. Яна, твая маці, благаслаўляла цябе, адзінага, на подзвіг, не стрымлівала, не плакала. Нізкі паклон ёй і табе, мой дарагі равеснік, ты ж так назаўсёды і застаўся выпускніком школы, якую скончыла і я.

Я сёння яшчэ прыйду да цябе, але ўжо не адна, а разам з таварышамі...»

Пасля такога ўступу абітурыентка пераходзіць да асноўнай часткі сачынення. Яна апавядае пра подзвігі герояў на канкрэтных прыкладах. Такое сачыненне падкупляе тым, што яно шчырае, усхваляванае, пазбаўленае «агульных выразаў». Тут яшчэ важна і тое, што асноўная частка сачынення — пераканаўчая, пра подзвіг гаворыцца не адным-двума сказамі, а ад пачатку да канца «твора». Менавіта вось тут, як гавораць настаўнікі, раскрыта тэма сачынення.

Кожны, хто піша, павінен адкідваць усё непатрэбнае, што не прасвятляе асноўную думку, не развівае яе. Не варта шкадаваць і добрага матэрыялу, калі ён не «прывязаны» да тэмы.

Уменне назіраць, параўноўваць, абагульняць — галоўнае ў рабоце над сачыненнем.

Падчас пытаюць, ці абавязковае ў сачыненні апісанне прыроды. Калі яно патрэбна, а калі не?

Вы, безумоўна, заўважалі, як тонка пераплятаюцца малюнкі пейзажу з настроем людзей у творах мастацкай літаратуры. Вось хаця б прыгадаць апавяданне Канстанціна Паустоўскага, у якім пададзены малюнак парыжскага парку, дзе:

«...жоўтае лісце платанаў засыпала роўнядзь туманных і ціхіх сажалак. Шэрая цішыня панавала наўкол. Парк патанаў у змроку. Зрэдку з галін падалі нам на рукі ледзяныя, чыстыя кроплі. Яны ўсё падалі, усё зляталі жоўтыя лісты. Іх лёгкі шоргат ішоў за намі па пятах».

Пісьменнік прыгадаў такі ж дзіўны вечар на Ільінскай затоцы на радзіме (ён быў далёка ад яе), і туга сціснула сэрца: «туга па сваіх вечарах, па сваім трыпутніку і сціплым шэпце апалай лістоты».

Нездарма пісьменнік прыходзіць да вываду: «Не! Чалавеку нельга жыць без радзімы, як нельга жыць без сэрца».

Думаю, што і вам, дарагія хлопцы і дзяўчаты, пра многае думаецца, калі вы трапляеце ў асенні лес ці поле або на сенажаць. А падчас і няма жадання думаць, проста дыхаеш глыбока і радасна ці спяваеш, бо вакол хораша. Ці няпраўда?

Затое, калі давядзецца расказаць пра што-небудзь вясёлае, радаснае, міжволі прыгадваеш тое пачуццё і настроі, што нарадзіліся на ўлонні роднай прыроды. Вось і трэба пра перажытае расказаць гэтак жа ярка і цікава, як было з табой на яве.

Сачыненні без эмацыянальнай усхваляванасці звычайна нецікавыя. Чытаеш іх, і адразу апаноўвае пачуццё незадаволенасці. Хочацца сказаць — гэта трафарэт, шаблон, набор завучаных фраз, дзе не відаць, што вучань хваляваўся, думаў. Вось прыкладныя пачаткі асобных сачыненняў:

«Чырвонай ніткай у рамане праходзіць...»

«Галоўным героем рамана з'яўляецца...»

«Тацяна — узор сямейнай вернасці» і г. д.

І гэта пра Тацяну, чый вобраз хвалюе чытачоў усіх узростаў. Яны ж са слязьмі на вачах чытаюць апошнюю сцэну рамана, думаючы ў той момант толькі пра адно: «Шчасце было так магчыма, так блізка...»

Раскажыце пра гэтыя пачуцці сваімі словамі, шчыра, так як казалі б свайму сябру, субяседніку.

Вядома, што трэба адрозніваць патэтычнасць і эмацыянальнасць ад «ілжывага пафасу», які нярэдка сустракаецца ў сачыненнях. Некаторыя пачынаюць свой твор з клічнікаў і заклікаў:

«Мой горад! Як не любіць цябе, як не ганарыцца табой! Як не любавацца светлымі вуліцамі, велічнымі будоўлямі» і г. д.

Пісаць трэба цяплей, без упрыгожванняў. «Чым прасцейшае слова, тым яно больш дакладнае», — гаварыў А. М. Горкі. Трэба адкідваць лішняе, трэба шліфаваць фразу, трэба клапаціцца пра яе музычнасць. Найбольшая прыгажосць — у прастаце. Бывае ж, што ў пошуках яркіх параўнанняў мы падчас ужываем прыкладна такія азначэнні: «сінеючая далячынь» ці «блакітная смуга». Трэба ўсё ж кіравацца парадамі майстроў слова, якія вучылі, што калі няма цвёрдага параўнання, дык лепш не браць ніякага. «Параўнанне, — гаварыў К. Паустоўскі, — павінна быць натуральным, як водар кропу».

У некаторых сачыненнях сустракаюцца і «штампы», а то і горш таго — спісаныя ўрыўкі з артыкулаў, змешчаных у часопісах. Праўда, вопытны выкладчык адразу пазнае «чужы» тэкст. За такую работу адзнака зніжаецца. Няхай сачыненне будзе не зусім гладкае, але напісана сваімі словамі. Яно будзе ацэнена вышэй, чым гладкае, але трафарэтнае.

Асноўная частка сачынення — самая большая. Па аб'ёме яна займае прыкладна 3/5 тэксту. Калі яна закончана, трэба яшчэ раз падсумаваць матэрыял, абагуліць яго, акрэсліць думку. Толькі пасля ўжо можна прыступаць да заключэння.

Яно таксама будуецца па-рознаму. Адны заканчваюць свой твор эпізодам з жыцця, іншыя будуюць эпілог як апавяданне пра будучыню героя. Але ў большасці заключэнне «пераклікаецца» з уступам. Такі эпілог быў і ў сачыненні пра «алею Герояў». Аўтар яго — зноў на плошчы Перамогі, ля Вечнага агню.

«...І вось ён перада мной, адзін з лепшых помнікаў свету тым, хто не забыты, хто заслужыў славу і несмяротнасць. Сціплы язычок полымя, вечнага агню жыцця, агню, які гарэў у грудзях Данка і Жаны д'Арк, Праметэя і Гастэлы, Захара Галы і Марата Казея. Гэткі ж агонь гарыць на Марсавым полі, таксама ў гонар тых храбрых, каму «пяём мы славу, пяём мы песню!»

І вусны мае шэпчуць:

— Помнім. Праз гады, праз вякі — помнім!

Пра тых, хто ўжо не прыйдзе ніколі, помнім!

Будзем помніць.

І, схамянуўшыся, заўважаю, што на вуліцы зусім светла, сонечна, шмат людзей. Яны спяшаюцца, смяюцца, размаўляюць. Але кожны з іх, напэўна, таксама не раз задумваўся перад Вечным агнём, які гарыць на плошчы Перамогі...»

Чытаючы такое сачыненне, я заўважаю шчырасць, арыгінальнасць формы (роздум у час шпацыру па горадзе). Сачыненне насычана літаратурным матэрыялам. Але галоўная заслуга ў тым, што яно атрымалася самастойным, усхваляваным, пераканаўчым.

Але пакуль здаць сачыненне, яго трэба старанна праверыць.

Як жа арганізаваць самаправерку?

Перш за ўсё трэба праверыць стыль, будову сказаў, падбор слоў. Уважліва прачытаць, ці няма «масла масленага», паўтораў адных і тых жа слоў і выразаў, накшталт: «яна сказала», «ён сказаў ёй», «яна яму сказала» і г. д.

Абавязкова праверце, каб кожная новая думка пачыналася з абзаца, каб будова сказа не змяняла яго сэнс.

Наступны этап — граматычная праверка. Уважліва прыгледзьцеся да цяжкіх слоў, вусна разбярыце іх, каб удакладніць правапіс. І, нарэшце, сінтаксіс. Чытаючы трэці раз работу, грунтоўна разбярыцеся, якія перад вамі сказ: просты ці складаны. Інтанацыйна прачытайце яго, прадумайце кожны кампанент. Пасля ўсяго гэтага вам стане ясна, якія ставіць знакі прыпынку.

Памятайце, дзе пішацца эпіграф. Яго месца пасля тэмы сачынення з правага боку. Ведайце, што цытаты бяруцца ў двукоссе. Ніжэй ставіцца прозвішча аўтара. Трэба надаць належную ўвагу эстэтычнаму боку сачынення: не пакідаць вялікае поле, пісаць ясна, каб выкладчык не гадаў, дзе «а», а дзе «о».

Прыемна правяраць акуратнае сачыненне, першы самастойны твор.

**Ліля СОБАЛЕВА,**
**выкладчыца мовы і літаратуры школы № 104 г. Мінска.**

# РАШЭННЕ ЗАДАЧ ПА ФІЗІЦЫ*

Перш чым прыступіць да рашэння задачы, абітурыент павінен ясна сабе ўявіць фізічны працэс, які пададзены ва ўмовах задачы. Трэба ўспомніць і запісаць усе фізічныя законы, якія неабходны для тлумачэння рашэння. Усе фізічныя велічыні, якія прыведзены ва ўмовах задач, пажадана перавесці ў сістэму *СІ*. Вылічэнні трэба давесці да канца і падставіць размернасць атрыманай велічыні.




1. Задача з прызмай абавязкова патрабуе складання чарцяжа. Шкляная прызма $ABC$ з вуглом праламлення $\varphi = 3°$. Прамень святла $SDF$ падае на грань $AB$ пад вуглом $\alpha_1 = 0$, і таму гэтую мяжу падзелу паветра — шкло ён праходзіць не праламляючыся, г. зн. і $\gamma_1 = 0$ (вуглы падзення $\alpha_1$ і праламлення $\gamma_1$ на малюнку не паказаны). Другую грань прызмы $AC$ прамень сустракае ў пункце $E$ пад вуглом $\gamma_2$ да перпендыкуляра $EN$, які ўзведзены з пункта падзення $E$. Вугал $\gamma_2 = \alpha$, так як $AC \perp NN_1$ і $AB \perp DF$.

Улічваючы ўласцівасці абарачальнасці промня святла, можна запісаць закон праламлення святла

* Умовы задач гл. «Маладосць» № 4 г.г.

$\frac{\sin\alpha_2}{\sin\gamma_2} = n$, дзе $n = 1{,}5$ паказчык праламлення шкла адносна паветра ($n_{\text{паветра}} = 1$).

$$\sin\alpha_2 = n\sin 3^\circ = 1{,}5\cdot 0{,}052 = 0{,}078.$$

$\alpha_2 = 4^\circ 30'$. Вугал адхілення промня $\delta = \alpha_2 - \gamma_2 = 1^\circ 30'$.

2. Будзем лічыць паралельныя зараджаныя пласціны 1 і 2 дастаткова вялікімі па сваіх памерах, так што ў сярэдняй частцы электрычнае поле аднароднае. Напружанасць такога поля разлічваецца як

$$E = \frac{\varphi_1 - \varphi_2}{d} = \frac{120}{0{,}02}\,\frac{В}{м}.$$




На электрон у электрычным полі дзейнічае сіла $F = eE$, якая надае яму рух супраць ліній электрычнага поля. Пры перамяшчэнні электрона паміж пунктамі $a$ і $b$ (на адлегласць $d_1 = 0{,}003$ *м*) будзе праведзена работа $A = Fd_1 = eEd_1$. Па законе захавання энергіі работа па перамяшчэнні электрона з зарадам $e = 1{,}6\cdot 10^{-19}$ Кл (кулон) і масай $m = 9{,}1\cdot 10^{-31}$ *кг* ператворыцца ў кінетычную энергію.

$$A = eEd_1 = \frac{mv^2}{2}.$$

Пры гэтым варта лічыць, што пачатковая хуткасць электрона ў пункце $a$ роўна нулю ($v_0 = 0$). Адсюль

$$v = \sqrt{\frac{2e(\varphi_1 - \varphi_2)\cdot d_1}{d\cdot m}} = \sqrt{\frac{2\cdot 1{,}6\cdot 10^{-19}\cdot 120\cdot 3\cdot 10^{-3}}{2\cdot 10^{-2}\cdot 9{,}1\cdot 10^{-31}}}.$$

Для прастаты вылічэння перабудуем падкаранёвае выражэнне

$$v = \sqrt{\frac{16\cdot 36\cdot 10^{-22}}{91\cdot 10^{-34}}} = \frac{4\cdot 6}{9{,}55}\,10^6\,\frac{м}{с} = 2{,}5\cdot 10^6\,\frac{м}{с} = 2500\,\frac{км}{с}.$$

Па новым ГОСТу секунда абазначаецца — *с*, кулон — Кл, вольт — В.

3. Лічым, што ўсе працэсы: падыманне молата, яго падзенне на жалезную балванку і награванне апошняй пры ўдарах молата адбываецца без страт энергіі на трэнне і выдзяленне цяпла. Пры падыманні паравога молата масай $m = 6000$ *кг* на вышыню $h = 4$ *м* затрачваецца работа $A = mgh$, і яму надаецца патэнцыяльная энергія $W_п = A = mgh$. У працэсе падзення молата на жалезную балванку патэнцыяльная энергія молата ператвараецца ў кінетычную

$$W_к = \frac{mv^2}{2} = W_п = mgh.$$

Пры ўдары аб балванку $x$ % гэтай механічнай энергіі ператвараецца ў цеплавую. Пасля 30 удараў молата жалезная балванка ($m_1 = 100$ *кг*) награецца на $t_2 - t_1 = 25^\circ$ С.

$$x = \frac{Q}{W_к\cdot 30}\,100\% = \frac{c\cdot m_1(t_2 - t_1)}{mgh\cdot 30} = \frac{460\cdot 100.25}{6000\cdot 9{,}8\cdot 4\cdot 30}\,100 = 13{,}3\%.$$

Удзельная цеплаёмістасць жалеза $c = 460\ \frac{Дж}{кг\ К}$. Па новым ГОСТу джоуль — *Дж*, градус Кельвін — К.

4. У алюмініевай каструлі масай $m_1 = 700$ *г* знаходзіцца вада — $m_2 = 1000$ *г* і лёд $m_3 = 100$ *г* пры тэмпературы $t_0 = 0^\circ$ С. Вада награецца на электраплітцы магутнасцю $N = 500$ *Вт* на працягу $\tau = 2400$ *с*; за гэты час яна награецца да $t_к = 100^\circ$ С, і $m_x$ *г* вады выкіпае. ККД пліткі $\eta = 0{,}5$.

Для таго каб вылічэнні былі не вельмі грувасткімі, больш зручна колькасць цеплыні разлічваць у калорыях (пазасістэмная адзінка), масу ў грамах. Энергію, якую выдзяляе плітка, разлічым у джоулях і для пераліку ў калорыі выкарыстаем механічны



эквівалент цеплыні $4{,}18\ \frac{Дж}{кал}$ або яго адваротную велічыню $\kappa = \frac{1}{4{,}18} = 0{,}24\ \frac{кал}{Дж}$.

На плаўленне лёду пры $0^\circ$ С выдаткоўваецца $m_3\lambda_1$ калорый, дзе $\lambda_1$ — скрытая цеплыня плаўлення лёду $80\ \frac{кал}{г}$. На награванне вады ($m_2$), растаўшага лёду ($m_3$) і каструлі ($m_1$) ад $t_0 = 0^\circ$ С да $t_к = 100^\circ$ С выдаткоўваецца колькасць цеплыні:

$$[c_2(m_2 + m_3) + c_1m_1](t_к - t_0).$$

На выпарэнне $m_x$ грамаў вады пры тэмпературы кіпення $t_к = 100^\circ$ С выдаткоўваецца $m_x\lambda_2$ колькасці цеплыні. Скрытая цеплыня плаўлення лёду $\lambda_1 = 80\ \frac{кал}{г}$; скрытая цеплыня выпарэння вады $\lambda_2 = 539\ \frac{кал}{г}$; удзельныя цеплаёмістасці алюмінію $c_1 = 0{,}22\ \frac{кал}{г\cdot град}$ — вады $c_2 = 1\ \frac{кал}{г\cdot град}$.

Ураўненне цеплавога балансу мае выгляд

$$\lambda_1m_3 + [m_1c_1 + (m_2 + m_3)c_2](t_к - t_0) + \lambda_2m_x = k\eta N\tau.$$

$$m_x = \frac{k\eta N\tau - \lambda_1m_3 - [c_1m_1 + c_2(m_2 + m_3)](t_к - t_0)}{\lambda_2} =$$

$$= \frac{0\cdot 24\cdot 0{,}5\cdot 500\cdot 2400 - 80\cdot 100 - [0{,}22\cdot 700 + (1000 + 100)\cdot 1](100 - 0)}{539} = 250\ г.$$

**Леў КРАЎЦОЎ,**
**загадчык кафедры фізікі машынабудаўнічага профілю Беларускага політэхнічнага інстытута.**

# СТАРАДАЎНЯЯ СЮІТА

Праз некалькі хвілін пачнецца справаздачны канцэрт студэнтаў кампазітарскага факультэта кансерваторыі. У зале амаль няма вольных месц, а народ усё прыбывае. Вось ля ўваходу размаўляюць два юнакі. Адзін здзіўлена гаворыць:

— Я не чакаў, што збярэцца так многа людзей.

— Гэта зразумела,— пярэчыць другі. — Хлопцы згаладаліся па новай музыцы. А тут яшчэ музыка, напісаная сваім братам, студэнтам. Хіба не цікава?

Тлумачэнне зразумелае і мне. Праўда, не голад па новай музыцы (я яшчэ і старой не наслухалася ўдосталь) прывёў мяне сюды, а цікавасць: што пішуць сёння будучыя беларускія кампазітары? Магчыма, хто-небудзь з іх стане некалі славутым, і тады я ўспомню пачатак — сённяшні канцэрт... Калі я вучылася ў Маскве, мы, студэнты тэхнічнай ВНУ, часта наведвалі Малую залу кансерваторыі, дзе давалі канцэрты яе вучні. Я захаплялася ігрой высокага юнака, амаль хлопчыка, Валерыя Касцельскага. Праз некалькі гадоў пачула па радыё, што ён стаў лаўрэатам аднаго з міжнародных конкурсаў, і адчула дзіўную радасць — нібыта мела дачыненне да яго поспеху...

— Віктар Войцік. Старадаўняя сюіта для цымбалаў і фартэпіяна,— аб'яўляе вядучы.

Віктар сядзіць справа ад мяне, у адной з бакавых ложаў. Ён студэнт трэцяга курса Беларускай кансерваторыі. Мы з ім удзельнічалі ў рабоце семінара творчай моладзі, які адбыўся ў снежні мінулага года ў Наваполацку. З таго часу — знаёмыя. Віця стройны, высокі, падцягнуты, але апрануты сціпла, твар прыемны, з правільнымі рысамі, голас ціхі, рухі немітуслівыя. Яго можна не заўважыць з першага погляду, але, заўважыўшы, немагчыма не вылучыць сярод іншых. Гаворка павольная, скупая на інтанацыі, а слухаеш — з неаслабнай увагай.

Першая наша размова была пра паэзію. З той доляй захаплення, якую ён



**Віктар Войцік.**

здольны праявіць знешне, Віктар гаварыў пра кнігу вершаў Фрэно і Гільвіка ў перакладах В. Левіка. Я таксама купіла гэтую кнігу, але ўсё не мела часу прачытаць.

Віктар любіць вольны верш, сам не расстаецца з запісной кніжкай, куды заносіць вершаваныя імправізацыі, уражанні. Ёсць у яго патрэба зафіксаваць свет, жыццё не толькі ў гуках, але і ў словах. У яго паэтычных мініяцюрах відаць душа тонкая, чулая. Душа музыканта.

В тумане сгоревших листьев  
Блуждала мелодия.  
Я поднял ее, застывшую,  
И согрел своим дыханием...

У яго сям'і не было музыкантаў. Маці — работніца швейнай фабрыкі, бацька — машыніст цеплавоза. Дзяцей двое: Віктар і малодшая сястра. Дзецям часта даводзілася заставацца дома адным, і Віктар, каб развесяліць сябе і сястру, круціў патэфон. Пласцінак было многа. Пераважна песні: сучасныя, народныя. Канцэрт паўтараўся кожны дзень, песня за песняй ішла ў адпаведным парадку. К таму часу, калі павінна была прыйсці маці, рэпертуар вычэрпваўся.

Аднойчы хлопчык трапіў на завод, які знаходзіўся побач з домам. Быў абедзенны перапынак. Пасярод цэха паставілі крэсла, на крэсла Віцю, і ён не пераводзячы дыхання праспяваў усе свае песні — у тым самым парадку, у якім ляжалі дома пласцінкі. Узнагародай былі апладысменты і мяшэчак цукерак. Гэта быў першы поспех.

Хлопчык падрос, пайшоў у школу. Вучоба давалася яму лёгка. Ён паступіў і ў другую школу — музычную, пачаў вучыцца іграць на баяне. У яго жыццё ўвайшоў чалавек, пра якога ён можа гаварыць доўга і з ахвотай, і тады яго ціхі голас становіцца мяккім і выразным. Гэта яго першы настаўнік музыкі Яўген Канстанцінавіч Петрашэвіч.

Швейцэр у манаграфіі пра Баха кідае папрок сучасным выкладчыкам музыкі ў тым, што яны не знаёмяць вучняў з асновамі кампазіцыі. У часы Баха ўсе музыканты былі кампазітарамі, і сам Бах сваіх вучняў з першага года прывучаў да складання музыкі. Цяпер жа музычная адукацыя стала амаль масавай, і не хапае настаўнікаў, якія валодалі б талентам педагога і кампазітара.

Віктар не ведае, ці стаў бы ён кампазітарам без дапамогі Яўгена Канстанцінавіча. Петрашэвіч сам калісьці вучыўся на кампазітарскім факультэце кансерваторыі. Потым паехаў у Гродна выкладаць у музычнай школе. Сваім вучням, акрамя таго, што патрабавалася па праграме, ён задаваў падабраць і запісаць мелодыю знаёмай песні. Праз некаторы час прапаноўваў самім прыдумаць мелодыю. Вучань прыносіў запісаную тэму настаўніку. Той браў баян і сам распрацоўваў яе, тлумачачы, як гэта трэба рабіць. Такім чынам вучні далучаліся да творчасці...

...У зале гучыць прыгожая светлая музыка. Гэта Віктарава «Старадаўняя сюіта». У ёй тая ж тонкасць, якая ўлоўліваецца ў душэўным складзе яе творцы, у яго вершах, размовах.

Культура, інтэлігентнасць уласцівы яго душы. Але тыя, хто сутыкаецца з ім па грамадскай рабоце (Віктар — намеснік сакратара камсамольскай арганізацыі кансерваторыі), ведаюць, які цвёрды бывае ён, калі гэта трэба. Мяккацелым яго не назавеш. «Ён цвёрда ведае, што хоча і што рабіць»,— гавораць пра яго хлопцы.

Гучыць старадаўняя сюіта. Цымбалы пяшчотнасцю гучання то нагадваюць клавесін і выклікаюць ва ўяўленні карціну свецкай гасцінай XVIII стагоддзя: дамы ў крыналінах, напудраныя парыкі, масіўныя гадзіннікі з тонкім боем... То раптам пачынаеш адчуваць непасрэднасць і народнасць інструмента, і на цябе павее свежасцю вёскі.

Калі я расказала Віктару пра сваё эмацыянальнае ўспрыняцце яго твора, ён усміхнуўся:

— Магчыма так і атрымалася, але міжвольна. «Старадаўняя сюіта» — стылізацыя. Я люблю старую музыку — Бах, Вівальдзі, Моцарт — і мне сапраўды хацелася, каб цымбалы гучалі, як клавесін. А другі план... У дзяцінстве мне мама спявала беларускія народныя песні. Народная музыка ў мяне ў душы, і, напэўна, гэта будзе адчувацца, што б я ні пісаў. Я не ўяўляю, як бы я мог жыць за межамі Беларусі...

А ў антракце я чула, як Ігар Лучанок сказаў Віктару:

— Віншую, стары. «Старадаўняя сюіта» — гэта па-сапраўднаму добра.

**Людміла ГАНЧАРОВА.**

# КНІГА І ФРЭСКА



Я — графік. І таму полем маёй дзейнасці з'яўляецца кніжная ілюстрацыя. Да аповесці «Салавей» Змітрака Бядулі зрабіў шэраг каляровых літаграфій. У кампазіцыі рабіў націск на дынаміку, на псіхалагічную распрацоўку вобразаў. Але не разлічыў на памяншэнне арыгіналаў. Зразумеў свае памылкі, калі выйшла ў свет кніжка. Адчуваў сябе не вельмі добра.

Праз некаторы час выступіў на Рэспубліканскай мастацкай выстаўцы з серыяй лінагравюр «Новабудоўлі рэспублікі». Чорна-белая тэхніка дазволіла стварыць уражанне напружанасці і велічы працы маіх сучаснікаў.

Далей — болей. Ілюструю кнігі, пераважна лірычныя. Праектую афармленне прамысловых аб'ектаў у Баранавічах, Оршы. Выкладаю малюнак у Беларускім політэхнічным інстытуце.

Чаму такія разнастайныя заняткі? Таму, што мастак павінен пашыраць свой дыяпазон. І таму, што шукаю свой галоўны напрамак, сваю тэматыку.

І яна знайшлася. Гісторыя — памяць народа — мая памяць. Паспрабаваў аднавіць вобразы далёкіх часоў у трыпціху «Старажытны Мінск». Раблю эскізы «Беларускія партызаны 1812 года», «Паўстанне 1863 года». Вобразы рэвалюцыі, яе правадыра У. І. Леніна і ленінскага паплечніка Лепяшынскага таксама мяне хвалююць. З'яўляецца серыя літаграфій «Лепяшынскі на Беларусі». Так я адзначыў юбілейны ленінскі год.

Адначасова разам з мастаком Віктарам Жданам шукаем выйсця на больш шырокія прасторы. У выніку з'явіліся насценныя роспісы ў студэнцкай сталовай БПІ: «Танец «Бульба», «Збор ураджаю», «Космас». Фарматы вялікія — на ўсю сцяну ад столі да падлогі.

У «Бульбе» мы ўславілі свята восені, радасны настрой хлебаробаў, хараство шчодрай беларускай зямлі, грацыю танца. Роспіс небагаты на фарбы, але дынамічны і цэласны.

Больш багатыя фарбы ў фрэсцы «Збор ураджаю». Таксама восень, таксама дзяўчаты. Яны здымаюць яблыкі. Ад яблыка і загарэўся каларыт. Яблык — як плён працы на зямлі, як сонечная ўсмешка лета, што пройдзе праз усю зімовую пару да наступнай вясны.

Магчыма, гэтыя творы не такія фундаментальныя, як нам хацелася б. Але радуе нас іншае: яны зроблены для простенькай студэнцкай сталовай. Яны стварылі там добры настрой. Яны — для ўсіх, як кожная старонка кожнай кніжкі.

Ілья НЕМАГАЙ.

Лепяшынскі з сялянамі. Літаграфія.





Першыя камунары (Лепяшынскі з дзецьмі). Літаграфія.





Ілюстрацыі да аповесці Змітрака Бядулі «Салавей».



Ільзя НЕМАГАЙ. Стары Мінск.





Віктар ЖДАН. Ільзя НЕМАГАЙ. Збор ураджаю.



Ю. ГАПАК. А. ГАПАК. Маладосць.



Барыс НЯПОМНЯШЧЫ. Партрэт У. П. Платонава, прафесара, доктара фізіка-матэматычных навук, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола.




# 1971

## ЧЭРВЕНЬ



Брэсцкая крэпасць. Холмскія вароты.

**1**

20 гадоў з дня выхаду (1951) першага нумара газеты «Фізкультурнік Беларусі», органа Камітэта па фізічнай культуры і спорце пры Савеце Міністраў БССР.

**6**

70 гадоў з дня нараджэння (1901) У. М. Глазырына, пісьменніка. Памёр у 1961 г.

**16**

60 гадоў з дня нараджэння (1911) Д. А. Лукаса, беларускага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.



Д. А. Лукас.

**22**

30 гадоў (1941) з дня вераломнага нападу фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз. Пачатак Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза супроць фашысцкай Германіі.

30 гадоў з дня пачатку (1941) гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці.

**26**

30 гадоў з дня гераічнай гібелі (1941) М. Ф. Гастэлы, лётчыка, Героя Савецкага Саюза.

**28**

30 гадоў з пачатку (1941) баявой дзейнасці супроць фашысцкіх захопнікаў першага на Беларусі партызанскага атрада, якім камандаваў В. З. Корж.



М. Ф. Гастэла.



В. З. Корж.



# СОНЦА ЯШЧЭ Ў ЗЕНІЦЕ

Багата наша Случчына талентамі. І хоць у нас няма дрымучых лясоў і блакітных азёр, няма такіх маляўнічых краявідаў, як, скажам, на Гродзеншчыне ці на Полаччыне, усё ж наша слуцкая зямля, наша «роўніца» («А роўнядзь, роўнядзь, як далоні...» — пісаў Я. Колас) мае сваё, адметнае, своеасаблівае хараство. І яна здольна не толькі вырошчваць багаты пірог, яна змалку абуджае ў чалавеку творчую фантазію, наводзіць на паэтычны роздум, нараджае і вырошчвае таленты. Адным з такіх самабытных талентаў, народжаных слуцкай зямлёю, і з'яўляецца Васіль Вітка.

Лёс В. Віткі — гэта яркі прыклад росквіту таленту народа, разняволенага Кастрычніцкай рэвалюцыяй.

Пачаўшы сваю працоўную біяграфію семнаццацігадовым юнаком на Бабруйскім лесакамбінаце, атрымаўшы гартаванне ў рабочым калектыве, Васіль Вітка, просты вясковы юнак, стаў выдатным паэтам.

Росквіту яго таленту садзейнічала тое, што ў яго былі цудоўныя літаратурныя настаўнікі — М. Лынькоў і К. Чорны. К. Чорны, зямляк і друг паэта, па першых творах са зборніка «Гартаванне» чуйным сэрцам улавіў, што ў літаратуру прыйшоў сапраўдны мастак слова, і даў высокую ацэнку яго вершам. К. Чорны заўважыў, што вытокі творчасці паэта ідуць ад «злітнасці чалавека з радзімай», ад роднай зямлі, ад роднай Случчыны, нават ад роднай вёскі Еўлічы, у якой нарадзіўся і правёў свае дзіцячыя і юнацкія гады паэт.

І цяпер, калі я хаджу па тых мясцінах, па тых сцежках, па якіх хадзілі землякі-случчане К. Чорны і В. Вітка, мне становіцца асабліва зразумела, чаму так высока ацаніў К. Чорны вершы свайго земляка: у іх тыя ж грамадзянскія матывы, тая ж эмацыянальнасць, тая замілаванасць да роднай краіны, што і ў творах К. Чорнага. Прачытаўшы творы гэтых двух пісьменнікаў, адразу адчуеш, што іх талент жывіла адна зямля, адна бацькаўшчына, якую так горача любіў К. Чорны і якой усёю душой адданы В. Вітка. Вось гэтую любоў да роднай зямлі і адчуваў К. Чорны, калі пісаў пра першы зборнік паэта: «Гэта лірыка беларуская, нацыянальная ў самым канкрэтным сэнсе гэтага слова. Яна ідзе ад найканкрэтнейшых, самых выразных з'яваў і рэчаў. Усё тое, ад чаго яна ідзе, роднае беларускаму чытачу, які любіць Беларусь за сваё маленства, юнацтва і сталасць, за сіняе беларускае неба, за пах і шум хвойнага лесу, за свой вялікі народ, за хараство прыроды, за «карэц халоднага бярозавага соку», за «хмурынку, што на Случчыну імкнецца...»

Чытаючы вершы В. Віткі, бачыш і тую прыдарожную алешыну, «што ў зацішку ля шашы шуміць», і «магутны вяз» з буслянкай, які ў часы фашысцкай навалы сумаваў па сваіх цыбатых гаспадарах і дачакаўся іх з горкага выраю; бачыш і добрага дзядзьку Валадыма «па прозвішчы Рубдваццаць», які ў юнацкія гады гартаваў паэтава сэрца; бачыш тых людзей, што жывуць у родных паэту Еўлічах, тыя малюнкі, вобразы, карціны, якія можна сустрэць хіба толькі ў нас на Случчыне. Вось перад вачамі паўстае паэтава хата. Праўда, цяпер яна новая, светлая, але з тым жа агародам, абсаджаным кіслымі чарнаслівамі, з белым налівам у садзе, з мілым і родным беларускім воблікам:

Чарэшня звісла цераз плот,  
Жаўцее цындалея.  
Гарбуз свой выкасаў жывот  
І на прыгрэбцы грэе.

(«Дома»)

А ў хаце жывуць цудоўныя людзі — паэтава сястра і яе мужык, таксама Цімох, дабрадушны, працавіты і дужы, з буйнымі рысамі твару, з прыемным святлом блакітных вачэй,— тыповы беларус, хоць пішы з яго партрэт. Нядаўна жыла яшчэ і маці паэта. Жыла, а цяпер няма... Але я яе помню, вельмі добра помню, старэнькую, гаваркую і вельмі ж гасцінную. Як яна радавалася, калі прыязджаў з Мінска сын! Мітусілася па хаце, па-маладому жартавала і ўсё гаварыла, распытвала і расказвала сама. У гэты час прыходзілі суседзі, пажылыя людзі. Расказвалі еўліцкія навіны, распытвалі, «што там робіцца ў Мінску». І так добра было сярод гэтых добрых людзей. Аднойчы ў хаце В. Віткі мне давялося быць з У. Дубоўкам. Ад'язджаючы, Уладзімір Мікалаевіч тады на развітанне сказаў: «Эх, якія тут жывуць цудоўныя людзі! І як тут добра!»

Вось гэтыя еўліцкія мясціны, у якія ўлюбёны паэт, з іх цудоўнымі людзьмі, як жывыя, паўстаюць перад намі, калі мы чытаем многія вершы паэта, асабліва та-

кія, як «На выгодзе», «Горкі вырай», «Дома», «Дзед», «Першае наіўнае каханне», «Школа», «Жаваранак», «Гартаванне», «Прымак» і многія іншыя. Але любоў паэта не замыкаецца ў коле сваёй вёскі ці нават роднай Случчыны. Яна пашыраецца на ўсю Беларусь, на ўсю нашу краіну. Вось чаму амаль кожны верш паэта. маючы адзнакі роднага кутка, прасякнуты гарачым і жыватворным савецкім патрыятызмам у самым шырокім сэнсе гэтага слова.

У В. Віткі ёсць два вершы, якія носяць адну назву — «Бацька». Адзін напісаны ў 1944 годзе, другі — у 1958. Яны, не паўтараючыся, нібы дапаўняюць адзін другога, падаюць вобраз бацькі — мужнага салдата, камуніста, змагара, самааддананага барацьбіта за народнае шчасце. У першым расказваецца пра бацьку-салдата, які прайшоў праз усю вайну і ў паходнай кайстры разам з перамогай прынёс шчасце дзецям, у другім — пра свайго роднага бацьку. Я не раз чуў выступленні В. Віткі перад аўдыторыяй і кожны раз здзіўляўся, чаму ён не прачытае гэты цудоўны верш. Аднойчы не стрымаўся і папрасіў, каб ён прачытаў яго. Але В. Вітка чытаць адмовіўся. І адразу спахмурнеў, стаў пануры. Тады мне і няўцям было, што сваёй бяскрыўднай просьбай я прычыніў чалавеку боль. Справа ў тым, што бацька паэта, вясковы актывіст, старшыня калгаса, у часе фашысцкай акупацыі быў выдадзены сынам былога кулака ў рукі гітлераўскіх галаварэзаў і закатаваны ў 1943 годзе ў слуцкай турме. Фашысты на допытах, успамінае паэт, заціскалі яму дзвярыма пальцы, білі так, што горлам ішла кроў. Паэтавай маці з цяжкасцю ўдалося вырваць з лапаў душагубаў цела свайго мужа і пахаваць яго на еўліцкіх могілках. Верш «Бацька» — гэта крык душы паэта, яго нясцерпны боль і ў той жа час пякучы боль соцень і тысяч савецкіх людзей...

Даруйце мне, дарагі Цімох Васільевіч, што я сваім напамінкам развярэдзіў вашу незагойную рану... Я хачу, каб болей людзей ведала вашага бацьку, каб яны разумелі, адкуль бяруць пачатак карэнні вашай паэзіі і якая глеба жывіць іх. І яшчэ мне хочацца, каб вы ведалі, што мы тут не забываем вашага бацьку. І я асабіста не толькі вясной, калі бушуе майская квецень, праязджаючы праз Еўлічы, не праміну выпадку зазірнуць на яго магілу, але і зімой, блукаючы са стрэльбай на паляванні, заўсёды звярну лыжы на еўліцкія могілкі, каб пакланіцца яго магіле.

Я не крытык і не бяруся рабіць аналіз творчасці паэта. Як выкладчык літаратуры, педагог, я хачу адзначыць, якое вялікае значэнне — і пазнавальнае, і выхаваўчае — мае творчасць В. Віткі для школьнікаў, для вучняў малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту. Чытаючы паэмы-казкі «Буслінае лета», «Пра цара зубра», «Азбука Васі Вясёлкіна», «ППШ», дзеці атрымліваюць вялікую эстэтычную асалоду, пазнаюць свет казачны і свет рэальны. Творы паэта для дзяцей не толькі зроблены выдатна з пункту гледжання формы, але маюць глыбокі змест і глыбокі падтэкст.

Талент В. Віткі рознабаковы і шматгранны. Гэта выдатны дзіцячы пісьменнік, паэт для дарослых, празаік, крытык, драматург, рэдактар.

Мы з Цімохам Васільевічам землякі, але неяк здарылася так, што лёс звёў мяне з ім пазнавата, калі мне было ўжо трыццаць гадоў. Пры першай сустрэчы мяне глыбока ўразіла яго прастата, сціпласць і ў той жа час высокая культура і эрудыцыя, глыбокае веданне роднай мовы. І яшчэ — чуласць, вялікая патрабавальнасць да сябе і да другіх, прынцыповасць.

Васіль Вітка выводзіў мяне за руку ў свет літаратуры, каб далучыць да пачэсных спраў, вялікіх і мудрых. Ён вучыў мяне жыць.

Цімох Васільевіч умее радавацца чужой радасці, умее раздзяліць чужое гора. Ён, як дзіця, радаваўся, калі выйшлі ў свет мае кніжкі. А калі ў мяне ў сям'і здарылася няшчасце, ён, як і многія добрыя людзі, памог раздзяліць яго, суцешыць мяне, усяліць у маю душу мужнасць і цвёрдасць. І яшчэ адну рысу характару хочацца адзначыць у гэтага добрага чалавека: ён вельмі любіць дзяцей. Можа гэтая любоў і прымусіла яго ўзяцца за новую пачэсную справу: у апошні час ён нястомна прапагандуе вучэнне вядомага ўкраінскага педагога Васіля Сухамлінскага. Сам В. Вітка не канчаў педагагічных інстытутаў, але па сваёй адукацыі і прызванні педагога ён стаў сапраўдным настаўнікам над настаўнікамі.

Васілю Вітку — 60 гадоў. Салідны, прыгожы ўзрост!

У Васіля Віткі белая, як снег, галава. Але ён малады, такі малады, як і быў раней.

У дзень слаўнага 60-годдзя я шчыра віншую Вас, дарагі Цімох Васільевіч, жадаю Вам шчасця, здароўя і сілы!

Я ўпэўнены, што мы з вамі будзем яшчэ доўга-доўга хадзіць па еўліцкіх і слуцкіх сцежках, яшчэ сотні разоў з усмешкамі будзем пазіраць на Сенніцкую кашарку, вокны якой у маладосці прываблівалі вас сваім святлом і цяплом...

Будзем любавацца ў маі, як цвітуць сады, балазе вы і выбралі гэты квітнеючы месяц для нараджэння. А гарачым летам будзем выходзіць у поле і любавацца, як красуе жыта...

Потым я буду чытаць вашы вершы дзецям у школе. І буду адчуваць цеплыню вашага паэтычнага сонца. Яно яшчэ не звярнула з поўдня. Яно — у зеніце!

Віктар ДАЙЛІДА.

штрыхі да партрэта

# НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ...

Беларускаму паэту, доктару філалагічных навук Сцяпану Іванавічу Ліхадзіеўскаму спаўняецца 60 гадоў. У Мінску выйшлі яго паэтычныя зборнікі «Чырванеюць вішні», «Рокаты дальняй прыстані» (1931), «Крывавыя знічкі на снезе», «Мы—маладая гвардыя» (1932), «Берасцянка жывых трывог» (1962). У Ташкенце выйшлі дзве кнігі пра творчасць Анатоля Франса (1954, 1962).

Нарадзіўся Сцяпан Ліхадзіеўскі 9 мая 1911 года, на Случчыне, у сялянскай сям'і. Жыццё склалася так, што вось ужо трыццаць год ён жыве ў Ташкенце і цяпер загадвае кафедрай зарубежнай літаратуры ў Ташкенцкім універсітэце. Невыпадкова ў адным з вершаў паэт напісаў:

Жыву ў Ташкенце чвэртку веку,
Не знаю, дзе закончу век.
Я беларус сярод узбекаў,
Між беларусаў — я узбек.



**Станіслаў Шушкевіч і Сцяпан Ліхадзіеўскі** (справа). 1927 год.

Шмат карэнняў яднае чалавека з радзімай. Мне хочацца расказаць пра адзін такі карэньчык — вялікую дружбу, якая звязвае Сцяпана Ліхадзіеўскага і Станіслава Шушкевіча праз усё іх жыццё.

Дружба гэтая пачалася ў сярэдзіне 20-х гадоў, калі абодва будучыя паэты сталі студэнтамі Мінскага белпедтэхнікума. С. Ліхадзіеўскі прыгадвае: «Шушкевіч, ужо тады член «Маладняка», прылучыў мяне да літаратурнага руху, вадзіў мяне на сходы «Маладняка», каторыя адбываліся ў памяшканні Інбелкульта на Рэвалюцыйнай вуліцы... Дзесяткі гадоў мы прытрымліваліся слоў, напісаных на нашай агульнай фатакартцы 1927 года: «Хай памяць аднаго аб другім палыном не зарастае».

Пройдзена шмат дарог, перажыта нямала трывог і радасці, быў час, калі сябры доўга не бачыліся, але верную руку кожны з іх адчуваў побач. І па сённяшні дзень паэты знаходзяцца ў блізкай перапісцы. У жніўні 1961 года С. Ліхадзіеўскі наведаў С. Шушкевіча ў Мінску, сябры зноў, як калісьці, сфатаграфаваліся, надпісаўшы здымак:



**Праз трыццаць чатыры гады.**

Мы дажылі да лепшае пары,
У якую верылі не днямі, а гадамі...
Палын дарогі нашы не пакрыў,
Сустрэліся ізноў сардэчнымі
сябрамі.

Сапраўдная дружба — заўсёды паэзія, яна—хараство і крыніца натхнення. Дружбай не выхваляюцца, але адчуць яе і ў будзень і ў свята — гэта шчасце.

Аляксей ГАРДЗІЦКІ.



**Яўгенія ЯНІШЧЫЦ. СНЕЖНЫЯ ГРАМНІЦЫ. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1970.**

# ПРАЗ ПЕРШАЕ ЛІСЦЕ

Год пяць альбо шэсць таму назад газета «Літаратура і мастацтва» ўпершыню пазнаёміла нас з Жэняй Янішчыц: бесклапотна-вясёлае дзяўчо, у нечым вельмі лёгкім і летнім, выбегла ў росную раніцу і так, спыненае фотаапаратам на нейкай хісткай кладачцы ці мастку, усміхнулася здзіўлена, летуценна. А побач, на той жа газетнай старонцы, мы прачыталі вершы Жэні—тады шаснаццацігадовай школьніцы з вёскі Рудка на Піншчыне. І ў вершах была тая ж юная адкрытасць, даверлівасць, чысціня.

Не так даўно выйшла з друку першая кніжка Янішчыц. І ўжо не Жэні — Яўгеніі, студэнткі-выпускніцы ўніверсітэта. Кніжка ясная, свежая, росная, быццам тая раніца, з якое яна, Жэня Янішчыц, і выбегла (іменна выбегла) у літаратуру.

Прабіваецца праз першае лісце
Празрыстасць думак і гукаў
празрыстасць.
Сонца высока. Блізка да маю
Сама сябе на святле адчуваю...
. . . . . . . . .
Па дарозе злева й справа
Мне ўсміхаюцца здалёк
То рамонак, то купава,
То бясхмарны васілёк.
І лятуць услед чародкай
Вёсны спеўныя за мной
То сініцай, то лябёдкай,
То зязюляю лясной...
. . . . . . . . .
Хаджу па нівах, па лугах
азёрных,
Начую летуценна ў будане
І думаю, чаму мне так прасторна?
І песня прылятае да мяне.
Прыносяць мне дары свае
дубровы —
То верас, то крыніцу, то грыбок...

Гэта—ранняя, ледзь не інтуітыўная, самой маладосцю выдыхнутая суладнасць з усім, што навокал. І, можа, не столькі са светам людзей, колькі са светам прыроды.

Мяркую, што аднагодак Жэні Янішчыц адгукнецца на гэтыя вершы, на выказаны ў іх настрой з разуменнем і спагадай: гэта ж яго ўласнае—бясхмарная, шчырая даверлівасць да жыцця, любоў і прывязанасць да яго! Людзям жа сталага веку, тым, што паспелі спазнаць жыццёвыя супярэчнасці і канфлікты, вершы напомняць пра іх адказнасць за гэты малады давер, такі прывабны і такі безабаронны: хай будзе заўсёды чыстая тая крыніца, якую дуброва нясе дзяўчыне, а лябёдка ніколі не абернецца груганом!

Перад тым як выпусціць сваю першую кнігу, Янішчыц даволі часта выступала ў перыёдыцы. Часам пачынала здавацца, што яна паўтараецца: я і дуброва, я і зязюля, я і рака. І што задача творчага самавызначэння маладой паэтэсы значна ўскладняецца праз гэтую прыхільнасць да сітуацый і тэм, падказаных абмежаваным дзіцячым вопытам. Раз-пораз паяўляліся вершы з адценнем гэтакага «русалчынага» рамантызму—прырода брала на сябе ролю ледзь не адзінага на зямлі прытулку гармоніі і паэзіі, і, распусціўшы косы, дзяўчына ўцякала пад яе надзейную засень... Гэта было таксама маленства, таксама «дзіцячыя сны» душы, яшчэ не абуджанай да хваляванняў і неспакою—сапраўдных.

У зборнік «Снежныя грамніцы» Янішчыц тыя «рамантычныя» вершы не ўзяла. Вырасла, пасталела. І нам цікава сачыць, як праз «першае лісце» яе непасрэднасці і чысціні з кожным крокам усё больш выразна і рэзка выступаюць прыкметы і рысы яе чалавечага пасталення.

З чаго пачалося? Вядомая рэч, з кахання. З нечаканага (заўсёды нечаканага) адкрыцця, што ёсць у чалавечым жыцці такая пара, калі ён, чалавек, весела, добразычліва, свабодна (як гаварыў Маякоўскі) спаборнічае са светам. «І канчаецца сон бесклапотных начэй», «я прачынаюся зноў, нібы загон перад сяўбой...»

Здараецца, **сваё** ўласнае адкрыццё Янішчыц перадавярае формулам сцёртым і нежывым: «За што, скажы, твой вобраз мілы насіла ў сэрцы, як магла?» Аднак памалу акрэсліваюцца жывыя нюансы—то інтанацыя лірычна асэнсаванага быту («Толькі я адна на мяжы. Толькі мне адной адкажы, ці будзіць цябе кожнай раніцай?»), то матыў няяснай тугі і трывогі («Удаль працягнуты тонкія рукі. Гаварыце, Прылукі! Вам—надзеі. А мне—разлукі»), то моцная ў сваёй недагаворанасці, у намёку дзявочая думка-здагадка («Я й сама, як ранняя купава—маладая, горкая забава»).

Каханне калі яшчэ не зусім зняло, дык, ва ўсякім разе, паслабіла манатонію ў лірычным перажыванні і ўчынку. Зазіхацелі новыя, раней не вядомыя паэтэсе псіхалагічныя фарбы:

Адчуваю калючую адзіноту
І давер дзіцячы,
і сталую цноту,
Навальніцу ўдач, крыгалом
бяды.
Ля пралесак нясмелых—
твае сляды.

Навальніца ўдач, крыгалом бяды—гэта ўжо не толькі здабыткі слоўніка, дзе раней пераважалі амаль што адны пралескі і верасы. Гэта ўжо сэрцам спасцігнутае разуменне няпростасці пераходаў у жыцці, у пачуццях. Абяцанне той самай шматграннасці ў падыходзе да слова і да эмоцыі, якая аднойчы прымусіла Янку Купалу паправіць аднаго маладога паэта—там, дзе ў паэта было: «Я ўбачыў цябе, і ў душы стала светла» (прыкладна так), Купала чытаў: «...стала цёмна». І перажыванне ператварылася ў страсць.

Не будзем «падганяць» Яўгенію Янішчыц, патрабаваць ад яе страсці і драматызму. Ёсць законы характару, законы яго арганічнага развіцця і росту, і трэба з імі лічыцца. Хопіць таго, што Янішчыц разумее: удача можа аглушыць навальніцай, бяда—крыгаломам...

У лесе, дзе гераіня вершаў Янішчыц сустракаецца з каханым, «падае ціха снег, снег блакітны і снег ружовы». Ці варта яе за гэта ўпікаць у ідылічнасці? Маладая паэтэса адчувае сябе «на святле», хай і выпяе сваё **святло**, сваю ўзгадаваную «між сполахаў і дрэў» цнатлівую натуральнасць і яснасць, тым больш што часта выходзіць у яе гэтак жа ясна, проста і шчыра:

Разлука ўпала на траву
Апошняй пазалотаю.
Пакуль жывеш—і я жыву
Святлом і адзінотаю.

У добры шлях! У добры час!
Трывога адкалосіцца.
Смяешся ты—і я ў адказ,
Хоць смех на слёзы просіцца.

Журбу на лісце раскладу
(Хай з ветрам разлятаецца!)
Пакуль ідзеш—і я іду,
І шлях мой не канчаецца.

І хай злятае на траву
Разлука пазалотаю.
Пакуль жывеш—і я жыву
Любоўю і пяшчотаю.

Для дзяўчыны з вершаў Янішчыц каханне—не толькі даніна ўзросту, а і школа маральнага выхавання. Яна вучыцца ўмельству дзяліцца сваім «святлом» з чалавекам іншым, вучыцца ўспрымаць сваю ўзаемазалежнасць з ім: «Пакуль жывеш—і я жыву...»

У вершы «Ля ложка хворай маці» гэтае ўмельства набыло форму знешне парадаксальную, але паэтычную па самой сваёй сутнасці: «Ты ляжыш не на ложку, а ў жытнёвым полі. Мама! Так мне рукі твае не балелі ніколі». І далей: «Так ніколі твае не балелі мне ногі», «так ніколі твае не шчымела мне сэрца...» **Тваё** сэрца **мне** шчыміць! —Янішчыц засвойвае мастацтва даволі складанага паэтычнага «ходу» з простай і спелай маральнай думкаю ў аснове, з думкаю пра чалавечую еднасць і блізкасць.

Чытаю такія радкі маладой паэтэсы:

— Пра атаву напомніць
прасіла?..—
Голас дзеда цячэ ў цемнаце.—
Маладую даўно пакасілі,
А старая... Няхай пацвіце!..
Злева—рэчка. І домік направа.
Выглядае прыветна з акна
Цётка Клава.
Клава—атава,
На чатыры пакоі адна.

Радкі пра тое ж самае, толькі са знакам мінус: чалавек не можа, не павінен заставацца адзін, тым больш адзін на чатыры «прыветныя» акны. Гэта не праблема «жылплошчы»—праблема чалавечага ўзаемаразумення перш за ўсё...

Шкада, што Яўгеніі Янішчыц значна менш удаюцца тыя вершы, дзе яна спрабуе хоць як-небудзь **гістарычна** акрэсліць тэму, звязаць яе з перажываннямі **ўсіх.** Тут яна альбо

паўтарае паэтаў старэйшага пакалення і бярэцца расказваць пра тое, чаго фактычна не зведала, на шчасце, не зведала («Мы ў дарогу збіраліся раніцай, клалі ў торбы і гнеў, і боль. На дарозе паілі параненых, аддавалі ім хлеб і соль»), альбо збіваецца на малазмястоўныя скорапіс і лёгкаважкасць. Як, напрыклад, у вершы пра старую маці, чые пяць сыноў загінулі на вайне:

Віктар, Косця, Пеця, Дзіма,
Самы меншанькі — Назар.
На пажоўклы фотаздымак
Пакацілася сляза.

Паміж эмоцыяй і мелодыяй, слоўнікам, рытмам — відавочная неадпаведнасць, разрыў: эмоцыя драматычная, верш гуллівы, «дзіцячы».

Увогуле, як мне здаецца, Яўгенію Янішчыц чакае наперадзе сур'ёзная праца над вершам, словам, інтанацыяй, над тым, каб надаць ім больш **індывідуалізаванае** гучанне і аблічча.

Некаторыя яе вершы льюцца з той аднастайнай «правільнасцю», за якой жывога голасу ўжо амаль не чуваць: «У цішы трывожна-весняй чуйна выгляну з акна. Добра б мне з былою песняй заблудзіць. Ды дзе яна? Можа спее на палянах, можа складзена ў стагі? Можа там, дзе рэчка Лана падмывае берагі?.. Ты скажы мне, рэчка Лана, падкажы, палын-трава...» і г. д., і г. д. — сумна, амаль механічна.

Дарэчы, пра палын-траву і руту-мяту... Янішчыц вольна і добра адчувае сябе ў свеце прыроды, яна рэдка абыходзіцца без пейзажу, без пейзажна-песеннай алегорыі. Але гэта ўсё яшчэ яе абмяжоўвае, не дае развінуцца **самастойнай** лірычнай думцы, якая найчасцей выплывае разам з гатовай «рамкай», з нарыхтаванай загадзя паралеллю ў зязюльчынай жальбе, у верасе і светлай расе. А быт, гісторыя, праца, культура застаюцца пакуль што для паэтэсы сферай, на жаль, зусім не разведанай, не кранутай... Вядома, трэба развівацца **арганічна**, але іменна **расці**, развівацца, асцерагаючыся, каб не перайсці мяжу, за якою і даль, і зажураны жураўель становяцца «літаратурай».

Мне падабаюцца радкі пра маці: «Мама, кладуся на рукі твае, як жыта на перавяслы», бо тут, здаецца, упершыню прагучэла ў паэтэсы аналогія не пейзажная, а працоўная, бытавая, народжаная не сузіраннем, а практыкай, і яна ажывіла верш чыста мускульным, я б сказаў, рухам і жэстам, вывела яго з зачараванага кола стандартызаванай «паэзіі».

У «Вячэрніх радках» на белую паперу падае «наспеўшай думкі **старажытны** знак» — гэта таксама новае для Янішчыц акенца, абяцанне новага для яе матыву пераемнасці культуры. (Толькі лепш «наспелая» думка, чым «наспеўшая». У другім месцы паэтэса піша «нахлынуўшыя росы», а ў трэцім, і гэта ўжо зусім кепска, «датляваючыя хаціны»).

Нядаўна мы прачыталі ў артыкуле Я. Смелякова: «Калісьці я прайшоў школу эпітэта ў Эдуарда Багрыцкага. Ён вучыў нас ставіць у радок адзін дакладны і ёмісты эпітэт, а ў цяперашняй моладзі страчана гэта адчуванне эпітэта».

Сказанае датычыць і нашай паэтычнай моладзі, у прыватнасці Яўгеніі Янішчыц, аўтара «Снежных грамніц», якая мала пакуль што дбае пра дакладны эпітэт, задавальняючыся часцей «апрабаваным», умоўным (сіні дзень, сіні гай, светла-сіняя даль, звонкі смех, звонкая крыніца, светлы човен, светлая сляза, светлы сон, хмельны сок, хмельная трава і г. д.), а часам дазваляе збіцца ў адно мноству аднатыпных эпітэтаў: «І плыве над рыжымі лугамі белых чаек чорная туга».

Дакладнае слова — яго яшчэ не хапае Янішчыц, зрэшты, як і іншым маладым паэтам... Добра, калі «голас дзеда цячэ ў цішыні», і зусім блага, калі «верш цячэ па целе сонным». Што гэта значыць? Альбо такое:

Грамы па вуліцы стукочуць,
Нібыта конніца.
Разбавіла чарніла ночы
Тваёю белаю бяссонніцай.

Хто «разбавіў чарніла ночы»? Конніца? Сама паэтэса? Чыёй бяссонніцай? І што за дзіўнае наогул суседства конніцы з чарнілам! Ці суседства мячыка, агню і артэрый у такіх радках (дарэчы, вельмі цьмяных па сінтаксісе): «Упала слова, быццам мячык, як з рук маіх твая далонь. Яшчэ ў артэрыях гарачых нервова ўспыхвае агонь».

Маладая паэтэса паўтараецца ў кампазіцыях: у многіх вершах супадаюць першая і апошняя строфы... Лірычнаму твору, як правіла, адпускаецца невялікая «плошча», і карыстацца ёю трэба рацыянальна, не паўтараючыся без асаблівай патрэбы...

«Снежныя грамніцы» — першая заяўка здольнай і шчырай маладой паэтэсы Яўгеніі Янішчыц. Будзем спадзявацца, што новая сустрэча з ёю не за гарамі і што на гэту сустрэчу Янішчыц прыйдзе яшчэ больш памужнелай у чалавечым, грамадзянскім і творчым сэнсе, больш цесна звязанай лепшымі, чысцейшымі памкненнямі натуры і таленту з памкненнямі свайго маладога сучасніка.

**Рыгор БЯРОЗКІН.**








**С. Х. АЛЕКСАНДРОВІЧ. ПУЦЯВІНЫ РОДНАГА СЛОВА. Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, Мінск, 1971.**

# ДУХОЎНЫ СКАРБ НАРОДА

Мы часам прызвычайваемся паўтараць некалі некім сказанае, не задумваючыся над тым, а ці мае яно дастаткова даследаваныя, навукова абгрунтаваныя падставы, каб прымаць за аксіёму для штодзённага ўжытку. Не маючы доступу да першакрыніц, не абцяжарваючы сябе пошукамі фактаў ці хоць бы роздумам над ужо вядомым, мы неяк увялі сабе ў вушы, што да рэвалюцыі не друкаваліся на Беларусі ні кнігі, ні газеты ці друкавалася іх так мала, што і людзей як бы не было, здольных да стварэння самабытнай культуры, а прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі доўгі час лічылі па пальцах. Праўда, такое схематычнае ўяўленне пра мінулае Беларусі бурыцца і даволі рашуча. Захадамі тых, хто стварае першую ў гісторыі нашага народа Беларускую савецкую энцыклапедыю, як і тых, хто не шкадуе ні сіл, ні часу, каб разварушыць архіўныя паліцы, перачытаць нячытанае цэлымі пакаленнямі.

У кнізе Сцяпана Александровіча «Пуцявіны роднага слова» даследуюцца праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя. Даследуюцца ў жывой узаемасувязі друкаванага слова і прыгожага пісьменства. Даследуюцца на вялікім фактычным матэрыяле, як новым, толькі што адкрытым аўтарам, так і на карыстаным ужо, але асэнсаваным з вышыні сённяшніх дасягненняў гістарычнай і філалагічнай навукі, угрунтаваных на марксісцка-ленінскай тэорыі.

Чатыры з палавінай стагоддзі налічвае гісторыя беларускага друку, але даследавана з гэтай гісторыі яшчэ вельмі і вельмі мала. Аўтар і не бярэ на сябе гэтую непасільную ношу, а абмяжоўваецца вывучэннем аднаго з самых асноўных этапаў развіцця беларускай літаратуры і друку на Беларусі, што прыпадае на канец мінулага і пачатак цяперашняга стагоддзя. Перыяд гэты быў вельмі актыўны ў грамадскім жыцці краіны. Актывізацыя ж грамадскага жыцця заўсёды кліча на парадак дня інтэнсіўнае разгарненне друкаванага слова, а ў наш час і іншых форм прапаганды.

Кнігу сваю С. Александровіч кампануе з трох раздзелаў, разглядаючы асобна беларускую літаратуру і друк другой паловы XIX стагоддзя, асобна літаратуру і кнігу ды літаратуру і перыядычны друк пачатку XX стагоддзя. Хоць у адлучэнні кніг ад перыядычнага друку не было вялікай патрэбы, бо, як прызнаецца і сам аўтар: «ідэйна-мастацкае і жанравае ўзбагачэнне, пашырэнне тэматыкі айчыннай літаратуры ішло **разам** (падкрэслена мной.— **У. Ю.**) з развіццём беларускага друкаванага слова». І яшчэ: «Беларускі перыядычны друк становіцца ў гэты час (пасля рэвалюцыі 1905 года— **У. Ю.**) арганізатарам літаратурнага працэсу, ён уздымае да творчага жыцця здольныя літаратурныя сілы з народных глыбінь».

Але кніга закампанавана, і мы вымушаны трымацца прапанаванай аўтарам даследавання перыядызацыі пры разглядзе гісторыі друкаванага слова на Беларусі, лічыцца з яго метадалогіяй, якая не выклікае пярэчання. С. Александровіч глядзіць на фарміраванне грамадскай думкі і літаратуры беларускага народа ў другой палове XIX стагоддзя, пасля адмены прыгоннага права, на развіццё друкаванага слова ў пачатку нашага стагоддзя паслядоўна-гістарычна, г. зн. з пункту гледжання грамадска-палітычных абставін таго часу.

Нацыянальныя заканамернасці літаратурнага працэсу суаднесены даследчыкам з агульнымі заканамернасцямі грамадскага і эканамічнага жыцця, бо імі накіроўваюцца. Нацыянальнае і агульнае паказана ў кнізе не як механічнае крыжаванне, а як адзінае развіццё нацыянальнага пачатку, які не можа выявіць сябе інакш, чым праз агульнае, і, наад-

варот, як развіццё агульнага пачатку, які не можа заявіць пра сябе інакш, як у пэўных нацыянальных формах.

Перш чым даць разгорнутую панараму нацыянальнага руху на Беларусі, аўтар адзначае, што 60-я гады мінулага стагоддзя пачаліся тут, як і ва ўсёй царскай Расіі, бурна і трывожна, што разам з паглыбленнем пасля рэформы 1861 года эканамічных сувязяў Беларусі з Расіяй шырыліся і грамадска-палітычныя сувязі беларускага і рускага народаў, што «перадавыя ідэі рускіх рэвалюцыйных мысліцеляў і прагрэсіўных пісьменнікаў, іх багаты вопыт барацьбы супраць самадзяржаўнага ладу былі тым жыватворным грунтам, на якім вырастала беларуская рэвалюцыйная дэмакратыя».

На ўсім працягу свайго даследавання С. Александровіч не абмінае ніводнага больш-менш значнага факта, які праліваe святло на сапраўдную карціну друкаванай прапаганды на Беларусі, імкнучыся паўней і выразней паказаць, як царскімі чыноўнікамі вялася ідэалагічная «апрацоўка» беларускага мужыка праз легальны друк, царкву і іншыя каналы. Разглядаючы «Гутарку старога дзеда» (1861) і «Гутарку двух суседаў» (1861—1862 гг.) як агітацыйныя творы, скіраваныя супраць рускага царызму, аўтар лічыць, што яны сцвярджалі магчымасць стварэння літаратуры на пагарджанай і забароненай беларускай мове і тым самым рыхтавалі глебу для сапраўды народнай публіцыстыкі, якая з'явілася ў 1862 г. з-пад пяра Кастуся Каліноўскага.

Высвятляючы ролю К. Каліноўскага ў абуджэнні нацыянальнай свядомасці беларускага народа, аўтар даследавання акцэнтуе ўвагу на глыбока інтэрнацыянальных пачуццях рэвалюцыянера-дэмакрата да рускага і польскага народаў і ў пацвярджэнне прыводзіць захаванае ў следчых справах яго выказванне: «Я не праціўнік шчасця народнага, не праціўнік і Расіі, калі яна нам дабра жадае, але праціўнік тых бедстваў, якія абрушваюцца на край наш няшчасны». І яшчэ раз, цытуючы словы Каліноўскага з польскай газеты «Сцяг свабоды», якая выйшла ў Вільні 1 студзеня 1863 года: «Маскоўскі народ пераживае за нашу векавую крыўду. Ён хоча быць не прыгнятальнікам, а нашым свабодным братам і сапраўдную адказнасць перад патомкамі за нашу цяжкую няволю ўскладвае толькі на царызм, які хутка рухне».

Разгледзеўшы падрабязна «Мужыцкую праўду» як цікавейшы помнік беларускай агітацыйнай літаратуры, даследчык тым самым сцвердзіў і класавы падыход К. Каліноўскага да вырашэння нацыянальнага пытання на Беларусі, развянчаўшы несумленныя закіды рознага часу ў адрас самаадданага рэвалюцыянера-дэмакрата.

Шырокі сацыяльны фон, на якім С. Александровіч разглядае з'явы культурнага жыцця на Беларусі, не замінаюць прасачыць эстэтычныя здабыткі ў жанры публіцыстыкі, апавядання, верша, што публікаваліся на старонках нелегальнай народніцкай літаратуры. Даследаваўшы «Пасланне да землякоў-беларусаў», выдадзенае на гектографе Шчырым Беларусам, а следам і падпольнае выданне беларускіх нарадавольцаў — часопіс «Гоман», аўтар кнігі прыходзіць да вываду, што гэта была «мастацкая публіцыстыка, у якой б'ецца жывы пульс часу».

С. Александровіч абапіраецца на багаты фактычны матэрыял, які дае яму падставы не толькі спрачацца з папярэднімі даследчыкамі, але і ўдакладняць многае з таго, што засведчана нават у навуковых выданнях пазнейшага часу без дастатковага абгрунтавання (аўтарства брашуры «Пра багацтва ды беднасць» ды кнігі «Дзядзька Антон»). Цікавыя ўдакладненні пра пачатак літаратурнай дзейнасці Ф. Багушэвіча, якая прыпадае на 70-я гады, калі пісьменнік жыў і працаваў на Украіне, памагаюць больш выразна ўявіць вобраз змагара за нацыянальнае і сацыяльнае разняволенне працоўнага беларуса.

Азнаямленне з рукапіснай спадчынай, асабліва з лістамі Ф. Багушэвіча, а таксама яго частымі выступленнямі ў польскім часопісе «Край» даюць даследчыку права сцвярджаць, што «сёння можна гаварыць пра аўтара «Дудкі беларускай» як пра таленавітага публіцыста і вучонага, якога цікавілі сацыяльна-эканамічныя і маральныя праблемы свайго часу, асаблівасці народнага побыту і асветы».

Прасочваючы выданні, што з'яўляліся ў канцы XIX стагоддзя на Беларусі, аўтар выкрывае і бяздарныя пісанні, якімі навадняўся кніжны рынак, каб адцягнуць увагу чытача ад сапраўдных каштоўнасцяў. Асаблівы гнеў даследчыка выклікаюць нізкапробныя кнігі А. Пшчолкі, што выдаваліся ў Віцебску з адной мэтай — «асмяяць і прынізіць беларускага селяніна». Затое колькі ўзрушанасці на тых старонках даследавання, якія прысвечаны рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, што былі пачаткам развіцця сістэматычнага беларускага кнігадруку. Праўда, С. Александровіч не ўсцярогся ад супярэчлівасці некаторых абагульненняў.

Падагульняючы раздзел першы сваёй працы, аўтар гаворыць: «Пры ўсёй бессістэмнасці і выпадковасці выдання паасобных кніг заўважаецца пэўная заканамернасць і сістэма ў з'яўленні беларускага друкаванага слова». Часам бывае цяжка ўстанавіць, ідучы за вывадамі аўтара, што ж, уласна кажучы,— была сістэма ці не было ў выданні беларускай кнігі? Мабыць, усё ж не было, ды і не магло быць, калі друкаваннем займаліся выдавецкія суполкі ці прыватныя выдавецтвы. І пра гэта сведчыць фактычная аснова даследавання, толькі не зусім выразна сфармуляваны вывады.

Ды, мабыць, не так і важна высвятляць сістэму выдання, куды важней, як гэта робіць аўтар, на падставе даследаванага матэрыялу заявіць, што ў пачатку цяперашняга стагоддзя «беларуская кніга стала рэальным фактам», што «гісторыя беларускай кнігі, асабліва мастацкай кнігі пачатку XX стагоддзя,— гэта гісторыя станаўлення беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры, літаратуры крытычнага рэалізму».

Літаратурны рух пачатку нашага стагоддзя, калі на ніву творчасці ўступілі такія волаты мастацкага слова, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, складае асноўны змест трэцяга раздзела працы. І зноў-такі мастацкія здабыткі разглядаюцца ў самай шчыльнай узаемасувязі з развіццём перыядычных выданняў як базы, на якой толькі і магло ісці ідэйна-мастацкае ўзбагачэнне літаратуры. Спыняючыся на самых яркіх творах таго часу, С. Александровіч не заглыбляецца ў іх ідэйна-мастацкі змест. Ды гэта, мабыць, і не патрэбна пры сённяшняй распрацаванасці гісторыі беларускай літаратуры. Даследчыка цікавіць тое, як друк уплываў на развіццё мастацкай творчасці, як пры дапамозе друку мастацкае слова станавілася на службу грамадскаму жыццю народа, яго нацыянальна-вызваленчай барацьбе.

Асабліва шырокае месца ў кнізе занялі спробы аўтара разабрацца ў асаблівасцях развіцця правінцыяльнага перыядычнага друку на тэрыторыі тагачаснага Паўночна-Заходняга краю, паказаць дынаміку руху друкаванага слова ва ўмовах рэвалюцыйнага ўздыму 1905—1907 гг. У поле зроку даследчыка трапляюць як шырока вядомыя газеты («Северо-Западный край», «Наша доля», «Наша ніва»), так і менш папулярныя выданні («Голос Белоруссии», «Голос провинции», «Окраина», «Минское эхо», «Минский курьер»), а таксама выдавецтвы. Аўтар прыводзіць складзеныя ім табліцы аб выданні газет на Беларусі ў перыяд 1904—1917 гг., аб выданні кніг на беларускай мове ў пачатку XX стагоддзя.

Статыстычныя дадзеныя даюць падставы даследчыку зрабіць вывад аб тым, што «ў XIX — пачатку XX стагоддзя на беларускай мове выйшла 320 кніг агульным тыражом, па самых мінімальных падліках, звыш 600 тысяч экземпляраў». Калі сюды дадаць па 20, 30 і нават 35 газет, якія выдаваліся ў перыяд 1904—1917 гг., дык у даследчыка ёсць пэўныя падставы рабіць вывад аб важнейшым значэнні друкаванага слова ў грамадска-палітычным і культурным жыцці Беларусі ў апошнія перад Кастрычнікам дзесяцігоддзі. Не абмінае аўтар і той значнай ролі, якую «адыгралі літаратура і дэмакратычны друк вялікага рускага, а таксама братніх украінскага і польскага народаў, прагрэсіўныя дзеячы якіх шчыра спачувалі і заўсёды дапамагалі беларускаму народу вырвацца з няволі». Гэтую ролю прызнавала і «Наша ніва» — грамадска-палітычная і літаратурная штотыднёвая газета, якая пакінула найбольшы след у гісторыі беларускай літаратуры і журналістыкі.

Аўтар кнігі спрабуе высветліць сапраўдны характар «Нашай нівы», якую лічыць з'явай складанай, у пэўнай ступені супярэчлівай і гістарычна абмежаванай. «Мяняліся грамадскія абставіны, змянялася аблічча і змест газеты»,— заяўляе С. Александровіч і пацвярджае гэта не толькі аналізам апублікаваных у «Нашай ніве» матэрыялаў, але і гісторыі іх з'яўлення ў друку, а таксама тымі прычынамі, якія прымушалі «царскія ўлады пільна сачыць за дзейнасцю газеты» і прымаць пэўныя захады, аж да канфіскацыі асобных нумароў. Немалаважнае значэнне для высвятлення сапраўднага характару «Нашай нівы» мае і тая акалічнасць, на якую звяртае ўвагу С. Александровіч, што газета «ніколі і нідзе не выступала супраць іншых народаў, газета заўсёды заклікала паважаць і шанаваць рускую, польскую і украінскую культуры, вучыцца ў іх». Аб'ектыўная пазіцыя аўтара відаць і ў тым, што ён не абмінае бясспрэчна слабых бакоў «Нашай нівы» і прызнае, што «выступаючы супраць нацыянальнага і часам сацыяльнага ўціску, газета не ўзнялася да адмаўлення тагачаснай рэчаіснасці, яна абмежавала сваю ролю культурна-асветнай дзейнасцю».

Кніга С. Александровіча «Пуцявіны роднага слова» дае шырокую і праўдзівую карціну таго, як у вострай класавай барацьбе, ва ўмовах сацыяльнага прыгнёту і суровых цэнзурных рэпрэсій, за паўстагоддзя пасля скасавання паншчыны (1861—1917) беларуская літаратура, кнігадрук і перыёдыка прайшлі складаны і нялёгкі шлях фарміравання, станаўлення і гістарычнага развіцця. Не ўсе аспекты гісторыі беларускай кнігі і журналістыкі, прызнае і аўтар, атрымалі ў даследаванні дастатковае адлюстраванне. Але С. Александровічу ўдалося паказаць тыя перадавыя ідэйныя і эстэтычныя традыцыі дакастрычніцкай літаратуры, якія абумовілі бурны яе росквіт у савецкі час.

Даследаванне гісторыі друкаванага слова на Беларусі пачата. Трэба спадзявацца, што гэты добры пачатак будзе месца плённых прац як захадамі самога аўтара, так і новых даследчыкаў філалогіі і журналістыкі ды студэнтаў, на якіх і разлічана кніга.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

# ГОЛАС ПРАЛЕТАРСКАГА СТУДЭНЦТВА

**У ГЭТЫМ ГОДЗЕ** спаўняецца 50 год з таго часу, як першыя студэнты пераступілі парог Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Юнакі і дзяўчаты ад станка і плуга, байцы і камандзіры Чырвонай Арміі прыйшлі ў аўдыторыі, каб штурмаваць «фронт навукі». З усіх канцоў рэспублікі пралетарскія студэнты прынеслі з сабой подых рэвалюцыйных пераўтварэнняў, мужнасць, загартаваную ў баях з ворагамі, жаданне вучыцца і працаваць на карысць Радзімы.

Паяўляюцца першыя студэнцкія органы друку. Гэта — агульнаўніверсітэцкая насценная газета «Праменні Кастрычніка», «Медфакавец», якая выпускалася на медыцынскім факультэце, «Трыбуна» — на факультэце права і гаспадаркі, «Голас рабфакаўца» — на рабфаку. Гэтыя органы былі трыбунай будучых спецыялістаў. У іх пісалі не толькі студэнты, але вядомыя вучоныя і выкладчыкі.

Рост колькасці студэнтаў, а таксама адкрыццё ў 1922 годзе Мінскага сельскагаспадарчага інстытута паставілі на парадак дня стварэнне агульнабеларускага студэнцкага органа. У кастрычніку 1924 года ў БДУ выйшла газета «Белорусский студент». Рэдакцыя, звяртаючыся да чытачоў, пісала: «Нам вельмі хацелася, каб наша газета была рупарам усяго студэнцтва рэспублікі». Але з выхадам першага нумара стала зразумела, што стварыць ва ўніверсітэце газету ўсяго беларускага студэнцтва немагчыма. 2 лістапада 1924 года рэдакцыя аб'явіла: «Сёння наш студэнцкі орган выходзіць пад новай назвай «Голос студента». Гэта быў орган выканаўчага бюро прафсекцый БДУ. Газета выйшла тыражом у тры тысячы экземпляраў, фарматам «Праўды» на чатырох паласах. З артыкулам «Трэці год работы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта» выступіў рэктар, прафесар У. І. Пічэта.

Трэці нумар газеты «Голос студента» выйшаў удвая меншым фарматам, але быў такі ж змястоўны і мэтанакіраваны. Толькі недахоп матэрыяльных сродкаў перашкодзіў далейшаму выхаду газеты.

У лютым 1924 года выйшаў першы нумар часопіса «Голос пролетарского студенчества». Ён быў аддрукаваны самімі студэнтамі універсітэта. Адметнай рысай выдання з'яўляецца блізкасць да студэнцкага жыцця. У артыкулах прафесараў С. Кацэнбогена, С. Вальфсона і іншых адлюстраваны першыя поспехі факультэтаў, адчуваецца клопат аб матэрыяльным становішчы студэнтаў, добраўпарадкаванні іх жыцця. Асаблівую цікавасць уяўляе артыкул «Студэнцтва і краязнаўства» прафесара У. Пічэты. Звяртаючыся да юнага студэнцкага племя, Пічэта заклікаў яго аб'явіць краязнаўства баявым лозунгам дня і ставіў задачу адкрыць кладоўкі прыроды і паставіць іх багацце на службу чалавеку.

«Голос пролетарского студенчества» спыніў свой выхад на другім нумары.

У той жа час студэнты-беларусы, якія вучыліся ў Маскве, вырашылі заснаваць сваё выданне. Гэта быў часопіс «Змаганне», орган цэнтральнага бюро беларускіх студэнцкіх зямляцтваў у Маскве. Такое выданне было неабходнае, і ЦК КП(б)Б ухваліў яго работу. У Маскве тады вучылася больш як 1 000 студэнтаў з Беларусі, лічба па тым часе вельмі значная. У навучальных установах былі створаны зямляцтвы, якія імкнуліся да вывучэння свайго краю, арганізоўвалі спецыяльныя гурткі па вывучэнні гісторыі, эканомікі, геаграфіі, роднай літаратуры і мовы. Студэнты імкнуліся дапамагчы распрацаваць падручнікі для беларускіх школ. Гурткамі кіравалі вядомыя вучоныя-беларусазнаўцы і найбольш дасведчаныя студэнты. Гуртком беларускай мовы ў інстытуце інжынераў шляхоў зносін кіраваў У. Дубоўка, тады студэнт Літаратурнага інстытута. Даволі часта на агульных сходах зямляцтва выступалі Чарвякоў, Кнорын, Багуцкі, Ігнатоўскі і іншыя.

Сваю мэту часопіс «Змаганне» бачыў у тым, каб «змагацца за ідэалы камунізма, за адбудову гаспадаркі і адраджэнне культуры свайго краю». Неабходна было з'яднаць студэнцтва ідэйна, узброіць яго разуменнем марксісцка-ленінскай філасофіі, бо, як гаварылася ў часопісе, «студэнцкая праца часта ўхілялася ў шкодны для нас бок, была ідэйна нявытрымана».

Часопіс «Змаганне» быў заклікаяны таксама выкрываць антысавецкую дзейнасць студэнтаў-эмігрантаў, якія з Прагі, Варшавы, Парыжа, Бялграда, Загрэба, Сафіі, Вільні, Канстанцінопаля і іншых гарадоў Еўропы і нават Амерыкі ліілі гразь на Савецкую Беларусь. Розныя студэнцкія рэлігійныя гурткі і арганізацыі пры падтрымцы буржуазіі імкнуліся навадніць сваімі выданнямі нашу краіну, пасеяць песімізм, недавер'е да новага жыцця, настроіць моладзь супроць савецкай улады. У Празе выдаваўся студэнцкі часопіс «Перавясла» і «Беларускі студэнт», у Вільні — «Студэнцкая думка», яны друкавалі самыя «чорныя перлы контррэвалюцыі». Часопіс «Змаганне» гнеўна выкрываў здраднікаў і даваў ім дастойны адказ.

Нягледзячы на даволі актыўную дзейнасць, часопіс «Змаганне» меў адзін недахоп: ён не адлюстроўваў жыцця студэнтаў рэспублікі. Гэта заклікаены быў зрабіць штомесячны студэнцкі часопіс «Чырвоны сцяг» — орган Белбюро пралетарскага студэнцтва і цэнтральнага кіраўніцтва зямляцтваў горада Масквы. «Чырвоны сцяг» пераняў вопыт папярэдніх студэнцкіх выданняў і ўлічыў іх памылкі. Яго першы нумар выйшаў у лютым 1925 года. Часопіс паставіў перад сабой задачу— увязаць працу ўсяго студэнцтва Беларусі з працай і барацьбой, якую вядуць рабочыя і сяляне рэспублікі, наблізіць моладзь да тых задач, якія ажыццяўляе партыя і ўрад, рыхтаваць студэнтаў не толькі як кваліфікаваных спецыялістаў, але і як палітычных арганізатараў. У часопісе былі аддзелы: «Палітыка і эканоміка», «Літаратура», «Краязнаўства», «Студэнцкае жыццё», а таксама «Па маскоўскаму зямляцтву», «Навуковы аддзел», «Быт» і іншыя. «Чырвоны сцяг» аказаў вялікую дапамогу студэнтам у засваенні марксісцка-ленінскага вучэння, у растлумачэнні палітыкі партыі і ўрада. На яго старонках змяшчаліся шматлікія распрацоўкі пытанняў камуністычнага будаўніцтва, філасофіі, права. Гэта выклікала вялікую цікавасць сярод студэнцтва і вучнёўскай моладзі. У асяроддзі іх «Чырвоны сцяг» карыстаўся вялікім аўтарытэтам.

Шмат увагі часопіс удзяляў літаратуры. Тут друкаваліся вершы і апавяданні не толькі вядомых, але і пачынаючых аўтараў. М. Чарот, А. Александровіч, А. Звонак, С. Шушкевіч, М. Лужанін і іншыя маладыя пісьменнікі і паэты настойліва шукалі новыя сродкі адлюстравання бурнага жыцця, імкнуліся перадаць у сваіх творах дынаміку і характво новага часу.

Цікавым быў і аддзел «Па маскоўскаму зямляцтву». Часопіс пісаў пра вучобу, жыццё і грамадскую дзейнасць зямляцтваў, пра збор і прысылку ў Беларусь кніг і цэлых бібліятэк, шэфства над камсамольскімі ячэйкамі. Частымі аўтарамі гэтага аддзела былі камсамольскія работнікі. Пастаянна ў часопісе друкаваўся вядомы празаік і публіцыст Платон Галавач. Яго артыкулы «Партшколія», «Наша праца і вучоба», «Лабараторны метад на практыцы» адлюстроўвалі жыццё і дзейнасць слухачоў ВПШ.

Выйшла ў свет сем нумароў «Чырвонага сцяга». Па ідэйнай накіраванасці і тэматычным змесце гэта быў адзін з лепшых часопісаў у нашай краіне.

Акрамя агульных газет і часопісаў, студэнты асобных навучальных устаноў рабілі спробы выдаваць свае перыядычныя органы друку. Так, у канцы 1927 года ў Беларускім дзяржаўным універсітэце выйшаў першы нумар часопіса «Шлях студэнцтва». Цікава, што на яго старонках мы ўжо не знаходзім заметак аб дрэнным матэрыяльным становішчы студэнтаў, аб недахопе абсталявання, недасканаласці вучэбнага працэсу. У часопісе вядзецца ўдумлівая гаворка аб рабоце ўсіх звенняў універсітэта, праводзіцца аналіз лепшага вопыту асобных факультэтаў. Шмат месца адводзіцца студэнцкай творчасці, дзейнасці грамадскіх арганізацый. Студэнты прымалі ўдзел у навуковай палеміцы, падымалі пытанні аб паляпшэнні метадаў выхавання і г. д. Часопіс закончыў сваё існаванне на сёмым нумары.

У 1923 годзе слухачы ВПШ выпускалі часопіс «Партшкольский мирок». Часопіс цікава афармляўся і змяшчаў шматлікі матэрыял з жыцця і дзейнасці навучэнцаў школы. У пятым нумары партшкольцаў сваімі артыкуламі павіншавалі Кнорын і Крывіцкі. Друкавалася ў часопісе і гераіня беларускага народа Вера Харужая, у той час яна вучылася ў ВПШ.

Цікавым выданнем той пары з'яўляецца часопіс «Губпартшколец»—штогоднік гомельскай губернскай партшколы другой ступені. Сярод усіх часопісаў «Губпартшколец» вызначаўся добрым афармленнем. У ім было шмат гумару, шаржаў, пародый.

Не засталіся ўбаку і студэнты Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. Ужо ў 1921 годзе яны зрабілі спробу выдаваць штомесячны часопіс «Дни нашей жизни». Стараннямі студэнтаў і выкладчыкаў у 1921 годзе было выпушчана тры нумары, а ў 1922 годзе— пяць нумароў часопіса. У 1923 годзе студэнты пачалі выдаваць «Голос революционного студенчества». Аўтарамі часопіса, акрамя студэнтаў, былі вядомыя вучоныя прафесары В. І. Кіркор, В. В. Вінер, І. Г. Васількоў, О. К. Кедраў-Зіхман, Л. І. Яшноў, С. П. Мельнік і іншыя.

Шматлікія студэнцкія друкаваныя органы першых гадоў савецкай улады адлюстравалі складаны шлях станаўлення вышэйшай школы ў рэспубліцы. Студэнцкае партыйнае слова дапамагала стварыць у ВНУ камсамольскія ячэйкі, актыўна прапагандавала ідэі партыі, імкнулася паказаць і даказаць гістарычную неабходнасць завеяў Кастрычніка і ролю новага пралетарскага студэнцтва ў будаўніцтве сацыялізма.

**Алег СЛУКА.**

# «МУТНАЯ ХВАЛЯ» ШВЕДСКАГА КІНО

На адным з праглядаў, якія час ад часу наладжвае для кінакрытыкаў Саюз кінематаграфістаў, было асабліва мнагалюдна: у гэты вечар дэманстраваўся фільм шведскага рэжысёра Вільгота Шомана «491». Гэта і зразумела. Усе без выключэння карціны гэтага рэжысёра заўсёды выклікалі бурныя дыскусіі.

На экране ідзе цёмная плёнка. І голас дыктара, аднастайны і стомлены: «Божа! Колькі разоў дараваць брату майму, які сагрошыў супраць мяне. Ці да сямі разоў?» «Не кажу табе да сямі, але да сямідзесяці разоў па сем». Потым загараецца экран. У кадры палец марудна выводзіць на запацелым шкле: «7×70=490+1». Як бачым, назва фільма ідзе ад евангелля. 491— гэта грэх, які ляжыць за мяжой даравання. Значыць, «491» — гэта фільм пра недаравальнае і ў той жа час пра бязвер'е, цынізм, якія сцвярджаюць сябе подласцю і гвалтам. Каб не быць галаслоўным, звернемся да сюжэта фільма.

Групу малалетніх злачынцаў змясцілі на прыватнай кватэры ў маладога настаўніка, каб паспрабаваць выправіць іх, уздзейнічаючы толькі перакананнем. Пачынаецца выкрыццё сучаснага грамадства, яго нораваў, яго метадаў выхавання, і ўсё гэта — з глыбокім скептыцызмам і інстынктыўнай пагардай да гэтых нораваў.

Героі фільма не ўступаюць у спрэчкі са сваімі выхавацелямі — яны ставяцца да іх з пагардай. Калі да іх прыходзіць пастар, каб праліць святло веры ў іх грэшныя душы, яны як быццам і слухаюць яго, але на самай справе да іх не даходзіць ніводнае яго слова. Ажыўленне настае толькі тады, калі пастар уключае партатыўны магнітафон, каб яны паслухалі месу. Магнітафон — гэта рэч вартая. Пад яго можна танцаваць, урэшце, яго можна прадаць. Таму калі пастар пакідае дом, два падлеткі нападаюць на яго і забіраюць апарат. Пропаведзі, унушэнні, павучанні, — гаворыць пастаноўшчык сваім фільмам,— гэта нічога не дае: моладзь жыве па законах іншай маралі, яна глыбока ўпэўнена ў фальшы рэальнага жыцця. Вільгот Шоман даследуе характары сваіх герояў вельмі падрабязна, як часцінку нездаровага грамадства. Таму ў фільме многа сцэн, якія выклікаюць агіду сваім натуралізмам.

Пасля выхаду гэтага фільма на экраны пачаўся страшэнны скандал. Загарэлася ўсё з-за рэзкага сацыяльнага выкрыцця, а таксама з прычыны таго, што ў ім паказаны ўсялякія палавыя ненармальнасці. Дарэчы, усе фільмы Вільгота Шомана празмерна запоўнены эротыкай, сексам, а то і проста парнаграфіяй. Тое, што паказвае гэты рэжысёр у сваіх карцінах, непрымальна для нашага гледача. Аднак нельга разглядаць яго творчасць ізалявана ад сучаснай шведскай рэчаіснасці. Пры ацэнцы фільма «491» таксама трэба ўлічваць успрыманне шведскага гледача, на якога ён перш за ўсё разлічаны. Шведаў такія ленты не шакіруюць. У Швецыі парнаграфія афіцыйна дазволена. Парнаграфічная літаратура свабодна прадаецца і купляецца, на вуліцах для ўсеагульнага агляду выстаўлены такія фота, якія і ў не вельмі пурытанскай Францыі прадаюцца патаемна і толькі ў адпаведных кварталах. У Швецыі дзіцяці з малых год прапагандуецца секс. Ідзе, напрыклад, па тэлебачанні перадача «Для дому, для сям'і». Вядзе яе вядомы акцёр, што ўжо само па сабе прыцягвае ўвагу многіх тысяч тэлегледачоў. Раптам ён звяртаецца да дзяцей: «Дзеткі, не верце, што вас прыносіць бусел. Гэта недарэчныя казкі. А я вам зараз пакажу, як гэта робіцца». Потым на «блакітным экране» старанна разыгрываецца пантаміма на зададзеную тэму. Не варта здзіўляцца пасля гэтага, што кінематограф пагрузнуў у сексе і эротыцы.

На такі шлях шведскае кіно павярнулі маладыя рэжысёры, якіх зараз прынята называць стваральнікамі шведскай «новай хвалі». Усе «новыя хвалі» заходняга кіно, ці то французская ці шведская, пачыналі фільмамі пра моладзь. Гэта тлумачыцца тым, што бунт маладога пакалення супраць норм буржуазнай маралі прыняў на захадзе жахлівы характар. Спачатку прычыну гэтага бачылі ў маладым узросце — маўляў, пасвавольнічаюць, падурацца, ды і перастануць. Але бунт станавіўся масавым. Ад даўгагрывых прычосак і барод, ад экстравагантных вычварных касцюмаў юнакі і дзяўчаты пераходзяць да палітычных дэманстрацый, ад бяскрыўдных выбрыкаў і дробнага хуліганства — да сур'ёзных крымінальных злачынстваў.

Рэжысёры шведскай «новай хвалі» не адзін раз бачылі на вуліцах Стакгольма, Гётэборга і іншых гарадоў палітычныя дэманстрацыі супраць агрэсіі ў В'етнаме, бачылі яны і так званую свабоду самавыяўлення, або, іншымі словамі — распушчанасць, бачылі славутую свабоду сексуальных паводзін. І ўсё гэта не магло не знайсці адлюстравання ў іх фільмах.

У сувязі з гэтым успамінаецца фільм «Такое цудоўнае жыццё» рэжысёра Яна Халдофа, які быў паказан у дні Маскоўскага фестывалю ў Доме кіно.

У фільме паказваецца некалькі дзён з жыцця маладых людзей. У герояў фільма няма ніякіх каштоўнасцяў, няма ідэй. Яны прызнаюць толькі каштоўнасць дадзенай хвіліны. Праўда, пастаноўшчык гаворыць, што ёсць і іншая моладзь, якая не падобна на гэтых веселуноў, уводзіць сцэну дэманстрацыі студэнтаў супраць амерыканскай агрэсіі ў В'етнаме, але гэта як бы між іншым, а ў асноўным яго цікавяць тыя юнакі і дзяўчаты, якія ўсё адмаўляюць і нічога не прапануюць узамен, акрамя культу асалоды.

Усё тое, што адбываецца ў фільме, паказана з пункту гледжання гераіні фільма Монікі, ролю якой выконвае артыстка Май Нільсан. Гераіня, 26-гадовая жанчына, маці сямігадовага сына, імкнецца быць такой жа, як яе новыя сябры — бесклапотнай, вясёлай, жыць сённяшнім днём. Але яна не можа быць такой. Сама таго не жадаючы, Моніка збоку ацэньвае ўчынкі гэтых перарослых шалапутаў і разумее, што іх весялосць не шчырая, а бунт — не што іншае, як даніна модзе.

Фінал карціны жудасны. Героі яго прыдумалі «гульню» — ганяцца на машынах за чалавекам. Ім весела да таго часу, пакуль у іх не абуджаецца звярыны інстынкт, прага крыві. Гульня пераходзіць у паляванне на чалавека. Ратуючыся ад зграі аўтамашын, чалавек спяшаецца схавацца за дрэва. Тут яго і застае смерць. «Гульня» скончана...

Сімвалічныя апошнія кадры фільма. Па вуліцах бяжыць Моніка, яна ўцякае ад весялосці, якая ператварылася ў злачынства. Яна імкнецца ўцячы ад свайго мінулага. Але куды? Моніка не ведае. Не ведае гэтага і рэжысёр. Ён абрывае ленту стоп-кадрам. На экране застылы ад жаху твар Монікі. Стоп-кадр — гэта канец фільма, але не канец гісторыі маладой жанчыны. Гераіня карціны застаецца на раздарожжы. Яна не ведае, што яе чакае наперадзе.

У апошнія гады ў шведскае кіно прыйшло многа таленавітых людзей. Гэта пісьменнікі, журналісты, кінакрытыкі, работнікі тэатраў, г. зн. людзі, якія займаюць у культурным жыцці краіны віднае месца. Яны маюць сур'ёзны намер разабрацца ў трывожных, хваравітых пытаннях сучаснай буржуазнай рэчаіснасці. Іх творчасць вызначаецца канкрэтнасцю, дакументальнасцю, густам і любоўю да дэталі. Але большая частка іх карцін перанасычана эротыкай, сексам, якія зводзяць на нішто самыя добрыя імкненні пастаноўшчыкаў.

Некалькі гадоў назад мы ведалі толькі аднаго майстра шведскага кіно — Інгмара Бергмана. Магчыма ў Швецыі не было сур'ёзных майстроў экрана? Не, яны былі. Але іх фільмы не сталі з'явай у сусветным мастацтве. Толькі Інгмар Бергман аднавіў сусветны прэстыж шведскага кіно, вярнуў яму былую славу.

Трэба сказаць, што Інгмар Бергман і цяпер застаецца цэнтральнай фігурай у шведскім кіно. Цэнтральнай, але не адзінай, як гэта было раней. З ім працуе яшчэ каля дзесяці рэжысёраў, якія вытрымалі ўзровень сусветнага стандарту. Гэта Вільгот Шоман, Ян Халдоф, Бу Відэрберг, Йорн Донер, Ян Троэль, Турэ Шэберт і іншыя.

Вільгот Шоман прыйшоў у кіно ўжо сталым пісьменнікам, сцэнарыстам і тэатральным драматургам. Ён хутка авалодаў прафесіяй кінарэжысёра. У яго быў добры настаўнік — Інгмар Бергман, у якога Вільгот Шоман стажыраваўся, працуючы асістэнтам. У 1962 годзе Шоман прыступае да самастойнай пастаноўкі, здымае карціну «Палюбоўніца», якая прынесла яму скандальную славу. Гэта не засмуціла маладога пастаноўшчыка, і ён прыступае да здымкаў новага опуса, дзе ўвесь змест вычэрпваецца самой назвай: «Пасцель брата і сястры». Затым новы скандал — на экраны выходзіць «491». Але і гэта не спыняе пастаноўшчыка. Ён здымае фільм «Я цікаўлюся», які ашаламляе гледача сваёй адкрытасцю і бессаромнасцю ў паказе таго, што з'яўляецца самым інтымным бокам чалавечых адносін. Вядома, тут у некаторай ступені адбіўся дзелавы разлік рэжысёра — зрабіць бізнес на скандале, як гэта было з карцінамі «Пасцель брата і сястры» і

«Палюбоўніца», якія прынеслі пастаноўшчыку вялікія грошы.

«Я цікаўлюся» Вільгот Шоман здымаў паўтара года. Гэта вялікі тэрмін для шведскага кіно. Звычайна там фільм «вытрэльваецца» праз тры-чатыры месяцы пасля запуску ў вытворчасць. Але варта адзначыць, што рэжысёр здымаў, па сутнасці, дзве карціны адначасова: "Я цікаўлюся ў блакітным» і «Я цікаўлюся ў жоўтым». Назвы гэтых серый вельмі важныя для разумення ідэйнага зместу фільмаў. Жоўты і блакітны — колеры нацыянальнага шведскага сцяга.

Пастаноўшчык запэўніваў журналістаў, якія бралі ў яго інтэрв'ю, што мэта яго фільма заключаецца ў тым, каб паказаць розныя колы шведскага грамадства, пачынаючы ад каралеўскага дома да звычайнай рабочай сям'і. Лірычная гераіня карціны, ролю якой выконвае Лена Ньюман, задае ўсім стэрэатыпныя пытанні: што хвалюе вас і што хвалюе краіну? Але гэта не сацыялагічнае даследаванне. Хутчэй гэта сацыяльная анкета, злучаная з ігравымі кавалкамі, у якіх расказваецца пра самую Лену Ньюман.

Вільгот Шоман запэўняе, што ён хацеў зрабіць стужку пра грамадскую пасіўнасць, пра абыякавасць шведскага абывацеля. Атрымалася зусім іншае: замест з'едлівай пародыі на «звар'яцелы шведскі свет» — адкрытая парнаграфія. Як дасціпна заўважыў адзін шведскі кінакрытык, «рэжысёру пра выдаткі на касцюмы не трэба было думаць». Карціна «Я цікаўлюся» зрабіла касавыя зборы. Толькі першая серыя фільма менш чым за год прынесла звыш пяці мільёнаў крон прыбытку. Гэта рэкордная лічба для Швецыі.

У кінематаграфічных колах тэрмін «шведскі фільм» успрымаецца як фільм сексуальны. Для гэтага ёсць падставы. Ужо вельмі многа эротыкі, а то і адкрытай парнаграфіі выліваецца на шведскі экран.

Паказальная ў гэтых адносінах творчасць 55-гадовага рэжысёра Турэ Шэберга. У пачатку сваёй кінематаграфічнай дзейнасці ён быў прадзюсерам выдатнага антыфашысцкага дакументальнага фільма «Майн кампф», які абышоў усе экраны свету. Пасля Турэ Шэберг зняў сам некалькі дакументальных палітычных карцін. Але гэтыя фільмы не прынеслі пастаноўшчыку грошай. Тады ён вырашыў здымаць прыбытковыя парнаграфічныя і сексуальныя стужкі. Так з'явіўся на экранах яго фільм «Фані Хіл», які рэкламаваўся не інакш, як «прыгожыя людзі, прыгожая эротыка». Сапраўды, у карціне эротыкі і парнаграфіі хоць адбаўляй. Гэта прымітыўнае апавяданне пра дзяўчыну з правінцыі, якая апынулася ў сталіцы, пра яе любоўныя паходжанні з маладым выпладкам багатага суднаўладальніка. Фільм прынёс Турэ Шэбергу небывалы прыбытак. На грошы, вырučаныя за пракат «Фані Хіл», ён набыў адну з буйнейшых студый Швецыі «Мінервафільм». Можна толькі ўявіць, што будзе пастаўляць на кінарынак гэтая студыя, якая знаходзіцца ў руках такога дзялка.

Было б няправільна гаварыць пра ўсіх рэжысёраў Швецыі, што яны, каб дагадзіць модзе, адышлі ад рэальнага жыцця з яго складанасцю і штодзённымі праблемамі ў парнаграфію, секс, эротыку. У шведскай кінематаграфіі ёсць мастакі, якія імкнуцца ставіць фільмы вялікага сацыяльнага гучання, якія закранаюць надзённыя праблемы сённяшняга дня. Да такіх майстроў належыць сцэнарыст, рэжысёр, аператар Ян Троэль. Ён здымае кароткаметражныя карціны. Яны ў яго заўсёды паэтычныя. Нездарма крытыкі называюць іх вершамі ў прозе.

Для творчасці Яна Троэля характэрна пільная цікавасць да чалавека. Адсюль строгая прастата формы яго карцін і некалькі запаволены іх рытм.

Вядомасць Яну Троэлю прынесла кароткаметражная стужка «Юхан Экберг» — дакументальнае апавяданне пра старога-пенсіянера, які ўцёк з багадзельні, змяніўшы казённа-стэрыльную раскошную дабрачынную напаўгалодную ўстанову на самастойнае, свабоднае жыццё, няхай нават у напалову разбуранай хаціне.

Асаблівы поспех выпаў на другі, таксама кароткаметражны фільм Яна Троэля «Прыпынак у Мюрлане». Ён пастаўлены па апавяданні пралетарскага пісьменніка Эйвіна Юнсана і трактуе тую ж тэму, што і «Юхан Экберг».

Пачынаецца фільм дакументальна. Невялікі раз'езд. На гэтым раз'ездзе з вагона выходзіць чалавек у рабочым адзенні. Не звяртаючы ўвагі на воклічы таварышаў, якія завуць яго, герой фільма, ролю якога выконвае таленавіты акцёр Макс фон Сюдаў, павольна ідзе ад палатна чыгункі. Гэта кадры-сімвалы. Пастаноўшчык імкнецца падкрэсліць, што яго герой знаходзіць выйсце з абывацельскай манатоннасці жыцця.

Яна Троэля называюць самай вялікай надзеяй шведскага кіно. Гэта справядліва. Ён, магчыма, самы таленавіты з маладых рэжысёраў.

Здымаючы кароткаметражкі, Ян Троэль марыць пра вялікі поўнаметражны фільм. Ён выбраў для свайго дэбюта біяграфічны раман буйнейшага шведскага пісьменніка, «паэта рабочага класа» Эйвінда Джонсана «Гісторыя Олафа».

Экранізавана толькі другая частка рамана — «Тут ваша жыццё». У ёй расказваецца пра фарміраванне характару будучага пісьменніка. Рэжысёр не баіцца паказаць галечу, суровае, напаўгалоднае жыццё хлопчыка, які змяніў некалькі прафесій, перш чым стаць пісьменнікам.

Калі мы глядзелі фільм «Тут ваша жыццё» ў Маскоўскім Доме кіно, многія крытыкі звярнулі ўвагу, што на карціну Яна Троэля моцны ўплыў аказала кінатрылогія Марка Данскога «Дзяцінства», «У людзях», «Мае універсітэты». Тыя ж эпічная шырыня, аб'ектыўнасць апавядання, рэзка акрэсленыя характары. Але ў карціне Яна Троэля няма размаху Марка Данскога. Яго карціна больш камерная, мяккая, лірычная.

Цікавыя і павучальныя «Змяя» рэжысёра Ханса Абрамсона і «Вяселле ў шведскім стылі» Аке Фалька, якія паказваюць жыццё краіны ў часы другой сусветнай вайны. Гэта добрыя, традыцыйныя карціны, якія створаны па творах Сціга Дагермана. Яны апавядаюць аб маральнай цане, якую заплаціла Швецыя за свой нейтралітэт. Услед за пісьменнікам пастаноўшчыкі з гневам і болем гавораць пра духоўнае загніванне нацыі, якая асуджана была стаяць у баку ад вызваленчай барацьбы і тлусцець на ваенным экспарце.

Паказваючы пачатак некаторых хвароб шведскага грамадства, Ханс Абрамсон у карціне «Змяя» дае непрыглядны партрэт маладога чалавека, апранутага ў салдацкую форму. Яго герой — падонак з падонкаў. Ён можа з усмешкай катаваць жанчыну, абкрадаць сваіх сяброў, не вагаючыся, здрадзіць ім, калі яму гэта выгадна, гвалціць, забіваць. Ён чалавек без прынцыпаў, маралі, сэрца, жалю. І ў той жа час гэты нягоднік стараецца здавацца сардэчным, добрым, ветлівым.

У карціне «Вяселле ў шведскім стылі» няма галоўнага героя. Паказана цэлая галерэя багатых фермераў і гандляроў, чыя традыцыйная пурытанская строгасць нораваў і фальшывая прыстойнасць пераходзяць у разбэшчанасць, свінства. Пастаноўшчык закранае тэму двайной маралі, двайнога вобразу жыцця, але толькі закранае, не вырашаючы яе. Гэта тыпова для шведскага кіно, якое фіксуе тыя ці іншыя з'явы часцей, чым аналізуе іх.

Шведская кінематаграфія можа ганарыцца сваімі дакументальнымі карцінамі, такімі, як «Майн кампф» Эрвіна Лайзера, «Дэзерціры ЗША» маладых рэжысёраў Оле Шэгрэна і Ларса Ламберта і многімі іншымі. Поўнаметражная мастацка-дакументальная антываенная стужка «Дэзерціры ЗША» атрымала мноства ўзнагарод і прызоў на міжнародных кінафестывалях. Яна апавядае пра 200 мужных юнакоў, якія зразумелі імперыялістычны характар вайны ў В'етнаме, пакінулі свае часці і пераправіліся ў Швецыю. Маладыя кінематаграфісты, здымаючы гэтую карціну, не абмежаваліся выкрыццём злачынных дзеянняў Пентагона. У сваім фільме яны імкнуцца ўскрыць унутраныя заганы амерыканскага грамадства.

Сярод маладых рэжысёраў шведскай «новай хвалі» асаблівае месца займае Бу Відэрберг. Ён пачаў здымаць фільмы ў 1963 годзе. «Дзіцячая каляска», «Каханне, 65», «Сярод здаровых і храбрых» былі заўважаны гледачамі і прэсай. Але прызнанне да пастаноўшчыка прыйшло пасля выпуску фільма «Варонні квартал», які апавядае пра жыццё рабочых, іх нечалавечую, катаржную працу. Пасля ў Відэрберга была паэтычная стужка «Эльвіра Мадыган» — кранаючая гісторыя кахання, якое забіла пурытанская грамадская думка. Фільм прынёс рэжысёру першы прыз на Канскім фестывалі.

У 1969 годзе Бу Відэрберг зноў атрымлівае Вялікі прыз за фільм «Адэлен, 31». У аснову гэтай сацыяльнай, палітычнай стужкі пакладзены гістарычны факт расстрэлу ўрадавымі войскамі дэманстрацыі забастоўшчыкаў у паўночнай шведскай правінцыі Адэлене 14 мая 1931 года, калі даведзеныя да крайняй галечы рабочыя выйшлі на вуліцы з патрабаваннем павышэння заработнай платы.

Пастаноўшчык імкнецца пабудаваць фільм на кантрастах. Спачатку «Адэлен, 31» напамінае маляўнічую калядную паштоўку. У даліне, дзе жывуць рабочыя, паказана такая ідылія, якой не знойдзеш нават у галівудскіх рэкламных фільмах. Ідылія патрэбна была рэжысёру для кантрасту з наступнымі сцэнамі. У сапраўднасці ж ніякай ідыліі не было, бо Адэлен больш за іншыя гарады Швецыі быў ахоплены эканамічным крызісам.

Які ж вывад робіць Бу Відэрберг, расказваючы ў сваім фільме пра трагедыю Адэлена? Ён запэўнівае гледачоў, што кроў расстраляных раскрыла вочы народу на сапраўднае аблічча капіталізму, што гэтыя падзеі садзейнічалі прыходу да ўлады сацыял-дэмакратычнага ўрада, пасля чаго Швецыя нібыта ператварылася ў «востраў дабра на планеце».

Бу Відэрбергу даводзілася здымаць у вельмі цяжкіх умовах. Не давала спакою буржуазная прэса, многім не хацелася прыцягваць увагу да падзей 1931 года ў Адэлене. Ускладнялася работа і тым, што з трох тысяч акцёраў, якія былі заняты ў здымках, 2 500 чалавек былі непрафесіяналамі. Гэта ў асноўным жыхары Адэлена, многія з якіх былі ўдзельнікамі падзей 14 мая 1931 года.

Левы друк, вітаючы зварот віднага майстра шведскага кіно да гісторыі рабочага руху, у той жа час абгрунтавана ўказваў на сур'ёзныя пралікі і памылкі аўтараў стужкі. Бу Відэрберга газеты рэзка крытыкуюць за адмаўленне ад гістарычнай праўды ў адлюстраванні эканамічнага крызісу 30-х гадоў.

Бу Відэрберг з'яўляецца бадай адзіным пастаноўшчыкам у Швецыі, які паслядоўна працуе над фільмамі, прысвечанымі жыццю і барацьбе працоўных краіны. Яго карціны не заўсёды ўдалыя, часам супярэчлівыя, часам наўмысна спрошчаныя. Але ўжо адно тое, што рэжысёр аддае перавагу сацыяльнаму, палітычнаму фільму, ставіць яго ў шэрагі прагрэсіўных мастакоў.

«Новая хваля» не зацямніла славы

шведскага майстра з сусветным імем Інгмара Бергмана. Ён па-ранейшаму застаецца «патрыярхам» шведскага кінамастацтва са сваімі ўскладненымі фільмамі-прытчамі. Выпуск кожнай яго карціны — падзея не толькі ў шведскай, але і ў сусветнай кінематаграфіі. Аднак *трэба сказаць*, што стужкі Інгмара Бергмана становяцца ўсё больш жорсткімі, паталагічнымі, сексуальнымі.

Чаму ж у шведскім кіно так многа сексу? Тлумачыцца гэта тым, што кінематаграфія Швецыі апынулася перад неабходнасцю змагацца з канкурэнцыяй на сусветным кінарынку. Без продажу за мяжу шведскіх фільмаў кінапрамысловасць краіны асуджана на гібель, бо ўнутраны рынак не пакрывае выдаткаў на вытворчасць карцін. Ствараць глыбока сацыяльныя стужкі, якія сапернічалі б з фільмамі вялікіх зарубежных майстроў экрана, большасць шведскіх рэжысёраў *не можа. Здымаць жа* «вестэрны», запрашаючы на галоўныя ролі вядомых кіназорак, шведскаму кіно не па кішэні. І прадзюсеры зрабілі стаўку на секс. Праўда, эротыкай заходні свет не здзівіш. Як дасціпна сказаў адзін кінакрытык, цяпер «секс гуляе па экранах у чым маці нарадзіла». Значыць, трэба было прыдумаць штосьці новае. У адрозненне ад эратычных стужак іншых краін шведскія сексуальныя карціны вызначаюцца тым, што яны падаюцца ў сацыяльнай вокладцы. Выпускаюцца фільмы, якія паказваюць моладзь, што імкнецца разабрацца ў складанасцях жыцця, знайсці сваё месца ў барацьбе за справядлівасць. Але па *меры развіцця сюжэта гэтыя праблемы* адыходзяць на другі план, а на пярэдні высоўваецца пасцель.

Добра сказаў пра шведскія фільмы вядомы італьянскі рэжысёр Віторыо Дэ Сіка. Ён пісаў: шведскія рэжысёры спачатку «...здымаюць голыя целы і далікатныя сцэны, а пасля прыцягваюць за вушы якую-небудзь ідэю, пасля чаго яны могуць сцвярджаць, што стварылі твор мастацтва. Табе паказваюць дваіх маладых людзей, якія кахаюцца і, між іншым, *асуджаюць сучаснае спажывецкае* грамадства».

Нельга сказаць, што само італьянскае кіно было такім пурытанскім, але ў такіх вялікіх майстроў, як Мікельанджэла Антаніёні, Федэрыка Феліні, Лукіна Вісконці і іншых эратычныя сцэны не з'яўляюцца самамэтай.

Сексуальныя сімвалы пранікаюць не толькі ў літаратуру, мастацтва, быт сучаснай Швецыі, але і ў эканамічнае жыццё, камерцыйную рэкламу, палітыку, нават рэлігію. Гэты працэс нястрымнага ўварвання сексу ў жыццё краіны ацэньваецца па-рознаму: у адных эратызм і секс — сімвал «новай свабоды», у другіх — *змрочны жупел распаду* і дэградацыі грамадства. Нельга не згадзіцца з амерыканскім сацыёлагам Эндр'ю Хекерам, які гаворыць: «Секс стаў адыгрываць больш прыкметную ролю ў жыцці людзей таму, што ў ім адсутнічае многае іншае... Старыя сувязі сям'і, суседства, *царквы і прафесіі ўжо не* настолькі моцныя і не даюць задавальнення». Многім маладым шведам, ды і не толькі ім, секс здаецца апошнім прытулкам індывідуальнасці, адзінай сферай, дзе пераадольваецца агульная апатыя. Фільмы, пастаўленыя шведскімі рэжысёрамі «новай хвалі», толькі падмацоўваюць гэтую думку. У гэтым заключаецца «наватарства» шведскіх фільмаў, у гэтым іх «заслуга» ў разбэшчванні моладзі. У гэтым жа іх камерцыйны поспех у адпаведнай часткі гледачоў.

**Яўген КРУПЕНЯ.**



# «ПРОСЬБА № 1»

**Вінцука Дуніна-Марцінкевіча не надта даймала, што той-сёй з фальварковых суседзяў глядзеў на яго беларускую творчасць, як на дзівацтва. Няхай сабе. Куды горш было з начальствам. Кніжкі на «северо-западном наречии» (гэта значыць, на мове прыгнечанага народа) яно залічвала ў разрад крамольных. Але ён пісаў, бо паважаў дасціпны розум беларускага селяніна, яго ўнутраны свет, не ўсведамляючы, можа, да канца, якую вялікую справу робіць. Хто ведае, які лёс напаткаў бы некаторыя яго творы, наколькі цяжэй было б яму адольваць неспрыяльныя абставіны, калі б не падтрымка польскага «краёвага» літаратурнага асяроддзя і ў першую чаргу Уладзіслава Сыракомлі.**

**Вядомы польска-беларускі паэт-дэмакрат Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч) большую частку свайго кароткага веку пражыў у Беларусі, у ваколіцах Любані, Нясвіжа, Стоўбцаў. Яго творы напоўнены пранікнёнымі словамі павагі да беларускага селяніна, шчырай любоўю да роднага краю. «Вясковага лірніка» (так называлі паэта сучаснікі) захаплялі народныя беларускія паданні і песні. На іх аснове ён стварыў свае таленавітыя гутаркі, вершы. Не без уплыву беларускага фальклору ім былі напісаны беларускія вершы «Добрыя весці» і «Ужо птушкі пяюць усюды». Хоць ён і пісаў у асноўным па-польску, творчасць яго жывілася сокамі шчодрай наднёманскай зямлі.**

**Сыракомля па-сяброўску заахвочваў Дуніна-Марцінкевіча да беларускай творчасці, неаднаразова даваў добразычлівыя рэцэнзіі ў перыядычных выданнях («Газэта варшавска», «Кур'ер віленьскі») на розныя яго творы, засланяючы пачынальніка новай беларускай літаратуры ад выпадаў шавіністычна настроеных польскіх крытыкаў, доказваючы права на самастойнае існаванне літаратуры ў «беларускай гаворцы».**

**Відавочна, што трывалая дружба Сыракомлі і Дуніна-Марцінкевіча ўзнікла на грунце блізкасці поглядаў, глыбокай зацікаўленасці лёсам роднага краю. Нездарма вершаванае апавяданне «Літаратурныя клопаты» (1857) беларускі пісьменнік прысвяціў Сыракомлю як «паэту і прыяцелю», які зразумеў яго працу, а ў творах «Хіба я стары?», «Верш Навума**



**Маці Ул. Сыракомлі Вікторыя Кандратовічава, народжаная Златкоўская.** (Публікуецца ўпершыню).



**Бацька Ул. Сыракомлі Аляксандр-Каятан Кандратовіч.** (Публікуецца ўпершыню).

**Прыгаворкі» і ў прадмове да кнігі «Цікава?—Прачытай!» (Мінск, 1856), якая, дарэчы, знаходзілася ва ўласным зборы кніг Сыракомлі, выказаў захапленне і талентам, і душэўнымі якасцямі «вясковага лірніка». Са свайго боку Сыракомля ў вершы «Тост у доме В. Марцінкевіча», які былі напісаны 3 чэрвеня 1855 года, калі паэт прыязджаў у Мінск, называе беларускага пісьменніка «любімым»...**

**Але ўсё гэта, як кажуць, ляжыць на паверхні. Цікавыя звесткі пра ўзаемадачыненні пісьменнікаў магла б даць іх перапіска, якая, трэба спадзявацца, існавала...**

**У Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва Літоўскай ССР мне трапілася пісьмо В. Дуніна-Марцінкевіча, адрасаванае «вясковаму лірніку». Аўтар дае свайму пісьму назву «Просьба № 1», падкрэсліваючы гэтым прычыну, якая вымусіла яго ўзяцца за пяро. Пісьмо пачынаецца з вершаванага паслання, напісанага ў стылі, набліжаным да стылю Бака *, пад які падрабляўся і Сыракомля ў сваіх жартаўлівых вершах.**

Людвік, паэце!
Безліч тут сэрцаў,
Што запалоніў
Ты сваім плёнам.
Будзь жа здаровым,
Каб добрым словам,
Гутаркай новай,
Мудрай і хвацкай,
Нас па-зямляцку
Ты зачароўваў.
(Пераклад мой.—**У. М.**)

**Далей у вершы Дунін-Марцінкевіч гаворыць, што тыя шчаслівыя хвілі, якія былі праведзены ў кампаніі паэта, здаюцца сном, і што чуць паэта—нібы жыць у небе, піць нектар і г. д. Заканчваецца верш пажаданнем, каб паэт «меў ласку не спяшацца (з ад'ездам—**У. М.**) і даў нацешыцца такою рэдкаю хвіляю» (бачыць яго—**У. М.**).**

* Юзаф Бака (1707—1780)—польскі паэт. Вядомы сваімі дзівацкімі вершамі, пазбаўленымі сур'ёзнай літаратурнай вартасці. У некаторых выпадках перыфразоўкай стылю яго вершаў карысталіся паэты XIX ст.

**Пад вершам прыпіска. Вось яе змест: «Даруй нам сябе яшчэ на некалькі хвілін! Ведаю, што табе павінна быць тужліва па дамашняй страсе, але ж прыкінь толькі, мой дарагі: ты не належыш сабе, ты ўласнасць усёй Літвы (маецца на ўвазе Беларусь—**У. М.**), дык вось, дазволь і нам, дзецям той жа Літвы, нацешыцца сваім братам,—ды якім братам?—славай!!!» Выказаўшы ад імя сваіх аднадумцаў і землякоў пачуццё гонару за край, які нараджае такіх паэтаў, як Сыракомля, аўтар «Гапона» прыступае да канкрэтнай размовы: «Вось у пансіёне Монтэграндзі некалькі дзесяткаў братніх (у тэксце гэтае слова закрэслена, і іншай рукой уверсе надпісана «сястрынскіх!—**У. М.**) сэрцаў б'ецца дзеля цябе, прагне цябе аглядаць; дык не адмаўляй ім у гэтай ласцы, а як прыйдзе Монтэграндзі запрашаць цябе, абяцай яму сваю прысутнасць і споўні гэтае абяцанне». Унізе палатыні «Бывай, мой любімы» і подпіс «Твой Навум Прыгаворка» (псеўданім, нададзены Дуніну-Марцінкевічу сябрамі па імю героя яго камедыі «Ідылія», якую мы прывыклі называць «Сялянка»). Сваю просьбу Дунін-Марцінкевіч падмацоўвае яшчэ адным вершам-пасланнем. У ім гаворыцца, што прыбыццё «дарагога Людвіка... да гэтых бедных парогаў напоўніць шчасцем убогую хатку», бо нават дзіцячыя сэрцы злучаюць сваю радасць з іншымі, славячы паэта. У апошніх радках аўтар задае сабе пытанне, чым жа ён сустрэне сябра, як пачастуе, калі пустая кішэня, і прапануе яму: «Вось, прыяцель, напіся гары, а на закуску—сэрца Навума».**

**На жаль, ні месца, ні дата напісання «Просьбы № 1» не вядомы. Пэўна, яна напісана ў часе аднаго з прыездаў Сыракомлі ў Мінск.**

**У тым жа архіве, дзе захоўваецца гэтае пісьмо, былі знойдзены і акварэльныя партрэты бацькоў нашага славутага земляка, шчырага сябра беларускай літаратуры Уладзіслава Сыракомлі—Аляксандра-Каятана Кандратовіча і Вікторыі Кандратовічавай, народжанай Златкоўскай.**

**Уладзімір МАРХЕЛЬ.**

# ПРАБАБКА ЛІЧЫЛЬНЫХ МАШЫН

З даўніх часоў Нясвіж быў рэзідэнцыяй князёў Радзівілаў, якія праславіліся як падарожнікі і асветнікі, як аматары навук і мастацтваў. У розныя часы Радзівілы пакідалі ў Нясвіжы адзнакі сваёй дзейнасці: тут была заснавана друкарня, выдаваліся кнігі, былі створаны фізічны і хімічны кабінеты, працаваў тэатр, існавала вялікая бібліятэка. Тут знаходзілі прытулак мастакі, акцёры і майстры розных спецыяльнасцяў. Відаць, сярод іх быў і вынаходнік лічыльнай машыны.



**Знешні выгляд лічыльнай машыны, зробленай у Нясвіжы ў XVIII стагоддзі.**

Звесткі пра вынаходніка і месца, дзе была зроблена машына, запісаны на самой машыне. На верхняй латуннай накрыўцы, аздобленай арнаментам і іншымі ўзорамі, на нямецкай мове напісана, што машына вынайдзена і зроблена Еўнам Якабсонам, гадзіннікавым майстрам і механікам у горадзе Нясвіжы Мінскага ваяводства.

Было гэта ў 60-я гады XVIII стагоддзя.

Лічыльная машына Якабсона выконвае ўсе чатыры арыфметычныя дзеянні: складанне, адніманне, множанне і дзяленне. Вылічэнні можна было рабіць у даволі шырокім дыяпазоне лікаў — ад адзінкі да мільярда. Множанне выконвалася як паўторнае складанне, а дзяленне — як паўторнае адніманне, пры гэтым машына фіксавала, колькі разоў зроблена адніманне.



**Унутраная, механічная аснова машыны.**

Механізм машыны складаўся з зубчастых паўдыскаў, шасцерняў і зубчастых перадач з доўгімі пальцамі. На верхняй накрыўцы знаходзіліся лічбавыя шкалы і іншыя прыстасаванні, якія дазвалялі набіраць неабходныя лікі і фіксаваць колькасць праведзеных арыфметычных дзеянняў. Пры выкананні арыфметычных дзеянняў паўдыскі паварочваліся спецыяльным ключом.

Зразумела, што лічыльная машына была зроблена вынаходнікам у адным экземпляры і, відаць, у практыцы вылічэнняў не ўжывалася. Хутчэй за ўсё яна дэманстравалася гасцям Радзівілаў, каб паказаць высокі ўзровень умельства нясвіжскіх майстроў і перавагі механічнага лічэння. Цяпер лічыльная машына нясвіжскага вынаходніка знаходзіцца ў Музеі М. В. Ламаносава ў Ленінградзе, яна з'яўляецца каштоўным экспанатам для вывучэння гісторыі развіцця тэхнікі механічнага лічэння. Машына не працуе, аднак асобныя яе часткі спраўныя. Цікава, што па сваёй канструкцыі і тэхніцы афармлення машына Якабсона не ўступала лічыльным машынам свайго часу, зробленым у іншых краінах. Больш таго — частка вузлоў і дэталяў машыны, а таксама яе кампаноўка зусім арыгінальныя.

**Аляксандр БОЛСУН.**

# ПАХАВАЛЬНЯ НАПАЛЕОНА

**У маёй калекцыі ёсць адзін вельмі цікавы французскі медаль. На адным баку яго партрэт імператара Напалеона Банапарта, на другім — прыгожы гранітны саркафаг. Крыху ніжэй надпіс: «Магіла Напалеона I. Адкрыта 5 мая 1853 года».**

**Адкуль ён паходзіць, гэты медаль? Пра што расказвае?**

**Як вядома, Напалеон памёр 5 мая 1821 года далёка ад Францыі, на востраве Святой Алены ў Атлантычным акіяне. У сваім завяшчанні ён прасіў, каб яго пахавалі ў Францыі. Аднак ан-**

глійскія ўлады, якія трымалі Банапарта ў няволі на адзінокім востраве, не палічыліся з яго пасмяротнай просьбай. Напалеона пахавалі на востраве, у сціплым, ціністым месцы, дзе ён часта любіў адпачываць.

Думка аб тым, каб перанесці прах былога французскага імператара ў Парыж, упершыню ўзнікла ў 1830 годзе, але тады не мела падтрымкі. Толькі праз дзесяць гадоў урад Францыі выдзеліў мільён франкаў і два караблі, каб перавезці астанкі Напалеона ў Францыю. Абодва судны стаялі ў Тулонскай гавані — адсюль яны павінны былі пачаць свой шлях да вострава. У гэтым была пэўная доля сімволікі: Напалеон пачынаў сваю ваенную кар'еру якраз з узяцця Тулонскай крэпасці. Паехаць на востраў Святой Алены хацелі вельмі многія, але дазвол атрымалі нямногія. Гэта былі генерал Бертрах, яго сын Артур, генерал Гурго, барон Лас-Коз, галоўны камердынер Напалеона Маршан, слугі Дэні, Навера, Аршамбо, Піярэн...

7 ліпеня 1840 года караблі выйшлі ў мора.

Хутка праляцелі дні падарожжа, і, нарэшце, востраў Святой Алены паўстаў перад позіркам французаў. Здалёк ён выдаваў пустэльным і нежывым. Англічане сустрэлі французаў непрыветна і суха, жадаючы падкрэсліць, што для іх Напалеон быў толькі палонным, якога трэба было вартаваць.

Ускрыццё магілы было прызначана на ноч з 14 на 15 кастрычніка. Пры святле факелаў у чвэрць першай англійскія салдаты знялі жалезныя краты, потым каменныя пліты з магілы. Пачалі капаць зямлю. Капалі хутка і моўчкі. Тых, хто стамляўся, змянялі другія. Нарэшце рыдлёўкі наткнуліся на вялікае каменнае скляпенне, пад якім захоўвалася труна. Каб яе не пашкодзіць, вырашылі ўзламаць скляпенне з краю. Праца гэтая была нялёгкая...

А 9-й гадзіне раніцы магілу Напалеона акружылі англійскія салдаты. Усе, хто не належаў да ліку прызначаных прысутнічаць пры ўскрыцці, былі выдалены за ланцуг. Засталося 23 чалавекі, сярод іх — барон Лас-Коз, генерал Гурго, граф Бертран з сынам Артурам, былыя слугі імператара, афіцыйныя прадстаўнікі Францыі, Англіі, мясцовых уладаў.

І вось труна вынята з магілы. Усе моўчкі глядзяць, як завіхаюцца англійскія салдаты. Напалеон быў пахаваны ў 4 трунах — металічнай, драўлянай, свінцовай і зноў у драўлянай. Адна за другой раскрыты тры труны. Засталася апошняя. Французы адышліся ў палатку, хутка пераапрануліся ў парадныя мундзіры...

Калі паднялі накрыўку апошняй труны, перад вачыма прысутных паўстаў «памерлы вялікі муж, зусім не пашкоджаны, так што яго можна было пазнаць з першага погляду, у поўным мундзіры палкоўніка гвардзейскіх егераў, які быў любімым убранствам яго пры жыцці». Так пісалася ў афіцыйнай справаздачы аб гэтай падзеі.

Пасля таго, як астанкі Напалеона паклалі ў новыя труны, якія ўстаўляліся адна ў другую, жалобная працэсія пайшла ў Лангвуд, дзе жыў Напалеон на востраве. Потым труну даставілі на фрэгат, і караблі адплылі да берагоў Еўропы.

Францыя з нецярпеннем чакала прыбыцця караблёў. Мясціны, па якіх павінна была праязджаць жалобная калясніца, упрыгожваліся кветкамі, зелянінай. Быў распрацаваны пышны цырыманіял перанясення Напалеона ў Парыжскі Сабор інвалідаў на захоўванне.

Астанкі Напалеона змешчаны ў саркафаг з чырвонага парфіру. Такі камень звычайна бралі для імператарскіх надмагільных збудаванняў у антычным Рыме.

Каменную глыбу вагой у 200 тон везлі з Карэліі ў Парыж больш як год. Яшчэ два гады пайшло на апрацоўку саркафага. Афармляў яго архітэктар Вісконці.

Пахавальня Напалеона стаіць на зялёным гранітным п'едэстале ў самым цэнтры сабора. Вакол размешчаны 12 алегарычных гарэльефаў, якія адлюстроўваюць напалеонаўскія паходы. Яны зроблены скульптарам Прадве. У Саборы інвалідаў пахаваны і некаторыя напалеонаўскія генералы, сын Напалеона, сваякі імператара.

Доступ да магілы Напалеона пачаўся з 5 мая 1853 года.

Гэтай падзеі і быў прысвечаны медаль.

**Аркадзь ПАДЛІПСКІ.**



# КРОКІ ДА П'ЕДЭСТАЛА



Вольга Корбут.

## КАНІКУЛАЎ НЕ БУДЗЕ...

Нічога асаблівага не здарылася. Проста яна ўпала на трэніроўцы. Выпадак не з тых, пра які варта ўспамінаць. Так думала і сама Вольга. Але калі Ранальд Іванавіч сказаў, што трэба схадзіць у бальніцу, яна паслухалася: яму лепш ведаць...

Дактары запісалі чарговую пацыентку: «Вольга Корбут, вучаніца 8 класа 10-й сярэдняй школы г. Гродна».

Медыкаў, вядома, зацікавіла здароўе чатырнаццацігадовай гімнасткі. Як рэагуе на вялікія нагрузкі арганізм, ці варта наогул займацца спортам у такім узросце?

Хутка яны расчараваліся: «хворая» не хацела заставацца ў ложку — яна проста ў калідоры круціла сальта і флякі, паказвала, як трымаць раўнавагу на брусе.

Вольга трэніравалася ў бальніцы, бо набліжаўся час першынства свету па спартыўнай гімнастыцы ў Любляне. Яна не сумнявалася, што паедзе, зноў жа Ранальд Іванавіч Кныш, трэнер, запэўніў. А калі ён сказаў, то так і будзе. Праўда, пры адной умове...

Вольга Корбут спадабалася і люблянскім гледачам, і строгім суддзям. Яе скачок і вольныя практыкаванні атрымалі самыя высокія ацэнкі.

Савецкая каманда стала пераможцай чэмпіяната, і Вользе Корбут было радасна. Аднак...

— Бальнічныя «канцэрты» не прайшлі дарэмна, — расказвае Ранальд Іванавіч Кныш, — яны здароўю не пашкодзілі, ды, зрэшты, ніякай хваробы і не было. Ёй, бачыце, спадабалася роля хворай. На трэніроўку трэба, а яна звоніць па тэлефоне: «Прабачце, Ранальд Іванавіч, але я сёння не прыйду. Галава баліць». Назаўтра — «млявасць нейкая, паляжу лепш»... Кажу: «Глядзі, бокам гэтая хвароба выйдзе, пашкадуеш». А яна —

«нічога, даганю». Так два месяцы і прагуляла.

Прыйшла—самая паслухмяная, самая старанная. Выйграе спаборніцтвы і так хітра на мяне глядзіць: «...А што я казала?» Пачынаю пералічваць памылкі, усміхаецца: «Гэта толькі вы іх бачыце. Суддзі ж высокія ацэнкі даюць...»

Надышлі самыя адказныя дні, і Вольга не губляла аптымізму. І толькі трэнер, аналізуючы выступленні Людмілы Турышчавай, Зінаіды Варонінай, Ларысы Петрык, Вольгі Карасёвай, Любові Бурды, Тамары Лазаковіч, адзначыў сабе: «Яны рыхтаваліся на два месяцы больш...»

Тады права ехаць у Любляну заваявала гэта шасцёрка.

Ледзь чутна, глытаючы слёзы, зусім не тым «тэлефонным» голасам Вольга папрасіла:

— Прабачце, Ранальд Іванавіч...

— Нічога, і запасной у такой камандзе вялікі гонар...

Пра дадатковыя канікулы дамовіліся не ўспамінаць, зноў жа пры ўмове, што яны не паўторацца. Калі Вольгу ўключылі ў савецкую каманду для паездкі ў Японію, Ранальд Іванавіч не пярэчыў.

«Незвычайна! Фантастычна! Ультра-сі! Вышэй чалавечых здольнасцяў!»—такімі эпітэтамі суправаджалася кожнае выступленне Вольгі Корбут. Самі вынаходнікі мноства звышскладаных і арыгінальных гімнастычных элементаў, японцы адразу ж схапіліся за кінакамеры: сальта назад на гімнастычным бервяне—гэта цуд, «ластаўка» з верхняй жэрдкі на ніжнюю і сальта пры саскоку на брусах—ніхто ў свеце такога яшчэ не рабіў!

Вольга, маленькая, з дзвюма тоненькімі коскамі, якія смешна тырчаць убакі—атрымоўвала амаль поўную «дзесятку» ў апорным скачку. Гэта яе любімае практыкаванне, тут яна чэмпіёнка Савецкага Саюза.

Потым было знаёмства з Японіяй, яе жыццём. Цяжкія балючыя хвіліны ў Нагасакі.

Голас Вольгі дрыжыць, калі яна расказвае пра музей-помнік ахвярам атамнай бамбардзіроўкі:

— Адразу не разумееш, навошта там сабрана столькі гадзіннікаў. І ўсе яны паказваюць адзін і той жа час. Час, калі на японскую зямлю прыйшла страшэнная бяда... У нас былі кветкі, і яны так бездапаможна выглядалі побач з паржавелым жалезам, спёкшымся бетонам і шклом... Адразу захацелася дадому, у родны Гродна.

Ранальд Іванавіч лічыць, што найбольшую карысць трэніроўкі даюць дома, калі ў спакойнай абстаноўцы можна шліфаваць кожны элемент. Зразумела гэта і Вольга. Пасталела, у вачах, раней смяшлівых, з'явілася сур'ёзнасць.

*Кожны дзень Вольга Корбут становіцца побач з сяброўкамі і пачынае паўтараць можа ў соты раз практыкаванні. Наступныя заняткі—пошук і адпрацоўка якраз таго незвычайнага, што вылучае яе ад астатніх.*

Канікулаў не будзе...

## ЛЁС ДУБЛЁРА

— Ты, Лёня, галоўнае, не хвалюйся. Гэта яны самі сябе падбадзёрваюць, баяцца цябе—вось і кідаюцца ў «псіхічную атаку».

Павел Васільевіч Грыгор'еў пазіраў знізу на свайго вучня і гаварыў, гаварыў: даваў парады, супакойваў—стараўся зняць напружанне.

Леанід ківаў галавой, а сам думаў: «Хутчэй бы на дыван. Там паглядзім, браткі, якія вы ёсць!.. Напалохаць рашылі? Ну што ж—калі ласка, я да вашых паслуг. Толькі не крыўдуйце, калі давядзецца сапсаваць вам настрой...»

Пашукаў вачыма знаёмую постаць Аляксандра Мядзведзя. Той, нібы адчуўшы позірк, хітра падміргнуў з-за стала: «Пакажы ім, зямляк, дзе ракі зімуюць»...

Стала спакайней. Успомніў, што расказваў старэйшы таварыш пра сённяшніх сапернікаў, іх любімыя прыёмы, слабыя месцы. «Дзякуй табе, Саша».

Менавіта праз Аляксандра Мядзведзя і ўзрушыўся берлінскі чэмпіянат Еўропы 1970 года па вольнай барацьбе, а дакладней—самыя моцныя людзі спаборніцтваў—цяжкавагавікі. Убачылі яго некаторыя—і ў судзейскую калегію: «Адмаўляемся выступаць, усё роўна ён першым будзе. Дык навошта ж яшчэ раз трапляць у яго «абдымкі». Растлумачылі ім: Мядзведзь—госць чэмпіяната, а на дыван выйдзе Леанід Кітоў.

Сітуацыя змянілася. Барцы не хавалі задавальнення: «Вось і парахуемся з дэбютантам за ўсё, што нацярпеліся ад Мядзведзя. Прыйшло і на нашу вуліцу свята».

Але святкавала савецкая каманда. Дублёр двойчы алімпійскага чэмпіёна вёў паядынкі, як і сам чэмпіён: ніводнаму з канкурэнтаў не даў і самага малога шансу на поспех. Пераможанымі пакінулі дыван пастаянны ўдзельнік першынстваў свету і Еўропы балгарын Дураліеў, прадстаўнік ГДР Гербер—ніхто з удзельнікаў не мог устаяць супраць Леаніда.

Залаты медаль зноў атрымаў мінскую прапіску, а зарубежныя трэнеры занатавалі ў блакнот новае імя—Леанід Кітоў.



Леанід Кітоў.

...Іншы даўно пераехаў бы з Мінска ці наогул кінуў бы заняткі барацьбой. Мяркуйце самі: не ў кожнага хапіла б цярплівасці на працягу амаль дзесяці гадоў заўсёды быць другім. Тым больш, што не было амаль ніякай надзеі стаць першым. Трэніруецца побач з табой чалавек, адзначаны ўсімі вышэйшымі спартыўнымі ўзнагародамі, якія толькі існуюць у свеце. І дапаможа ён табе, і сакрэтамі падзеліцца, а на дыване—не чакай літасці: сур'ёзны, жорсткі сапернік. Ніяк не выйграць у яго—у Аляксандра Мядзведзя. Значыць, незайздросны лёс дублёра...

— Чаму незайздросны?—Леанід, звычайна спакойны, як усе рослыя і вельмі дужыя людзі, на гэты раз энергічна пратэстуе:—Хіба ж толькі з-за высокага месца трэба займацца спортам? А задавальненне ад самога паядынку, ад святочнай атмасферы спаборніцтваў? Ды, наогул—хіба ж мы з Аляксандрам не падзелім славы? І на яго долю турніраў хапае, і на маю. Напрыклад, летась ён заваяваў званне чэмпіёна свету, я быў першым у Берліне. Думаю, не так ужо і мала...

Сёння, мусіць, мала хто і паверыць, што яго шлях у вялікі спорт пачаўся з... танцавальнай пляцоўкі. Бабруйскі трэнер Дзмітры Худыш неяк заўважыў у калаўроце полькі высачэзнага атлетычнага хлопца, які, нібы пушынку, круціў вакол сябе партнёршу.

— Не, позна ўжо, няхай маладзейшыя гэтым займаюцца,—адказаў на запрашэнне хлопец.—У маім узросце людзі ў чэмпіёнах ходзяць. А мне і армейскай загартоўкі хапае...

Адмаўляўся, але не вельмі ўпарта, і трэнер яму пакінуў адрас, сказаў:

— Прыходзь, калі надумаеш...

Праз тыдзень «танцор» першы раз выйшаў на дыван. Яшчэ праз год яго намячалі ў пераемнікі Сяргея Залускага, тагачаснага чэмпіёна Беларусі па класічнай барацьбе. А ён, нечакана для спецыялістаў, а магчыма, і для самога сябе, падаўся ў вольную барацьбу, прытым у тую вагавую катэгорыю, дзе паўнаўладна гаспадарыў Мядзведзь.

— Пра чэмпіёнскія лаўры ў той час і не думаў,—зазначае Леанід.—Проста мяне папрасілі выступіць за каманду «вольнікаў» інстытута фізкультуры, дзе я ў той час займаўся на трэнерскіх курсах. Паспрабаваў—спадабалася. І, чэснае слова, ні разу не пашкадаваў. І не пашкадую!...

## НА ХВАЛЯХ СВІСЛАЧЫ

Наша Свіслач толькі на першы пагляд непрыкметная ды лагодная: ні хвалі крутой, ні бурлівага цячэння. А пазнаёмішся з ёю бліжэй, яе характар зведаеш: то вір у самым нечаканым месцы, то водмель сярод плыні...

Тым больш, калі ты сядзіш не ў зручнай, бы канапа, лодцы, якія выдаюць напракат на Камсамольскім возеры, а ў вузенькай байдарцы. Вельмі ж ненадзейная гэта пасудзіна—ледзь згубіў раўнавагу ці нават проста заглядзеўся на бераг—прымай «ванну». Яшчэ нічога летам, а вясной ці ўвосень купацца ў Свіслачы—не надта прыемная справа. Як жартуюць спартсмены, хто не здабудзе славы весляра, можа разлічваць на кар'еру «моржа»—аматара зімовай загартоўкі.

Юры Асмалоўскі пры першай сустрэчы з Тамарай Шыманскай папярэдзіў:

— Мы, вядома, атэісты, але абрад хрышчэння ў нас абавязковы. Згодна прыняць нашу веру?

— Згодна!

Размова адбылася шэсць гадоў назад, але трэнер і яго вучаніца добра яе запомнілі: для Юрыя Асмалоўскага гэта быў пачатак яго самастойнай работы, для Тамары Шыманскай—першы крок у вялікі спорт.

Сяброўкі з будаўнічага вучылішча



Тамара Шыманская.

№ 24 здзіўляліся: «Навошта табе гэтае веславанне, лепш на пляжы пазагараем...» Тамара ўсміхалася: хіба можна змяніць імклівы бег байдаркі, зіхценне вясёлкі, якая раз-пораз успыхвае з-пад твайго вясла, парыў ветру, што забівае дыханне, на праляжванне бакоў на пяску? Не, гэта не для яе!

Даволі хутка дамогшыся першага поспеху, Тамара затым два вельмі адказныя старты прайграла: на мінулай Спартакіядзе народаў СССР і напярэдадні Алімпійскіх гульняў у Мехіка. Было сорамна перад трэнерам, бо ведала—наракаць трэба толькі на сябе.

За саперніц яна не слабейшая, а вось хваляванне... То раней, чым трэба, фінішаваць пачынала, то не заўважыць рашаючага рыўка канкурэнтак...

Патрэбная раўнавага прыйшла ў 1969 годзе. У Маскве, на першынстве Еўропы, Тамара тройчы ўзнімалася на вышэйшую прыступку п'едэстала гонару—спачатку за перамогу на байдарцы-адзіночцы, затым—у складзе двойкі і нарэшце—чацвёркі. Абсалютная чэмпіёнка!

Летась—новае, яшчэ больш складанае выпрабаванне: ёй пашчасціла абараняць гонар краіны на чэмпіянаце свету.

Капенгагенскія каналы карыстаюцца даўняй увагай весляроў—тутэйшая рэгата збірае, як правіла, усіх мацнейшых спартсменаў, тым больш, калі праходзіць першынство свету. Шматлікія знаўцы спорту загадзя ўзважваюць шансы каманд, робяць прагнозы.

Наўрад ці зможа хто канкурыраваць з рускімі,—такая была думка балельшчыкаў перад стартам жаночай байдаркі-чацвёркі.

Што ж, іх прадбачлівасці можна пазайздросціць—савецкі квартэт на фінішы быў першым. Сярод стомленых, але шчаслівых пераможцаў былі дзве беларускія дзяўчыны—Нэля Вакула з Гомеля і Тамара Шыманская.

У Мінску чакалі віншаванні, абдымкі сяброў і такая навіна, што дзяўчына нават не паверыла адразу. Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў яе, Тамару Шыманскую, медалем «За працоўную доблесць».

За працоўную доблесць... Гэта вельмі дакладна сказана.

**Сяргей АЛАДЗЬЕЎ.**



**Раздзел вядзе міжнародны гросмайстар Аляксей СУЭЦІН**

# ВУЧЫЦЕСЯ РАЗУМЕЦЬ ШАХМАТЫ

Барацьба ў шахматнай партыі развіваецца ў адпаведнасці з прынцыпамі стратэгіі і тактыкі.

## ДВА ПАНЯЦЦІ СТРАТЭГІІ

У барацьбе стратэгічных задум на працягу шматвяковага развіцця тэорыі шахмат першаступенную ролю адыгрывае ўзаемасувязь асноўных яе прыёмаў — атакі і абароны. Да гэтага часу захоўваюць сваю сілу пазіцыйныя «пастулаты» вялікага нямецкага шахматыста В. Стэйніца. Абгрунтоўваючы сваю тэорыю атакі і абароны, Стэйніц карыстаўся перш за ўсё наватарскімі поглядамі П. Морфі, гульню якога ён глыбока праааналізаваў. Пры гэтым ён заўважыў, што кожная партыя развіваецца заканамерна, падпарадкоўваючыся адпаведным прынцыпам. Атака можа быць паспяховаю толькі тады, калі партнёр дасягнуў адпаведнай перавагі. Маючы перавагу, ён абавязаны атакаваць, каб не страціць ініцыятыву.

Не менш важнае месца маюць і прынцыпы абароны. Стэйніц сур'ёзна прааналізаваў партыі сучаснікаў і зрабіў вывад, што бліскучыя атакі і камбінацыі майстроў мелі поспех таму, што была слабая абарона, прынцыпы якой былі яшчэ не распрацаваны ў тыя часы.

Галоўным у абароне з'яўляецца строгая эканомія неабходных сродкаў. Той, хто абараняецца, павінен ісці на ўступкі, але як мага меншыя (гэта, па сутнасці, і ёсць прынцып эканоміі!).

З часоў Стэйніца сістэматычна даследаваліся таксама тыя пазіцыі, дзе шансы бакоў прыкладна роўныя і гульня мае характар манеўранай барацьбы за збіранне «маленькіх» пераваг. Да такіх пераваг трэба аднесці «перавагу двух сланоў», валоданне адкрытай лініяй, «слабыя» палі ў лагеры праціўніка, падвойныя ці адсталыя пешкі і г. д.

Сучаснае паняцце пазіцыйнага лавіравання дапоўнілася дынамічнымі фактарамі. Пры гэтым, побач са стратэгічнымі момантамі, бярэцца пад увагу дрэннае размяшчэнне тых ці іншых фігур, іх малая рухомасць і г. д.

Паняцце стратэгіі, як і паняцце тактыкі, можна разглядаць у чыста практычным значэнні (гэта вельмі часта робяць аўтары шахматных дапаможнікаў) і ў больш шырокім сэнсе слова. Шахматысты-практыкі нярэдка называюць стратэгіяй толькі планамернае вядзенне гульні, яўнае падпарадкаванне іграваых момантаў тым ці іншым задумам. Безумоўна, гэта так, але ў шырокім сэнсе стратэгія — гэта сукупнасць поглядаў, пераканаўняў самога шахматыста. Стратэгія ахоплівае ўсё, што належыць да абстрактнага шахматнага мыслення. Так, напрыклад, у адрозненне ад пазіцыйнай школы Стэйніца, якая мела доўгі час перавагу, сучасная стратэгія характарызуецца большым выкарыстаннем і самастойнасцю камбінацыйных сродкаў.

Спынім увагу на некаторых вельмі істотных для спецыфікі стратэгіі шахмат момантах.

## ДЗЕЮЧЫЯ СІЛЫ І АБ'ЕКТ

У шахматнай партыі розніца паміж аб'ектам атакі і дзеючымі сіламі вельмі ўмоўная. У ходзе гульні аб'ект атакі імгненна можа ператварыцца ў дзеючую сілу.

Характэрны прыклад гэтага — заканчэнне матча 1963 года Батвіннік — Петрасян, якое ўзнікла пасля 41-га ходу белых у 18-й партыі.

Б. Крf2, Лd2, Лс1, Сс2, Кf1, Кg2; пп. a4, b3, d4, e4, g4, h3 (12).

Ч. Крg7, Лd7, Ле8, Ке7, Кg6, Се6; пп. a5, b6, c6, f6, g5, h4 (12).

У белых «ідэальны» пешачны цэнтр, яны маюць некаторую прасторавую перавагу. Да таго ж у лагеры чорных адсталая пешка «с6», размешчаная на паўадкрытых лініях, пры выпадку можа стаць зручным аб'ектам дзеяння праціўніка. Павучальна прасачыць, як чорныя робяць з гэтага нерухомага аб'екта важны рэсурс свайго контрнаступлення.

Працяг. Пачатак гл. «Маладосць» № 3 г.г.

Было зроблена 41. ...Cf7!
Удалы ход у адказ, звязаны з наступным націскам на цэнтральны пункт «е4».
42. Ke3 c5!
Карыстаючыся зручным момантам, белыя пазбягаюць небяспекі. Далей пешка «с5» набывае рэальную сілу.
43. d4 Ke5, 44. Лcf1?
Пачатак памылковага плана, які вядзе да паражэння. Трэба было рабіць 44. Kc4 K : c4, 45. bc Cg6, 46. e5!, або 45. ...Kc8, 46. e5! Аддаўшы сваю цэнтральную пешку, якая стала зручным аб'ектам, белыя атрымалі магчымасць актывізаваць свае фігуры. У гэтым выпадку яны мелі б усе падставы разлічваць на нічыю. Цікава прасачыць, як цэнтр белых, які яшчэ нядаўна быў грознай зброяй барацьбы, набывае нерухомую пазіцыйную слабасць.
44. ...Cg6, 45. Kpe1 Kc8, 46. Лf2 Лf7, 47. Kpd2 Kd6, 48. Kf5 C : f5, 49. ef.
Заслугоўвала ўвагі ахвяра якасці 49. Л : f5, хоць і тады перавага чорных бяспрэчная.
49. ...c4.
Пачатак рашучай контратакі. Яшчэ нядаўна зусім сціплая пешачка становіцца авангардам наступлення белых.
50. Лb1 b5, 51. b4 c3+!, 52. Kp : c3.
Белыя вымушаны ахвяраваць.
52. ...Лc7, 53. Kpd2 Kc4+, 54. Kpd1 Ka3, 55. Лb2 Kc4.
Коні чорных раптам ярасна ўключаюцца ў контратаку.
56. Лa2 ab, 57. ab K : b5, 58. Лa6 Kc3+, 59. Kpc1 K : d5, 60. Ca4 Лc8, 61. Kc1 Kf4, і белыя здаліся.

### ДЗЕЮЧЫЯ СІЛЫ І РЭЗЕРВЫ

Для стратэгіі шахмат характэрны ўмоўны падзел на дзеючыя сілы і рэзервы.
У наступнай пазіцыі, якая атрымалася пасля 15-га ходу ў партыі Хааг — Суэцін (Дэбрэцэн, 1961), белыя маюць значную перавагу ў тэмпах. Да таго ж каралеўскі фланг чорных яшчэ амаль не развіты і іх кароль топчацца ў цэнтры.


a b c d e f g h

Б. Kpg1, Фh5, Лa1, Лf1, Cb2, Cd3, Kb3; пп. a3, c2, f4, g2, h2 (12).
Ч. Kpe8, Фc7, Лa8, Лh8, Cb7, Cf8, Ke4; пп. b5, d7, e6, f7, g7, h7 (13).
Але больш дакладнае вывучэнне пазіцыі паказвае, што тут чорныя маюць амаль што рашаючую перавагу. Цікава, што сваю перавагу чорныя даводзяць галоўным чынам хадамі ўжо ўведзеных у гульню фігур. І тым не менш роля іх рэзерваў зусім не пасіўная. Кожная з фігур чорных, якія не ўведзены ў бой да адпаведнага часу, выдатна дзейнічае на сваім першапачатковым месцы. Магчыма, якраз у гэтым і ёсць таямніца поспеху чорных?!
15. ...Kc5!
Толькі так можна парыраваць пагрозу прарыву f4—f5. На 16. f5 было б 16. ...K : d3!, 17. cd (у выпадку 17. fe K : b2!, 18. Ф : f7+ Kpd8 у белых не бачна кампенсацыі за значную страту); 17. ...Фc2! 18. Лf2 Ф : b3, 19 fe 0—0—0! І чорны кароль уцякае з небяспечнай зоны.
16. C : b5 Фb6, 17. Kd4 Ka4!, 18. Лae1.
Ход за ходам сітуацыя абвастраецца. Кароль чорных знаходзіцца пад трайною звязкаю! На 18. ...g6 вельмі непрыемным было 19. Фe5 Лg8, 20. C : a4 Л : a4, 21. Фb8+. Наступны ход чорных рассякае «гордзіеў вузел».
18. ...Cc5!
Першы і рашаючы лёс партыі — ход слана «f8»!
19. C : d7+.
Пагрозы 19. ...K : b2 або 19. C : d4+ прымушаюць белых кінуцца ў шалёную атаку.
19. ...Kp : d7, 20. Ф : f7+ Kpc8, 21. Л : e6 C : d4+, 22. C : d4 Ф : d4, 23. Kph1 Лhd8!, 24. Лb1 Фd1+, 25. Лe1 Фd5, 26. Ф : g7 Лg8, 27. Л : b7 Л : g7, 28. Л : g7 Kpd8, 29. f5 Лa6, і белыя здаліся.

(Далей будзе).





● Надар ДУМБАДЗЕ

# ДРУГАЯ ГУТАРКА З БОГАМ



— Калі ты зноў прыйшоў прасіць чаго-небудзь, я звар'яцею,— сказаў мне бог, як толькі я адчыніў дзверы.
— Усё, батона Георгі! Вось яшчэ дачакаюся шостага з'езда пісьменнікаў, скажу свае слова і... я ваш. Цяжкія прыступы стэнакардыі і поўнае знясіленне нервовай сістэмы...— хацеў узрадаваць я яго.
— Ты дурны, ці што? — бесцырымонна перабіў мяне бог і націснуў на кнопку званка. У пакой увайшла дзяўчына — анёлак у сукенačцы на дзесяць пальцаў вышэй каленяў, з прычоскай таматнага колеру і зялёнымі вейкамі, што закрывалі паўшчакі. Яна апусцілася ў крэсла насупраць мяне, паклаўшы нагу на нагу.
Усявышні скасавурыў на яе вочы. Я расплыўся ў ідыёцкай усмешцы і ўтаропіўся на яе голыя калені.
— Колькі разоў я казаў табе, дзяўчына, каб ты на службе не хадзіла голая,— прабурчаў бог і сарамліва адвярнуўся.
— Курыць вы мне забаранілі. Піць каньяк і танцаваць твіст — таксама, а цяпер не да спадобы вам, што я ў міні-спадніцы... Адашліце мяне ў манастыр. Зрэшты, я таксама жанчынаю хачу жыць! — сказала яна і скоса зірнула на мяне — шукала ратунку.
Я ліслівa ўсміхнуўся, не зводзячы з яе вачэй.
— Глядзі сюды! Гэй, ты! — патрос мяне за плечы бог.
Я прыкінуўся, што не чую.
— Ці чуеш? Гэй! — не адставаў ад мяне бог.
— Вы мне што-небудзь сказалі? — назнарок перапытаў я.
— Ага! Табе сказаў, табе! Што вытрашчыўся на яе? Глядзі — вока зломіш. Павярніся сюды! А ты ідзі адгэтуль, дзяўчына! І болей не пускай усякіх са стэнакардыямі і інфарктамі. Што за насланнё — усе калекі прыходзяць да мяне?! Я хачу паглядзець на здаровага чалавека,— з крыўдай сказаў бог.
— Не бойцеся, ойча, стэнакардыя — не заразная хвароба,— супакоіў я яго.
— Не ведаю, заразная — незаразная. Пра рак тое ж самае гавораць, а я вось з левага боку намацаў нейкую пухліну... Хоць бы не злаякасная аказалася,— сказаў бог, і на вачах у яго закруціліся слёзы.
— У каго вы лечыцеся, батона? — расчуліўся я.
— У каго я павінен лячыцца, крэтын? Усе хворыя да мяне лезуць. «Божа, памажы!» Усе дактары мяне моляць: «Божа, навучы, раскажы мне, што гэта за хвароба, потым хоць забі мяне!» Эх! — махнуў бог рукою.
— Не думайце, божа літасцівы, што я прыйшоў зноў дакучаць вам з просьбамі,— памаўчаўшы, загаварыў я зноў.— Але як вам вядома — бог у трох асобах...
— А табе што да таго? Давай, не марудзь, кажы, што табе трэба?
— Выбачайце, батона, я за радай да вас прыйшоў. Збіраюся выступіць на з'ездзе пісьменнікаў і не ведаю, пра што гаварыць. Можа параіце што-небудзь?
Бог задумаўся, потым зарагатаў.
— Ты хочаш, каб пра цябе сказалі: «ён гаварыў, як бог!»?
— Прызнаюся, як на споведзі — гэтага і хачу.

— Ці мала пра што можна гаварыць, даражэнькі, *калі толькі ты не баязлівы, га?*
— Ды лыткі дрыжаць, батона,— прызнаўся я.
— Мы ўсе крыху баязлівыя, але трэба адважыцца,— сказаў бог.
— Навучы мяне, божа, і я рашуся! — стукнуў я сябе кулаком у грудзі.
— Тады скажы ў сваім выступленні, што пара, моў, прапусціць уперад моладзь.
— Думаеце, пара?...— здзівіўся я.
— Вось табе і маеш! Дык ты божаму слову не верыш! — насупіўся ойча нябесны.
— Добра, батона, скажу! — здаўся я.
— І скажы яшчэ, што пісьменніка пачынаюць хваліць толькі пасля яго смерці.
— Няўжо? — мяне ўзяла цікавасць.



— Таму, дурненькі, што нябожчык ужо нічога больш не піша і нікому не заступае дарогі, зразумеў? — бог пастукаў мне пальцам па лбе.

— Калі я гэта скажу, то жывым ужо з трыбуны не сыйду... А нашто мне на тым свеце *іхняя хвала?*

— Добра, тады скажы, што адны і тыя ж пісьменнікі ездзяць па некалькі разоў за мяжу і пішуць свае падарожныя дзённікі: колькі літраў малака карова дае ў Інданезіі, як ім успомніўся Тбіліскі заапарк, калі яны ўбачылі слана ў Афрыцы. Скажы, каб у спіс упісалі новыя прозвішчы.

— Не, і гэта не магу сказаць, божа! Я ж сам збіраюся ў падарожжа вакол свету!— спалохана глянуў я на бога.

— Ва-а! Дарагі!.. Скажы ж хоць, каб у Саюз пісьменнікаў не прымалі ўсіх спрытна́, а то ў вас ужо на душу насельніцтва прыходзіцца тры пісьменнікі: два паэты і адзін празаік,— зірнуў у статыстычны даведнік ойча нябесны.

— Не магу такое сказаць: выключаць з саюза,— закруціў я галавой.
— А *пра гэта можаш сказаць: каб на некаторых юбілеях не чыталі ўрыўкі з твораў* юбіляра, а то сорамна і вам і яму? Скажаш?
— Ну што вы, ойча нябесны! У мяне самога юбілей на носе.
— Ну тады пра крытыку скажы: крычаць, моў, нашы крытыкі, што пісьменнікі нашы нікуды не варты, а самі якія.
— Не скажу! Не, не, не! — мяне кінула ў пот.— Не хачу выступаць, не буду.
— Э-э-эх!.. Далі б мне слова на вашым з'ездзе...
— Дык вам, як кажуць, і карты ў рукі,— узрадаваўся я.
— А калі гэта вы мяне дэлегатам выбралі, каб мне выступаць? — пакрыўдзіўся бог.
— Ха! Вас? Мяне самога ў гэтым спісе ледзь не скасавалі,— іранічна ўсміхнуўся я.
— З кім ты гаворыш, дуплет? Ты хто такі? — здзівіўся бог.
— Як хто? Я — член Саюза пісьменнікаў!
— Што ты напісаў такое, блазнюк, што маеш права быць членам, а я не? Вы што думаеце: сядзіць сабе Георгі склаўшы рукі і нічога не робіць?! У твае гады я ўжо быў богам. Хто напісаў «Віцязя ў тыгравай шкуры»? Як ты думаеш? — ускочыў на ногі ойча нябесны.
— Далібог, я розум страціў. Забі мяне, ну забі! — сказаў я дрыжачым голасам.
— Што з табою? Чаго ты? — спалохаўся бог.
— Ты напісаў «Віцязя ў тыгравай шкуры»?!
— *А хто? Ты, ці што? — засаромеўся Георгі.*
— Чаму ж тады ты не сыдзеш з неба і не скажаш пра гэта людзям, а то яны, спрачаючыся, даўно за чубы бяруцца,— папракнуў я яго.
— Самі павінны былі здагадацца.
— Значыцца, гэта твой мы спраўляем юбілей?
— Тс-с! Дурненькі! Хто гэта бачыў, каб богу спраўлялі юбілей. Я, мусіць, не так сабе падпісаў паэму прозвішчам Руставелі. Ты думаеш, што *псеўданім ёсць толькі ў* цябе? — усміхнуўся бог.
— Цяжка даць веры, каб бог быў пісьменнікам,— збянтэжыўся я.
— Хочаш, на пальцах пералічу, колькі з свае *ласкі* пусціў я пісьменнікаў у рай, а колькі спадзяецца, каб іх хоць у пекла ўзялі. Чорт вас ведае, што з вамі будзе,— цяжка ўздыхнуў бог.
— *А што трэба, каб трапіць у рай?* — спытаўся я, бо спадзяваўся на яго сам.
— Па-першае, не трэба пісаць дрэнных кніг, па-другое, не трэба быць зайздросным, чужы поспех не павінен выклікаць у цябе павышаны ціск; нельга красці сюжэты, рыфмы, радкі, не трэба *ненавідзець таго*, хто больш таленавіты, чым ты, не трэба пісаць ананімных пісьмаў...





— Божа мой, ты як той доктар: не піць, не хадзіць, не... Ды калі я адракуся ад усяго гэтага, то навошта мне твой рай?
— Калі хочаш трапіць у рай і каб людзі пра цябе гаварылі: «Гэты пісьменнік — бог!»,— слухайся і рабі так, як кажу я,— пачаў вучыць мяне бог.
— Усё-такі які ён, гэты твой рай? Ці варта дзеля яго адмаўляцца ад зямнога дабра? — пацікавіўся я.
— А ты думаеш, я ведаю? Анёлы мне гавораць, што ў нас ёсць рай. А я яго і ў вочы не бачыў. Можа і махлююць, бог іх ведае,—зноў цяжка ўздыхнуў бог.
— А пекла?
— Што пекла?
— А пекла ёсць?
— А як жа... Гэта я добра ведаю. Разы са два быў там,— прызнаўся бог.
— А якое яно? Толькі чэсна...
Бог задумаўся.
— У гарачыню быў калі-небудзь на Верыйскім рынку?
— Быў, а што?
— Дык чаго пытаеш? Значыць, ведаеш.
— І гэта ўсё!?
— Я яму столькі таямніц адкрыў, хоць, здаецца, не выпускай яго адгэтуль,— прамармытаў бог і пачухаў сабе патыліцу.
У мяне пахаладзела між лапатак.
— Ты што — з глузду з'ехаў? Як гэта не выпусціць?
— Устань!
Я ўстаў.
— Дай свой дэлегацкі мандат!
Даў.
— Пакуль я не вярнуся, сядзі тут і не рыпайся! На з'езд я пайду сам, бо ты там глупства нагародзіш,— грозна глянуў на мяне бог.
— Злітуйся, ойча нябесны! Ты астанешся там і забудзешся, што я тут.
Бог націснуў на кнопку. У пакой уляцела тая ж самая дзяўчына-анёл.



— Папільнуй яго тут. Я хутка вярнуся,— загадаў ёй бог.
— Не вельмі і спяшайцеся! — сказала дзяўчына-анёл і так зірнула на мяне, што я забыўся пра ўсё на свеце.
Бог зачыніў за сабою дзверы.

. . . . . . . . . . . . . . .

Сцеражыцеся, пісьменнікі! На з'ездзе будзе бог, каб вы там не нагаварылі бочку арыштантаў і не наракалі потым на мяне, што я вас не папярэдзіў.

Пераклад з грузінскай.

**Мал. С. ВОЛКАВА.**

# нашы аўтары

**СВІРКА Юрась** нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Маргавіца Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна. З 1961 года—старшы рэдактар Беларускага радыё. Аўтар зборнікаў вершаў: «Шэпчуцца ліўні», «Вечнасць», «Баравіна».

**РАДКЕВІЧ Яўген** нарадзіўся ў 1937 годзе ў м. Сянно Віцебскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Друкаваўся ў «Полымі», «Маладосці».

**КУСЯНКОЎ Мікола** нарадзіўся ў 1935 годзе ў в. Перарост Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Буда-Кашалёўскі лясны тэхнікум. Вучыцца на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Аўтар зборнікаў «Жывіца» і «Без прывалу».

**КУШНЯРОЎ Міхась** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Казіміраўка Бялыніцкага раёна. Скончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут. Зараз працуе заатэхнікам.

**ЯКУТАЎ Уладзімір** нарадзіўся ў 1927 годзе ў в. Рацькава Ушацкага раёна. У часе Вялікай Айчыннай вайны быў у партызанах, удзельнічаў у баях за вызваленне Польшчы. Закончыў юрыдычны факультэт Вільнюскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аўтар біяграфічных нарысаў пра Галадзеда, Чарвякова, Валковіча, Калініна, дакументальных апавяданняў пра Леніна.

Працуе ў Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ.

**ХАДАРОНАК Славамір** нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Укля на Браслаўшчыне. Працаваў у рыбалавецкай арцелі, настаўнічаў, служыў у Савецкай Арміі. Займаецца завочна ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага ў Маскве.

Жыве і працуе ў Калінінградзе.

**ЖУК Алесь** нарадзіўся ў 1947 годзе ў в. Клешаў на Случчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Цяпер—афіцэр Савецкай Арміі.

**МЯТЛІЦКІ Мікола** нарадзіўся ў 1929 годзе. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. Служыў у Савецкай Арміі. Працуе настаўнікам Хаўхоліцкай сярэдняй школы на Барысаўшчыне.

**ПЛОТНІЕК Ян** — латышскі паэт. Нарадзіўся ў 1932 годзе. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Латвійскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў у Дзяржаўным выдавецтве Латвіі, у выдавецтве «Ліесма» і ў рэспубліканскай газеце «Літаратура і мастацтва». Аўтар паэтычных зборнікаў «Трывожная песня», «Свету належаць зоры», «Гарыць паўночная зорка», «Полымя лёду», «Караблям не спіцца», многіх кніг для дзяцей і кінасцэнарыяў. Шмат перакладаў з беларускай паэзіі.



М. СТОМА. З трыпціха «Кветка шчасця».

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 5**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854 — сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592 — аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 12669. Здадзена ў набор 26/III-71 г. Падпісана да друку 4/V-71 г. Тыраж 15 930 экз. Зак. 151. Папера 70×108¹/₁₆. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі прасп., 79.**